## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

### 1

Пятро ўбачыў на падаконніку цень ад галіны каштана — выразныя чорныя крыжыкі. Каштан рос ля акна, і, калі сонца пачынала раніцой свой круг, самая даўгая галіна кідала цень на падаконнік. Аднойчы, у настроі, Пятро паклаў на падаконнік чысты ватман, скапіраваў цень — і атрымаўся мудрагелісты ўзор, сатканы з маленькіх крыжыкаў. Такімі, падобнымі, крыжыкамі маці, помніцца, вышывала ручнікі і накрывала імі хлеб.

Адзін бок каштана быў зялёны і буйналісты, з другога, ад вуліцы, боку — лісткі бледныя, мала не жоўтыя, і маленькія: вясною метрабудаўнікі, абкружыўшы сябе высокімі шчытамі, капалі ля інтэрната яму і зачапілі карэнне. Пятро стаяў, глядзеў на крыжыкі і думаў, што раніцой чалавек зусім мала ведае з таго, што будзе ўвечары,— дзень, як бы ён спланаваны ні быў, прыносіць свае нечаканасці. Вось і заўтра — размеркаванне. Што і як будзе?

Яшчэ толькі прачнуўшыся, зусім рана, Пятро адчуў раптам сябе між дзвюма пустотамі. Тое, што было дасюль — бесклапотнае студэнцтва,— падалося яму простай гульнёй у жыццё. А гульні — яны заўсёды забываюцца, як толькі іх канчаеш. Наперадзе была пустата — таямнічая: куды паверне жыццё? Але, думалася, увайшоўшы ў гэтую пустату, уладна, як у свой дом, ён напоўніць яе сэнсам і справамі. І гэта ўжо будзе нешта сур'ёзнае і самастойнае, з чаго і пачнецца сапраўднае жыццё.

Так думаў Пятро Чаранок напярэдадні размеркавання, стоячы перад акном інтэрнацкага пакоя і глядзячы на маленькія крыжыкі ад чэзлых лісткоў каштана.

...Камендант, сіпаты, з тугім голасам, некалі вясковы дзядзька, пастукаў у дзверы і, пачуўшы: «Можна!» — зайшоў у пакой. У клятчастай кашулі і новых кірзавых ботах, ён приступіўся ў парозе і сказаў — як апраўдваючыся,— што Чаранок з выпускнікоў застаўся адзін і трэба высяляцца, бо панаехалі ўжо завочнікі і просяць прытулку. Камендант, хоць і гаварыў спаважна, ціха, як гэта звычайна ўмеюць разумныя старыя людзі, не даў уставіць Пятру нават слова, крута павярнуўся і выйшаў. Пятро застаўся стаяць, узяўшыся за край стала, за якім толькі што чытаў «У гэтым прыгожым і ярасным свеце» Андрэя Платонава, дакладней, не чытаў, а сядзеў, схіліўшыся над кнігай.

Глянуў безуважна-паніклым позіркам на ложкі з голымі спружыннымі матрацамі, на тумбачкі, ашчэраныя свабоднымі паліцамі, расчыненыя шафкі, у адной з якіх знайшла прытулішча пластмасавая сметніца, перапоўненая паперай і падобная на незвычайны грыб,— і яму, Пятру, зрабілася сумна і няўтульна тут, у асірацелым, нязвычна прасторным пакоі. Такое адчуванне, помніцца, запалоньвала яго ў дзяцінстве — тады, калі, выбегшы аднойчы на гарод, бачыў, што шпакоўні, якія ён сам майстраваў і вывешваў вясною на ліпы, а потым любіў назіраць, як абжываліся ў іх шпакі, пустыя: маладыя, яшчэ ў пяшчотнай рабізне, шпачаняты падняліся на крыло.

«Ну, вось і скончыў, браце Чаранок, вучобу,— іранічна ўсміхнуўся Пятро.— Свежаспечаны інжынер-мікрабіёлаг...» Ён дастаў з-за сметніцы савок, растрэпаны венік. Расчыніў насцеж акно, яно выходзіла на вуліцу: чуліся галасы людзей, чуліся — толькі вясёлыя, і гукі машын — рэзкія, адрывістыя. Паветра, нагрэтае сонцам, выдавала густым, ледзь не адчувальным навобмацак, і несла ў сабе разам з гукамі вострыя пахі — бензіну і асфальту, які, мусіць, зрабіўся мяккі, што зямля-чарназём.

Пятро падмятаў падлогу — венік, там-сям губляючы перасохлыя мяцёлкі, узнімаў пыл; Пятро ўзяў вымытую бутэльку з-пад кефіру — графін ужо здалі кастэлянцы,— мяркуючы ісці ў бытоўку па ваду. Натыкнуўся вачыма на падкову, прымацаваную на дзвярах над парогам,— цьмяна і сумна блішчала яе сталь. Гэтую падкову Пятро прывёз з дому, выпадкова адшукаўшы яе, трачаную ржой, у бацькавай скрыні з-пад інструменту. Тады, яшчэ толькі-толькі раскалыханаму ласкавымі і светлымі хвалямі вольнага студэнцкага жыцця, хацелася нечым незвычайным і абавязкова арыгінальным вылучыцца сярод сяброў, кожны з якіх таксама стараўся праявіць выдумку і кемлівасць. А можа, і не ў гэтым справа, можа, проста яму патрэбна была гэтая падкова тут, у чужым і незнаёмым Мінску, як напамін пра вёску, пра бацьку...

Пятро доўга не адводзіў засяроджанага позірку ад падковы — за пяць гадоў вучобы ён шмат перадумаў і перажыў, гледзячы на яе... Потым, разгублены, схадзіў у бытоўку і набраў з крана вады, бела-сівcensus ватай, як разбаўленае малако.

Пакуль вярнуўся назад у пакой, вада састаялася на празрыстую, як зачэрпнутую з крыніцы. Набраў яе ў рот, папырскаў скрозь па падлозе. Зноў сагнуўся месці — венік у яго руках матляўся міжвольна, і ён, Пятро, раз-пораз лавіў сябе на тым, што мяце на адным месцы...

Як там маці? Даўно не быў дома... А яна ж чакае. Ніхто, мусіць, не ўмее так цярпліва, без папроку, чакаць, як маці. А ён? Усё збіраецца пад'ехаць: во праз тыдзень, во праз месяц... Аказваецца, не так проста з'ездзіць у вёску да маці. А тут, выходзіць, зноў трэба заставацца...

Пятро нечакана для самога сябе атрымаў вольнае размеркаванне, ці, як студэнты кажуць, «свабодны дыплом». Камісія ўлічыла, што ў яго адзінокая, хворая маці, і прыйшла да згоды не пасылаць у аддаленыя базавыя раёны. А паколькі ў Беларусі ўсе месцы былі ўжо занятыя — Чаранок ішоў дзесятым па спісе,— Пятро, мала аб чым думаючы ў той момант, сказаў, што не мае нічога супраць вольнага размеркавання.

...Схамянуўся ад таго, што нехта шкрэбнуў па

цынкавым брылі падаконніка, акурат адна за адной упалі кроплі дажджу. Глянуў — невыразным позіркам: у акне шэрай пірамідкай сядзеў натапыраны верабейчык, круціў з боку на бок галавой.

А, стары заёмы!..— узрадаваўся Пятро вераб'ю, як нечаму значнаму і даўно чаканаму.— Не забываеш...— Хваля чуллівасці цёпла разлілася ў грудзях.— Табе, браток, лягчэй. Недзе ў застрэшку ёсць гняздо, клапатлівая самачка, непаседлівыя жаўтароцікі... Блізка стары парк, у якім можна паласавацца тлустым вусенем. Ля магазіна любіш папрашайнічаць. А ён, Пятро, адзін, зусім адзін застаўся, вось бачыш... Пятро правёў левай рукою перад сабой і не засмуціўся, што размаўляе з вераб'ём, бо гэта — не звычайны верабей: ён, Пятро, падкормлівае яго ад самай зімы, калі верабей, шукаючы яды і цяпла, заляцеў у пакой праз адчыненую фортачку.

— Думаеш, у шафцы хто схаваўся? Не-е, глядзі...— Пятро падышоў да шафкі.— Нічога няма, толькі кнігі.

Верабейчык цікаўна выцягнуў шыю, чырыкнуў: «Веру табе. Што ты мяне мучыш голадам? Раней дык адразу сыпаў крошкі».

Толькі кнігі і засталіся. Пятро прычыніў дзверцы шафкі, выняў з тумбачкі кавалак падчарсцвелага хлеба, вышчыкнуў мякіш. Раптам у вачах матлянуўся цёмны камячок — і на бліскучы ад сонца падаконнік гупнуўся яшчэ адзін верабей.

Той ранейшы, знаёмы, верабейчык радасна чырыкнуў: «Глядзі, а ў мяне во ёсць сябар. Мы заўсёды разам».

«Што ты хвалішся, шэры небарака, сваім сябрам,— загаварыла раптам Пятрова самалюбства.— І ў мяне ёсць сябар. Завуць яго Валера. І я, толькі скончу во прыбіраць, пайду да яго — ён чакае мяне.— Пятро асцярожна наблізіўся да акна, толькі выпрастаў руку, каб пасыпаць на падаконнік крошкі, як вераб'ёў быццам ветрам здзьмула.— Яшчэ выхваляецеся дружбай,— усміхнуўся Пятро.— Збаяліся. І што ў вас за дружба? — пасыпаў крошкі на падаконнік, той самы, на які раніцой кладзецца ад галіны каштана цень.— Ну, досыць дзяцініцца! — абарваў свае не надта сталыя думкі Пятро.— Пра сур'ёзнае і трэба сур'ёзна думаць».

Ён глядзеў у цьмяную далячынь: на белыя і празрыстыя, як таполевы пух, воблакі, густа раскіданыя па небе, насоўвалася лілова-сіняя хмара; сонца порстка выкідвала насустрач ёй густыя промні.

Пятро падняў венік, нагарнуў ім у савок смецце, аднёс у сметніцу, таптануўшы нагою паперу. Прымушаў сябе спяшацца, але рухі былі не надта каб жвавыя, бо думкі, што лезлі ў галаву, патрабавалі засяроджанасці і запавольвалі іх, рухі, міжволі...

І зноў горад, зноў Мінск... А што? У вёсцы ж пакуль мікрабіёлагу няма чаго рабіць. І Пятро выразна адчуў, як сум выпаўзае з душы, а яго месца займае радасць, яшчэ незразумелая і патаемная,— ён застаецца ў Мінску, дзе жыў цэлых пяць гадоў і дзе многае стала звыклым. Ён ужо абыякава мог глядзець на мудрагелістыя фасады асветленых сонцам дамоў на праспекце і на закратаваную зямлю пад ліпамі, на людскую мітусню — бязладную зблізку і шчыльна звужаную на пераходах і далёкіх тратуарах, лавіць слыхам натужны гуд тралейбуса, што набірае, ад'язджаючы ад прыпынку, хуткасць, спакойна і нетаропка паварочвацца на рэзкі, пранізлівы рып аўтамабільных тармазоў...

І гэты малады, з нездаровою кронай каштан, які ён садзіў яшчэ на першым курсе ў дзень суботніка, застанецца таксама з ім,— Пятро знарок пасадзіў яго ля свайго акна. Астатнія дрэвы, стройна разбегшыся, раслі крыху воддаль, але ўсе разам шумелі, перакліkаліся лісцем і былі як браты. І яго раптам спалохала думка: няўжо можна жыць без усяго гэтага, здаецца, да наіўнасці звыклага і таямніча хвалюючага? Не, яго ўжо, мусіць, ніякая сіла не адарве ад гэтага размякчанага сонцам асфальту, што так знаёма чуецца пад нагамі. І тая пустата, што была наперадзе і якая вострa ўявілася напярэдадні размеркавання, пачала запаўняцца сама сабою — турботамі: дзе жыць, дзе працаваць...

Ды спакой усё роўна не прыходзіў, і Пятро зразумеў, што яшчэ некалькі дзён будзе ў разгубленасці і няпэўнасці. Ён падмёў падлогу, працёр мокрай анучай мясціны, дзе больш за ўсё збіраўся пыл — пад ложкамі і тумбачкамі, у парозе,— і панёс смецце. У жалезную кубападобную скрыню, што стаяла за

інтэрнатам і ля якой пастаянна дзяжурылі мурлатыя, лянівыя каты самай рознай масці.

Тры каты — адзін шэры, з абгрызеным вухам, астатнія чорныя, з жоўтымі, як новыя медзякі, вачыма — падняліся яму насустрач, выпруціўшы ўгору хвасты. Вузенькія шчылінкі зрэнак, выразныя ў жоўтых вачах, секлі, як вострымі лёзкамі, недавер'ем і здзічэласцю. Тут вы не паласуецеся, памаўзы,— усміхнуўся Пятро і перакуліў сметніцу ў глыбокую скрыню.

На драцяной загародзе, крокаў за пяць ад скрыні, апантана чырыкалі вераб'і, і Пятро глянуў туды — на іх. Вераб'і злятаі на зямлю — і тут жа зноў падымаліся, седзячы, трапяталі крылцамі. Пятро ступіў за скрыню і ўбачыў за высокай драцяной загародай вялікую чорную птушку, якая адчайна малаціла дзюбай у нешта рудое перад сабой. Ён, хмыкнуўшы, хацеў павярнуцца ды ісці назад у пакой — («Знайшоў чым пацяшацца...»),— але ногі самі наблізілі яго да птушкі. Гэта быў грак, звычайны гарадскі грак з металічным бляскам чорнага пер'я. Перад ім ляжаў хлеб — паўбуханкі. Крошкі мякішу адляталі ад моцнай шызай дзюбы, і вераб'і падбіралі іх. Грак выдзеўбаў у хлебе яміну, і яна чарнела цяпер глыбокім правалам — як рот чалавека, што адчайна крычыць аб дапамозе.

Грак пакасіўся на чалавека, прыціскаючы шэра-стальной нагой хлеб,— і Пятро выразна ўбачыў вострыя загнутыя кіпцюры і пальцы ў лускавінках, як на змяінай скуры. Ён падняў з зямлі бляшанку і шыбнуў ёю ў грака. Бляшанка, лёгкая, стукнулася ў загароду. Грак адляцеў, сеў на дах гаража і зашкрэбаў дзюбаю аб шыфер.

Ссыпаліся з загароды вераб'і.

Пятро завярнуў да калонкі, наліў у сметніцу вады, падышоў да каштана і паліў яго. Вада падняла на сабе пыл, шэрыя запалкі і шматкі паперы і, пранікаючы ў зямлю, пускала дробныя бурбалкі. Пятро пяшчотна пакратаў пальцамі маленькія, хваравітыя лісткі — так маці гладзіць галоўку соннага дзіцяці — і адвярнуўся...

Сонца засланілася хмарай, і ў пакоі было змрочна; крошак на падаконніку не было. Пятро стаяў і

чапляўся позіркам за сцэны, столь з адзінокім плафонам, шафкі...

— Можна здаваць пакой любой камісіі...— шапнуў ціха, хоць задаволенасці на твары не было, адно сум, які межаваўся, няйнакш, з разгубленасцю і задуменнем. Цяпер, калі вярнуўся з вуліцы, думка пра маці, пра свой абавязак перад ёй зноў нагнала на яго тугу...

А Лідка? Як там Лідка? Яны пачалі ўжо забываць адно аднаго, калі не сказаць больш. Нават цяжка прыпомніць, калі чытаў апошні раз ад яе пісьмо. Дарэчы, у іх з самага пачатку былі дзіўныя адносіны: Пятру ўвесь час здавалася, што яна, Лідка, не для яго, хоць і добрая душою ды лагодная характарам, працавітая; Лідка таксама лічыла — ніколі не гаворачы яму аб гэтым, але ён сам адчуваў,— што Пятро не можа быць для яе параю, бо вучыцца ў інстытуце і жыве ў Мінску,— чамусьці гэта быў у яе самы важкі довад. І тым не менш іх рэдкая сувязь — пісьмы, сустрэчы — была цікавая абаім.

Той выпадак двухгадовай даўнасці, калі Пятро ці не ўпершыню сур'ёзна задумаўся, што яны з Лідкай усё ж не разумеюць адно аднаго, зноў востра, як асветлены, усплыў у памяці. Здаецца, дробязь, а вось жа запала ў душу і вярэдзіць, як толькі Пятро падумае пра Лідку. Можа, заўсёды так у жыцці: помніцца тое — і лічыцца ледзь не галоўным,— што надламала чалавечую душу, павярнула лёс у іншы накірунак ці, прынамсі, змусіла задумацца над гэтым новым накірункам.

Тады ён быў на зімовых канікулах. Толькі два дні пагасцяваў у маці і сабраўся ў Слаўгарад, да Лідкі. Доўга стаяў на шашы, чакаў спадарожную машыну. Круціла завея, засланяючы наваколле бледна-сінім снежным мроівам — пужліва бязмежным, як неба. Пятро калаціўся ад холаду і хвалявання — перад сустрэчай.

Ён прыйшоў да яе з бутэлькай шампанскага і шакаладкай, якія купіў у станцыйным магазіне. Яна ўзрадавалася, пацалавала яго ў халодную цвёрдую шчаку, і ён не адчуў дотыку яе вуснаў, а толькі вастраваты пах валасоў ды ўбачыў блізка ўсмешліва-наіўныя вочы.

Лідка пасля вучылішча працавала поварам у сталоўцы і жыла ў інтэрнаце — так называлі драўляны райпоўскі дом, перагароджаны на чатыры роўныя закуткі, адзін з якіх і займала Лідка,— а на выхадныя ездзіла дамоў, у вёску.

Яны селі за стол, засланы вышыванай настольніцай. Пятро папрасіў дзве шклянкі. Лідка глянула на яго, як бы не разумеючы, і прынесла два сінятыя высокія фужэры. Корак вырваўся ў Пятра з-пад рукі, стрэліўшы ў столь,— і віно белым шыпучым фантанам пралілося на стол. Ды гэта Пятра не збянтэжыла — паспеў прыкмеціць за сваё нядоўгае жыццё, што ў застоллях мала хто адважваецца адкаркоўваць шампанскае.

«Ну, за сустрэчу!» — падняў ён свой фужэр, падсоўваючы другі да Лідкі, якая сядзела насупраць. Яна ўзяла фужэр з шампанскім, глянула праз яго на Пятра, і яму гэта не спадабалася. Яны чокнуліся — тонка і меладычна дзынкнула шкло. Пятро выпіў, а Лідка адставіла фужэр убок, за вазу, з якой тырчалі пластыкавыя гваздзікі. «Ты што? — здзівіўся Пятро.— Выпі, калі ласка, за нашу з табой сустрэчу...» — «Не буду!» — нахабна і дзёрзка гледзячы ў вочы, сказала Лідка. «Як гэта разумець? Ты не радая, што я прыйшоў?» — «Радая».— «Дык а што тады?» — «Баюся».— «Каго? Мяне? Канчай, Лідка, жартаваць! Пі».— «Не ўпрошвай — не буду!» — «Тады вылі ў фортачку»,— крыўдліва кінуў Пятро, уздыхнуўшы.

Лідка ўзяла фужэр, у якім яшчэ не перастала гульліва іскрыцца шампанскае, спакойна падышла да акна, адчыніла фортачку і выліла віно: шыба пасвятлела — віно растапіла кволую намаразь. Пятро стрымаў дыханне, думаючы: ці то абурацца, ці звесці ўсё на жарт. Не, для жарту — занадта. Ён устаў з-за стала: «Ты больш нічога не магла прыдумаць?» — «Не я, а ты!» — яна засмяялася па-дзіцячы шчыра і самазадаволена. Пятро ступіў да свайго паліто, шапкі, што віселі ля дзвярэй на вешалцы. Хапатліва шнарыў па рукавах — шукаў шалік. Яна падышла да яго. Стаяла, бесклапотная, перад ім і звонка смяялася, закідваючы галаву, і ён бачыў у бледна-ружовай глыбіні яе рота сінявата, з чорнай кропачкай зуб.

І цяпер ён, Пятро, напіша пра ўсё-ўсё Лідцы — хай ведае,— растлумачыць, чаму яны не могуць быць разам, бо толькі шчырае, глыбокае каханне, а не сяброўства і не захапленне дае права на шлюб. Яна павінна зразумець яго. Што ён не можа сфальшывіць. Не, ён не парывае з ёй сувязі, яны могуць — калі яна пажадае — сябраваць і далей. І толькі. Але калі яна некага пакахае, то ён, Пятро, хай не будзе перашкодаю ў гэтым каханні.

Пятро зірнуў на будзільнік — адзіную агульную рэч, што засталася ў пакоі,— стрэлкі паказвалі палову восьмай. Колькі?.. Узяў будзільнік, прыклаў да вуха: ча̀кання не чуваць. Не заведзены! Ручны гадзіннік Пятро па даўняй звычцы засоўваў нанач пад падушку — дастаў яго адтуль: было роўна дзесяць. У дванаццаць да Валеры. Дзівак ён — кажа: «Не разумею, чаму ты так спяшаешся з ад'ездам? Пабачыш ты яшчэ сваю вёску і маці. Уладкуешся, знойдзеш работу і паедзеш са спакойнай душой. Не гарыць жа там...» Проста яму гаварыць, ніколі не пакідаўшы свой дом; у нялёгкія хвіліны жыцця, калі сум кроіць сэрца, чалавек шукае чалавека, які выслухаў бы яго і калі не памог, то хаця б абнадзеіў; а надзея — гэта промень святла ў чалавечай душы, промень, які высвечвае наперадзе радасць. «Апошняе, што памірае ў чалавеку,— гэта надзея» — неяк, вычытаўшы ў Бальзака гэтую думку, Пятро запісаў яе сабе ў блакнот.

«Яшчэ паспею напісаць пісьмо...» — Пятро сеў за стол. Пісаў доўга і пакутліва — не хацеў пакрыўдзіць Лідку, зрабіць ёй балюча. Гэта ён зразумеў і лічыць, што ў яго няма да яе сапраўдных пачуццяў. А раптам у яе да яго яны ёсць, а ён не змог гэта адчуць? Хіба мала ў каханні неўзаемнасці? І, відаць, няма на свеце большых пакут, чымся пакуты, якія прыносіць адчуванне, што ты кахаеш, а цябе — не. І зусім трагедыя для чалавека, калі ягонае каханне не ўспрымаецца як каханне.

Чаму так хутка бягуць стрэлкі гадзінніка?..

## 2

Пятро сеў на тралейбус, паехаў, адчуваючы тварам прыемна-густаваты халадок, што з шыпеннем вырываўся з прачыненага акна. Тралейбус часта спыняўся перад чырвоным вокам светафора, але Пятра гэта не турбавала, як зазвычай, калі спяшаўся,— ён адчуваў нават задаволенасць.

На ўмоўны, два разы, званок дзверы адчыніў Валера. Злавіў правай рукой Пятрову руку, паздароўкаўся, левай узяў за плячо.

— Нешта тужліва мне...— уздыхнуў Пятро. Валера аж свяціўся ад прыўзнятасці, не зразумелай цяпер Пятру, і гэта нядобра закранала яго, Пятра, хоць, паразважаўшы, чаго было крыўдаваць: даўно ўсім вядома Валерава экспансіўнасць.

Пакой, у які прывёў Пятра Валера, быў вялікі, але загрувашчаны: масіўны пісьмовы стол, акантаваны чырвонымі палосачкамі латуні, два мяккія крэслы, высозная, пад столь, кніжная паліца, паліраваная шырокая шафа, пастаўленая ўпоперак; за ёй — нізкі ложак, незасланы, з ссунутай на край коўдрай. На стале разам з легкадумнымі забаўкамі-сувенірамі і круглым, уробленым у празрысты пластык гадзіннікам стаяў уключаны магнітафон — спяваў ансамбль «Боні М». Было відаць, што Валера нічым не займаўся, адно цешыўся музыкай. Ён вольна бахнуўся ў крэсла, запрасіў сесці і Пятра, ляпнуўшы рукой па спінцы крэсла, што стаяла побач. Сказаў, што няма чаго яму, Пятру, ныць па вёсцы, маўляў, яна стаяла сотні гадоў без Чаранка і яшчэ столькі прастаіць. А чалавеку, гаварыў далей Валера, суджана ісці толькі наперад. І нечакана прапанаваў Пятру помач.

Пятро здзівіўся — якая помач? — але сэрца, гучна застукаўшы, давала адказ; яно часта, па незразумелай інтуіцыі, улоўлівала сэнс чужых думак і правярала на сабе пачуццё раней, чымся яно ўсведамлялася. Без сумнення, Валера хоча памагчы ўладкавацца на працу. Бяды той! Ён, Пятро, і сам не лыкам шыты.

Валеру не спадабалася, што сябра не адгукнуўся на яго намер, мітуслівыя вочы, як бы ссунутыя да

вузкай пераносіцы, на нейкі момант знерухомелі. Пятро, каб не засмучаць Валеру, стаў расказваць пра сваё, набалелае,— што ў яго цяпер няпэўнасць на душы, іншы раз, здаецца, кінуў бы ўсё, гэты гарадскі тлум, мітусню, ды паляцеў на крылах куды-небудзь у глушэчу ці, як вунь Толік Маруткін, зямляк, ажно ў Сібір.

Валера засмяяўся, ускочыў з месца і задыбаў па пакоі, даўгалыгі, у джынсах, якія, шчыльна аблягаючы, рабілі ногі непамерна даўгімі і тонкімі. Яго словы білі востра, як цвікі: маўляў, ён, Пятро, крэцін, ці што? Іншага на аркане не выцягнеш з Мінска, а тут... Глушэча, Сібір. Рамантык, дый годзе! Але рамантыка — для слабых.

Пятро не згадзіўся: можа, якраз, наадварот, рамантыка — для мэтанакіраваных і цвёрдых людзей. І тут жа брала сумненне: а ці недарэмна ён пакутуе, можа, круціся не круціся, яго месца іменна тут, у Мінску? Ужо нават па той простай прычыне, што гарадская прафесія.

Валера не сунімаўся, яго цяжка было стрымаць, як і кожнага чалавека, што думае пра сябе лепш, чымся іншыя.

— Запомні: чалавек ніколі не даб'ецца мэты, калі будзе толькі слухаць «души прекрасные порывы».— Ён любіў паўтараць слова «запомні», пасля чаго неадменна выдаваў нейкі свой афарызм, і хутчэй не свой, а падлоўлены ў размовах старэйшых.

Пятро і тут запярэчыў. Ды Валера, як не пачуўшы яго, распаляў сябе больш і больш. Пятра дзівіла яго ўпартасць: мэты, гаварыў Валера, трэба дамагацца хітрасцю, але хітрасць паможа адно тады, калі спалучаць яе з мудрасцю (ён падзюбаў пальцам сабе ў галаву), а не з легкадумнасцю, якая часта падводзіць.

Пятро не прывык і не ўмеў хітраваць, ён сказаў пра гэта Валеру цвёрдым, нават трохі раззлаваным, але стрыманым голасам. Валера ехідна прыжмурыў вочы, і бляск у іх павастрэў; здаецца, вочы пыталіся: ну і што ты, браце, маеш? Дыплом інжынера-мікрабіёлага? Але з ім яшчэ трэба ўладкавацца, і не абы-куды, а ў цёпленькае месца, бо ўсякія ёсць пасады: на іншай будзеш біцца, як рыбка аб лёд, і мець толькі тое, што можаш мець, нічога не робячы.

Пятро лічыў, што ўсюды галоўнае — праца, і не для таго ён пяць гадоў сушыў мазгі, каб пляваць у столь. Ён, Пятро, сын вёскі, трымаўся адвечнай сялянскай мудрасці: дзе быць, там трэба рабіць.

Валера пастукаў ногцем у донца пачка «Залатое руно», выбіў цыгарэту з жоўтым на канцы патрончыкам і прыпаліў яе запальнічкай; зрабіў некалькі глыбокіх зацяжак, строс у літую медную попельніцу нагар з цыгарэты. Яму, Валеру, увесь час здавалася, што не мізэр, як лічыў Пятро, а шмат людзей імкнуцца прыстасавацца ў жыцці як найлепей і цягнуць ваду адно на сваё кола; яму спадабаўся жарт, нядаўна вычытаны ў «Літаратурцы»: калі б кожнага пасадзіць на сваё месца, колькі свабодных месц з'явілася б. Пятро яму даказваў — што толькі час расставіць усіх па сваіх месцах, іменна ён, час, пакажа, немінуча, хто ёсць хто. У Валеры і на гэты довад быў гатовы адказ: так, час — галоўны суддзя, але хто канкрэтна можа сказаць, калі той час прыйдзе — сёння, заўтра, праз год, пяць? — а жыць трэба цяпер, кожнае імгненне, якое беззваротна адыходзіць у вечнасць... І ці ўсе знойдуць у сабе сілы волі, настойлівасці перамагчы абставіны, у якія трапяць. Проста дзівак гэты Пятро. Чалавек, кажа, можа не перамагчы, але імкнуцца павінен, хоць сам жа на семінары сцвярджаў, што не ўсякая расліна выжывае, калі яе перасаджваюць на чужую глебу або парушаюць каранёвую сістэму, і прыводзіў прыклад з нейкім там каштанам. Ды, зрэшты, навошта абстракцыі. Вось ён, Валера, хіба знаходка для інстытута мікрабіялогіі? Прынамсі, невялікая. Не параўнаеш з Пятром, які б са сваім стараннем, заўзятасцю, даследчыцкай прагаю горы б там варочаў. Тым не менш, туды трапіў ён, Валера, а не Пятро. Валера быў шчыры і не хаваў свае думкі. Можна падумаць, канечне, быццам ён трапіў у інстытут таму, што мінчанін,— здаецца, так мяркуе і Пятро. Наіўны! Не толькі таму, што — мінчанін, яго ўладкаванне менш за ўсё залежала ад яго самога; за плячыма ў Валеры стаяў бацька, куды ні кінься — бацька, бацька... Валера прытушыў недакурак і ўзяў у рукі попельніцу.

Гэтая Валерава апантаная шчырасць, дзівячыся, разважаў Пятро, пакуль Валера хадзіў на кухню вытрасаць з попельніцы недакуркі, відаць, ад ўпэўне-

насці, што нічога таму, чаго захочацца ў жыцці, не перашкодзіць. А хітруюць з сябрамі найбольш тыя, у каго няма такой упэўненасці і хто баіцца за любую дробязь, што яна можа ўскладніць жыццё. Іншым разам Пятро, можа б, у такой размове і не ўспомніў маці, але Валера яўна супрацьстаўляў ёй становішча свайго бацькі, і гэта зачапіла самалюбства Пятра, самалюбства, якое нярэдка прымушала яго залішне катэгарычна даказваць ісціну, думаючы ўжо не столькі пра свой гонар, колькі пра тое, што ва ўсім павінна перамагаць справядлівасць.

— А ў мяне за плячыма — адна маці,— сказаў Пятро спакойна.— І яна таксама зрабіла для мяне ўсё, што змагла,— вырасціла і вывучыла. Далей усё будзе залежаць толькі ад мяне.

— Але я — твой сябар і ведаю цябе добра, можа, як ніхто іншы з тваіх блізкіх, і таму ўпэўнены, што ты — многае можаш зрабіць... І гэта не пазёрства, гэта — праўда тваіх магчымасцей.

— Ды шчасце, відаць, не ў гэтым, што нехта табе створыць умовы, а ў тым, што ты іх створыш сам.

Валера з'едліва хмыкнуў, крутнуў галавой. Узяў гітару, якая ляжала на шафе. Скінуў з левай нагі пантофлю і, босую, паставіў нагу на крэсла. Нахмурыўся, перш чым заспяваць. Пачаў высокім голасам, захапляючыся сабою:

Иволга поет над родником,
Иволга в малине так тоскует.
Почему я вырос простаком —
Кто и как мне это растолкует?

Пятро глядзеў, як Валера перабірае пальцамі тугія струны, і думаў. Здзіўляўся, што момантамі не чуе песню, толькі бачыць Валеру і тонкія нервовыя пальцы на струнах... На безыменным пальцы — пячатка, з якой выступае мініяцюрнае залатое сэрца, такое маленькае, што яго закрыла б сабой божая кароўка. Валера адклаў гітару, сказаў, акурат і не было песні, а толькі — працяг гаворкі:

— Запомні: чалавек павінен ісці на ўсё, нават пакутнае і неўласцівае для сябе, апраўдваць усе сродкі, якія дазволяць яму ўдала замацавацца ў жыцці. Я размаўляў з бацем наконт цябе — пакуль яшчэ ён мяне разумее...

Пятро раззлаваўся:

— Я, сябар мой дарагі, з гэтага пачынаць не хачу. Разумееш: не хачу. Хай мне будзе ў сто разоў цяжэй уладкавацца самому, чым з дапамогаю твайго бацькі.

— Я цябе такім катэгарычным, здаецца, яшчэ не бачыў. Што ж, рашай сам і дакарай потым сябе... Гвалт над асобай у нас забаронены.

— Ведаеш, дасюль была гульня. Цяпер само жыццё прымушае цвяроза глядзець на яго.

Валера зноў закурыў і доўга сядзеў у крэсле моўчкі; было відаць, як напружваюцца, аж бялеюць, крылы яго носа, калі ён выпускае з сябе дым.

— Не! — раптам падхапіўся ён.— Я цябе навучу жыць!..

І не паспеў Пятро апомніцца, як Валера зацягнуў яго ў кабінет бацькі. Збянтэжаны, Пятро забыў нават павітацца. Ля шырачэзнага акна, палову якога засланялі ссунутыя на адзін бок трысняговыя шторы, стаяў высокі чалавек з люлькаю ў руцэ. Ён утаропіў на Пятра дапытлівыя вочы.

— Не хто іншы, як Пятро. Так, здаецца? — І назваўся: — Павел Андрэевіч.

— Ага, ён самы,— адказаў за Пятра Валера.— Ён... Яму трэба...

— Ведаю, у курсе, ты мне ўжо намякаў. Аднак не спяшайся, сын, не ўсё адразу.— Павел Андрэевіч завязаў на баку пояс даўгога, аж да самай падлогі, халата з цёмна-сіняга шоўку. Пад шталт гаспадару, зграбнаму, дзелавіта-саліднаму, кабінет быў багата абстаўлены цёмнай, з разьбянымі ўзорамі мэбляй арэхавага дрэва. Пятро, калі ішоў садзіцца, адчуваў пад нагамі мяккі і пругкі ворс дывана. Над канапай вісела распасцёртая шкура рысі з выпушчанымі жоўтымі кіпцюрамі і з кутасікамі вушэй, якія тырчалі ў бакі, як рожкі.

Павел Андрэевіч перш распытаў у Пятра, адкуль ён родам, і калі Пятро назваў свой раён, Павел Андрэевіч, застаючыся — знешне — безуважным, сказаў, што ў тых мясцінах ён партызаніў, потым, далучыўшыся да байцоў Чырвонай Арміі, вызваляў ад фашыстаў Магілёў, нават атрымаў медаль «За адвагу». Як бы між іншым, пацікавіўся, хто ў Пятра бацькі. Пятро сказаў, што ў яго — адна маці, бацька

трагічна загінуў, калі ён, Пятро, быў зусім малы; маці працавала на ферме, а зараз на пенсіі.

Павел Андрэевіч адкінуўся на скураную спінку канапы, паклаў на калена руку, у якой трымаў блішчастую жоўценькую люльку. Па тым, як зморшчыўся ягоны лоб, а вочы, звузіўшыся, згубілі ў веях свой бляск, можна было меркаваць — што ён думае; нарэшце спытаў, чым можа памагчы, і Пятро тут жа адказаў, што зусім не разумее Валеру, бо сам асабіста яго ні аб чым не прасіў. Валеру гэта не спадабалася, ён аж закалаціўся, абазваў Пятра олухам цара нябеснага і, прыцінаючы свой запал, паўтарыў бацьку слова ў слова тое, што гаварыў Пятру ў сваім пакоі.

— Рассмяшыў,— сказаў Пятро спакойна.— Ну трэба, дык уладкуюся. Яшчэ ж паўтара месяца адпачынку. Ды і хіба я адзін такі? Вунь толькі ў нас пяць чалавек са свабоднымі дыпломамі.

— Канечне, вялікай праблемы няма,— пацвердзіў Павел Андрэевіч.— Я думаў, нешта больш сур'ёзнае.

— Але я хачу памагчы сябру,— настойваў Валера.— Ён у студэнцтве мяне не раз выручаў... Дзе толькі не выручаў!

— Я адплаты не патрабую.

— Бескарыслівая дружба — гэта добра, хлопцы! — раптам змяніў тон Павел Андрэевіч — сказаў так, акурат звяртаўся да цэлай аўдыторыі.— Не толькі ў вайну яна выратоўвае людзей. Даражыце дружбай! — У вачах Паўла Андрэевіча загарэлася пякучая, падобная на шарык ртуці, іскрынка.— Пятро, што ты хочаш сказаць?

— Можа, гэта і наіўна гучыць, але я думаю цяпер аб тым, аб чым раней нават і блізка не задумваўся,— што мне жыць у горадзе. Што я, вясковец, пажыццёва станаўлюся гараджанінам. Прызнацца, гэта мяне і палохае, і радуе...

— Гэта пытанне няпростае,— усміхнуўся Павел Андрэевіч і раптам гэтай сваёй усмешкай надаў Пятру ўпэўненасці: смех больш за ўсё бывае шчыры і менш за ўсё ўводзіць людзей у зман.— А на даным этапе — вострае.

— Вось! І я адчуў на сабе,— спавядаўся Пятро,— што мяне... ну як тут лепш сказаць? — не ха-

пае, ці што, для гэтага гарадскога жыцця. Усё ў ім, здаецца, добрае і правільнае... і цікавае, але, калі падумаю, што трэба ўлівацца ў гэты магутны, бурлівы паток, мяне агортвае жах: раптам захлынуся.

Павел Андрэевіч крутнуў галавой, смактануў люльку.

— Мне — смех сказаць! — уяўлялася часам, што я эквілібрыст над горадам і вёскай... Невядома, на які бок скочыць.

— Заставайся самім сабой і ў горадзе,— шматзначна прыжмурыўся, выпускаючы ўгору дым, Павел Андрэевіч.

— Але, бывае, душа мая многае не прымае...

— Будзе нялёгка, ды стой на сваім. Гэта мая табе парада. Значыць, пытанняў у цябе да мяне няма? — спытаў Павел Андрэевіч голасам, які ледзь задрыжаў, і пільна зазірнуў Пятру ў вочы.

— Няма. Прабачце, калі ласка, што патурбавалі...

Калі яны выйшлі з кабінета і зачынілі за сабой дзверы, Валера пакруціў ля вуха пальцам і, шумна ўздыхнуўшы, расслаблена апусціў рукі, маўляў, усё, браце Пятро, што хочаш, тое і рабі. Пятро адчуваў, як дугала ў скроні кроў — спадала нервовая натуга; здаецца, такой яна ніколі не была нават перад самым сур'ёзным экзаменам. Пятро ўсміхнуўся, зазірнуў Валеру ў вочы і ціхім голасам, у якім была чуваць і нотка цвёрдасці, сказаў, што трэба шукаць кватэру, бо высяляюць з інтэрната, і што ён будзе рады, калі Валера паможа яму ў гэтым. У Валеры зварухнуліся бровы — ад здзіўлення: яму здавалася ўжо, што Пятро ні ў чым не прыме яго паслугі, і гэта біла па самалюбству. Цяпер, ажывіўшыся, Валера сеў у крэсла, прыгладзіў растапыранымі пальцамі даўгія валасы: «Няма на свеце невырашальных праблем... Няма на свеце невырашальных праблем...» — тонкія нервовыя пальцы барабанілі па падлакотніку. Раптам ён бацнуў кулакамі па каленях і ўсклікнуў: «Эўрыка!» — успомніў, што яго знаёмы мае трохпакаёвую кватэру — бацькі і сястра днямі паехалі адпачываць на поўдзень, будуць там цэлы месяц — і пакуль можна пажыць у яго.

— Вось табе тэлефон. Пазвоніш і скажаш, што ад мяне. Я пастараюся папярэдне перагаварыць з ім.— Памаўчаўшы, Валера паскардзіўся: — Нешта, стары,

брыдзенькі ў мяне настрой. А вечарам — свідуха з Лількай... Можа, сухога вінца, га?

— Прызнацца, не хачу. Ты ж ведаеш мае сціплыя патрэбнасці.

— Запомні: ніводная талковая размова ў талковых людзей не праходзіць без чаркі. Башні імеюцца?

— Адна дробязь... Кончыліся.

— Што ж ты так — збяднеў зусім. Не п'еш жа і курыць не навучыўся...— з робленым дакорам пахітаў галавою Валера.— А за што жыць збіраешся, за хату плаціць?

— Трэба маці пісаць, каб тэрмінова высылала грошы...— толькі сказаў — як тут жа зноў тужлівая хваля ўскалыхнула душу і востра, неадольна пацягнула да сябе родная Малінаўка. І Пятро ўжо ўявіў сябе ў аўтобусе, у яго мяккім, утульным цяпле, убачыў рабізну стромкіх сосен паўз шашу, што адбягаюць назад, як строй салдат, і адчуў тую палёгку, ад якой ажно замірае сэрца, калі аўтобус выхопліваецца на тугі прастор яшчэ зялёнага жытняга поля...

## 3

...У хаце Вольга раз-пораз зіркала ў акно, а калі выходзіла на двор, цямілася паўзверх плота — выглядала, ці ідзе адчыняць магазін Маруся Паўлянёнкава, якую дражнілі ў Малінаўцы Трэба — малыя і старыя. Дражнілі не проста так, а за вымаўленне: Маруся была нетутэйшая, яе прывёз аднекуль здалёк, з Палесся, Сцяпан Паўлянёнкаў, і яна «р» вымаўляла непрывычна цвёрда, а не мякка, як тут, на Магілёўшчыне. Калі б малінаўцу давялося вымавіць «трэба» (ён хутчэй бы сказаў рускае «нада»), яно прагучала б у яго вуснах мякка — «треба».

З-за павароту ўрэшце вынырнула жаночая постаць, і Вольга пазнала ў ёй Марусю — па хадзе: Маруся хадзіла шпарка, ныкаючы ўперад галавою і далёка адстаўляючы ад сябе правую руку, акурат у левай нешта цяжкое несла. Вольга мітнулася ў хату — вешала на дрот, нацягнуты між хатай і пуняй, памытыя адзежыны,— скінула з сябе сукенку, зашмуленую спераду і прадраную на локцях, дастала з шафы чыстую, свяжэйшую і апранула яе. Зняла з цвіка карычневую сумку з патрэсканымі ручкамі-па-

чопкамі, выклала з яе буханку хлеба, падчарсцвелую ўжо,— пальцы адчулі цвёрдую, непадатлівую скарынку.

Тут жа, у сумцы, у бакавой пічыльнай кішэньцы ляжалі грошы — пакамечаныя рублі і медзякі: Вольга ніколі не завязвала грошы ў хусцінку, што так надзейна служыць усім вясковым кабетам замест кашалька. Яна пералічыла грошы — пяць рублёў з капейкамі. «Хопіць...» — і, засоўваючы грошы назад у кішэньку, пайшла да дзвярэй.

Маруся ўжо мінула яе, Вользіну, хату і імпэтна махала правай рукой уводдалі. Вольга патэпала следам — сцежкаю, што вяла паўз плот.

— Здраствуй табе! — сказала яна, зайшоўшы ў магазін.

— Добры дзень! — адказала Маруся; яна, прысядаючы, цэлілася тварам у круглае, з качан, люстэрка, што стаяла, чакаючы свайго пакупніка, на паліцы. Паправіла белую касынку, адцягваючы яе ўверх — каб стаяла тырчком,— памуліла вуснамі, роўна размазваючы па іх перламутравую памаду.

«Во чапурыцца маладзіца...» — падумала Вольга.

— Што вам, цётка? — Маруся павярнулася. У яе былі даўгія чорныя бровы, выпуклы лоб і вільготныя сінія вочы, якія глядзелі востра і чэпка.

— Дай мне бутэльку белай і хлеба чорнага булку... калі свежы.

— Учора аўталаўка прывозіла.

— Ну то, маіць, свежы. Давай.

— Гарэлка толькі па шэсць дзесяць, па чатыры сорак дзве разабралі...

— Во-ё-ёй!..— забедавала, хітнуўшы галавой, Вольга.— Дарагая ж надта! Я і грошы столькі не брала...

— Не бярыце, заўтра прывоз будзе, мо дзешавейшай прывязуць...

— Мне сянні нада. Бульбу акучваць надумалася...

— Мой Сцяпан у нядзелю паакучваў... Казаў, што і раней можна было б, а то бульбоўнік там-сям ламаўся пад ворчыкам.

— Табе лягчэй...— уздыхнула Вольга, думаючы, што рабіць: ці то прасіць бутэльку напавер, ці то ісці дамоў па грошы,— твар яе, роўна загарэлы, яшчэ

больш пацямнеў, а вочы, паглыбеўшы, схавалі сваю вадзяніста-ясную, спакойную сінь.

Маруся глянула на разгубленую Вольгу і, як баючыся стрэцца з яе позіркам, хуценька апусціла долу вочы, нахілілася пад прылавак, і ўжо адтуль пачуўся яе глухаваты, як пасля прастуды, голас:

— Во ёсць адна бутэлька па чатыры сорак дзве, сабе пакінула, але вам, цётка, аддам.

— Дык мо на пільнае што пакідала?

— Не-а, так... Думала, спатрэбіцца...— Маруся ляскала костачкамі лічыльнікаў.— І хлеба булку вам?

— Ага, Марусечка... Калі свежы. А то чэрствы ў мяне ёсць, булка... Свінням будзе.

— Свежы, свежы...

— Ну то дзякуй табе. Пабягу. Адама Песенку хачу заспець з фермы. Каня ўзяць...— Вольга, гледзячы на Марусю, шукала рукою клямку.

Блізілася паўдня. Блакіт у небе быў звонкі і чысты — як шкло. Здавалася, крані яго чым-небудзь — і ён расколецца, упадзе на зямлю дробнымі друзачкамі. Сліпуча-яркае сонца ліло з вышыні гарачае святло — шэрым, што прысак, зрабіўся пясок, а паветра мроілася, як празрысты дым. Ветру не было, ды лісцё на вербах лёгенька варушылася. Пахла вялай, запыленай лебядой і сурэпкай. Млява чачэкнула сарока, спікіраваўшы з высокай антэны пад страху пуні, што стаяла на двары Танькі, сын якой нядаўна стаў за брыгадзіра.

Дробненькі пот пакрапіў Вользін лоб і чуўся там, акурат нешта жывое поўзала, як — бывае — камар. «Мудруе баба,— думала яна пра Марусю,— не сабе яна пакідала, і не адну бутэльку... Трактарыстам, лесніку ды кумам-сватам розным... Во неяк субожылася і мне прадала...» — І, расчуленая, Вольга ўжо гатова даравацъ Марусі яе хітрыкі. Не заходзячы дамоў, звярнула ў неглыбокі завулак — «закавуліну», у якой жыў Адам Песенка,— якраз па ходу, а то тады — з дому — вяртайся назад, трудзі свае і так не вельмі дзябёлыя ногі. Ля Песенкавага двара, паслабіўшы заднюю нагу і лена прыплюшчыўшы вочы, у куточкі якіх тачыліся хабаткамі мухі, стаяў запрэжаны конь. На драбінах, аглоблях, дышлі вісела свежае цырбунне лубіну. Наўкручвалася яно і ў ступі-

цы — патрушчанае, замасленае дзёгцем, які тоненька капаў у пясок і чарнеўся бліскучым гузікам.

«У двары Адам...» — Вольга пераступіла парог у хату, павіталася. Адам, адставіўшы правы локаць, горбіўся над сталом — сёрбаў з міскі булён.

— Ага, здароў! — буркнуў ён як быццам незадаволена: Адам, што б ні гаварыў, нават у самым развясёлым настроі, словы вымаўляў неяк рыпуча, стрымана — як цадзіў скрозь нерасцятыя зубы.

— Памагай бог!..— сказала Вольга і пачырванела, што ляпнула неўпапад: чалавек жа есць, а не працуе.— Ета я, ета... хачу папрасіць цябе, Адамік, каб ты даў мне каня бульбу паакучваць...

— Калі?

— Ды сянні во...

Адам зашкрэбаў лыжкай па дне міскі — было відаць, ён думае.

— Сянні? Дзела такое... Па-адно, трэба цялятам яшчэ разы са тры лубіну прывезці...

— Мне ня к спеху. Адвечара можна...

Адам адсунуў міску, бразнуў у яе лыжку, устаў — і Вольга здзівілася, які ён высокі і вялізны ў хаце, на вуліцы ж, здаецца, не такі.

— А па-другое,— працягваў заклапочаны Адам,— наш новы начальнік, брыгадзір, забараніў без яго дазволу раздаваць каня.

— Ета Хведзька Таньчын?

— Ён самы, вучоны брыгадзір. Маўляў, коней мала засталося, трэба берагчы жывую цяглавую сілу... Так і сказаў. Дык ты папытай у яго... нашчот каня. А за мной дзела не замерзне.

— Ага... ладна, папытаю...

— Ён пасля абеду ў праўленне збіраўся ісці, дык ты не прамаргай яго. А я праз дзве гадзіны аслабанюся...

— Во добра! То я пабегла, Адамік...

Вольга шыбка выкулілася з хаты, пацюхала па завулку. У хаце, у цяньку трохі пасвяжэла ёй у грудзях, а цяпер яна зноў запыхалася, умлела. Сумка здавалася цяжкой, як не адрывала руку. Дабегшы да сваёй лавачкі, села адпачыць; сядзела, павярнуўшы галаву ў канец вёскі,— пільнавала брыгадзіра. «Во колечкі коней засталося,— думала,— і тых папрысьоілі... Адам цялят даглядае, лічыць Чубрыка сва-

ім... Конюху, таму і бог дазволіў. Хвядос вупраж выдае, і то пастаянна конь ля двара стаіць... Малаказборшчыца таксама на кані ездзіць... Правільна Хведзька забараніў ім распараджацца конямі...»

Вольга не вытрымала, занесла ў сенцы сумку, толькі на хвілінку і адлучылася, ды наддала сабе турботы: думалася, што Хведзька якраз у гэты момант прамінуў хату.

Яна заўважыла брыгадзіра і ўзрадавалася: Хведзька ішоў мажна, спакваля, неяк па-жаночы валюхаста перастаўляючы таўстыя ногі; русавалосая галава пахітвалася ў бакі, і пацешна матляўся зачэсаны ўверх чуб. Параўняўшыся, Хведзька кіўнуў Вользе галавой — і тады яна, Вольга, падхапілася, акурат яе спудзілі, з лавачкі.

— Іванавіч, пастой-ка!..

— Што такое? — брыгадзіраў твар дзелавіта нахмурыўся.

— Зайдзі-ка на мінутку ў хату, нешта папытаю ў цябе...

Хведзька глянуў на ручны гадзіннік, зморшчыў лоб.

— Зайдзі, Іванавіч, а то ты, маіць, у адной мяне і не быў, як за брыгадзіра стаў...— Вольга тапталася на месцы і збянтэжаным тварам уражвала Хведзьку, мусіць, больш, чымся словамі.

— Шчэ ж нядаўна брыгадзірам, пабуду...

— Калі тое «пабуду», а цяпер во...— Вольга недагаварыла, бо Хведзька неяк порстка крутнуўся, кіруючы на падворак. Вольга абагнала яго труском, парасчыняла перад ім дзверы — у сенцах і хаце.

— Сядай, Іванавіч...— Яна паказала рукой на высокенькі стары табурэцік, што туліўся краямі да судніка і сцяны, абклеенай зялёнымі шпалерамі.

— Ці не частаваць надумаліся, цётка? — Хведзька ўхмыльнуўся, неяк па-простаму і звыкла аблізнуў языком вузкія пасіveраныя вусны.

— Якая тута чэсць, выпі во троху,— Вольга мітнулася ў сенцы — там стаяла на лаўцы сумка,— потым загрукала ў кладоўцы. Унесла бутэльку, круцель самаробнай каўбасы. Саскочыў з печы рыжы кот, пацягнуўся, выскаліўшы вострыя белыя зубы, зацёрся ля Вользіных ног.

— Ета я хацела, Іванавіч, каб каня... Каб Адам Песенка каня мне даў бульбу паакучваць,— сказала Вольга, коса наразаючы каўбасу, чырвоную з сярэдзіны.

Хведзька, крута абярнуўшы бутэльку, наліў паўшклянкі, выпіў і ўзяў скрылёк каўбасы.

— Адамавага Чубрыка, кажаце? Бярыце, ці мне шкада,— Хведзька наліў сабе яшчэ паўшклянкі.— Вы ж, можа, заслужылі, га? — Падняўся, пасунуў далей за локаць закасаны рукаў чыстай сіняй кашулі.— Пабег я!

— Ну яшчэ кроплю вазьмі... на дарогу.

— Не-не, больш не буду! Да старшыні іду. На праўленне — па кармах... Дзякуй!

— А ён таго... старшыня... нічога, што ты выпіўшы?

— Хэ, цётка! Што я — дурань, блізка садзіцца ля яго. А па вачах ён мяне не заўважыць.

— Ну глядзі, каб...

— Усё будзе на мазі! — узяўся рукой за клямку, падштурхнуў каленам дзверы ды так і спыніўся, у нялоўкай позе. Павярнуў да Вольгі круглы ружовы твар.— Як жа там Петрык ваш? Гэта ён у Мінску?

— Ага, у Мінску ён... Во сёлета кончыў інсцітут... ды не чуваць нешта.

— Уга, вялікая шышка будзе! Мусіць, заганарыўся там? Нават вачэй не паказвае.

— Заняты ён, Іванавіч... Дужа заняты.

— Мы ўсе цяпер занятыя во так!..— Хведзька шмульнуў рабром далоні па шыі.— У вёсцы яшчэ больш клопату, чымся ў тым горадзе. Вось вы на пенсію, а хто на замену? Трактар не паставіш, людзі трэба... Прывітанне ад мяне перадавайце Петрыку.— І зачыніў дзверы — не ляпнуў, а шчыльна прыціснуў.

Вольга засталася адна. Прыбрала са стала — каўбасу і хлеб у суднік, бутэльку, кіўнуўшы блізка перад тварам — праверыла, колькі засталося гарэлкі,— саставіла на падлогу, пад слончык, на якім стаяла пустая выварка. Узяла ў качарэжніку сухую анучу, працерла ля парога няшчыльныя масніцы — калі мыла, дык паналівала вады. Глянула ў акно: па двары хадзілі куры, на дроце віселі вымытыя апранахі і калыхаліся; вушкамі тырчалі пластмасавыя прышчэпкі. «Каб усё добра было з Петрыкам... Нешта

ніякіх вестак не падае...— Вольга ўздыхнула.— Прасіла ж зімой, каб хоць пісаў часцей, калі прыехаць нельга. «А што,— кажа,— пісаць, мама, усё ў парадку». Вучыўся на адны пяцёркі... Цяпер на свае грошы пойдзе. Ён у мяне старацельны, работу любіць... Дарма, што без бацькі гадаваўся...» — Вольга адчула, як пацяплелі вочы і сталі горш бачыць...

Яна ўзяла ў сенцах вёдры — адно эмаліраванае, у якое даіла карову,— пайшла па ваду. Калодзеж ад хаты быў далекавата — на рагу вуліцы і завулка,— і, каб прынесці вады, ёй, Вользе, трэба высільвацца, надта цяпер, калі пастарэла, ды — як на тое — пераламаўся каромысел, які рабіў яшчэ муж, Тарас. Вольга, дапяўшы завулка, убачыла, што нехта вядзе насустрач ёй каня. «Ці не Чубрыка?..»

Каня — Чубрыка — цягнула за сабой Танька, Хведзькава маці. Босая, з жылаватымі лыткамі, яна раз-пораз гучна паноквала, тузаючы каня за аброць,— ляскалі цуглі.

— Ета ты Песенкавага? — спытала Вольга ў Танькі, як быццам не пазнала, чый конь.

— Адамаў, а чый жа шчэ!

— Дык я ж дамовілася з Адамам...

— З Адамам, з Адамам! — перакрыўляла Танька, не гледзячы на Вольгу.— Што Адам?

— І Хведзька твой сказаў...

— Мала што Хведзька сказаў, а я кажу, мая Нінка возьме! — фанабэрыста крутнула масіўнымі клубамі Танька, аж абвілася вакол нагі даўгая і шырокая спадніца.

— Ды мне... Каб жа Адам не сышоў куды.

— Слабодны ён будзе, Адам твой. Но-э-э! Каб цябе пранцы! — Танька шмарганула за аброць — Чубрык, задраўшы галаву так, што храпа паказвала ў неба, неахвотна перастаўляў ногі.

«Хай сабе і Нінка,— падумала Вольга амаль без крыўды.— Каму ж паспагадаеш, як не свайму дзіцяці. От і Танька Нінцы сваёй...» Яна наліла няпоўныя, па самы ніжні рубчык, вёдры, панесла іх ціха, спакваля, але вада ўсё роўна выплёсквалася і абдавала холадам ёй босыя ногі — на іх наліпаў пясок.

Ля варот, трымаючы на жываце сумку, яе чакала паштальёнка — нізкая, загарэлая, з моцнымі нагамі кабетка. «Што?..» — і ўзрадавалася, і ўстрывожылася

Вольга, спыніўшыся,— глядзела неадрыўна ў паштальёнчын твар.

— Сын вестку падаў! — вясёлым голасам сказала паштальёнка, падаючы сіненькі бланк тэлеграмы.

— Што ж ён, мо едзе?..

— Ды не, грошы просіць... Тэрмінова.

— А пісьма няма, нічога...

— Няма... Во якія яны, дзеці нашы,— успамінаюць тады бацек ды матак, калі нешта трэба ад іх.— Паштальёнка пахітала слупок ад весніц.— Во і паправіць няма каму...

— Ага... Ну дзякуй табе, Людка...— Вольга ўзяла дрыготкай рукою тэлеграму і, прыціскаючы да грудзей, пайшла ў двор.

## 4

Пятро пазваніў па тэлефоне, які даў яму Валера. Сказаў — па чыёй парадзе звоніць і чаму. Пачуў у трубцы сур'ёзны, сухі голас, які мог належаць чалавеку або занадта дзелавому, або спешчанаму частай увагаю іншых. І гэты голас нетаропка адказаў яму, што сапраўды яго, Пятра, трэба выручыць і што сустрэнуцца яны праз гадзіну ля кафэ «Сузор'е».

Размова для Пятра намячалася няпростая, уласна, з усіх ранейшых — новая, і ён разумеў гэта і востра адчуваў душою. Няпростая не таму, што ён быў з тых, хто не можа звязаць пару слоў,— якраз, пажыўшы сярод разумных, удумлівых людзей, начытаўшыся кніжак, ён мог разважаць, нават тады-сяды ўзбіваючыся на красамоўнасць і выразна-зразумелыя думкі,— а няпростая таму, што яму, Пятру, трэба кланяцца незнаёмаму чалавеку. І не проста кланяцца, а напружана чакаць ад яго спагадлівасці, якая, магчыма, якраз і ёсць тая неацэнная і адзіная якасць душы, што, толькі аднойчы праявіўшыся, забяспечвае чалавеку на ўсё жыццё добры ўспамін аб ім.

Думаў пра гэта Пятро, вярнуўшыся ад Валеры на сваю апошнюю ноч у інтэрнаце, не мог супакоіцца і тады, калі, пасля званка, няспешна крочыў па шырокай вуліцы, абсаджанай абапал пяшчотна-зялёнай маладой акацыяй, што трохі запознена, толькі ў чэрвені, шчодра і як бы сарамліва пабралася во-

хрыста-жоўтымі кветкамі. Ён не ўсведамляў і не бачыў усю гэтую прыгажосць і зялёную радасць жыцця, а толькі адчуваў незразумелым пачуццём, што ўсё навокал павінна мець іншы сэнс, чым тое, што тлумным цяжарам ляжала ў яго на душы. Ён ужо разумеў, што ягоны стан не можа ўплываць на ўвесь свет, тады як свету падуладны настрой кожнага чалавека. Пятру часам здавалася, надта ў апошнія дні, што ён падобны на пасаджаны ім каштан. І што душа яго гэтак жа раздвоена, як і сама крона каштана. Тая захірэлая галіна з недаразвітымі лісткамі, ад якіх падаюць на падаконнік крыжыкі, успамінаецца яму амаль заўсёды, калі ён пачынае думаць пра сябе. І гэтыя думкі — як ні дзіўна! — нараджалі ў ім новую, нейкую трапяткую радасць, якая засланяла сабой усё астатняе, чым жыў дасюль. Дзіўнымі, вядома, былі гэтыя яго думкі, вельмі ўжо дзіўнымі.

Ля дзвярэй кафэ нікога не было. З лаўкі, што стаяла насупраць, цераз дарогу, падняўся чалавек у белай спартыўнай майцы і джынсах і памахаў Пятру рукой: давай сюды. Пятро перасек вуліцу. Чалавек аказаўся хлопцам гадоў дваццаці трох, і пра гэта найлепей гаварыла густая кароценькая шчацінка, што ўзялася па твары і пад носам: відаць, будучыя вусы і барада; вочы, жывыя і хітрыя, глядзелі з-пад вялікіх, у тонкай аправе акуляраў пранікліва і прыязна.

Павіталіся. Пятро назваў сябе, нешта буркнуў і хлопец, ды Пятро ці добра не пачуў, ці то імя выскачыла з памяці, як гэта амаль заўжды бывае пры першым знаёмстве.

— Пайшлі,— сказаў хлопец і паджгаў, не азіраючыся ды, мусіць, слухаючы, ці чуваць ззаду крокі. Пятро хацеў спытаць: «Куды?» — але падумаў, наўрад ці спадабаецца хлопцу гэтае зусім лішняе тут пытанне, і змоўчаў. Моўчкі крочыў побач — хіба што на далонь адстаючы,— каб не так няёмка было пераносіць напятасць.

— Ты канчаў тэхналагічны? — калі перайшлі трамвайныя рэйкі, што сіне і тонка зіхацелі ў вачах, спытаў хлопец, не павярнуўшы галавы.

— Во толькі скончыў.

— А я на вячэрнім радыётэхнічнага вучуся... апошні курс.— Хлопец глянуў на Пятра, і ў хітрых

вачах бліснула іскарка.— Заглянем да майго сябра. Тэлевізар каляровы напракат хоча ўзяць, дык памагу выбраць.

Яны скіравалі да чатырнаццаціпавярховага сіняга будынка — яшчэ два такія будынкі падпіралі неба далей. На пляцоўцы, зарослай травою і з плешынамі пяску, гулялі ў мяч — адбівалі адно аднаму — чатыры стройныя чарнявыя хлопцы ў белых штанах.

На першым паверсе, перад лесвічнай пляцоўкай, стаяў шырокі стол, які засланяў амаль увесь праход і за якім сядзела пажылая жанчына — вахцёр. Яны прайшлі міма яе, пачалі падымацца наверх. На пятым паверсе звярнулі ў калідор — налева. На дзвярах пакоя вісела паперына — на ёй было напісана вялікімі крывымі літарамі: «Я — в бытовой комнате». Пайшлі далей, прама па калідоры,— у самы канец. Дзверы ў бытоўку былі расчынены — адтуль вырываўся шум вады. Ля ракавіны стаяў высокі негр і мыў у ёй нейкую белую адзежыну. Убачыўшы іх, шырока і белазуба ўсміхнуўся — глядзеў на хлопца. Хлопец спытаў проста, як у даўняга сябра:

— Мыццём заняўся?

Негр зноў усміхнуўся, выціраючы аб запырсканыя светлыя штаны тонкія кашчавыя пальцы, падаў хлопцу і Пятру карычневую руку. Пятру — са словам: «Джайлс» — назваў імя.

— Да-а,— сказаў негр з адчувальным акцэнтам, і гэта прагучала ў яго як: «Та-а».— Пайшлі?

Хлопец, не адказаўшы, ступіў да дзвярэй. Негр і Пятро — следам.

Пакой, дзе жыў Джайлс, быў завешаны зялёным аксамітам — за ім стаялі два драўляныя ложкі. На тумбачцы — магнітафон японскай маркі «Супер». На сценах былі наклеены вялізныя партрэты незнаёмых мужчын і жанчын — падобна, артыстаў,— рэкламныя плакаты аўтамашын і нейкага піва ў прыгожых бутлях самай рознай канфігурацыі. На падаконніку ў шклянцы стаяў букецік жывых ландышаў, тонкі водар якіх раптам пачуўся Пятру і быццам адразу падружыў іх, людзей розных рас,— Пятра і Джайлса.

— Гэта мой новы знаёмы, Пятро,— сказаў хлопец Джайлсу. Джайлс прыветліва глянуў на Пятра, бліснуў вялікімі сіняватымі бялкамі.

— Цябе завуць Петэр... Ты жывеш у Мінску... Вучышся... Дружба! — павольна гаварыў Джайлс, і акцэнт прыдаваў яго словам шчыры, хвалюючы сэнс.— Мінутку. Я толькі пераадзенуся...— Джайлс зняў са спінкі крэсла зялёныя вельветавыя штаны, дастаў з шафы жоўтую кашулю з чырвонымі запінкамі на манжэтах. Пятро, трохі збянтэжаны гаварлівасцю Джайлса, падумаў: якое шчасце жыць у краіне, дзе ўсе, як браты, і нават тыя, што прыязджаюць у яе часова, становяцца добрымі ды спагадлівымі, як і ўсе нашы людзі. І, расчуленаму, Пятру так захацелася, каб ва ўсім свеце, «прыгожым і ярасным», між людзьмі былі гэткія цёплыя адносіны, як і між імі — Пятром і Джайлсам,— і каб людзі гэтак жа хутка знаходзілі паразуменне, як знайшлі яго яны, беларус Пятро і кеніец Джайлс.

Яны ўтрох паехалі на таксі ў пункт пракату. Пакуль выбіралі тэлевізар, таксі чакала іх. Эдзік — так звярнуўся да хлопца Джайлс — аблюбаваў «Рэкорд-714» («Гэты працей — менш псавацца будзе!»), і ён цяпер стаяў на заднім сядзенні між Пятром і Джайлсам. На развітанне Джайлс доўга, далікатна ляпаючы па плячы і ўсміхаючыся прыгожымі белымі зубамі, дзякаваў Пятру за помач і запрашаў:

— Заходзь, Петэр!.. Буду вельмі рады...

— Я абавязкова зайду да цябе, Джайлс!..— усхвалявана адказаў Пятро і ўжо на дварэ падумаў: «А ці не марную надзею падаў Джайлсу? Ці выберу часу зайсці да яго? — І тут жа пераканаў сябе: — Зайду! Не цяпер, дык тады, калі спакойна зажыву...»

Пятро адчуваў і пачынаў асэнсавана разумець, што жыццё яго выходзіць на новы круг: так жыць, як раней, ён ужо не будзе. І не таму, што хацеў ці не хацеў гэтага,— воля часу, абставін, урэшце, незалежная ад яго жаданняў спракавечная прага чалавека рухаць сябе далей, у чым бы тое ні было, прымусілі яго па-новаму зразумець сябе і сваё прызначэнне ў гэтым свеце. Ён ведаў, пройдзе пэўны час — і тое, што цяпер хвалюе яго сваёй незразумеласцю і загадкавасцю, будзе самым звычайным, не вартым пільнай увагі і неспакою.

А пакуль Пятро перабіраўся да Эдзіка. Перавёз чамадан, адзенне, стос кніг... Калі рабіў апошні заезд у інтэрнат, падышоў да каштана. Доўга перад ім стаяў. Глядзеў на чэзлыя ліскі і з сумам думаў, ці будзе каму паліваць каштан. Інакш — можа захірэць і наогул засохнуць. Яшчэ не прыжыўся добра, а карэнне пашкодзілі, мусіць, сур'ёзна — во, капаліся ля самага ствала... Ды каму ён патрэбен, гэты каштан? Завочнікам? Смех, дый толькі! Адно спадзяванне — на дождж... Цяпер, развітваючыся з каштанам, Пятро адчуваў бязлітаснае спусташэнне, акурат губляў нешта важнае і патрэбнае душы, без чаго свет бякне, як кінутая пад пякельнае сонца травінка. Хаця — стой! Навошта ўжо так? Зусім жа нядаўна, чакаючы тралейбуса, ён па звычцы павярнуўся да інтэрната — і здрыгануўся: ля каштана спыніліся маладая маці і, мусіць, яе дачка — дзяўчынка год трох-чатырох. Дзяўчынка трымала ў руцэ цацачнае сіняе вядзерца. Пастаялі, гледзячы ўверх на каштаны,— было відаць, як паблісквалі на тварыку дзяўчынкі шкельцы акуляраў. Пайшлі да калонкі. Набралі ў вядзерца вады і палілі каштан. Схадзілі яшчэ раз па ваду. Твары здалёк былі невыразныя, ды, здаецца, і маці і дачка ўсміхаліся. Маці, торкаючы пальцам угору, нешта гаварыла. Але гэта што, гэта выпадковыя прахожыя, якія, можа, вярталіся з кіно ці, хутчэй за ўсё, з магазіна, шкада ім стала напаўзасохлае дрэва, і яны вырашылі яго паліць — балазе калонка аказалася побач. Не, ён не павінен забываць гэты каштан!..

Эдзік Пятру спадабаўся. І — перш за ўсё сваёй ціхмянасцю: можна было толькі здзіўляцца, як яны пасябравалі з Валерам,— але здзіўляцца, не ведаючы, што людзі розных тыпаў нервовай сістэмы сыходзяцца часцей і больш надзейна, чымся аднолькавых. Магчыма, Эдзікава ціхмянасць і не так выпірала б, калі б ён пастаянна не хадзіў задуменны. Размаўляць з ім было цяжка, па праўдзе кажучы, амаль немагчыма. Ніякая цікавая тэма не магла вырваць Эдзіка з засяроджанасці, і ён, пачуўшы голас суразмоўніка, толькі «акаў» ды «штокаў», чым нярэдка выводзіў з сябе. Эдзік уступіў Пятру свой пакой — вялікі, з балконам, ахарошаным бледна-ружовымі маргарыткамі ды жоўта-фіялетава-чорнымі

браткамі, што раслі ў прадаўгаватых карытцах,— а сам перайшоў у той, дзе жыла сястра. І сядзеў там, зачыніўшыся, мусіць, па дню, і не вылазіў бы, калі б не тэлефонныя званкі — Эдзіку часта званілі. І тут, у тэлефоннай размове, ён не распыляўся — буркаў то прозвішча, то адрас і на развітанне гаварыў: «Ну будзь!»

Быў аўторак — дзень тыдня, які Пятро любіў больш за іншыя,— можа, таму, што за ім ішла серада — палова тыдня,— пасля якой дні праскаквалі імгненна, як нейкі адзін зацягнуты дзень. Пятру падабалася, калі час ляцеў хутка: чамусьці ён спяшаўся жыць, адчуць сябе спакойным і ўпэўненым у гэтым гарадскім тлуме, чаго пакуль не ўдавалася, і найхутчэй дасягнуць таго, што — лічыў — яму адведзена ў жыцці, а з цягам часу нагнаць і тое, што, затлуміўшыся, недарабіў. Не ведаў яшчэ Пятро, што недаробленае нагнаць нельга, бо ўсё наступнае, што ты возьмешся рабіць ці аналізаваць, будзе неабходным толькі для пэўнага прамежку жыцця, а ўсё астатняе застанецца беззваротна няздзейсненым; у гэтым бязлітаснасць марна згубленага чалавекам часу.

Пятро прыбраў у пакойчыку — заслаў ложак, склаў роўна на этажэрцы кнігі, газеты, мокрай анучай працёр падаконнік, падлогу. Выбіў, сходзіўшы на вуліцу, дыванок. І адправіўся на паштамт. Дарогаю думаў: прыслала маці грошы ці яшчэ не — столькі цяпер у вёсцы клопатаў. Праспект быў заліты сонечным святлом; яго, святла, здавалася, прыбаўлялі самі людзі — светлай лёгкай адзежаю, радаснымі тварамі ды вясёлымі вачыма. Бліскалі вокнамі тралейбусы; праносячыся міма, сляпілі адпаліраванымі кузавамі легкавушкі. І нават галубы, узнімаючыся высока ў паветра, калолі вочы вапнава-белым падкрыллем. У Пятра раўнеў настрой, а з ім, настроем, нясмела высочвалася з душы і жаданая цяпер абыякавасць да таго, набудзе ён, Пятро, спакой ці па-ранейшаму будзе вярэдзіць, ныць боль, што здрадзіў нечаму святому і блізкаму, прынамсі, цяпер. У такія хвіліны Пятро зайздросціў раўнадушным людзям, якім намнога прасцей жыць. Але — супакойваў сябе — як бы там ні было, а самае, мусіць, простае ў чалавечым жыцці, доўгае яно

ці кароткае,— нараджэнне. А пасля, да самай смерці, і асабліва ў прадчуванні смерці — трывогі, клопаты, незадаволенасць сабой, зайздрасць да іншых... Як пражыць жыццё, каб не сумнявацца, што вычарпаў усё і так, як трэба, са сваёй душы і розуму, каб не дакараць сябе за змарнаваныя гадзіны, дні, месяцы, гады... Ці такое наогул немагчыма?

Пятро падышоў да акенца, выразанага ў таўстым шкле, на якім значылася і літара «ч». Спытаў у людзей, што таўкліся ў купцы, хто апошні. Апынуўшыся перад самым акенцам, падаў пашпарт маладой жанчыне з прыгожа развінутымі вуснамі. Яна, глянуўшы прозвішча, пачала корпацца ў вузкай скрыначцы, запоўненай папяровай драбязой. Вось тонкія пальцы з бліскучымі пазногцямі перасталі кратацца — выцягнулі перавод. Новенькія — калі браў, аж захрумсцелі,— дзесяткі ляжалі ў Пятровай кішэні. І грошы, якія ён ніколі не любіў і траціў іх не шкадуючы, праўда, не направа-налева, а з толкам, па надабе, прыдалі яму ўпэўненасці, і ён з наіўным, дзіцячым здзіўленнем падумаў, што не так гэта мала для душы — адчуваць незалежнасць і нават скрытую надзею нешта падпарадкаваць сабе, адчуць сваю ўладу над нечым. Вось толькі над чым?

Адразу намерыўся ехаць — а не ісці — дамоў, да Эдзіка. Сеў у тралейбус. Праз акно наглядаў за ўсім, што адпаўзала назад,— за вітрынамі магазінаў, кіёскамі, жанчынамі, што сядзелі на лаўках, ліпамі, ад якіх падалі на тратуар косыя цені,— чытаў — што паспяваў — рэкламу, афішы; была ў яго такая звычка. Размінуўся вясельны эскорт з дзесяці — Пятро паспеў палічыць — легкавушак, прыбраных стужкамі і шарамі,— і было ўражанне, што з легкавушак вырываецца блакітна-ружовы вецер. Тралейбус кружыў, зварочваў з праспекта — будавалі метро — паўз вокны праплываў шчыльны высокі плот, з якога прасілася ў вочы літара «м» у акуратных жоўтых ромбіках. Пятро неспакойна перабіраў пальцамі — яму зноў успомніўся каштан.

Эдзіка дома не было, адно плаваў па кватэры духмяна-спіртны пах дэзадаранту. На кухні нешта палясквала, і за шклянымі дзвярыма — як туман. Пятро кінуўся туды: на пліце зыходзіў парай чайнік, аж-

но падскоквала накрыўка. Во, гэты Эдзік з-за сваёй задуменнасці яшчэ бяды наробіць, падумаў Пятро. Нават чайнік забыў выключыць. Добра, што доўга не затрымаўся...

## 5

Валера сустрэў Пятра пытаннем: «Ну як?..» — але з твару, насцярожана-застылага, можна было счытаць не толькі гэтае пытанне, а і радасць, і сумненне, і расчараванне, і нават сорам, які, мусіць, адразу б запёк Валеру, калі б Пятро ўвайшоў у пакой спахмурнелы. Але вочы Пятра ззялі, і па іх, вачах, Валера, не дачакаўшыся адказу, зразумеў, што «справа ў ажуры». Ён абхапіў Пятра за плечы, страсянуў: жывём! — і Пятро спакойна адказаў яму, што ўзяў Эдзік на кватэру, хаця, канечне, дзіўны ён хлопец.

— Ды ён чокнуўся на тэме сваёй дыпломнай. Задумаў распісаць яе так, каб ад яе быў адзін крок да кандыдацкай... Нейкую новую, больш простую, схему блока УКХ хоча прапанаваць. Я дык з гэтага толькі пакепліваю.

— Чаму? Гэта цікава — пошукі.

— Глупства! Слухай, што я табе скажу... Раней знарок маўчаў, бо не ведаў, як усё ў цябе атрымаецца. Запомні: падганяць падзеі — як бы гэтага ні хацелася — ніколі не варта... губляецца давер і ў таго, хто табе верыць, і ў цябе самога — што ўсё будзе добра. Дык вось, Лілька на свідуху са мной прыняла сяброўку — во! — Валера тыцнуў пад нос Пятру адтапыраны вялікі палец, потым апісаў у паветры выгінастыя лініі жаночай фігуры.

— Ці да дзяўчат мне зараз? — сказаў сумным голасам Пятро.— Ды і Лідка...

— Ты — галава і два вухі! — Валера хацеў паляпаць далоняю па Пятровым ілбе, але Пятро адхіліў галаву.— Махай рукой на ўсякіх Лідак. Запомні, што Казьма Пруткоў гаварыў: «Глядзі ў корань!» У карэньчык трэба глядзець, стары, а ты надта прыстойны,— разгарачыўся Валера, ажно плямы выступілі на чыстых, як дзявочых, шчоках.— І куды, скажы, цябе гэтая прыстойнасць выводзіць? Запомні: перамагае дальнабачнасць — невялічкі крок, зроблены дальнабачна, недзе некалі перанясе цябе на цэлы кі-

ламетр, прамінуўшы ўсе перашкоды, на якія б ты патраціў шмат сілы.

— Гэта школьная сяброўка... Але ўсё роўна неяк няёмка перад ёю. Ні з кім з хлопцаў не сустракалася.

— Ты так думаеш?

— Упэўнены.

— Дарэмна. Дзяўчына, сябруючы з адным, мае на прыкмеце, так сказаць, у рэзерве, яшчэ пару. Для падстрахоўкі!

— Лідка не такая.

— Чаму ж ні разу не прыехала да цябе — наколькі мне вядома — ні на свята, ні на выхадныя?

— Я на канікулах да яе завітваў.

— І ты лічыш гэта нармальным. Памыляешся! Запомні: калі дзяўчына ўтрэскалася па вушы — яе цягне да хлопца, як муху на мёд.

— Я ж сказаў, што ніхто ні ў кога не ўтрэскваўся. Проста так, па інерцыі, зрэдку перапісваемся... І толькі што во пісьмо ёй напісаў, дзе ўсё растлумачыў...

— Ну дык у чым справа! Я пазнаёмлю цябе з Лільчынай сяброўкай. Шкадаваць не будзеш.— І зноў апісаў у паветры, ужо без каментарыяў, лініі жаночай фігуры.— Але гэта, так сказаць, у перспектыве. А пакуль трэба правярнуць адно дзельца.

— Ты, я гляджу, надта дзелавы! — усміхнуўшыся, падкалоў Валеру Пятро, але без той ноткі з'едлівасці ў голасе, якая звычайна закранае гонар.— А я так не магу. Нельга крыўдзіць чалавека. Ужо нават таму, што пакрыўджаны чалавек, як мне здаецца, больш за астатніх здольны на зло.

— Гарэць трэба нам, маладым, а мы тлеем, тыцкаемся, як сляпыя кацяняты! — Валера патрос над галавой невялікімі кулакамі.— Трэба жыць, жыць шырока — прама і крыва! Таго, што падносіць нам час, не трэба цурацца. Трэба акунацца ў жыццё з галавой — во так! І браць, браць ад яго што зможаш! — Валера прысеў, раскірэчыўшы ногі, задраў уверх галаву, ажно валасы дасталі да вуглаватых лапатак, паматляў ёю, акурат толькі што вынырнуў з вады. Потым схапіў гітару, з азартам ударыў пальцамі па струнах.

— Безразважна жыць і толькі браць, нічога не аддаючы ўзамен,— таксама кепска,— не згадзіўся Пятро: калі не было ахвоты слухаць Валераву балбатню, ён адно што рабіў — усё адмаўляў і ведаў пры тым, што будзе не такі ўжо і несправядлівы.

— Во, яшчэ адзін мудрэц! Мы надта рана пачалі старыцца і там, дзе трэба слухаць сваё юнае сэрца, слухаем галаву, якая ўвабрала ў сябе шматгадовы вопыт аксакалаў.

— Ты вось выступаеш за пачуцці, а сам такі ўжо рацыяналіст... да мозгу касцей!

— Рацыяналізм рацыяналізму розніца. Мой рацыяналізм — у выбары жаданняў, выбраў , а там ужо — раз-два і ў дамках. Твой, вясковы,— высунуць галаву з гнязда, пакруціць па баках і толькі потым нешта прыдумаць...— Яхідна знізіў голас.— Хочаш, праверым? На дзельцы, якое я хачу табе прапанаваць. Упэўнены, будзеш крахтаць, мудраваць. Во, бачыш? — Валера паляпаў далонямі па сваіх худых сцёгнах.

— Што? — не зразумеў Пятро.

— «Што»? Джынсы! Стыдуха! Правучыўся пяць гадоў у інстытуце і не знасіў ніводных, нават захудалых джынсікаў. Сказаць па праўдзе, і мой тут пралёт. Значыць, будзем выпраўляцца?

— Я сачыў за вучобай, а не за модай.

— От, што я казаў! — Валера пляснуў у далоні.— Закруціў галавой, як той верабейчык, што ты гадаваў. Нічога не позна, а якраз трэба, галава ты садовая,— перайшоў на спакойны тон Валера.— Джынсы — апошні крык моды, і без іх нават не патыкайся да хіповых дзяўчатак, глядзець у твой бок не стануць. Яшчэ, я табе скажу, дарэмна не носіш вусы. Каб мне такую шчаціну, як у цябе,— быў бы сучасным Міклухам-Маклаем! — Валера памацаў свой голы падбародак.

— Думаў я неяк пра джынсы... Але, не зарабіўшы ні рубля, такой раскошы, як джынсы, дазволіць сабе я не магу. Вось так, браце.

— Запомні: супраць таго, што дыктуе жыццё, не папрэш. Хто спрабуе гэта рабіць, тых яно... як бы тут сказаць? — б'е па цемечку.

— Жыццё, наша жыццё прымушае мяне імкнуцца да ўсяго лепшага ў ім.

— Вось іменна! Іменна да лепшага і прыгажэйшага! Ты правільна расшыфраваў бацькаў... э-э... мой афарызм. Недарэмна я лічу цябе башкавітым хлопцам.

— Не лесці ты мне, калі ласка. Я цвёрда застаюся на сваёй думцы.

— Дзяроўня...— махнуў рукою Валера.— А ў кіно ты хоць пойдзеш?

— Трэба. Даўно не быў.

— Даўно...— Валера ўздыхнуў і падаў руку. Пятро пляснуў па ёй далонню.

## 6

Бралася на вечар, ясны і ціхі, што прыносіць душы спакой, а вачам — адпачынак: сонца, пяцічотнае, мяккае, як выплаўленае з парафіну, зморана коцціца да зямлі. Перад трумо Пятро яшчэ раз глянуў на сябе. Адпрасаваныя стальнога колеру штаны, прыталеная, у дробную клетачку, кашуля і замшавыя туфлі зрабілі яго непрывычным для самога сябе. Ён усміхнуўся. У такім выглядзе Пятро і заявіўся да Валеры.

— О, правільна! — усклікнуў Валера, разглядаючы Пятра бліскучымі, у чорных вейках вачыма.— Не галі вусы. Нават па гэтай кароценькай шчотачцы бачу — яны табе да твару. Ну, стары,— не пераставаў захапляцца Валера,— цяпер усе клёвыя барышні — твае! Яшчэ б цыгару ў зубы — ых!

Пятро сціпла пасміхваўся — сам ад сябе ён не быў у захапленні. Ды, зрэшты, знешні выгляд яго заўсёды менш за ўсё цікавіў. І не толькі таму, што ведаў прымаўку: «Па адзенні страчаюць, а па розуму праважаюць», а яшчэ і таму, што не любіў выдзяляцца і не мог трываць, калі апынаўся пад скрыжаваннем цікаўных позіркаў.

—Значыцца, так! — Валера не знаходзіў сабе месца — было відаць, што ў ягонай галаве спее нейкая ідэя. На попельніцы дагарала забытая ім цыгарэта — тоненькай нітачкай цягнуўся ўгору сіні дымок. Фортачка была адчынена, і нітачку хіліла да акна, на фоне якога яна бясследна гублялася.— Спынімся на гэтым варыянце: гані да кінатэатра «Пера-

мога», глянь — што там ідзе. Калі талковы фільм, вазьмі чатыры білеты і чакай там.

— А-а, дык ты яшчэ не адмовіўся ад намеру пазнаёміць мяне з сяброўкай сваёй сяброўкі? — Пятро наўмысна — для каламбуру — не сказаў «тваёй Лількі».

— Я — сур'ёзна,— пасмірнеў Валера і далей гаварыў спакойна: — Ніхто з вас нікому і нічым не будзе абавязаны. Проста — знаёмства...— Валера разумеў, што найлепей зрабіць так, каб гэта не выглядала як «сватаўство», бо Пятра заўсёды абурала, калі нехта рабіў яму паслугу там, дзе ён сам мог лёгка справіцца.

— Добра, хай будзе так,— згадзіўся Пятро.

— Запомні: шчасце часта праходзіць міма чалавека па яго віне, з-за нейкай памылкі. Ды адчайвацца не варта — супакойвай сябе тым, што яно яшчэ не раз абміне цябе, і гэта не апошняя і не адзіная на жыццё памылка,— сказаў Валера, састроіўшы глыбакадумную міну.

Яны разышліся.

Яшчэ на падыходзе да кінатэатра ў Пятра спыталі, ці ёсць лішні білет, і ён зразумеў, што ў кіно ім не трапіць; адно пашкадаваў, што не даведаўся ў тых маладзенькіх дзяўчатак-безбілетніц, які фільм,— каб ведаць загадзя і не мучыць сябе цікаўнасцю. «Жанчына, якая спявае» — кідка сек па вачах яркі рэкламны шчыт на фасадзе кінатэатра, і Пятро ўспомніў, што чытаў пра гэты фільм у газеце. «Трэба абавязкова паглядзець». Праціснуўся да касы — сказалі, што і на заўтрашні дзень білеты ўжо прададзены. Калі задумка непрадбачана абрывалася — у Пятра заўсёды псаваўся настрой. Пятро выйшаў з бакавушкі-касы. Па вуліцы прамчалася, мігаючы аранжавай лямпай на кабіне, «хуткая дапамога». «Недзе памірае чалавек... ці чалавеку цяжка... А я з-за дробязі ў сум,— паўшчуваў сябе Пятро.— Хапае ў жыцці і больш значнага, за што трэба перажываць...»

Ён убачыў іх — траіх: Валеру і ягоную Лільку, доўгавалосую, зграбную, ён ведаў даўно. Другая дзяўчына была незнаёмая, і ў яго азвалася ў грудзях сэрца: быў важны першы момант — першы позірк, першае слова, першы жэст... У яго, Пятра, заўсёды так: што выкліча чалавек напачатку — тое і засядзе

ў душу, і ніякія новыя ўражанні не заменяць першага, і як бы потым чалавек ужо сябе ні паводзіў, ён будзе пацвярджаць толькі тое, першае, уражанне. Пятро ступіў колькі крокаў насустрач, яны падышлі.

Дзяўчаты павіталіся — адначасова ці не адначасова, Пятро не прыкмеціў: позірк абхапіў яе ўсю — і, не сустрэўшыся з яе вачыма, Пятро адчуў, што яны глядзяць на яго не менш цікаўна і прыдзірліва. Яна была высокая. Лёгкая сутуласць надавала яе даўгой шыі лебядзіны выгін, якому, мусіць, пазайздросціла б не адна модніца пушкінскіх часоў. Правільны авал твару сыходзіўся ў востры падбародак, на якім з правага боку выразна бачылася белаватая плямамінка, якая, калі дзяўчына ўсміхалася, забаўна варушылася, быццам сонечны зайчык, і надавала ўсмешцы тонкую, прасветленую яснасць. Вусны былі б увогуле прыгожыя, калі б трохі не псавалі іх буйнаватыя зубы. Паношаныя джынсы спраўна аблягалі яе, а белая блузачка, перацягнутая ў поясе сінім шаўковым шнуркам, хвалююча напіналася на грудзях. Дзе ён яе бачыў? Як быццам недзе ўжо бачыў гэтую спружыністую паставу, даўгую шыю... Але дзе? Можа, так толькі здаецца. Ці мала падобных дзяўчат?

— Дзень добры! — адказаў Пятро, неўсвядомлена для сябе, бо ўвага была поўнасцю аддадзена ёй — той, што глядзела нейкае імгненне ва ўпор на яго. Перад ёй стаяў сярэдняга росту хлопец, ахайна апрануты і з акуратнай прычоскай — разабраныя пасярэдзіне валасы зачэсаны ўверх,— і гэтая прычоска, відаць, маладзіла яго гады на два. Твар яго асвятляўся бляскам цёмных, прадаўгаватага разрэзу вачэй.

— Знаёмцеся! — сказаў Валера.— Гэта — Ірына,— тэатральна раскланяўся перад дзяўчынай,— а гэта мой сябар Пятро Чаранок, інжынер-мікрабіёлаг,— паказаў рукой на Пятра. І тут жа спытаў, што з білетамі. Ірына неяк дзіўна паглядзела на Пятра, акурат нешта ведала. Пятро кіўнуў на прыступкі, дзе тоўпіліся, чакаючы лішні білет, людзі.

— Пра Пугачову фільм? — спытала Ірына так, што было відаць: яна чула пра гэты фільм, але, мусіць, хацела сваім пытаннем завязаць хоць маленькую размову з Пятром. І ён адчуў гэта, пацвердзіў:

— Пра Пугачову. І ролю там выконвае, і спявае...

— Сходзім? — ужо звярнулася да Ліўкі, ды Пятро зноў зразумеў гэта як намёк і на яго.

— Давайце разам,— прапанаваў ён.

— Я не супраць,— сказала Ірына, мякка глянуўшы яму ў вочы. І раптам — тое ўражанне, пра якое ён турбаваўся напачатку, склалася натуральна і проста: ён адчуў, што яму будзе прыемна і радасна з ёй. І нясцерпна захацелася даведацца пра яе больш: думка, што яму спадабаецца і такой, у якім яна жыве, і ўсё ў ім, і людзі, з якімі яна мае адносіны, мацнела, і перад ёй адступала скаванасць, што бярэ над чалавекам уладу пры наўмысным знаёмстве.

— І мы? — глянуў Валера на Ліўку — запытальна, але пытанне прагучала як сцвярджэнне, і Ліўка не палічыла патрэбным па яго адказваць.— Наконт білетаў паклапачуся я сам.

«Нешта падазрона стараецца»,— падумаў Пятро — калі не бяздумна глядзець на людзей, то не такім ужо рэдкім бывае сумненне ў іх шчырасці — звычайна, у студэнцтве, такія дробязі беспярэчна браў на сябе ён, Пятро,— ды позірк зноў перакінуўся на Ірыну, і думкі пра яе ўладна заглушылі думкі пра Валеру. Пятро нават спалохаўся, што яна, Ірына, так хутка і неспадзявана завалодала ім, выклікала роздум і не зусім зразумелыя пачуцці, якія таксама не з'яўляюцца проста так, а, відаць, нараджаюцца нейкім унутраным адчуваннем свайго нераўнадушша да чалавека і — больш таго — неабходнасці бачыць гэтага чалавека побач з сабой. Сапраўды, хоць і адмаўляў Валера, атрымліваецца, як быццам яны, Пятро і Ірына, абавязаны нечым адно аднаму. Няўжо так? Гэтая смелая здагадка патрабавала асэнсавання і для пацвярджэння — часу, бо верыць тут інтуіцыі ці нейкаму прадчуванню было рызыкоўна. «Нешта, як хлапчук, размарыўся...» — пасміхнуўся з сябе Пятро і сілай прымусіў выкінуць з галавы заблытаныя думкі.

— Пакаштуем марожанага? — спытаў ён, паказваючы вачыма на спалавелую ад сонца стрэшку, пад якой за тумбай-сталом стаяла жанчына ў белым халаце.

— А чаму б і не! — Валера пацiснуў плячыма.

— Мне пламбір у шакаладзе... калі ёсць,— папрасіла Ірына, проста, можа, трошкі залішне па-дзелавому.

— У нас з ёй аднолькавыя густы не толькі на марожанае,— шматзначна, з усмешкаю, сказала Лілька, чыркаючы наском басаножка па асфальце.

— Тады многае спрашчаецца, хіба не так, Валера? — таксама загадкава адказаў Пятро, і сам толкам не ведаючы, што мае на ўвазе.

— Запомніце, сябры: след пракладвае першы, астатнім — лягчэй!..

І ўсе шчыра засмяяліся ад гэтай іх няпэўнай гаворкі. Потым ужо, з марожаным у руках, спускаючыся ўніз, да Нямігі, яны гаварылі пра дробязі тым жартоўным тонам, які адно што і робіць, дык гэта — настройвае на бесклапотнасць ды легкадумныя ўчынкі. Ішлі памалу, спакваля... І яна, Ірына — было відаць,— не турбавалася пра тое, каб не апынуцца наперадзе хлопцаў, за чым заўсёды сочаць дзяўчаты, у якіх не вельмі зграбныя фігуры,— ішла з годнасцю, незалежна, трымаючы пад пахай светла-карычневую сумку, перакідны раменьчык звісаў і раз-пораз кранаўся бядра. «Не, усё-ткі я яе недзе бачыў!..» — не выходзіла ў Пятра з галавы.

Блакітна-дымчатая смуга згусціла паветра, мяккай плёнкаю ахінула будынкі, слупы, дрэвы... Стома прыглушвала вячэрні горад, спавівала яго на сон-адпачынак — усё на свеце, жывое і нежывое, патрабуе адпачынку, абнаўлення, як і чалавечая душа. Яны прайшлі па Нямізе, пад мостам, звярнулі ўправа, да Свіслачы. Вада ля берага была чорная, далей, куды не даставаў цень ад бетоннага бар'ера — як начышчаная латунь: сонца, кавунова-сакавітае, слабое, яшчэ не села.

Яны пайшлі паўз раку, гледзячы на густую ваду,— далёка чуваць былі іх звонкія галасы. У скверыку, за кустамі бэзу, стаялі людзі — здаецца, адны мужчыны, чалавек пяць — але там было на здзіўленне ціха. Уперадзе, каля рэстарана «Журавінка», свяціла фарамі машына.

Ім трапіўся на шляху рыбак — пажылы мужчына, абхінуўшыся на бар'ер, трымаў у руках бамбукавае вудзільна,— і яны спыніліся непадалёк ад яго: паназіраць, як ловіцца рыба. З пякучым сумам

успомніўся Пятру Сож, хоць апошнім часам і памялелы, ды ўсё роўна з вольным і незалежным рэчышчам. Рыбак пільна сачыў за паплаўком, пакуль цячэнне не падбівала яго пад дамбу. Тады ўзмахваў вудзільнам, коса закідваючы кручок у левы бок. «Якая можа быць тут рыба?..» — дзівіўся Пятро; сяброў гэта як быццам не турбавала, адно падалося, што вочы ў Ірыны гараць цікаўнасцю. Але вось рыбак рэзка таргануўся назад, гэтак жа рэзка тузаючы на сябе вудзільна і ловячы левай рукой кручок, на якім нешта маленькае трапяталася. «Хы, адны калючкі!..» — незадаволена хмыкнуў рыбак і выкінуў рыбку назад у Свіслач.

Пятро адчуў, што пара ісці,— сяброў, мусіць, трымала тут толькі яго, Пятрова, захапленне, што разлілося па твары чыстым, нейкім нявінна-дзіцячым святлом. Эгаізмам ён заўсёды пагарджаў, тым больш цяпер, калі адчуваў, што падступае туга, якая на адзіноце забірае дазвання, і тады робіцца невыносна цяжка, і таму сказаў:

— Ну што, рушым далей?

— Значыцца, давядзём справу да лагічнага канца,— адразу ўключыўся ў размову Валера.— На заўтра, кажаш, таксама білетаў няма... Бяру на паслязаўтра. Згода? Згода.

І зноў у іх пачалася тая ж бесклапотная размова, што і раней, аднак Пятро ў ёй не ўдзельнічаў — ішоў задуменны. І першая гэта прыкмеціла Ірына.

— Нешта наш Пятро сумны,— сказала яна.

— Апаноўваюць думкі...— вінавата ўсміхнуўся Пятро, зусім не для таго, каб палічылі яго надта сур'ёзным. Проста на яго сапраўды, у прадчуванні блізкага расстання і няпэўнасці (ён не любіў у жыцці няпэўнасць, тым больш — у чалавечых адносінах,— што заўсёды прымушала яго шмат перажываць), хлынула нястрымная лавіна думак — думалася пра маці, пра Лідку, Ірыну, наогул пра жыццё, такое шчодрае на выпрабаванні. І ён баяўся аднаго — каб не аддацца адчаю, калі апускаюцца рукі і нават тое, што прыносіла маленькую радасць, патанае ў глушы абыякавасці, не падбадзёрвае — і душа пазбаўляецца хай сабе і кволай, ды такой патрэбнай падпоркі.

— Гэта не понт: яму ёсць над чым падумаць...— Валера пастражэў з твару.— Ды, стары, не гаруй! —

ляпнуў Пятра па плячы.— Гарантую — гэта часова.

Дзяўчаты неяк адразу пацішэлі, а ў вачах Ірыны з'явіўся нават сум, які інакш не ўспрымаўся, як спачуванне. А яму, Пятру, якраз цяпер, як ніколі, патрэбен быў чалавек, які пашкадаваў бы яго пяшчотна і ласкава, як маці, а галоўнае — бескарысліва. Ірыне — было відаць — карцела спытацца, што такі за клопат у Пятра, але не хапіла нахабства лезці ў душу чужому чалавеку. І яна толькі сказала, што ўжо даўно прывучыла сябе глядзець трошкі раўнадушна на ўсё і на ўсіх,— відаць, гэтымі словамі хацела падказаць Пятру выйсце.

— Акрамя мужчын,— дадала Лілька, і гэта прагучала не зусім дарэчы — яе, гэтую недарэчнасць Лільчыных слоў, кожны адчуў па-свойму. «Чаму мужчын?» — падумаў Пятро. І непрыязнасць, беспадстаўная і сляпая, да тых — ён уявіў,— што дамагаліся права на яе, Ірыніну, узаемнасць і любоўную ласку, захліснула яго, выклікаўшы ў душы балючыя, незразумелыя пачуцці: Пятро не ўяўляў, што з дзяўчынаю, да якой ён не абыякавы, нехта мог быць у інтымных адносінах ці — яшчэ горш — збіраўся быць. Каханне, мусіць, толькі і трымаецца на загадкавасці і рэўнасці... Першае распальвае цікавасць да чалавека, і гэта зблiжае... З другога вынікае эгаізм, які змацоўвае пачуцці...

Лілька не думала бянтэжыцца. Яна, сапсаваная ўвагай і кампліментамі да таго, што, адчуўшы сваю віну, старалася не загладзіць яе, а, наадварот, узмацніць, выпнуць яшчэ больш і гэтым самым падтрымаць сваю годнасць, нечакана пахвалілася:

— А я, Ірка, сабе спадніцу штроксавую дастала. Па блату!

— Якога колеру? — спытала Ірына так, што было відаць: галоўнае ў яе пытанні не сэнс, а тон — абыякавы, незадаволены,— ім, тонам, яна паказвала Лільцы, што не прымае такую яе гаворку. Наспявала спрэчка, і Пятро, адчуваючы, што Ірыне будзе непрыемна, калі ён стане сведкам, і ведаючы, што яшчэ адна сустрэча — паход у кіно — немінучая, сказаў:

— Прашу прабачэння, але, на жаль, я вымушаны сёння пакінуць вас... Ёсць у гэтым неабходнасць.

Усе — і нават Валера — не запярэчылі яму, а ка-

лі б Пятро змог прачытаць Ірыніны думкі, то засмуціўся б,— яна радавалася, што ён пакідае іх.

А ўвечары Пятру пазваніў Валера і чамусьці сумна сказаў, што ён, Пятро, зацікавіў Ірыну. Пятро, слаба верачы таму, што чуў, пачаў асэнсоўваць настрой, што імгненна падняўся, і думкі, ад якіх, здавалася, паяснеў свет... Яму стала добра, і ён, гаворачы Валеру «дзякуй», уяўляў, што дзякуе ўсяму гораду, усім людзям, якіх яму захацелася любіць шчыра і нястрымна. А навучыцца любіць людзей не так проста — гэта, можа, складаней, чымся жанчыне вынасіць і шчасліва нарадзіць дзіця.

## 7

З гэтага дня новы неспакой вярэдзіў душу Пятра: думкі пра Ірыну. Іншы раз яму нават здавалася, што наяве ён яе не бачыў, а проста прысніў і аблічча яе захаваў у памяці. Тады яму хацелася хутчэйшай сустрэчы, але наперадзе яшчэ былі два дні, напоўненыя роздумам і пакутлівым марнатраўствам. «Чаму Валера званіў не ў настроі, хоць паведамляў прыемную навіну? Няўжо гэта з-за мяне ці з-за яе, Ірыны?..» — шукаў ён адказ на пытанні. Так і карцела пазваніць Валеру ды спытацца: што там здарылася? Але, па-першае, цяпер зусім не час пазаляць Валеру сваімі клопатамі, тым больш — можна лічыць — дробязнымі, а па-другое, парыванне стрымліваў гонар: гэта будзе выглядаць, як быццам ён, Пятро, адразу растаў перад Ірынай. І Пятро чакаў...

...Ён глянуў на сябе ў люстэрка: апошнім часам твар прыкметна змарнеў — пабольшалі вочы, пад ім засінеліся кругі; ад крылаў носа ўніз, паўз адрослыя вусы, пралеглі маршчыны. Пятро палічыў, што гэта яго не псуе, а, наадварот, робіць больш інтэлігентным. Да сустрэчы, прызначанай Валерам, заставалася гадзіна, і Пятро выйшаў з дому. На ім былі тыя штаны і туфлі, што і пры першым спатканні з Ірынай, а кашуля — новая, чырвоная, прастрочаная белымі ніткамі.

«Як там каштан? Ці набірае сілу? Нешта і дажджоў, як на тое, няма. Трэба неяк выбрацца ды паліць...» Пятро купіў у кіёску «Вячэрні Мінск». Калі

не спяшаўся, чытаў газеты на хаду. З Валерам яны прыйшлі адначасова — на паўгадзіны раней.

— Дам яшчэ няма? — спытаў Пятро жартаўліва, адно каб завесці гаворку пра дзяўчат.

— Не дам, а дамы,— паправіў Валера, гледзячы на Пятра нявіннымі светла-сінімі вачыма, якія смяшылі ўжо тым, што былі блізка пасаджаны.

— Як?.. Ірыны не будзе? — Пятро засаромеўся, што так лёгка выдаў сваю цікавасць да Ірыны.

Валеру гэта спадабалася, ён усміхнуўся:

— Адгадай, каго?

— Лількі. І ведаю, чым ты гэта растлумачыш: не хапіла білетаў...

— О! Я ніколі не сумняваўся ў тваіх здольнасцях! Усё правільна. Мы з Лількай ідзём у кіно заўтра. Так што вось табе два білеты — і гуд бай! Сяброў я не крыўджу. Хто гэта робіць — тымі пагарджаю...

— Дабро,— адказаў Пятро разам на ўсе Валерыны заклікі і ўзрадаваўся такой нязмушанай магчымасці застацца адзін на адзін з Ірынай.

Ірына з'явілася хвілін за дзесяць да пачатку сеанса, прымусіўшы Пятра пахвалявацца — ён заўсёды перажываў, калі нехта спазняўся з сустрэчаю ці абяцаннем.

— Добры дзень, Пятро! — сказала яна, становячыся блізка насупраць яго — трымала спераду дзвюма рукамі сумку і глядзела яму ў вочы.

— Прывітанне! — адказаў Пятро, не без захаплення і не зусім адкрыта разглядаючы Ірыну, грацыёзную і зграбную ў шчыльным джынсавым плацці, што зашпільвалася на ўсю даўжыню круглымі, як шарыкі, металічнымі гузікамі. Тое, што і другім разам ён не расчараваўся ў ёй, прыдало яму бадзёрасці, якая адчулася перш за ўсё ў голасе: — Шчаслівчыкі мы з табой?

— Выходзіць, так,— сказала яна, падымаючыся па прыступках кінатэатра.

— Але гэта — шчасце імгнення, а чалавек хоча быць шчаслівым пастаянна, усё жыццё.— Пятро падтрымліваў Ірыну за локаць.

— Вядома...

У фае тоўпілася шмат народу,— дзверы ў залу яшчэ былі зачынены, і адтуль чулася музыка. За

стойкай, прыпятай да сцяны літарай «п», пажылая жанчына прадавала газеты, сувеніры і канцылярскую драбязу; крыху воддаль выстраілася чарга, ад пачатку якой людзі адыходзілі з марожаным у руках.

— Калі настрой не ўплывае на твае жаданні, то і сёння я магу прапанаваць табе пламбір,— сказаў Пятро жартаўліва.

— Можаш прапанаваць...

Потым яны хадзілі па фае, разглядаючы партрэты артыстаў. Званок і расчыненыя напята дзверы паклікалі іх у чырванавата асветленую залу. Седзячы ў крэсле, Пятро адчуваў каленам яе нагу, і дзіўная пяшчотнасць валодала ім. На экране маладыя жанчыны, маляўніча і лёгка атуленыя ружовай кісяёй сукенак, мітусіліся ў танцы з оперы Пучыні «Чыо-Чыо-Сан», і яму здавалася, што сярод іх ён бачыць яе, Ірыну. Тады міжволі яго хіліла да яе; яна абхінalася на падлакотнік, што раздзяляў іх. Фільм хваляваў не толькі ігрой акцёраў, але і песнямі, якія выконвала Ала Пугачова,— а там, дзе спявачка, зняможана прыхінуўшыся да калоны, маліла свайго каханага прыехаць хоць на мінутку і глянуць на сына, Ірына паднесла да воч хусцінку і некалькі разоў шморгнула носам. І гэтая яе чуллівасць спадабалася Пятру: чалавек, які спачувае чужому гору шчыра, не можа быць кепскім.

Выйшаўшы з кіназалы, яны апынуліся пад ліпамі. Цягнуў мацнаваты густы ветрык, гойдаў кашлатыя буйналістыя галіны, і між імі гарэзліва бліскалі, як дражніліся, зеленаватыя зоркі. Неба застыла нерухома і глыбока. Ірынін твар быў бледны, на ім ляжаў намёк спахмурнеласці — і гэта ўстрывожыла Пятра. Страху, вядома, ніякага не было — проста на Ірыну, відаць, моцна падзейнічаў фільм. Ішлі моўчкі.

— Кранае фільм, праўда ж? — сказала ціхім голасам Ірына.

— Сапраўды, гераіня цудоўна разумее псіхалогію моладзі! А талент, чалавечнасць і прастата, урэшце, натуральная жаноцкасць... Вось гэта ўсё і ўздзейнічае на гледача.

— А твор мастацтва і павінен стварацца з улікам таго, што ты назваў. Тады і цікавасць да яго будзе...

— Дарэчы, як і да чалавека, які валодае гэтымі якасцямі.

— Ну, гэта само сабой!

— Ты, калі ласка, даруй за прамалінейнасць... не магу я доўга насіць на душы тое добрае, што хочацца сказаць чалавеку... Але мне цікава з табой. Ёсць у цябе нешта такое... ну, загадкавае, незразумелае і незвычайнае, што вабіць да сябе. Акрамя ўсяго, мне ўвесь час здаецца, што я ўжо недзе бачыў цябе...

— Магчыма... Колькі сустракаеш знаёмых твараў! Але таленту ў мяне няма, хоць і вучуся на філфаку, дзе кожны другі лічыць сябе ледзь не геніем... Вучылася тры гады на стацыянары, а потым абставіны прымусілі перавесціся на завочнае аддзяленне...

«Якія абставіны?» — зацікавіўся Пятро, а распытваць не стаў, лічачы гэта непрыстойным.

— Ды ўсё роўна ты... я выказваю асабіста свае думкі і пачуцці.

— Відаць, няма сэнсу пераконваць цябе ў іншым? — яна, какетліва прыжмурыўшы вочы, усміхнулася, і ён адчуў, што ёй было прыемна пачуць ад яго такія словы.

— Безумоўна! — ён ахвотна падстроіўся пад яе гульню.— Як кажа Валера, я — без понту. Думаю, што нам варта сустракацца і далей.

Ірына паглядзела на яго трошкі здзіўлена, але не настолькі, каб паказаць Пятру, што пачутае было для яе нечаканым.

— Я таксама не супраць, але... адступаць не будзеш?

«Адступаць? Ад чаго адступаць?» — ліхаманкава запрацаваў мозг, і Пятро сказаў:

— Я не люблю гульню ў пачуцці.

— Часам нялёгка адрозніць, дзе гульня, а дзе сапраўднае. Бо, як ведаеш, жанчына кахае вушамі... А словы, як мне здаецца, яны гучаць аднолькава — з фальшывай душы і са шчырай...

— Думаеш? У каханні, надта ўцехах, патрэбна цвярозасць, якая дазволіць у ліслівасці слоў выявіць самы звычайны цынізм, а ў зацятым маўчанні — пяшчоту і ласку. І наогул: шчырасць намераў пазнаецца не па словах, а па ўчынках, паводзінах.

— Дзе тая цвярозасць потым дзяецца,— сказала Ірына, паніжаючы голас да шэпту, і задумалася. Ва-

ласы ад пахілу галавы роўна рассыпаліся па плячах.

— Я не маю цябе на ўвазе, але толькі легкадумныя людзі яе страчваюць.

— Вельмі падобна, што «твоими устами глаголет истина».

— Ну што ж, мы разумеем адно аднаго,— сказаў Пятро.— Можна, я табе днямі пазваню?..— Ён адкрыта і як бы вінавата глянуў на яе. Яна, не раздумваючы, назвала нумар тэлефона, і ён запісаў яго ў блакнот, які выняў з задняй кішэні штаноў,— хоць раней ніколі не запісваў: тыя нешматлікія адрасы і тэлефоны, якія былі яму патрэбны, трымаў у памяці. Цяпер Пятро быў у тым асаблівым гуморы, калі з-за лёгкасці слоў і нязмушанасці ў паводзінах не адчуваецца, з якой нястрымнай страсцю ды шчырасцю спавядаецца чалавек. Ён правёў Ірыну да прыпынку тралейбуса, а потым падумаў, што будзе не па-джэнтльменску, калі пасадзіць яе на тралейбус, а сам застанецца, і папрасіў дазволу правесці да самага дому. Ірына адразу згадзілася, нават не аднекнулася дзеля сціпласці, відаць, баючыся, што Пятро можа ўсумніцца ў яе шчырасці. І ён паехаў з ёй на вуліцу Горкага, дзе жыла яна — як потым убачыў — у вялізным зігзагападобным доме. Яны рассталіся, ветліва і спакойна, і кожны панёс у душы ціхую, светлую радасць, што дорыць людзям сустрэча, якая падала надзею на сапраўднае і хвалюючае пачуццё.

Пятро адамкнуў кватэру, і ў вушы адразу шыбанулі крыкі і гам — з пакоя, у якім жыў Эдзік. Пакуль здымаў у парозе туфлі, ставячы іх на круглы вязаны дыванок, міжволі слухаў.

— А я перакананы, што ёсць, акрамя Зямлі, планеты, дзе існуюць цывілізацыі!

Зусім юны голас пярэчыў:

— Кінь дурное! Дасюль мы ўжо б скантачыліся з імі.

Пахла дымам цыгарэт.

— Ды вунь амерыканскія касманаўты нават сфатаграфавалі на Месяцы незнаёмых істот у скафандрах! І гэтыя плёнкі захоўваюцца пакуль у найстражэйшым сакрэце.

— Бабуліны казкі! Выдумкі!

«Як там Джайлс?» — успомніў Пятро негра і ціха прайшоў у свой пакой.

8

Бывае так, што не хочацца начэй: хай бы цягнуўся дзень і дзень. Гэта тады, калі нешта важнае для сябе чакаеш, а ноч не дае пра яго думаць і цешыцца радасцю ды прыемным, што яно прынясе з сабой. У такім стане кепска спіцца, сняцца самыя невераГодныя, часам жахлівыя сны, якія стараешся хутчэй забыць, бо не ўяўляеш, што такое можа здарыцца ў жыцці.

Раніцой галава ў Пятра была тлумная, цяжкая. Вочы — глянуў у люстэрка — стомлена блішчалі. Перш чымся ісці мыцца, адчыніў балкон — праветрыцца. Тонка пахлі браткі, з начы — свежыя і цнатлівыя кожным сваім пялёсткам. Над імі гулакружылася аса, настолькі вяла, што Пятро адрозніваў на яе фігурна перашчыкнутым цельцы жоўтыя і чорныя палоскі. Ён схадзіў на кухню, прынёс у чайніку вады і паліў кветкі. Кроплі, што засталіся на пялёстках і лісці, пераліваліся на сонцы ртутна-фіялетавымі пацеркамі. Пятро хацеў узяць адну на палец, ды яна знікла, пакінуўшы на скуры мокрую плямку.

Снедаў у сталоўцы — за гэтыя дні не змог купіць прадуктаў: ні якой-небудзь каўбасы, ні масла з цукрам. Сёння захапіў з сабой поліэтыленавы пакет. Наогул такі кухарыць на чужых кухнях ён не любіў, ды вымушалі абставіны — трэба было ашчаджаць грошы. Не выходзіла з галавы Ірына — і цяпер, днём. Пачынаў, палохаючыся, адчуваць: калі нешта развядзе іх — для яго паблякне свет і на душу зноў ляжа туга. Бывае ж так: жыў, не ведаў чалавека і добра сябе адчуваў. Выпадкова стрэў, у тралейбусе ці аўтобусе, пагаварыў якую хвіліну — і ўжо цяжка ўявіць сябе без гэтага чалавека. Як ён, Пятро, мог жыць дасюль, не ведаючы Ірыны? Няўжо гэта было сапраўды так? А Лідка? Не, Лідка не тое. Яна, здаецца, не забірала ў яго столькі думак. Ірына — яна іншая... Ён адразу адчуў: ёсць у яе тое, што ён хацеў бы бачыць у жанчыне і не проста жанчыне, а ў сваёй жонцы,— прыгожы твар, натуральнае пачуццё годнасці, розум... ці, адным словам,— жаноцкасць, якой часам не хапае жанчынам. Усведамленне, што

ён будзе ўсё жыццё з Ірынай, раптам асвяжыла душу ветрыкам радасці, які тут жа адагнаў стому.

Ён выйшаў са сталоўкі і — здзівіўся паветру, яно, чыстае, блакітнаватае, маладзіла дамы, бярозкі, матавыя галоўкі цюльпанаў, фантанчыкі вады, падобныя на выгнутыя алюмініевыя пруткі, надаючы ім свежы, урачысты выгляд. Пятро спусціўся ў тунель, каб перайсці на другі бок праспекта, дзе быў гастраном. Уперадзе яго каціла каляску маладая пара: ён — лысы, у светлай кашулі і штанах на падцяжках, яна — таўставатая, у кароткай чырвонай сукенцы, якая высока адкрывала белыя ногі. Ён нахіліўся, паправіў блакітную коўдрачку з карункамі па краях: яна — шчаслівa ўсміхнулася, узялася левай рукой за каляску, у правай несла сумку. Пятро любіў назіраць за шчаслівымі людзьмі, надта тут, у горадзе, і заўсёды дзівіўся [redacted] іх бесклапотнасці і спакою. Падышлі да прыступак, спыніліся, раячыся, як падняцца наверх. Ён хацеў узяць каляску адзін, ды яна запярэчыла, аддала яму сумку, спрабуючы падтрымаць каляску спераду — памагчы яму. Пятро параўняўся з імі.

— Можна прапанаваць свае паслугі?

Ён глянуў на Пятра здзіўлена. Яна сказала:

— Калі ласка, выручыце нас...

Несучы каляску, Пятро глянуў на дзіця: яно спала з пустышкай у роце — на светлым чыстым тварыку выразна чарнелі тонкія бровы і вейкі. І потым яшчэ колькі хвілін у яго стаялі перад вачыма гэтыя чорныя бровы і вейкі на дзіцячым тварыку.

У гастраноме ён купіў пачак масла, папяровы мяшэчак цукру і бутэльку кефіру. «Паеду ва універсам — куплю яшчэ каўбасы»,— падумаў ён. Няўжо дасюль яго, Пятра, нешта не задавальняла? Ці гэта былі звычайныя сумненні чалавека, што становіцца на самастойны шлях? І не абавязкова, каб ён, гэты шлях, пачынаўся з горада... Можа, вунь і з Толікам Маруткіным творыцца такое ж самае. Чалавек жа мусіць некалі ўсур'ёз задумацца, куды ён ідзе і што яму трэба ад жыцця.

Так, стоячы ў чарзе, разважаў Пятро. І тое, над чым ён доўга і пакутліва думаў раней, ужо як быццам не мела цяпер для яго такой магічнай сілы. Пятро нават здзівіўся, што аддаў яму столькі перажыванняў. Няйнакш, гэта адно ён, Пятро, успрымае ўсё

так востра і эмацыянальна. Дзівак, ці што? Ён адвёз прадукты дамоў, склаў усё, акрамя цукру, у халадзільнік; мяшэчак з цукрам паставіў у шафку.

Эдзік заглянуў на кухню з лагарыфмічнай лінейкаю ў руцэ, пакратаў на пераноссі тонкую дужку акуляраў і кінуў у акно прыжмураны адрачоны позірк; лоб прарэзалі дзве глыбокія маршчыны.

— Што такі ўзбуджаны? — пацікавіўся ён, выняў з кішэні піжамы жавальную гумку і стаў здзіраць з яе бліскучую абгортку.

— Я не разумею сябе сёння. Мне здалося, што ў маім жыцці... нават дзіўна! — усё натуральнае і быццам звычайнае,— адказаў Пятро, не хаваючы сваёй радасці.

— Ну вось бачыш! Галоўнае — убачыць мэту.— Вочы ў Эдзіка цьмяныя, як бы ў масляністай вільгаці.

— Правільна. Чалавек павінен імкнуцца да мэты, як промні сонца да зямлі!

— Ты акурат паэт,— сказаў Эдзік, паправіў акуляры і пайшоў у свой пакой. Узрушаны, Пятро паехаў да Валеры. Дзверы з назіральным вочкам яму нечакана адчыніў сам Павел Андрэевіч — у новым чорным касцюме, снежна-белай кашулі, пры гальштуку. Ля парога стаялі белыя жаночыя басаножкі на высокай шпільцы.

— Скажыце, калі ласка, Валера дома?

— Пятро?..— здзівіўся Павел Андрэевіч і падаў яму руку.— Ды вось прыехаў... на абед, а яго няма. Нават не ведаю, дзе ён. Як, дарэчы, твае справы?

— Нармальна. Памалу абжываюся.

— Ну што ж, жадаю далейшых поспехаў!

— Дзякуй.

— Калі ласка,— спакойна сказаў Павел Андрэевіч, быццам адказваў пасажыру, які прасіў яго пракампасціраваць талон. Яны развіталіся, і Пятро пайшоў, шкадуючы, што іменна цяпер не падзяліўся сваёй радасцю з Валерам; непадзеленая з сябрам радасць, лічыў Пятро,— маленькая здрада шчырасці адносін.

Праз смуродліва-цяжкі пах дыму ледзь улоўна прабіваўся тонкі водар акацый. Высокая дзяўчына з пышнымі валасамі, нечым падобнымі са спіны на львіную грыву, вяла на кароткім белым ланцужку

англійскага дога. Сабака ішоў збоч, панурыўшы галаву і апусціўшы тонкі, як дубец, хвост, ды ў бліскучай кароткай поўсці, тупой мордзе і моцных сківіцах адчувалася затоеная сіла і стальная пруткасць. Вось дзяўчына нахілілася, паказытала сабаку ля маленькага храсткаватага вуха, і ён лізнуў ёй пальцы з вузкімі цёмна-вішнёвымі пазногцямі, яна ўсміхнулася — і Пятру не спадабалася яе шырокая ўсмешка, якая глыбока агаліла роўныя зубы і маркоўна-чырвоныя дзясны.

## 9

У сям'і Рашчовых спрачаліся, уласна, толькі маці і дачка, Ядвіга Браніславаўна і Ірына; Сідар Пятровіч зрэдку ўстаўляў слова, на якое ніхто не рэагаваў, а маленькая Джульетка, у акулярыках з таўстымі шкельцамі і з запэцканымі ў чырвонае вуснамі, займалася больш сабою, тады-сяды падбягаючы да маці, Ірыны, і прыхінаючыся да яе нагі. Спрэчка разгарэлася з-за двух дываноў, толькі што купленых і прывезеных спецмашынаю па дастаўцы тавараў. Дываны былі рознай расфарбоўкі: адзін рудаваты, з жоўта-чырвонымі кветкамі, другі — цьмяна-блакітны, у няпэўных, колеру бардо, узорах. Два старыя дываны з гасцінай — з падлогі і са сцяны — стаялі скручаныя ў рулоны.

— Давай карычневы на сцяну, а блакітны на падлогу,— гаварыла Ірына.

— Што ты разумееш? — не згаджалася Ядвіга Браніславаўна.— Блакітны больш маркі, і таму яго месца на сцяне, а не на падлозе, па якой ходзяць.

— Карычневы якраз пад колер падлогі і зусім не будзе выдзяляцца, дарэчы, як і блакітны на светлай сцяне.

— Дык гэта ж цудоўна! — усклікнула Ядвіга Браніславаўна.— Не будзе рэзкіх перападаў у танах, мякчэй вачам...

— Дазволю сабе выказаць свой пункт гледжання на прадмет размовы...— Сідар Пятровіч паправіў на носе акуляры ў жоўтай апраўе і з чорнымі касцянымі дужкамі.— Маці мае рацыю ў тым сэнсе, што не будзе крыклівасці ў афармленні гасцінай.

— Мама, ты зусім не маеш густу! — не здавалася

Ірына. Апошнім часам — яна адчувала — бацькі, надта маці, зусім не прызнавалі яе, сваю дачку, і нават разумеючы, што яна, Ірына, гаворыць праўду, стараліся застацца пры сваёй думцы, гэтым самым выказаўшы дачцэ пагарду.— Вось глядзіце,— паказала на крыштальную люстру,— блакітнаватае святло і такая ж падсветка з падлогі... Любата, райская ўтульнасць!..— Ірына ўзмахнула рукамі і нечым напомніла птушку, што збіраецца ўзляцець.

— Твае густы мы ўжо ведаем,— Ядвіга Браніславаўна прыжмурылася, надаючы словам шматзначнасць.

— Ну што ж! — Ірына, узяўшыся ў бакі, манерна пахітала галавой і кінула на маці пякучы позірк.— Рабіце, што хочаце. Толькі, просьба, у мае густы таксама не ўмешвацца. Я — не дзіця, я — асоба і хачу самастойнасці, а не вашай дробязнай апекі! — І, крутнуўшыся, пайшла ў свой пакой, ганарліва, з годнасцю несучы прыгожае і гнуткае цела.

Ірына стрымлівала сябе, каб не заплакаць,— балюча было на душы. Думалася: няўжо тая памылка настолькі істотная і непапраўная, што ўсё жыццё будзе напамінаць пра сябе: дачкою з яе касавокасцю, вуснамі раззлаванай маці, сустрэчай з сябрамі?.. Зразумела, за кожны легкадумны крок трэба адказваць, інакш легкадумнасць заўсёды брала б верх над разважлівасцю, розумам, бо ўплывае на чалавека асалодаю і прыемным, ад якіх яна неадлучная, як рэчка ад берагоў. Але ж ці мала яна, Ірына, адплакала, наперажывалася? Чаму ў жыцці так: добрае, зробленае чалавекам, доўга яму не помніцца і выпіваецца кароткачасовай радасцю, а кепскае, нават маленькае, не могуць заглушыць моцныя перажыванні, пакуты? Няўжо памылкі — гэта заўсёды кепска? Але як тут быць: памылкі не заўсёды робяцца свядома, з думкаю: увага, я раблю памылку; яны становяцца памылкамі потым, калі выяўляюцца вынікі ўчыненага або сказанага. Дык няўжо ўсе памылкі можна прадугледзець і загадзя адчуць, што ў тым, што робіш, хаваецца твая бяда? Відаць, не кожны, надта ў маладыя гады, на гэта здольны...

Ну хіба яна магла тады, васемнаццацігадовая дзяўчына, у ласках Сяргея, які быў на чатыры гады

старэйшы за яе і ў якога яна закахалася без памяці, разгледзець звычайнае жаданне мужчыны цешыцца жаночым целам і імкнуцца да блізкасці? Не, ёй тады так не здавалася. Ёй было прыемна і радасна — надта перад сяброўкамі — хадзіць з высокім модным «мальчиком», слухаць яго жартаўлівыя, трохі пашлаватыя размовы і потайкі песціць салодкую думку аб будучым сумесным жыцці. Ірына нават запрасіла яго да сябе і пазнаёміла з бацькамі, наіўна думаючы здзівіць іх сваім звышэлегантным кавалерам.

«Я катэгарычна забараняю табе з ім сустракацца! — сказала назаўтра раніцой маці, разбудзіўшы перад адыходам на працу Ірыну.— Ты хіба не бачыш, што ён цынік і прайдоха?..» Ірына, разгубленая, ніяк не магла паверыць таму, што гаварыла маці. Заплакала, крывячы падпухлыя вусны. А потым — у істэрыцы — сказала маці, што сваё каханне «ніколі не будзе правяраць густамі і насцярогамі пажылой жанчыны, якая адстала са сваімі паняццямі на тысячу гадоў». Ды маці была непахісная: кідай Сяргея, і ўсё. Ірына абаранялася як магла. Яны пасварыліся — усур'ёз, бадай, як ніколі дагэтуль. А Сяргея Ірына так і не кінула, а, наадварот, пачала сустракацца з ім яшчэ часцей і больш раскавана сябе паводзіць назло маці, каб даказаць свае права выбіраць сабе кавалера і жыць сваім розумам.

А потым Сяргей запрасіў яе на дачу — пазагараць, выпіць на свежым паветры шклянку «сухачыка»,— і яна, радая такой увазе, лёгка згадзілася. Ім было весела. Яны рвалі на градах ярка-чырвоны радыс, рабілі з яго салату, якой закусвалі кіславаты і халодны, з халадзільніка, «рыслінг». Захмялелыя, круцілі магнітафон, гарэзавалі, і Сяргей увесь час наравіў пацалаваць Ірыну. Яна прытворна пішчала, засланяючы твар рукамі. Надвечар яны хадзілі па ляску, багатым на незнаёмыя, таемныя пахі і шорахі, шукалі ландышы, якіх летась — сцвярджаў Сяргей — было тут хоць касой касі. Дзіўная вусцішнасць апаноўвала Ірыну, і яна прыхіналася плячом да Сяргея; ён браў яе адной рукою за плячо, паварочваў да сябе і цалаваў у вусны. Яна прыплюшчвала вочы, падстаўляючы яму твар, і скрозь вейкі бачыла вакол ягонай галавы блакітнаваты німб — ад святла месяца.

Вярнуліся на дачу, калі было позна ўжо; унізе, ля падножжа адхоннага пагорка, дзе булькатала крывулястая, з намоінамі чыстага жаўтапесу рачулка, вісеў тонкі цукрова-белы туман. Ірына, схамянуўшыся, заспяшалася. Сяргей спакойна, з нахабнаватай усмешачкай глядзеў на яе. Яна — насцярожылася, і адразу паяснела ў галаве. «Куды?» — спытаў Сяргей. «Дамоў»,— адказала яна, адчуваючы незразумелы страх: Сяргей зараз скажа такое, ад чаго яна жахнецца. «Я не супраць, але ж апошняя электрычка цю-цю»,— Сяргей махнуў у той бок, дзе быў Мінск. «Я пайду пяшком!» — рашуча сказала Ірына. «Пяцьдзесят км? — усміхнуўся Сяргей.— Ранішняя электрычка ўсё роўна абгоніць цябе...» — «Я не буду тут начаваць!» — стаяла на сваім Ірына. «Чаму? — здзівіўся Сяргей.— Я нікому не дазволю парушыць спакой сваёй ненагляднай і навечна каханай!.. Хочаш, у пацвярджэнне пацалую твой туфлік?» — І, не даўшы Ірыне апомніцца, падскочыў да яе, стаў на калені і гучна пацалаваў у туфель.

Рыцарскі Сяргееў жэст расчуліў Ірыну, і яна не ўпарцілася, калі ён апантана цалаваў яе ў вусны, шыю, шчокі, блытаў рукою валасы, чапляючы пальцамі мочку вуха.

Яна засталася начаваць, і гэта была ноч кашмараў — не ўяўных, а рэальных. Сяргей, спачатку лёгшы асобна, перабраўся да яе на ложак. Лашчыў нахабна і бессаромна, а для яе — зусім непераговдна і дзіка. У яе кружылася галава, і рабілася млосна...

...Яна сядзела на крэсле і плакала. Ён ляжаў у ложку пад коўдраю. Потым, калі яна сцішылася, сказаў: «Як мне здалося, я быў у цябе не першы». Яна сцялася, застукала кулакамі па стале: «Падонак! Ты падонак!..» — «Калі памыліўся — даруй»,— сказаў спакойна і ўздыхнуў.

Яна даравала яму не толькі гэтую ноч. Яны сустракаліся... І ёй іх сувязь не здавалася нечым надзвычайным. Пакуль... Пакуль яна не адчула, што зацяжарала. Дзе падзеліся Сяргеевы абяцанні і клятвы? Куды зніклі пяшчотнасць і рыцарства? Ён пазбягаў з ёй сустрэч, подла і беспадстаўна абвінавачваючы яе ў здрадзе. І тады яна зразумела тое, пра што раней нават не думала: хлопцы ў сваіх заляцаннях заўсёды фальшывыя і эгаістычныя, у іх адно наўме.

Яна, ашуканая, была катэгарычная ў сваіх меркаваннях. І потым, пры новых знаёмствах, гэтая катэгарычнасць іншы раз засланяла ад яе і шчырыя намеры ды пачуцці. Людзі самі, спачатку не падазраючы, а потым недаўмяваючы, сеюць між сабою недавер.

...Ірына развярэдзіла ўспамінам душу, і спрэчка з маці наконт дываноў здалася ёй дробязнай і нікчэмнай; усё дробязнае і нікчэмнае якраз тым і адметнае, што, заўсёды прэтэндуючы на вялікае, толькі адно і робіць — наносіць вялікаму вялікую шкоду, застаючыся такім жа нязменным і здольным рухаць сваю справу далей. Думкі перанесліся да новага знаёмага — Пятра. Няўжо і ён з тых, што бачаць у жанчыне толькі чарговую ахвяру? На першы погляд — не. Але ж чалавечая душа — бяздонне, з якога можна вычарпаць што заўгодна, а часцей за ўсё не тое, што хочацца табе.

Ірына сумнявалася. Сумнявалася ў сваіх нясмелых пачуццях, што апанавалі неяк адразу, як толькі ўбачыла Пятра, і якія дасюль хвалююць яе. І чымся больш яна сумнявалася, тым мацней адчувала, што ёй хочацца ўбачыць яго зноў, пачуць мяккі, густаваты голас... Цяпер ёй цяжка гэта растлумачыць, але тады, першы раз, яна старалася спадабацца яму і вельмі перажывала, калі Лілька ляпала сваім языком такое, што магло кінуць цень на яе, Ірыну. І яна надта ўзрадавалася, калі Пятро пачаў развітвацца з імі. Ёй не хацелася, каб ён быў сведкам іх з Лількай спрэчкі. А спрэчка была немінучая. Апошнім часам — хоць усюды, надта пры новых людзях, яны стараліся выпнуць сваю згоду — іх з Лількай аддалялі рознагалоссі ў поглядзе на жыццё. Лілька заставалася такой жа эгацэнтрычнай і самалюбівай, як і ў студэнцтве; Ірына стала больш разважлівай, скептычнай — і гэта дазваляла ёй глыбей і цвяроза ацэньваць людзей, разумець іх узаемаадносіны і нават прадчуваць тое, што вынікае з гэтых узаемаадносін. Ёй няцяжка было ўбачыць, што яна зацікавіла Пятра і зацікавіла не для мімалётнага флірту, а для нечага большага, што яна не асмельвалася пакуль назваць сваім імем і ў чым баялася памыліцца. Пятро быў непадобны да тых хлопцаў, якіх яна ведала,—

гэта яе прыцягвала, прымушала думаць аб ім, каб разгадаць яго. І — яна думала.

Ірына прывыкла бачыць вартасці хлопцаў у адзенні — модзе. Пятро ўскалыхнуў яе не гэтым і не эрудыцыяй, якая іншы раз прымаецца за інтэлект, а ўменнем растлумачыць чалавечыя паводзіны. У гэтым было для яе нешта новае, і гэта вылучала яго з ранейшага — моднага кола яе знаёмых, якія вялі самыя розныя размовы, толькі не самастойныя. Ён разважаў не па гатовых формулах, прыкрываючыся наўмысна завучанымі фразамі, а выказваў уласныя, часам свежыя для яе думкі, што злялі з вуснаў чарадою мяккіх, густаватых слоў. І яна — цяпер ужо без сумнення — пойдзе на сяброўства з ім, калі ён не адмовіцца, не перадумае,— ды наўрад, бо надта ж хацеў сустрэчы; і добры ён, не лавелас: па вачах відаць — не бегаюць, а глядзяць ціха і даверліва.

Але — Джульетка... Яна ўжо не раз станавілася перашкодай на шляху да кахання. Як толькі хлопец, быццам і шчыры ў сваіх пачуццях, даведваўся, што ў яе — дзіця, імгненна мяняўся і знаходзіў прычыну расстацца. Гэта яе абражала, і яна, засмучаная, імкнулася зразумець: на чым жа ўсё-такі трымаецца каханне і што ў жанчыны галоўнае? Гэты пакутлівы роздум і думка пра дачку не пакідалі яе ўвесь час і асабліва занепакоілі пасля сустрэчы з Пятром. І яна рашыла: не марудзіць, расказаць яму пра ўсё, каб не мучыць сябе, не вярэдзіць сваё самалюбства недагаворанасцю і адразу, не заходзячы далёка, выведаць яго адносіны да таго, што з ёй здарылася.

У пакой зайшла Джульетка. Вочы праз таўстыя шкельцы выдавалі вялікімі і расплыўчатымі, нечым падобнымі на васількі. Ірына пагладзіла дачку па галаве.

— Мамка,— сказала Джульетка,— а бабуля зрабіла, як ты хацела... Блакітны дыван паслала на падлозе.

Ірына ўсміхнулася, паківала галавою.

— Адумалася...

— І яшчэ бабуля прасіла, каб ты не крыўдзілася на яе. Вот...

— Добра, не буду... Ідзі памый тварык, модніца.

— А калі памыю, ты мне дазволіш тушшу вейкі падфарбаваць?

— Ідзі, ідзі ў ванную! — Ірына падпіхнула дачку, і тая паслухмяна пайшла да дзвярэй. Ірына ступіла да шафкі, адсунула ўбок шкло, узяла томік вершаў Блока. Адгарнула некалькі старонак... І тут — тэлефонны званок, нейкі — ад нечаканасці — прарэзліва-трывожны.

## 10

Пятро паставіў на пліту чайнік, патэльню, аб край якой счысціў з нажа масла. Адрэзаў два таўстыя скрылі каўбасы і палажыў іх на патэльню — па ёй жоўтаю пенкаю расплылося масла. Пайшоў у ванную, наліў у пластмасавы тазік цёплай вады — збіраўся, паснедаўшы, памыць кашулі.

Перавярнуў каўбасу — спадыспаду яна рудавата запяклася, і на гэтым, запечаным, баку лопаліся цяпер маленькія пузыркі. Пакроіў на тонкія лустачкі батон, зрабіў два бутэрброды. У шклянку насыпаў цукру і плюхнуў з фарфоравага чайніка заваркі. Думкі не пакідалі Пятра. Ён палохаўся тых, што датычыліся Ірыны. Няўжо сапраўды ён не можа без яе? Так, разліку тут ніякага няма, бо ён нават не ведае нічога пра яе. Адно захапленне ёю і адчуванне, што ўсё... лепшай і больш адпаведнай свайму густу дзяўчыны ён не сустрэне. Дык няўжо трэба парываць з ёю і потым дакараць сябе за сваю залішнюю абачлівасць і стрыманасць? Не, пачуцці нельга замарозіць у халадзільніку, яны патрабуюць растраты і пры гэтым не слабеюць, а набіраюць моцы. Гвалтаваць пачуцці — гэта кашчунна: нельга прымусіць сябе разлюбіць; каханне не забіваецца самім чалавекам, яго забівае іншае каханне. Іншае... А ці здольны ён, Пятро, пакахаць другі раз, ці хопіць ягонага сэрца? Лідка? Не, цяпер ён дакладна разумее: у іх было не каханне, а ў лепшым выпадку — юнацкае сяброўства і адказнасць перад гэтым сяброўствам, ці што. Ад хвалявання Пятро адчуваў унутранае трымценне — лыжачка ў шклянцы, якую ён нёс да ракавіны спаласнуць, дробненька брынчала. Пятро прыбраў са стала, старанна выцер яго, не пакінуўшы ніводнай плямкі. Потым заняўся мыццём. Мыць Пятро любіў, але заўсёды шкадаваў час, змарнаваны на гэты занятак,— лепей бы пачытаў кнігу. Пятро не спяшаўся:

Эдзік, як сказаў, «паехаў развеяцца», у калгас, памагаць закладваць сянаж. Пятро не мог заставацца адзін, яму патрэбны былі людзі, і не выпадковыя, а тыя, што сталі блізкімі — Ірына і Валера. Ірына, адчуваў, патрэбна больш, ды крыўдзіць Валеру таксама не хацелася. «Запрашу іх да сябе, дваіх...» Першай, хвалюючыся і думаючы, што сказаць, калі трубку падыме не Ірына, пазваніў Ірыне. Патрапіў акурат — пачуў яе голас:

— Алё! Слухаю!..

— Добры дзень! Пазнаеш?

— Лёгкі на ўспамін. Думала пра цябе...

— Гарантую, не больш, чымся я пра цябе.

— Спрачацца не буду.

— Ірына,— Пятро ці не ўпершыню назваў яе па імені,— давай сустрэнемся. Ведаеш... Ну, потым скажу...

— А чаму б і не сустрэцца? Якраз дарэчы — у мяне страшэнная хандра.

Пятро не наважыўся спытаць — чаму, хоць і падумаў пра гэта.

— Гадзіны хопіць на зборы? Значыць, ля магазіна «Спорттавары». Да сустрэчы! — І тут жа набраў нумар тэлефона Валеры. Пасля трэцяга гудка, калі ў Пятра ўжо мільганула: «Няма нікога дома» — трубку падняў Валера.

— Прывітанне! — сказаў Пятро і адразу прапанаваў: — Прыязджай да мяне. Будзе яшчэ Ірына.

— Ірына? — перапытаў Валера і нейкі момант маўчаў.— Мая не захоча. Яны сур'ёзна... па-мойму, пасварыліся.

— Дык вось у чым справа! Я такі адчуваў, што нешта не тое... Пабудзем утраіх сёння.

Валера думаў, чулася ў трубцы ягонае стрыманае дыханне.

— Добра, я прыеду,— сказаў урэшце.

Пятро збегаў у гастраном, купіў гарэлкі; з він была толькі «Тамянка», і давялося браць яе — цёмную бутэльку з жоўтай наклейкаю. Асобна для Ірыны купіў каробку цукерак «Маска». Да «Спорттавараў» ужо спяшаўся, хоць меў у запасе яшчэ пятнаццаць хвілін,— была ў Пятра такая дзіўнасць: страшыць сябе, што спазняецца. Пасварыліся... А з-за чаго? Няўжо ён, Пятро, мог даць якую-небудзь падста-

ву? А якую? Лільцы не спадабалася, што ён больш увагі звяртаў на Ірыну? Жаночае самалюбства... Але ж яна са сваім кавалерам. І яму, Пятру, відаць, было б непрыстойна, нават няёмка перад Валерам вытрэшчваць на яе вочы. Зразумееш ты жанчыну, яна — такая загадка, адгадваючы якую, задаеш сабе яшчэ некалькі больш складаных загадак.

Ён убачыў яе здалёк — яна пераходзіла вуліцу. Усмешлівая і яркая. Відаць, таксама прыкмеціла яго і, нешта сабе думаючы, усміхалася. Паходка пругкая, з лёгкім падскокам. Пярэстая кофтачка, забраная ў джынсы, прыгожа абліпала яе стан.

— Ты сёння проста надзвычайная! — ён замілавана ўсміхнууўся, здаецца, увабраўшы яе ўсю ў цёмную глыбіню сваіх вачэй.

— Дзякуй за камплімент. Паберажы словы — наперадзе шмат часу.

— Слоў, дарэчы, у мяне не менш. Адно і бянтэжыць: ці змагу ўсё выказаць.

— Тады я маўчу! — яна какетліва прыжмурылася, трохі адхіляючы галаву і як бы хочучы разглядзець яго зводдалі. У яе вачах свяцілася радасць, і ўсё ў ёй выразна сведчыла, што яна радуецца сустрэчы.— Ну, як у цябе справы? Помніцца, хадзіў азадачаны...

— Гаварыць можна шмат, ды скажу пакуль адным словам: наладзіліся,— яму хацелася глядзець на яе і слухаць, што робіцца ў душы.

— Цудоўна! Магу парадавацца разам з табой?

— Я і паклікаў цябе для гэтага. Зараз мы пойдзем да мяне... Не супраць?

— Хто як, а я — ніколі!

— Валеру я таксама запрасіў.

— А Ліньку?..— Ірына не то збянтэжылася, не то здзівілася. Вочы глядзелі ўніз.

— Яна мне не сяброўка,— зманернічаў Пятро. Ірына падняла галаву, правай рукой адхінула валасы назад, прышчаміла пасму шпількай. Яны пайшлі — упобачкі, чапляючыся локцямі і адчуваючы наструнenасць. Лілася аднекуль з вышыні — з акна дома — джазавая музыка — гукі крутыя, напята-адрывістыя, здавалася, ад іх сціскаецца ўсё ўсярэдку.

— Ты тут жывеш? — калі звярнулі ў пад'езд шасціпавярховага дома, спытала Ірына.

— Так, часова. Тыдні праз два трэба выбірацца...

— Кепска вось так, неўладкавана жыць,— сказала Ірына такім тонам, што Пятро не зразумеў, сцвярджае яна ці пытаецца.

— Што паробіш, у жыцці так: тое, што будзеш мець на старасці год, спатрэбілася б цяпер, маладому, а таго, што маеш цяпер, хапіла б на старасць.

— Мне гэтага не зразумець,— неяк дабрадушна, бесклапотна і проста сказала Ірына.

— Табе, відаць, лягчэй... Пад крылом у бацькоў.— Пятро адамкнуў кватэру, прапускаючы наперад Ірыну.

— Пад крылом,— іранічна прамовіла яна, надаючы словам нейкі дадатковы сэнс, задумвацца над якім Пятро не стаў.

— Ну вось,— сказаў ён,— будзь як дома, не забываючы, што і я сам у гасцях.

Ірына ўсміхнулася.

Яны разам збіралі на стол, і Пятра гэты няхітры дамашні занятак, як ніколі, радаваў. Потайкі наглядаў за рухамі Ірыны, калі яна наразала каўбасу і роўненькім веерам раскладвала на талерку.

— А вось гэта спецыяльна для цябе,— ён дастаў з халадзільніка каробку цукерак.

— Дзякуй! — стрымана сказала Ірына, трохі расчараваўшы Пятра — атрымалася неэфектна, быццам так і трэба.

Валера прыйшоў тады, калі стол ужо быў накрыты.

— Маё шанаванне! — тэатральны жэст рукой.— Здаецца, я не спазніўся? Бачу, Чаранок сёння вырашыў выступіць з понтам!

— Толькі пра гэта і мару,— усміхнуўся Пятро.

Валера прыняў позу і з няшчырым натхненнем прадэкламаваў:

Мы пьем не потому, что тянемся к веселью,
И не разнузданность себе мы ставим целью.
Мы от самих себя хотим на миг уйти
И только потому к хмельному склонны зелью.

— Хто напісаў?

— Калі не памыляюся,— сказала Ірына, чырванеючы,— мусіць, загадзя саромелася за памылку,— Амар Хаям.

— Ён самы! Адкуль ты ведаеш?

— А хіба я непадобна на эрудзіраванага філолага?

— Сябры, прашу за наш сціплы стол,— запрасіў Пятро, глянуўшы на Ірыну: як яна зрэагуе на слова «наш». Яму хацелася пераканаць перш за ўсё самога сябе, а потым ужо Валеру, што іх з Ірынай звязвае шмат агульнага. Ірына нічога не сказала і нават не паказала вачыма, ды Пятро адчуў: яна зусім не супраць таго, што ён далучае яе да сваіх клопатаў, і не хавае гэта перад сябрам.

Яны селі за стол, і Валера адразу, не чакаючы каманды, адкаркаваў бутэльку і пачаў наліваць у чаркі. Ірына закрыла сваю рукой, і Пятро адкаркаваў «Тамянку».

— Мой тост,— сказаў Валера, калі чаркі ва ўсіх былі поўныя,— светла-сінія вочы яго ў чорных вейках, якім, мусіць, пазайздросціла не адна дзяўчына, выразна блішчалі,— за мір ва ўсім свеце і поспехі нашага добрага сябра Пятра Чаранка!

Ірына, злёгку пачырванеўшы, паднесла сваю чарку да Пятровай.

— Я далучаюся...— заківала галавою, яшчэ больш пацвярджаючы сваю згоду.

Яны выпілі, Ірына крышку недапіла; Пятро падсунуў каробку цукерак да Ірыны. Некалькі хвілін цягнулася маўчанне, як заўсёды на пачатку застолля. Пятро не адводзіў пагляду ад Ірыны — побач яна, тая, адна думка пра якую хвалюе і непакоіць. Ён лічыў бы сябе наогул шчаслівым, калі б між імі ва ўсім была яснасць. Чаму людзі асцярожныя ў выказванні сваіх пачуццяў? Гэта ж прыносіць лішнія пакуты. Няўжо і тады, калі кахаеш, можна ашчаджаць самалюбства, баяцца яго параніць — тым, што не сустрэнеш ад таго, каго кахаеш, адпаведнай прыхільнасці? А можа, каханне — заўсёды цнатліва-далікатнае і патрабуе асцярожнасці?..

Ірына, манерна трымаючы двума пальцамі цукерку, па крышачцы адкусвала яе і гуташыла нагой, відаць, таксама аб нечым думала. Валера быў, здаецца, бесклапотны, адно твар ажыўленасцю ды вочы бляскам выдавалі нешта няпэўнае між цікаўнасцю і неўразуменнем. Ён перакідваў позірк то на Пятра, то на Ірыну.

Яшчэ праз гадзіну ім было весела ўсім. Ірына і Валера курылі: Валера трымаў у руцэ скручаную конусам уніз паперыну, перад Ірынай стаяла попельніца, якую Пятро прынёс з пакоя Эдзіка. Пятро расказваў анекдоты з жыцця вялікіх людзей. Як Нільс Бор з жонкай і маладым галандскім фізікам Казімірам вярталіся позна ўвечары з гасцей. Казімір быў заўзятым альпіністам і з захапленнем расказваў пра скалалазанне, а потым прапанаваў прадэманстраваць сваё майстэрства, выбраўшы для гэтага сцяну будынка, міма якога праходзілі. Калі ён, чапляючыся за выступы сцяны, падняўся ўжо вышэй другога паверха, за ім, разахвоціўшыся, палез і Бор. Маргарыта Бор з трывогай сачыла за імі знізу. У гэты момант пачуліся свісткі і да будынка падбегла некалькі паліцэйскіх. Будынак аказаўся аддзяленнем банка.

Усе засмяяліся. Валера спытаў:

— Дзе ты нахапаўся гэтых анекдотаў?

— З кнігі «Фізікі працягваюць жартаваць». Магу ўдружыць.

— Не кепска было б дзе-небудзь фарсануць!.. О! Добра, што ўспомніў! Мне трэба пазваніць у адно месца.— І развязнай паходкай пайшоў да тэлефона. Пятро міжволі пасунуўся да Ірыны і усё яшчэ працягваючы ранейшую размову, думаў ужо пра іншае — пра іх з Ірынай адносіны. Яна сядзела вольна, расслабленая, паклаўшы сашчэпленыя рукі на калені, і гэтай простай позай схіляла да сябе; пасма валасоў недарэчна закрывала вока, ды Ірына не папраўляла яе. З пярэдняй даносіўся вясёлы голас Валеры. Пятро наважыўся: «Будзь што будзе!..» — сказаў, стрымліваючы дрыжанне ніжняй губы:

— Ірына, я хачу табе...— Вырвалася: — Мне цяжка без цябе! Ты можаш палічыць гэта за пустую балбатню, але...

Яна ўспыхнула густой чырванню, пяшчотна дакранулася да ягонай шчакі; ён узяў яе руку і схаваў у сваіх далонях. Вочы яе, поўныя чуллівасці, глядзелі адкрыта.

— Пеця...— прамовіла яна, засланяючы гіпнатычны бляск вачэй роўна падсіненымі павекамі.— Пеця... у мяне...

— О! Дык у вас тут сентыментальныя размовы! Прашу пардон! Эх, дзе мая сямiструнная!..— са шка-

даваннем выдыхнуў Валера.— Я не Мулявін, аднак...— і шчоўкнуў пальцамі.

Яны не чулі, як Валера скончыў размову па тэлефоне і адчыніў дзверы ў пакой. Ірына, прыкрыўшы вочы хусцінкай, выйшла з пакоя.

— Мне хутка ўдаляцца, таму слухай...— Валера падсеў да Пятра, наліў сабе чарку і выпіў. Сцяў Пятра за плячо.— Ты што, стары, можа, па-сапраўднаму ўцюліўся ў гэтую дамачку?

Пятро здзіўлена глянуў на сябра: «П'яны?»

— А ты ведаеш, які сакрэт мне сёння Лілька адкрыла, калі я званіў ёй пасля цябе? — Валера дакорліва пахітаў галавою з растрэпанымі валасамі і падобнаю на чартапалох.— Эх ты, зялёнка! Ды ў тваёй Ірыны дачка, маладзейшая за цябе на дзевятнаццаць гадоў!

Што?!. Пятру здалося, быццам пакой павярнуўся дагары і захістаўся, як адлюстраванне ў патрывожанай вадзе. Ад шчок адхлынула кроў, і ён адчуў на іх халадок.

— Валера, канчай жартаваць! — чамусьці не асек, а папрасіў Пятро.

— Во чорт! Звёў дык звёў пару,— Валера пашкроб патыліцу.— Ці я ж ведаў! Атрасайся ад яе, пакуль не позна. Мая табе парада...

Пятро цвёрдым позіркам утупіўся ў Валеру.

— Навошта табе гэта? Свет клінам на бабе з прычэпам сышоўся, ці што? — Валера таргануў рукой — маленькае сэрца, што выступала з пячаткі, зачапіла Пятрову чарку — і чарка, тонка дзынкнуўшы, перакулілася. Гарэлка пліхнула на цукеркі ў каробцы.

Раптам дзверы шырока расчыніліся — і ў пакой уляцела Ірына. Стаўшы перад Валерам, яна істэрычна затрэсла сціснутымі кулакамі.

— Ну і што! Ну і што, калі ў мяне дзіця!.. Што, мяне нельга з-за яго любіць? Так? Так, па-вашаму!..— слёзы цяклі з яе вачэй, павісалі светлымі кропелькамі на падбародку і капалі ёй на грудзі.— Ці я не магу любіць? Ды я...— яна зняможана апусцілася на канапу, уткнуўшыся тварам у рукі, пакладзеныя на спінку. Плечы яе ўздрыгвалі.

Валера, разгублены, чырвоны ў твары, лыпаў вачыма. Пятро з цяжкасцю стрымліваў абурэнне. Дзеля

Ірыны, каб аблегчыць яе пакуты,— ён гатоў на ўсё, нават ахвяраваць сабою. Так, каханне — не толькі ласкі ды млявыя ўздыхі. Пятро ўстаў з-за стала, абапёрся кулакамі на край і, рашуча гледзячы ў мітуслівыя вочы Валеры, цвёрда сказаў:

— Я не хачу цябе зараз бачыць! Ты зняважыў мяне!.. І дзе-дзе, а тут я разбяруся сам, без тваіх мудрых падказак. І наогул...

— Я — што?.. Я...— затузаў плячыма Валера.— Даруйце, раз такое дзела. А затрымлівацца я тут не збіраюся... Дазволь яшчэ грамульку — і гуд бай.— Ён кульнуў чарку ў рот і выйшаў, грукнуўшы дзвярыма. Стала ціха, і было чуваць, як па-кацінаму вурчаў на кухні халадзільнік. Ірына перастала ўсхліпваць. Пятро думаў, што рабіць. Чаму маўчала, чаму не прызналася сама?.. А калі і каму было прызнавацца? Яму, амаль незнаёмаму чалавеку... А ён шмат ёй нарасказваў пра сябе? Ды і ніхто гэта адразу не робіць, нават самы шчыры чалавек заўсёды праяўляе стрыманасць. Стоп! Яна ж ці не намякала яму: «...Адступаць не будзеш?» Не!.. Не будзе! Толькі нікчэмнасці маладушнічаюць!.. Позірк у Пятра быў палкі і рашучы. Ён падышоў да Ірыны, сеў побач, асцярожна пагладзіў па валасах.

— Ірына, супакойся...

Яна павярнула да яго твар, мокры ад слёз, з размытай тушшу пад вачыма.

— Пеця, ну чаму яны такія жорсткія? Лільку закранула, што ты аддаў перавагу мне... з дзіцем. Яна і Валеру нагаварыла на мяне... абы-чаго напляла. Ад зайздрасці. Сама хоча замуж, а Валера цягне невядома чаго.

Яна адвяла вочы ўбок. І далей ужо гаварыла спакойна, толькі ўздыхала.

— Можа, таму я і не спяшалася адкрывацца перад табой... У мяне была ў жыцці памылка... Згубіла тую цнатлівасць, пра якую ты гаварыў. А потым... сам разумееш, я не магла яго кінуць, як, мусіць, і кожная б на маім месцы. І дасюль дакараю сябе за гэта... Калі б я сустрэла яго цяпер, плюнула б яму ў вочы!.. І вось цяпер — ты прыйшоў да мяне... і я адчула, што магу, нягледзячы ні на што, кахаць... Кахаць гэтак жа, як усе, і быць вернай... да канца!

Пятро моўчкі і ўважліва слухаў, стрымліваючы сябе, тады, калі пачыпаў уяўляць чутае ў дэталях,— мутнеў позірк, закіпала ў грудзях. Ён адчуваў, як нейкая неўтаймоўная сіла навальваецца на яго, душыць, распірае галаву — здаецца, звар'яцееш,— і так хацелася ўскочыць, закрычаць, затупаць нагамі, каб скінуць з сябе гэты ненавісны тлум. Расчульваў роўны, вінаваты голас Ірыны...

«Я мужчына, я моцны, я павінен пашкадаваць яе, слабую, бездапаможную, пакрыўджаную...»

— Ірына, калі ласка, не расказвай мне... Я нічога зараз не хачу ведаць! — Ён дакрануўся вуснамі да яе мокрай ад слёз шчакі, блізка ад плямы-ямінкі,— ці не ўпершыню адчуў саланаваты смак чужых слёз.— Ты за гэты час, як мы пазнаёміліся, стала мне блізкім чалавекам, і я прашу цябе выйсці за мяне замуж.

— Пеця...— выдыхнула яна і даверліва ўткнулася яму ў плячо.

## 11

Сонца, пранікшы скрозь цюлевую гардзіну, кранулася мяккімі промнямі заплюшчанага вока Пятра — і ён прачнуўся. Усміхнуўся сонечнаму святлу, што гарэзліва-ярка асляпіла яго, адкінуў коўдру, сеў, спусціўшы на дыванок ногі. Успомніўся сон: дзяўчынка з чорнымі брывамі і вейкамі просіцца да яго на рукі, а ён, збянтэжаны, азіраецца па баках, шукаючы яе маці ці бацьку; людзі, праходзячы міма, смяюцца і здзіўлена паціскаюць плячыма. Да чаго б гэты сон? Можа, таму прысніўся, што, кладучыся спаць, шмат думаў пра Ірыніну дачку? Ну канечне ж! Ды яшчэ тое дзіця ў калясцы, што падносіў... А можа, і ўчарашняя размова з Ірынай — гэта сон? І разрыў з Валерам — таксама? Не, гэта ўсё было наяве...

Пятро пайшоў у ванную, пачысціў зубы, памыўся. «Ну што, стары? — звярнуўся да сябе Валеравымі словамі, і ў голасе была іронія.— Жаніцца сабраўся, а работы не маеш. Трэба ўладкоўвацца... А куды?» Успомніў словы сівога інстытуцкага прафесара, яго ясныя добразычлівыя вочы: «У вас, Чаранок, ёсць здольнасці да навуковай дзейнасці. Дазвольце мне так меркаваць па адной вашай курсавой рабоце». Было б, вядома, шчасце трапіць у інстытут мікрабіяло-

гіі... Толькі ці возьмуць? Губляць — нечага. Возьмуць ці не возьмуць, а паспрабаваць трэба. І ён паехаў у інстытут, які, ведаў, знаходзіцца за горадам. Аўтобус, хоць і мчаўся хутка — ад прыпынку да прыпынку,— ніяк не мог адарвацца ад сонца, і яно свяціла і свяціла ў вокны — на калені і плечы Пятра, на нікеляваныя білы сядзенняў. Таполі паўз дарогу вяла варушылі глянцава-бліскучым лісцем.

Пятро адразу пайшоў у прыёмную дырэктара. Сакратарка, ляпаючы на пішучай машынцы, адказала, што дырэктара няма, і паслала яго да начальніка аддзела кадраў. Гэта — на два паверхі ніжэй. Начальнік аддзела кадраў, сімпатычны пажылы мужчына з сівымі, акуратна падстрыжанымі бакенбардамі, уважліва выслухаў Пятра, адно некалькі разоў прыкра — так падалося Пятру — ухмыльнуўся: як, бывае, вопытны чалавек пасміхваецца з наіўнасці маладога.

— Усё ў вас? — спытаў ветліва і глянуў вясёлымі, з чорнымі тугімі кропачкамі зрэнак вачыма.

— Вось папера аб вольным размеркаванні.— Пятро падаў яму паперыну, разгарнуўшы яе перад гэтым.

— Тое, што трэба-с,— сказаў начальнік, вяртаючы паперу,— але ж гэтая папера не абавязвае нас залічыць вас у штат-с. Мы бяром на працу-с толькі з накіраваннямі і гарадской прапіскай. У вас, малады чалавек-с, няма ні таго, ні другога. Прапішацеся — прыходзьце, будзем нешта-с думаць.

— А без прапіскі ніяк нельга?..— спытаў Пятро зусім паніклым голасам, недзе глыбока ў душы спадзеючыся выклікаць гэтым спагаду да сябе.

— На жаль, не-с,— адказаў начальнік, гледзячы на Пятра ўсё тымі ж усмешлівымі вачыма.— Магу падказаць выйсце: шукайце дзяўчыну з прапіскай і жаніцеся.— І дабрадушна захіхікаў. Пятро пачырванеў.

Усё!.. Што цяпер рабіць? Ён, ушчэнт засмучаны і неяк імгненна спустошаны, спускаўся па прыступках — наверх падымаўся на ліфце,— прытрымліваючыся рукою за гладкую, як лёд, парэнчу. У «Белгіпрабіясінтэзе» таксама, мусіць, без прапіскі не возьмуць... І як ён сам пра гэта не падумаў? А што, калі б і падумаў? Усё роўна паспрабаваць трэба

было — для супакаення. Не, ён павінен мець работу. Неўзабаве! Інакш будзе цяжка. Цяжка, можа, як нікому... Пятро выйшаў на вуліцу. Збіралася на дождж. Недарэмна так смаліла. Пагусцела неба, і з гэтай каламуці на гарызонце выступалі бела-ружовыя вяршкі воблакаў. Ля драўлянай прыватнай хаты мужчына ў блакітнай майцы і сініх штанах-трыко здымаў са шнура бялізну. «Даўно не было дажджу, хай бы дождж...— І раптам узрадаваўся: — Палье мой каштан! Ён зусім, мусіць, там завяў...»

Пятро не спяшаўся — брыдзенькае адчуванне, калі няма куды спяшацца. Набліжэнне дажджу Пятра не палохала, і ён пайшоў дарогаю, настрэч аўтобусу. Хацелася пабыць на адзіноце: адзінота бывае для чалавека такой жа неабходнай, як і кампанія. Ён так задумаўся, што мінуў прыпынак, і адно тады, калі яго абагнаў аўтобус, схамянуўся. Белы квадрацік на слупе быў ззаду, метраў за сто. «Пайду да наступнага...» Думкі, няпрошаныя, хоць і выкліканыя шчырым жаданнем дакапацца да нейкага выйсця, лезлі ў галаву. Каб падвесяліць сябе, ён успамінаў Ірыну: на душы святлела. Ну не можа ж быць, каб гэта быў тупік!.. Ды нават і з тупіка павінна быць выйсце. Навошта дарма адчайвацца? Колькі ў жыцці такога: не шанцуе, не шанцуе, а потым, глядзіш,— удача! А ўдача — яна як тая матрошка — адна, другая, трэцяя... Кожны дзень — нешта новае.

Наступны прыпынак Пятро таксама прамінуў. Яго вярнуў да явы дождж, што сыпнуў рэдка ды важка, як сыры гарох. Дзіўна: Пятро ішоў, не трапляючы пад кроплі,— яны міналі яго. На прыпынку ён доўга не стаяў — падкаціў аўтобус. Едучы, Пятро слухаў, як пругка і гулка барабаняць у бляшаны верх кроплі дажджу; крывуляста сцякаюць наўскасы па вокнах.

Пятро выйшаў з аўтобуса. Дождж ушчук, ды было змрочна. З усходу насоўвалася густая, сіняя хмара, а перад ёй крута выгнула спіну вясёлка, падобная на гіганцкую расквечаную падкову. Асфальт дыхаў парным цяплом, і яно адчувалася тварам. З трэшчын у асфальце мурашы выносілі жоўты пясок — прачышчалі норы. Ён прысеў на лаўку на якой нехта, мусіць, сагнаны дажджом, пакінуў разасланую газету. Акурат перад ім велічна і спакойна

ўзвышаўся помнік народнаму песняру. Скульптар пасадзіў Якуба Коласа побач з героямі ягоных кніг... Якуб Колас, аблакаціўшыся, аб нечым думае — засяроджаны твар, філасофскі нахіл мудрай галавы... «Ствараць прыгожае і карыснае для людзей і ведаць, што яно робіць іх шчаслівымі, мусіць, большай радасці няма на свеце?» — усхвалявана падумаў Пятро.

Міма лаўкі прайшлі два міліцыянеры з прадаўгаватымі брусочкамі рацый пры боку. Яны вялі пад рукі нестарога мужчыну, які няцвёрда, уроскід, перастаўляў ногі, абутыя ў нячышчаныя чаравікі з даўгімі канцамі шнуркоў.

Чаму побач існуюць дабро і зло, прыгожае і брыдкае? Няўжо для таго, каб чалавек бачыў, адчуваў розніцу між гэтымі паняццямі і выбіраў для сябе, выхоўваў у сабе тое, што прыносіць радасць і асалоду? Дабро без зла і прыгожае без брыдкага, мусіць, згубяць сваю каштоўнасць, ператварыўшы чалавечыя душы ў нешта аднастайна-расплывістае...

Грукатнуў гром. Хмара расцягнулася, пашырэла, спусціўшы ўніз сівыя касмылі. Прапала вясёлка. Серабрыста-белы, так падобны на бліскучую аўтаручку, плыў насустрач хмары паветраны лайнер. «Зараз пачнецца сапраўдны дождж. Перачакаю ў кафэ».— Пятро ўспомніў, што сёння яшчэ нічога не еў. Час падбіраўся пад абед, і кафэ было амаль запоўнена. Пятро ішоў між столікаў, выглядаючы вольнае месца.

— Петэр! — раптам пачуў ён. Глянуў — і збянтэжыўся: яго клікаў з глыбіні залы Джайлс. Пятро падышоў, павітаўся з Джайлсам за руку; белавалосай, крыкліва нафарбаванай дзяўчыне, што сядзела побач з ім, кіўнуў галавой. Прыгладзіў вусы, якія ўжо прыкметна адраслі.

— Сядай з намі,— запрасіў Джайлс, не выпускаючы Пятровай рукі,— тут свабодна. Ціна,— пазнаёміў з дзяўчынай.

— А больш папулярна — Валянціна,— адрэкамендавалася Ціна.

— Вельмі прыемна! У вас, бачу, ужо ўзялі заказ,— сказаў Пятро, шукаючы вачыма афіцыянтку.

— Узялі ў нас заказ,— пацвердзіў Джайлс, расцягваючы словы.— Зараз падыдзе афіцыянтка. А па-

куль...— Джайлс узяў са стала бутэльку з ліманадам.

— Не-не! — замахаў рукамі Пятро.— Вялікае дзякуй, Джайлс.

— Сціплыя ў цябе сябры, Джайлс... Як і сам,— усміхнуўшыся, сказала Ціна, і Пятро, глянуўшы адкрыта на яе, убачыў пільныя, замглёныя смугою пыхлівасці вочы і пад імі — запудраныя маршчыны ды парушынкі стрэсенай з веек тушы.

— Як жывеш, Петэр? — сур'ёзна, са шчырай зацікаўленасцю спытаў Джайлс.

— Во на працу ўладкоўваюся,— адказаў Пятро.— У мяне вольнае размеркаванне.

Джайлс дабрадушна ўсміхнуўся, бліснуўшы белымі зубамі.

— Дробязь! У вашай краіне гэта не праблема. Так што маркоціцца не бачу прычыны.

— Якая спецыяльнасць? — як бы між іншым, кінула Ціна, падпіхваючы пальцамі ўверх валасы ля вушэй.

— Мікрабіялогія.

— О! Дык жа самая што ні на ёсць перспектыўная навука.

Пятру раптам стала сорамна — сапраўды, кінуўся ў паніку. Ён пацёр брыво — каб супакоіцца. Ну, канечне ж, без работы ён не застанецца. А раней ці пазней уладкуецца — гэта, мусіць, не так важна. Галоўнае — імкненне і толькі імкненне, якое надае жыццю сэнс, можа, большы, чымся дасягнутая мэта, і якое, прыносячы чалавеку задаволенне, служыць надзейным арыенцірам у часовым і другарадным.

— Дай мне свой адрас, Петэр.

Пятро назваў адрас і тэлефон Эдзікавай кватэры. Падышла афіцыянтка ў сіняй сукенцы, аблямаванай па швах белымі палоскамі; чарнявая, стрымана-ветлівая, яна напомніла Пятру коласаўскую Ядвісю, і ён падумаў, наколькі жывучыя вобразы, створаныя сапраўдным мастаком.

«Што праўда, то праўда. І чаму я ўжо так расслабіўся? — выйшаўшы з кафэ і развітаўшыся з Джайлсам і Валянцінай, падумаў Пятро.— Трэба ўсё-ткі, не адкладваючы надта, з'ездзіць у «Белгіпрабіясінтэз».

Там таксама шырокае поле дзейнасці, як кажуць...» — І, нечакана падзадораны самім сабой, наддаў кроку.

...Светла-арэхавыя паліраваныя дзверы з таблічкай «Галоўны інжынер» Пятро адчыніў нерашуча, хвалюючыся. Ля фікуса, што цягнуўся цвёрдымі шырокімі лістамі да акна, стаяў чалавек у вялікіх рагавых акулярах.

— Праходзьце, калі ласка,— запрасіў ён Пятра, паказваючы на крэсла.

Пятро прайшоў па дывановай дарожцы мурожназялёнага колеру і сеў на крэсла. На стале стаяў пісьмовы прыбор, і з яго ва ўсе бакі тырчалі акуратна завостраныя алоўкі.

— Я скончыў інстытут...— пачаў Пятро.

— І трэба ўладкавацца на працу,— апярэдзіў яго галоўны інжынер, аднак зрабіў гэта далікатна, з той непасрэднасцю ў голасе, у якой угадваецца прыроджаная тактоўнасць у абыходжанні з людзьмі.

Пятро чамусьці засаромеўся і, адводзячы позірк на акно, убачыў, як востра, нібы слюдзяное, блішчыць лісце фікуса.

— Ага...

— А што ў вас?..— недагаварыў, чакаў адказу галоўны інжынер.

— Вольнае размеркаванне. Маці ў мяне адна, хворая...

Галоўны інжынер задумаўся. Дастаў з кішэні невялічкі блакнот, нешта чыркануў у ім алоўкам. Глянуў на Пятра ўважлівымі вачыма.

— Яс-с-сна,— расцягнуў ён слова, мусіць, каб яшчэ больш падумаць і не рабіць вялікую паўзу.— Тут у нас ляжыць заява аднаго чалавека, але ён абяцае яе забраць. Вы, калі ласка, пакіньце таксама заяву і праз некалькі дзён пазваніце мне. Пастараемся памагчы.— На развітанне галоўны інжынер моцна пацiснуў Пятрову руку і, не выпускаючы нейкі момант яе, прыязна вывучаў Пятра ўважлівымі вачыма з-за чыстых шкельцаў акуляраў.

## 12

Фамілія Рашчовых была радавітая. Дзед Сідара Пятровіча выкладаў у Пецярбургскім універсітэце, а бацька, Пётр Мацвеевіч, быў таленавітым інжынерам-чыгуначнікам. Жаночая палова роду асаблівых здольнасцей ні ў чым не праявіла, ды ўсё роўна мела адукацыю, што, на той час, таксама было немалаважна. Мусіць, і векаваць бы Сідару Пятровічу ў Ленінградзе, калі б ён, перспектыўны малады аспірант, не сустрэў у Маскве, на Усесаюзнай нарадзе маладых вучоных, Ядвігу Мазалеўскую з Беларусі, таксама аспірантку. Па паходжанні полька, прыгожая і талковая, яна за дзесяць камандзіровачных дзён сумела выклікаць у ціхмянага і сціплага Рашчова сімпатыю да сябе. Праз паўгода, пасля частай і чуллівай перапіскі, яны пажаніліся, і Сідар Рашчоў пераехаў жыць у Мінск. Былі ў яго на гэта свае прычыны, і адна з іх тая, што ў вайну на тэрыторыі Беларусі, пад Магілёвам, загінуў малодшы з сыноў Пятра Мацвеевіча Рашчова — Дзмітрый.

Ядвіга Мазалеўская вырасла ў менш знакамітай сям'і, чым Рашчоў, ды гонару вынесла непараўнаўча больш. Бацька яе, інтэлігентны і далікатны ў манерах чалавек, закончыўшы Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю (быў аднакурснікам тады яшчэ малавядомага Канстанціна Міцкевіча, чым у далейшым казырала Ядвіга), працаваў у школах Заходняй Беларусі; пасля 1939 года стаў дырэктарам сярэдняй школы, з гэтай пасады і пайшоў на пенсію. Маці з планава-эканамічнай сярэдняй адукацыяй усё жыццё пракружыла ў гандлі. Поўная, высокая прыгажуня, яна не вытрымала выпрабавання прыхільнасцю мужчын і к сарака пяці гадам набыла сабе слыннасць ледзь не першай на раён распусніцы. Гэты факт Ядвіга Браніславаўна, вядома, утойвала і старалася не ўспамінаць нават тады — каб не шукаць сувязь паміж бабуляй і ўнучкай,— калі Ірына, не маючы мужа, хадзіла цяжарная.

Цяпер салідныя, вучоныя людзі, Сідар Пятровіч і Ядвіга Браніславаўна жылі ў пяціпакаёвай эксперыментальнай планіроўкі кватэры, шыкоўна абстаўленай і абвешанай. Уласнай машыны ў іх не было па той простай прычыне, што Сідар Пятровіч не любіў

тэхніку, і гэта — калі мець на ўвазе бацьку — тагосяго здзіўляла.

Раніцой у суботу яны сядзелі ў рабочым кабінеце Сідара Пятровіча. На стале стаялі шклянкі з зеленаватым чаем, у якіх плавалі тонкія кружкі лімона. Усё гэта — і яшчэ радыёла на высокіх ножках — глыбока адлюстроўвалася ў зашклёнай кніжнай секцыі, адна паліца якой — дзе стаялі тамы з Поўнага збору твораў У. І. Леніна — была расчынена: Сідар Пятровіч толькі што скончыў працаваць.

— Я спадзяюся на вашу добрапрыстойнасць і высакароднасць,— сказала ўсхваляваная Ірына, прыйшоўшы да іх у кабінет.

Сідар Пятровіч і Ядвіга Браніславаўна навастрыліся слухаць: Сідар Пятровіч — схіліўшы галаву і баючыся неасцярожным рухам ці позіркам засароміць дачку; Ядвіга Браніславаўна — прымаючы незалежны і спакойны выраз твару.

— Да мяне сёння прыбудзе малады чалавек, які прапанаваў мне руку і сэрца...— Ірына пільна сачыла за бацькамі.

Сідар Пятровіч сутаргава падняў галаву; вочы ў Ядвігі Браніславаўны знерухомелі, а твар кранула лёгкая бледнасць. Яны пераглянуліся, спавольна адводзячы позіркі і хапатліва думаючы, як, якімі словамі зрэагаваць на паведамленне дачкі.

— Не параіўшыся з намі?..— нарэшце вымавіла Ядвіга Браніславаўна.

— У такіх справах, відаць, лепш без парад...— упэўненым голасам сказала Ірына.— А па-другое, я вам ужо казала, што я — дарослы чалавек.

— Ды хоць бы намякнула, хто ён ды што,— Ядвіга Браніславаўна паварушылася ў крэсле з высокай скуранай спінкай.

— Ён сам гэта зробіць не горш.

Сідар Пятровіч няўцямна паціснуў плячыма; далікатна трымаючы шклянку на далоні, адпіваў чай.

— Але ж, мне здаецца, мы павінны ведаць...

— Вось я і запрасіла яго, каб пазнаёміць з вамі. І, папярэджваю, рашэнне маё — канчатковае.

Сідар Пятровіч уздыхнуў; Ядвіга Браніславаўна зацята церабіла крысо халата. Ірына пайшла да сябе ў пакой. Яе рашэнне, наўздзіў і трохі нечакана для самой, бацькоў не вельмі шакіравала. Радасна дума-

лася — пра сябе і пра Пятра, і яна, шчаслівая, нецярпліва чакала вечара, уяўляючы, як здрыганецца ад дзвярнога званка. Стаяла перад акварыумам і вадзіла па шкле алоўкам, за якім ганялася залатая рыбка. Джульетка спала, а Ірыне хацелася з ёй паблазнаваць — ведала: так хутчэй бяжыць час. Падышла да ложка, глянула на дачку — зусім белыя павекі з даўгімі, як наклеенымі, вейкамі. «Выхваляцца будзе, як падрасце...» — усміхнулася.

Пятро прыйшоў — як здалося Ірыне, калі на кароткі званок адчыніла дзверы,— не ў лепшым настроі: у вачах разгубленасць, а позірк — запытлівы, з маркотаю. «Што-небудзь здарылася?..» — Ірына адчула пад каленьмі млявы халадок.

— Праходзь,— запрасіла. Ён зняў туфлі.— Што з табой, Пятро? — спытала яна ў пакоі, з насцярогаю гледзячы на Пятра.

— Нічога,— усміхнуўся ён, адчуваючы сябе няёмка пад Ірыніным позіркам.— Проста... Думаеш, лёгка ўсё гэта...

Пятровы словы, няўпэўнена вымаўленыя, не прынеслі ёй супакаення, толькі наддалі сумнення.

— Што «ўсё гэта»?..

І Пятро знайшоў, як сказаць, каб не закрануць самалюбства Ірыны,— аджартаваўся:

— Мяняць халасцякоўства на сямейнае жыццё. Ёсць над чым паразважаць, хіба не так? — Ён наблізіўся да яе, прыціснуў вусны да гарачай, ды белай шчакі. Яна хацела пацалаваць у адказ, але ён не чакаў і адхіліў галаву якраз у той момант, калі яна падалася ўсім целам да яго. Яны збянтэжыліся.

— Сядай,— запрасіла Ірына, паказваючы на рудое крэсла на колцах, засланае ярка-сіняй накідкай з кутасікамі па краях. Пятро сеў, і толькі тады яго вочы пачалі выхопліваць у пакоі прадметы. На дыване, што засланяў усю правую сцяну, віселі дзве скрыжаваныя рапіры і фехтавальная маска.

— Тваё?

— Некалі займалася... у школе. Нават кмэса дабілася,— яна зняла адну рапіру, лоўка крутнула ёю перад сабой, зрабіўшы выпад. Павесіла на месца.

Павярнуўшы галаву ўлева, Пятро здзівіўся яшчэ больш. У куце стаяў акварыум — на нізкай паліраванай шафцы. Пятро падняўся, падышоў. Успомніў

Свіслач і рыбака ля дамбы — зразумеў, чаму так дзіўна гарэлі тады Ірыніны вочы.

— Таксама тваё захапленне?

— Маё, і дачцэ хачу перадаць. Чытала, што той, хто даглядае рыб, становіцца ўспрымальным да прыгажосці, прыроды, усяго жывога.

— Зусім магчыма. Дарэчы, я таксама вельмі люблю рыб.— Пятро з цікавасцю разглядаў акварыум, які напамінаў сабою марскую глыбіню ў мініяцюры. На задняй сценцы намаляваны скалы, рагатыя медузы, павукападобныя крабы. Дно пасыпана чыстым шэрым пяском, паверх якога мармурова блішчаць ракавінкі і выступае некалькі буйнаватых камянёў. Светлая, сіняватая — мусіць, ад шкла — вада, і ў ёй... Вузкія даўгія стужкападобныя лісты ярка-зялёнага колеру... Куст з мноствам бакавых парасткаў, пушыстымі рудымі карэньчыкамі і з дзіўнымі лістамі — зверху смарагдавымі, знізу чырвона-фіялетавымі... А самі рыбкі!..

— Вось крэсла, уладкоўвайся і разглядай,— Ірына паклала руку на ягонае плячо.

— Хачу не толькі нагледзецца, але і тое-сёе ўведаць. Рачных рыбак я ведаю, а вось дэкаратыўных... Пабудзь, гаспадыня падводнага царства,— Пятро гулліва падміргнуў,— маім экскурсаводам.

— З задавальненнем! — яна села на падлакотнік, абняўшы Пятра за шыю, і нейкі момант ён не мог засяродзіцца.

— ...А вось гэта наша старая знаёмая, гераіня з любімай казкі — залатая рыбка. Яе вывелі самі людзі яшчэ ў дзесятым-дванаццатым стагоддзях у Кітаі з серабрыстага карася...

— Карася я ведаю,— іранічна ўхмыльнуўся Пятро. Ірына нахілілася і цмокнула яго зверху ў галаву.

— Бачыш вунь тую рыбінку з даўгім стужкападобным хвастом? Гэта — так званая камета.— Ірына пакратала пальцамі, паказваючы, як варушыцца хвост.— Вельмі забаўны сваімі выпучанымі вачыма тэлескоп.

— А я ўжо сам падумаў, што тая рыбка ля камення напамінае тэлескоп.

— А кажаш, нічога не ведаеш. Скромнічаеш. Ну і апошняя асобіна з майго... падводнага царства,— Ірына ўсміхнулася.— Глядзі, вунь у кусце пёрыста-

лісніку хаваецца рыбка з ярка-блакітнай і чорнай палоскамі, якія быццам свецяцца. Назва яе — табе знаёмае слова — неон. Убачыўшы ворага, рыбкі расплываюцца ў розныя бакі, а кідкая афарбоўка памагае ім знайсці адно аднаго. Ну вось!..

Пятро, абапёршыся на падлакотнікі, прыпадняўся на руках і пацалаваў Ірыну ў шыю. Ну, канечне ж, ён не памыліўся ў Ірыне. Яна — цікавая дзяўчына, трохі непадобная да яго і нечым новая для яго... І яны ў жыцці будуць шчасліва дапаўняць адно аднаго. Ён — мікрабіёлаг — любіць літаратуру; яна — філолаг — захапляецца жывёльным светам.

На твар Пятра лёг адбітак сур'ёзнасці. І ў Ірыніных вачах бляск змяніўся задуменнасцю. Думкі цяпер аб адным: знаёмстве Пятра з Ірынінымі бацькамі.

— Ты адчувай сябе спакойна,— стараючыся быць вясёлай і абыякавай, сказала Ірына,— мае бацькі, упэўнена, ацэняць цябе, як кажуць, па заслугах.

Пятро павярнуўся і ўбачыў на кніжнай шафе прыстаўлены на падпорцы партрэт маладой пары. Вочы мужчыны, ясныя, добразычлівыя, падаліся Пятру знаёмымі, і ён затрымаў на іх позірк, ды Ірына — тым, што сказала: «Бацька з маці»,— забрала ўвагу Пятра.

Ірына пастукалася ў гасціную і штурхнула дзверы. Яны зайшлі. Насустрач ім падняліся з крэслаў, што стаялі паабапал нізкага століка, Сідар Пятровіч і Ядвіга Браніславаўна.

— Знаёмцеся,— Ірына злёгку пачырванела. Пятро назваў сябе, глянуў на Ірынінага бацьку — і ўжо не чуў, што гаварыў. Перад ім стаяў прафесар іх інстытута Сідар Пятровіч Рашчоў. Без сумнення — гэта ён: ветлы разумны позірк, акуратна-кругленькая і тугая, як мячык, бародка, сівая галава...

— Гэты малады чалавек, калі не памыляюся, мне знаёмы ці не раней, чым маёй дачцэ,— сказаў Сідар Пятровіч, глянуўшы на здзіўленую Ірыну і яшчэ больш здзіўленую Ядвігу Браніславаўну.

— Нечаканая сустрэча...— крыху разгубіўся Пятро.

— Свет цесны! — задаволенасць і як бы радасць адбіліся на напудраным твары Ядвігі Браніславаўны.— Прысядземце.

Тая напятасць, якая зазвычай бывае, калі сустракаюцца абсалютна незнаёмыя людзі, адразу знікла. Размова наладзілася. І нават Пятро адчуваў сябе не надта скавана. Пыталася Ядвіга Браніславаўна, Пятро — адказваў; Ірына замілавана і з захапленнем глядзела на яго, прыкмячаючы ў той жа час і рэакцыю маці на Пятровы словы, жэсты, рухі. Ядвіга Браніславаўна падрабязна — аднак мякка і далікатна — распытвала ў Пятра, адкуль ён, хто бацькі, дзе працуюць сваякі. Сідар Пятровіч памкнуўся быў нешта спытаць у Пятра, але Ядвіга Браніславаўна красамоўна зіркнула на мужа. Пятро паступова супакоіўся — і тады востра і назойліва засвідравала мозг думка: «А дзе ж Ірыніна дачка? Глянуць бы на яе...» Хваляванне зноў пачало нарастаць, і рукі ўжо не маглі спакойна ляжаць на каленях — пальцы ўздрыгвалі, варушыліся. Ён агледзеўся па баках, шукаючы не то самую дзяўчынку, не то дзверы ў пакой, у якім яна можа быць.

Ядвіга Браніславаўна быццам прачытала думкі Пятра — усміхнуўшыся, змяніла размову:

— Гэта — мы, трое,— яшчэ не ўсе члены нашай сям'і. Джульетка пайшла павіншаваць унучку суседзяў, сваю сяброўку, з днём нараджэння... Панесла падарунак.

— Я ведаю... Ужо чуў ад Ірыны пра Джульетку,— сказаў Пятро, адчуўшы, што тут жа, не марудзячы, павінен выявіць свае адносіны да Ірынінай дачкі.

— Ну, дык, значыць, пазнаёміліся! — Ядвіга Браніславаўна павесялелымі вачыма глянула на Ірыну і Пятра, какетліва стуліўшы рукі далонямі ўнутр.— Цяпер — самы раз папіць кавы. Ірына, патрэбна твая дапамога.

— Дазволь, Чаранок, пацікавіцца, куды ты ўладкаваўся на працу? — звярнуўся Сідар Пятровіч да Пятра, як толькі жанчыны выйшлі на кухню.— Помніцца, табе далі вольнае размеркаванне.

— У «Белгіпрабіясінтэз»,— узрадаваўся Пятро, што адразу знайшлася тэма для размовы.

— Добра! Для пачатку добра,— хітнуў сівой галавой Сідар Пятровіч і пацiскаў, вострачы ўніз, бародку.— А там — будзеш жыць, працаваць — дарогі шырокія!..— І задумаўся, прыцiснуўшы да грудзей

бародку, ад чаго яна падаўжэла. Пятро сядзеў, і яму было прыемна, што Сідар Пятровіч адобрыў яго работу. Пачуўся званок і ўслед — праз нейкі момант — звонкі дзіцячы голас. «Джульетка!..»

— Унучка вярнулася,— сказаў Сідар Пятровіч і выйшаў з гасцінай.

Ці думаў-гадаў ён, Чаранок, што іменна так звядзе яго лёс з Сідарам Пятровічам? Мусіць, у любой жыццёвай сітуацыі трэба рабіць папраўку на выпадковасць... Выпадковасць — гэта рэальнасць неверагоднага. Джульетка... Трэба ж неяк будзе прывучыць сябе лічыць яе за дачку. Цяжка гэта ці не? А мо наогул немагчыма? Не, відаць, магчыма... Калі яна родная Ірыне, то не можа не быць роднай і яму. Тым больш — дзіця, нявіннае, з усмешкай, светлай у самым сваім зародку...

У гасціную зайшлі Ірына і Джульетка з сінім вядзерцам у руцэ.

— Вось мая модніца,— сказала Ірына, падпіхваючы дачку ў спіну.

— Вялікая ўжо! — Пятро неадрыўна глядзеў на дзяўчынку, на сінія расплывістыя вочы за таўстымі шкельцамі, імкнучыся ўлавіць у іх тую непасрэднасць, што паяўляецца ў дзіцяці, калі яна з даверам ідзе да незнаёмага чалавека. Да таго ж... Што такое? Што за тлуманіна? Сіняе вядзерца... Паблісківаюць шкельцы акуляраў... Чакай, чакай! Каштан ля інтэрната!.. Ну, канечне ж, гэта былі яны, Ірына з Джульеткай. Гэта яны палівалі тады каштан, калі ён стаяў на прыпынку. Вось цуд!..

— Колькі табе, Джульетка, годзікаў? — спытала Ірына, нахінаючыся да твару дачкі і прытрымліваючы яе за плечы.

Джульетка адлічыла тры пальцы, пачынаючы ад мезенага, і паказала іх, растапыраныя, пухленькія, Пятру.

— Тры. Малайчына! — пахваліў Пятро і з дакорам падумаў пра сябе, што не купіў Джульетцы ніякага ласунку.

— Кава гатова! Прашу да стала,— яшчэ не паказаўшыся ў дзвярах гасцінай, запрасіла Ядвіга Броніславаўна; яна не хавала свайго прыўзнятага настрою — стаяла перад Пятром, фанабэрыста-ўпэўненая, уладная.

— Хадзем, Пятро,— Ірына палічыла, што трэба запрасіць Пятра асобна.

Селі за стол. Пачалі наліваць каву, сочачы, як пераходзіць з рук у рукі белы, з бэзавым адлівам кафейнік. Потым сыпалі чысты дробны цукар і памешвалі яго пазалочанымі лыжкамі. Не спяшаліся — усе як бы нечага чакалі. Ірына з Пятром пераглянуліся, і Пятру здалося, што ў вачах Ірыны разгубленасць. І ён зразумеў яе, адчуваючы ў той жа час, што і яна разумее яго і нават спачувае. Спачуванне, тым больш дзявочае, ён не прымаў, і гэта наддало яму ўпэўненасці. Ён устаў, прыціскаючы зубамі ніжнюю губу, якая, калі моцна хваляваўся, пачынала дрыжаць.

— Паважаныя Сідар Пятровіч і Ядвіга Браніславаўна!.. Я хачу прасіць у вас дазволу на жаніцьбу з вашай дачкой... Ірынай.

Ядвіга Браніславаўна тут жа паказала, што надта здзівілася, а Сідар Пятровіч перастаў памешваць у кубку цукар і выняў з нагруднай кішэні насавічок.

— У нас з табой, Пятро, была размова, можа, не надта працяглая, і мы, бацькі, лічым, што ваша імкненне да сямейнага саюза невыпадковае. Калі ласка, жаніцеся, мы не супраць... Ы-ы, ы-ы! — адкашляўся Сідар Пятровіч і прамакнуў насавічком круглы, з тугою скурай лоб.— Мы дазваляем...

З нейкім імпэтам і засяроджанасцю пачалі піць каву, быццам усе толькі што дужа правініліся. Джульетка ўраніла кубак — ён разбіўся, і гэта вывела ўсіх з анямення. Пакуль жанчыны падбіралі асколкі, выціралі падлогу, Сідар Пятровіч сказаў Пятру — Ірына, прыўзняўшы галаву, глянула на Пятра, і ён адчуў гэты яе позірк:

— Дык я кажу, Пётр, што дарогі шырокія. Галоўнае — накірунак выбраць...— Пятро нічога не адказаў, і Сідар Пятровіч працягваў: — Скажу табе шчыра, я дасюль не адмовіўся ад свайго заключэння, што з цябе можа выйсці неблагі вучоны. Стартавая пляцоўка, як кажуць, ёсць, а там — пойдзеш сваім ходам... Колькі талентаў, і не толькі вучоных, гіне ад таго, што не могуць выбраць накірунак. Гэта — мая думка, можа, і памылковая.

Пятра не ўзрадавалі пачутыя словы; наадварот, на яго імгненна пакаціўся мінор — знікла з душы тое, што трымала яе ў напружанні і неспакоі. І гэтае

раптоўнае аблягчэнне як бы адняло ў яго цікавасць да жыцця. Па далёкай асацыяцыі ён параўнаў сваю душу з дзіцячым шарам, які пракалолі іголкай... Пятро прамаўчаў. Пацёр брыво. А потым зноў усчалася гаворка, у якой удзельнічалі ўсе, акрамя Пятра, калі не лічыць яго рэдкія рэплікі, якія ён кідаў на зварот непасрэдна да яго. Ірына адчула, што застолле бянтэжыць Пятра, і прапанавала пайсці да яе ў пакой. Пятро, папрасіўшы прабачэння, пайшоў услед за ёю.

— Што ўсё-такі з табою? — як толькі зачыніліся дзверы, спытала Ірына.

— Ніяк не звыкнуся з думкай, што прафесар нашага інстытута, наш паважаны Сідар Пятровіч, мой будучы цесць...— Пятро падышоў да акварыума і разглядаў у ім рыбак праз шкло. Потым памкнуўся да Ірыны, ды яна заторкала пальцам на дзверы: што сюды ў любую хвіліну можа зайсці Джульетка.— Гэта адно. А другое,— сапраўды, як сказала твая маці, свет цесны. Здаецца, я ўспомніў, дзе цябе бачыў. І цябе і Джульетку.

— Няўжо?..— шчыра і як бы з нейкім страхам здзівілася Ірына.

— Вы праходзілі міма майго інтэрната, што побач з інстытутам, і палілі каштан... які я садзіў.

— А-а! — усклікнула Ірына.— Ага, прыпамінаю... Мы хадзілі да дзеда ў інстытут і, вяртаючыся, убачылі каштан, з аднаго боку засохлы. Вось мы...

— Гэта метрабудаўнікі карэнне ў ім пашкодзілі...

— Бедненькі...— шапнула Ірына, і невядома было, каго яна пашкадавала, каштан ці Пятра; наблізілася да Пятра так, каб крануцца вуснамі ягонага вуха.

— Шчыкотна!..— прытворна пакурчыўся ён і ўсміхнуўся: — Цяпер давай падумаем, калі панясём заяву ў загс.

— Абажаю сур'ёзных людзей... Сёння серада. Я думаю, што месяца хопіць, каб набрацца бадзёрасці духу парваць... з халасцякоўствам? — яна загадкава глянула.

— Нават менш,— ён усміхнуўся радасна. Спытаў — сур'ёзна, ды з адценнем блага схаванай абыякавасці: — І яшчэ з двух пытанняў пытанне: ты ку-

рыш па-сапраўднаму і як глядзіш на гэтае захапленне далей?

— Ты зачапіў балючае месца. Я сама зараз думаю над гэтым. Не схаваю — уцягнулася. Ведаеш, перажыванні, адны перажыванні... Дый, відаць, трапіла якраз у хвалю масавага захаплення жанчын курэннем.

— Кінуць не проста?

— Здавалася, што проста. Аказваецца... Ды я абяцаю табе... калі паабяцаю, я, на здзіўленне, валявая, што больш не дакрануся да цыгарэты.

У пакой зайшла Джульетка, і Пятро ўзрадаваўся ёй і магчымасці пабыць утраіх.

## 13

Пятро ляжаў на ложку. За акном была ноч. У адчыненую фортачку бачыўся лапік цёмна-сіняга неба: зоркі — як светлячкі ў траве. Астатнія шыбы — бледна-верасовыя: у іх адлюстраваліся сцены пакоя. Ён думаў. Людзі заўсёды павінны аб нечым думаць, інакш фізічнае быццё ў часе стане невыносным. Бягуць рэкі, бягуць дарогі... І чалавечае жыццё таксама не стаіць на месцы. Яно, як і плынь у рацэ, то спакойнае, ціхае, то бурлівае, то з крутымі заломамі... Вось ён, Пятро, якога-небудзь паўгода назад, пры ўсёй сваёй фантазіі, ніколі б не падумаў, што ўсё так павернецца... Што будзе Ірына і Джульетка. Будзе чаканне заўтрашняга дня. Будзе незвычайнае хваляванне, якое дадзена перажыць чалавеку толькі раз у жыцці... Пятро адчуў, як вальней стала дыхаць, паяснеў позірк — і ўсе думкі перакінуліся да Ірыны. Можа, Ірына — гэта той дальнабачны крок, пра які гаварыў Валера? Не! І не! Няўжо і шчырае пачуццё не можа служыць яму, Пятру, апраўданнем? Чаму ён такі жорсткі да сябе? А можа, якраз гэтая жорсткасць да сябе робіць чалавека мяккім і справядлівым да іншых? Растрывожаны, Пятро лёг спаць, не зачыніўшы фортачкі. Ды заснуць адразу не мог. Уверсе нехта крычаў, тупацеў — здавалася, праломіцца столь: мужчынскі голас глухі, як стук напаленага жалеза, жаночы — прарэзліва-пісклівы. Пятро зморшчыўся: кожны дзень адно і тое ж — сварка.

Прачнуўся раніцой з думкай, з якой і засынаў,—

пра Ірыну. На дварэ было хмурна. Праз адчыненую фортачку ўрывалася ў пакой жывое, халаднаватае паветра, прыносячы з сабою водар братак і даспелых вішань — перад домам уперамешку з маладымі чэзлымі ліпамі кусціліся і вішні. Бадзёрасць разлілася па ўсім целе — не толькі ад сну, але і ад подыху гэтай ядранай, вільготнай раніцы. Пятро, спраўляючы ранішні клопат, бегаў з пакоя на кухню, з кухні — у ванную, з ваннай — зноў на кухню і напяваў вясёлую мелодыю песні з кінафільма «Дзеці капітана Гранта».

Эдзік яшчэ спаў — мусіць, учора сядзеў, як і заўсёды, да позняй ночы, аж пакуль белы халодны месяц, выплыўшы на аконны праём — акурат адбітак круглага плафона,— не напамінаў яму, што блізка раніца.

Пятро ўзяўся прасаваць штаны, хоць яны, новыя, віселі на плечыках. Наладзіў спецыяльны столік на металічных скрыжаваных ножках, уключыў у разетку прас, паставіўшы тэмпературнае колца на «шэрсць», прынёс у кубку вады... Зазваніў тэлефон, і Пятро, вырваўшы з разеткі вілку праса, кінуўся ў калідор. Званіў Валера.

— Ты даруй мне, Пятро, за тое выступленне. Ведаеш, па п'яні...

Пятро, слухаючы, думаў. Ну як тут не даруеш... Чалавек жа не зла яму хацеў. А гаварыў з самых шчырых сяброўскіх намераў... Проста не ацаніў як след іх з Ірынай адносіны. З кім не бывае... Тым больш — з Валерам. Ён, здаецца, шмат у чым памыляецца... І наогул, нешта не тое ў яго ў жыцці.

— Ну, малайчына, Валера, што пазваніў... Я без цябе і твайго аптымізму ўжо хандрыць пачаў. Хоць і розныя мы з табой, ды не магу во без цябе. Чаму — сам не разумею... Дыялектыка, ці што?

— Без понту? — як бы абрадаваўся Валера.

— А які тут можа быць понт?

— Усё правільна. Запомні: сапраўднага сябра цяжэй знайсці, чым добрую жонку.

— Ну не скажы! — усміхнуўся Пятро.— Я знайшоў і тое і другое.

— Як? — не зразумеў Валера.

— Сябра — Джайлса і жонку — табе вядомую Ірыну.

— Дык хваліся, што вы там надумалі? — перайшоў Валера на сур'ёзны тон. Джайлс яго чамусьці не зацікавіў.— А то я тады...

— Усё натуральна: роўнага, без перападаў, у жыцці, відаць, нічога не бывае. Ну дык вось — сёння нясём у загс заяву на законны шлюб.

— Віншую, старына! Спадзяюся, што за галоўнага сведку запрасіць не забудзеш?

— Страхуешся? — мякка з'яхіднічаў Пятро.— Ды дзе ўжо там забуду!..

— Ну што ж, буду чакаць. Чао!

Пятро дапрасаваў штаны і паклаў іх на масланы ложак, каб вастрэй абазначыліся канты. Белую кашулю і чорныя туфлі даводзіў да ахайнасці ўжо спяшаючыся: перш, чымся сустрэцца на прыступках Палаца шлюбу з Ірынай, ён павінен купіць ёй кветкі; учора не купіў знарок — каб не завялі.

Сабраўся — ён умеў гэта рабіць хутка — і паехаў на Камароўку. Цьмяна-слюдзяным выпуклым верхам ільсніўся агромністы крыты рынак. Сонца стаяла ў мутнай вільготнай павалоцы, як стомленая старая рыбіна ў сцёпленай ціхай завоіне. Гандляркі-кветачніцы ледзь не тузалі за локаць, хвалілі свае кветкі, роблена і вымучана любуючыся імі. Пятро доўга не хадзіў між радоў — не любіў таргавацца,— купіў букет бледна-чырвоных гладыёлусаў у маленькай аднавокай бабулькі, што спакойна сядзела на перавернутым вядры. «Бяры, дзетка... Апошнія... Дзякуй табе!..» — нейкі час стаялі ў вушах Пятра яе ласкавыя, ціхія, як сон, словы.

Ён ішоў па тратуары, збоку якога густа раслі блакітныя, як намарожаныя, елкі і падстрыжаныя кусты язміну,— мяркуючы выйсці на трамвайны прыпынак. Уперадзе спакваля дыбаў мужчына, і Пятро, гледзячы яму ў спіну, зблізкаўся з ім. І раптам — мужчына хіснуўся, ногі падламаліся і ён рухнуў на тратуар. Пятро пачуў, як стукнулася аб асфальт галава. Што з ім?.. Падбег да мужчыны. Твар у чалавека быў белы, як папера, а сцятыя вусны — сінія, і праз іх перарывіста выдыхалася паветра; пальцы рук дробна трасліся. Пятро намацаў пульс — слабы, але адчуваецца. Агледзеўся вакол. Што рабіць? Званіць у «хуткую дапамогу»? Нідзе не было відаць тэлефоннай будкі, людзей — таксама. З боку рынку каціліся чыр-

воныя «Жыгулі». Ён выскачыў з-за кустоў, махаючы рукой з кветкамі і ўсім выглядам паказваючы што нешта здарылася. «Жыгулі» не спыніліся. Ён зноў кінуўся да чалавека. Чалавек па-ранейшаму ляжаў белы, як папера. «Каб вада...» Але ў яго былі толькі кветкі, можа, як нішто іншае, недарэчныя цяпер. І ён паклаў букет на брудны асфальт, апомніўся — пераклаў пад куст язміну. Памацаў далонню лоб чалавека — халодны, што камень з зямлі. Пятру здалося, што прайшло немаведама колькі часу, а на самай справе не больш дзвюх мінут. І раптам Пятро убачыў, зусім блізка ад сябе, руды, з белымі палосамі паўз вокны будынак і ля яго легкавыя машыны. Пабег туды, не паспеўшы пачытаць над дзвярыма, што гэта за будынак. Ля ўвахода за сталом сядзела старая жанчына ў акулярах, якія яна прыпадняла двума пальцамі, калі ўбачыла Пятра. На стале стаяў тэлефон.

— Пазваніце, калі ласка, у «хуткую!..» Там чалавеку блага...

Жанчына, не марудзячы, схапіла трубку, набрала дзве лічбы:

— Алё! «Хуткая»?

— І вады. Трэба вады!..— Пятро быў такі ўзбуджаны, што сваёй мітуснёй падганяў жанчыну больш, чымся словамі. Жанчына адчыніла тумбачку і выняла адтуль слоік з цёмна-вішнёвым пітвом.

— Вось кампот...

...Павольна, чаму так павольна ідзе трамвай? Спыняецца перад кожным светафорам, быццам не можа наддаць хуткасці, каб праскочыць перад аранжавым святлом. Хоць ты падыдзі да вадзіцеля і папрасі хутчэй ехаць. Але ж толькі смеху наробіш... А тады, помніцца, як ехаў з інтэрната да Валеры, павольны ход тралейбуса яго не раздражняў. Цяпер Пятро спазняўся на сустрэчу з Ірынай. «Жыццё — такая штука, што ніяк не ўгадаеш наперад, дзе і што яно табе падсуне...» — думаў ён. Пачаў прабірацца да выхада. Людзей — шмат: цесна, ажно трашчаць гузікі.

— Куды вы штурхаецеся? — павярнула галаву таўстая жанчына з рэдкімі, ды прыкметнымі, вусікамі над верхняй, тлуста напамаджанай губой.

— Да выхада,— сказаў сур'ёзным тонам Пятро, не прымаючы яўны выклік на спрэчку.

— Тут усе вылазяць! Стойце спакойна!..— Мяккі валляк-падбароддзе ў жанчыны пагрозліва расплыўся, натапырыўшы чорныя валасінкі.

«Ну і людзі нервовыя пайшлі! Чуць што — і ў крык...» — падумаў Пятро. Ззаду яго гучна размаўлялі: па голасе знаць — дзве дзяўчыны. Пятро ледзь павярнуў галаву — блізка ад сябе ўбачыў маленькія сінія дзявочыя вочы, у якія, здавалася, ніколі не пранікаў нават праменьчык здзіўлення. Такімі вачыма, падумаў Пятро, мусіць, раўнадушна глядзелася б на свет. Тым часам дзяўчына з маленькімі сінімі раўнадушнымі вачыма гаварыла сваёй сяброўцы, якую Пятро не бачыў, а толькі чуў голас — хрыплавата-густы.

— Я з шостага на дыеце... англійскай — у сяброўкі перапісала... Во тут, у духаце, ажно галава кружыцца... Ох! А сяброўка, Светка, яшчэ і ў лазню ледзь не кожны дзень бегае. За пяць дзён, кажа, пяць кг як карова языком злізвае. Цяпер важыць сорак пяць... Фігу-у-урка! Брыжыт Бардо ў свае лепшыя гады.

— Глядзі ты! А я — сорам прызнацца...— сказаў хрыплавата-густы голас.

— Не глядзела ўчора па тэліку «Вакол смеху»? Цікава там сказалі: раней жанчыны ўтойвалі свой узрост, цяпер — вагу.

«Каму — што...» — усміхнуўся Пятро.

Ён убачыў Ірыну ў блакітным плацці — яна хадзіла па прыступках Палаца шлюбу. Спынілася, стоячы тварам да яго. Свежаком веяла ад Свіслачы, на беразе якой усё роўна як сцякала долу жаўтаватае і гнуткае, што трава ў вадзе, вецце ніцых вербаў. Пятро, усхваляваны, ішоў насустрач свайму шчасцю. Але ці быў хоць калі хто-небудзь упэўнены, што сённяшняе шчасце будзе шчасцем заўтрашнім? Мусіць, яго, шчасце, трэба шукаць і ствараць сабе штодзень. І толькі той, хто гэта зможа зрабіць, будзе шчаслівы.

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## 1

...Густы, дрымотна-ацяжэлы суцемак, набрынялы пахам малака і дарожнага пылу, асцярожна апускаўся на вострыя пікі частаколу, туга спавіваў аднабока ўсохлы клёнік, да якога былі прыбіты жэрдкі ад плота, і мяккай сінню пнуўся на шыбы.

Вольга адышла ад акна, з хвіліну пастаяла пасярод хаты ў нерашучасці: ці то раней класціся спаць, ці то схадзіць другі раз напомніць куме Іванісе, каб паглядзела дні два якіх гаспадарку. Дый карцела расказаць, як яна, Вольга Чаранчыха, падрыхтавалася да паездкі ў Мінск. Выбрала з паўсотні самых лепшых, рудаватых, яек, вялікі кавалак белага, абсыпанага кменам сала, збіла літровы слоік масла, зняла з жэрдкі два апошнія круцялі сушанай самаробнай каўбасы. І яблыкаў у садзе натрэсла. І нават адбіла Петрыку тэлеграму: «Сустракай».

Вольга выйшла на вузкі — не завярнуцца запрэжанаму каню — дворык, перарэзаны канаўкай раўчука, які яшчэ вясною пралізала вада. Прывычна патыхнула з гарода водарам разамлелага ад дзённай спякоты гуркоўніку, саладжава заказытаў у носе пах спелай садавіны. У расцяробах гыркаў, натужна крахтаў экскаватар — руйнаваў балота. За сядзібамі, дзе быў лужок, ці, як называлі яго ў Малінаўцы — лажкі, абвітыя, акурат папругай, абмялелай канавай, гучна і спуджана закігікала кнігаўка. «Зноў да яснага надвор'я...» — падумала Вольга, і пад вачыма ў яе прыбавілася маршчын, як быццам нехта прыціснуў да скуры сетачку з тонкіх нітак. Сёння во ўвесь дзень смаліла — паветра празрыстае, лёгкае, без той млявай парнасці, якая бывае перад дажджом і ад якой хіліць на сон.

Задумаўшыся, Вольга не прыкмеціла, як звярнула ў закавуліну і выйшла на лажкі. Тады схамянулася, што не туды меціла ісці,— ногі самі вялі яе ў Пенькамочча, дзе шырока расло жыта. Адсюль, з краю лажкоў, свіціцца толькі вузкая палоска і, здаецца, пахне мокрым ручніком. Яе згледзела і падблізілася кнігаўка — кружылася, жаласна кігікаючы, высока, потым, акурат забітая, падала ледзь не да

зямлі. І — зноў крута ўскідвалася ўверх, ажно чуваць было, як пасвіствалі крылы.

«Просіць піць, бедная...— паспачувала Вольга кнігаўцы.— Калі ўжо скончыцца ета задуха?..» Чымся бліжэй Вольга падыходзіла да поля, тым мацней пахла мокрым ручніком і тым больш цямнела ў вачах. Далей ужо Вольга ішла, адчуваючы на вейках слёзы. Насустрач дзьмуў цёплы вецер, матляў ля шчакі пасму валасоў.

На ўзмежку жыта было нізкае і рэдкае. Каласы ківаліся, і ад іх ішоў мяккі, ціхі шэпт: ш-шы-ш-шы, ш-шы-ш-шы... Вольга стаяла, і поле гаварыла з ёй аднэй, той жа самай моваю, што і летась, і два, і тры гады назад,— вечнай і святой моваю хлеба. Вольга ўглядалася ўдалячынь і затоена слухала поле... Яна правяла ля сябе рукамі, і пад далонямі адчуліся пругкія каласы, акурат галоўка дзіцяці,— рука ўздрыгнула. «Толічак...» — прашапталі яе сухія вусны. Сціснулася, як абручом, сэрца... І — раптам кнігаўка, адшукаўшы яе на ўзмежку, разарвала гэты абруч сваім адчайным, надрыўным крыкам. Вольга павярнула назад і тады зноў успомніла пра Іваніху.

...Сцежка была яшчэ відаць. Убітая, здаецца, без ніводнай пясчынкі, яна цьмяна льснілася ад бледнага святла маладзіка — як заасфальтаваная. Вяла ля саменькага плота — вуліца тут была вузкая, ледзь хапала праехаць машыне, а камбайны і іншая грувасткая тэхніка міналі вёску сценкай. Вольга, адчуваючы поруч апору — плот, ішла смялей, чымся звычайна хадзіла ў цемнаце.

Спынілася перад самымі весніцамі: вокны Іванішынай хаты не свяціліся. Адно ліхтар, што вісеў на слупе насупраць хаты, сеяў наўкол жаўтлявае, няяркае святло, і шыбы двух крайніх акон, не захінутых кустамі каліны, блішчалі неяк суха, спакойна. «А клопат, хай сабе,— супакоілася Вольга.— Не забудзецца. Толькі людзей патрывожу...» — І нетаропка пацюпала назад. Раптам ззаду, з-за спіны, стала светла, і цень ад Вольгі паслаўся чорнай прамой дарожкай. Вольга аглянулася — нячутна сунулася легкавушка, мякка пакалыхваючыся на выбоінах. «Песенка раз'язджае,— здагадалася.— Яшчэ ніяк ахвоты не саб'е... А што — купіў, дык трэба ж ездзіць».

Колькі той хады, а ногі задыбалі неяк непаслухмяна, як чужыя, быццам Вольга ішла па лёдзе і баялася, што ён праломіцца. «Знемагла я зусім,— устрывожылася яна, аж зрабілася суха ў роце.— Хаця б не памерці во, а то і ўнучкі не ўбачу...» У сенцах яна папіла вячэрняга малака, якое было ўжо халоднае, і ёй крыху палягчэла. Бяздумна пастаяла, удыхаючы мятны водар святаянніку, што вісеў жоўтымі сухімі пучкамі на жэрдачцы ў паддашку.

Не спалася ў гэтую ноч Вользе; яе наогул у апошнія гады мучыла бяссонніца. Вольга варочалася, ажно раз-пораз спаўзала на падлогу прасціна-саматканка, некалькі разоў уставала, сноўдалася, як непрыкаяная, па хаце. Але рып маснічын яшчэ больш наводзіў тугу, што апаноўвае чалавека, які доўга жыве адзін.

Думалася пра сына, Петрыка... Як быў ля яе, пакуль рос, гадаваўся, дык і быў. А паступіў у інстытут, лічы, у вадзе растаў. Адно па два разы за год і бачыла — тады, калі прыязджаў на канікулы,— у лютым і жніўні. Вольга надта і не крыўдавала: бяды той, калі клопатаў у Петрыка і без яе хапае,— вунь Хвядзька Таньчын кажа: цяпер усе занятыя. Але на сподзе душы, у самым балючым куточку, трывожна-чуйна прытаілася стрэмка мацярынскай рэўнасці да сына, стрэмка, якая, мусіць, так і застанецца неразгаданай. Бо ніхто іншы, апроч маці, яе не адчувае, а яна не перасіліць сябе, каб расказаць аб ёй астатнім.

...Задрамала Вольга гадзіны якіх на дзве. Ледзь толькі зашарэлі вокны і хрыпла, першы раз, кукарэкнуў у пуні певень — усхапілася: каб заспець на шашы мінскі аўтобус. Яна яшчэ звечара аблюбавала сабе адзенне, самае лепшае, што ў яе было. Акуратна складзенае, яно ляжала на табурэтцы пад шарачковым ручніком. Вязаная кофта, чорная спадніца і дарагая, нядаўна купленая ў цыганкі квяцістая хустка... Пачала таропка адзявацца. На ногі ўздзела цеснаватыя, ды, лічыла, прыгожыя сандалі.

Выскачыла на двор. Вуліцаю над цёмным пяском слаўся туман — шызы, як і раса на траве. Ногі адчулі халадок. Злякнулася, глянуўшы на суседнюю Дзямідаву хату: вокны чарнелі шырокімі перакошанымі крыжамі, якія засталіся пасля таго, як сыны і дачка,

пахаваўшы бацьку, васьмідзесяцігадовага Дзяміда, паехалі назад у Магілёў. Душа незразумела і трывожна сцялася, і Вольга доўга не магла саўладаць са сваімі думкамі.

## 2

...У аўтобусе было ўтульна, цёпла, мякка пагушквала, ажно тады-сяды займала дых. І Вольга неўпрыкмет для сябе змаглася... Здаецца ж, не спала, толькі прыплюшчыла вочы, каб не сляпіла сонца, а прыплялося ў галаву нешта страхотнае. А мо ёй гэта проста ўявілася? Яна, відаць, мармытала, бо, прахапіўшыся, убачыла, што хлопец, сусед па сядзенні, неяк здзіўлена глядзіць на яе.

— Блюзнілася мне, хлапечык,— пачала расказваць Вольга,— бытта лячу я ў самалёце — во, ліха! — ні разу ж і не лятала на ім,— гляджу, а за акном мой Петрык... гэта сын мой, ён у Мінску. Я падаю яму руку, каб памагчы, а ён знікае з вачэй, і спалоху ніякага няма на ягоным твары, толькі ўсмешка...— Яна потайкі скасілася на хлопца: той уталопіўся ў часопіс, што ляжаў у яго на каленях,— і хуценька адвярнулася да затуманенага шызай наміткай акна: яшчэ падумае чалавек, што старая з'ехала з глузду.

Дарога цягнулася нудна. Аўтобус імчаў ды імчаў, амаль без супынку. Мільгалі ўзбоч мураваныя будынкі, дымныя трубы, алюмініева-белыя вежы, а Мінска ўсё не было. За гэты час, здаецца б, Вольга паспела перагледзець кожную баразёнку бульбы, назбіраць парсюку зелля і яшчэ справіць такі-сякі клопат... Урэшце, на сконе дня, пасажыры ўсе неяк разам заварушыліся, пачалі здымаць з сетак паклажу, і Вольга ўзрадавана — ажно падалося, павеяў аднекуль халадок — падумала, што пад'язджаюць да Мінска. І сапраўды — дамы сталі высозныя, што ў акно Вольга не магла ўбачыць верху, як ні старалася зазірнуць, прыгінаючы ледзь не да самых каленяў галаву. А машын колькі! Легкавушкі... такія, як у Песенкі, і аўтобусы... Нават трамваі, падобныя на маленькія цягнічкі з адным вагончыкам ззаду, стукацелі па рэйках акурат сярод вуліцы. Ад людзей ажно пярэсціла ўваччу. Столькі, помніцца, бачыла ў Магілёве, калі ездзіла туды купляць тэлевізар,— ён і ця-

пер, той стары «Рэкорд», служыць ёй, разбаўляючы густы вячэрні сум рэдзенькай асалодаю.

Петрыка яна заўважыла адразу, як толькі аўтобус сцішыў ход і зрабіў круты разварот. Сын стаяў у белым капялюшыку з перакінутым на сагнутую руку пінжаком і выцягваў шыю, прыўзнімаючыся на дыбачкі. Вольга як сядзела, так і кінулася лёцьма да дзвярэй, забыўшыся пра сандалі, якія скінула на паўдарозе, каб было крыху вальней нагам. Проста ў панчохах і выбегла да Петрыка.

— Сынок!.. Вусы во ўжо носіш?..

Пятро не бараніўся, ды не ведаў, куды прычаліць рукі,— маці абняла яго, пацалавала. Пятро акінуў яе позіркам, сарамліва ўсміхнуўся:

— Мама, абуйся...

— Ой, і праўда!..— спахапілася Вольга і пачырванела: — Што йта я...— Няўмела пакарабкалася ў аўтобус — людзі, што выходзілі, заміналі ёй.

Ад вакзала да тралейбуснага прыпынку ішлі пехам. Пятро — задуменны, рассеяны... А Вольга — радасна-жвавая, не перастаючы, сыпала яму вясковыя навіны. І што ў Хведзькі Таньчынага, ён цяпер за брыгадзіра, нарадзіліся двайняты, і што Іванішына Зойка, скончыўшы школу на адны пяцёркі, думае паступаць на юрыста, і што Адам Песенка купіў сабе нейкую «Ладу» і кажа, што гэта тыя ж самыя «Жыгулі», на якія «сем з паловай тысяч загулі». Пятро прапускаў усё міма вушэй, толькі раз за разам разгублена «акаў» ды перакідаў з рукі ў руку матчыну сумку.

Яны спыніліся. Вольга змоўкла, агледзелася. Стаяў натоўп людзей. За спіной узвышаўся высокі, як гара, дом з вялізным квадратным гадзіннікам і насупраць — такі ж, толькі без гадзінніка. Неба над галавой густое і нейкае жоўтае, як шалупінне цыбулі,— на ім ледзьве зырчэюць зоркі. Сіне-зялёна-чырвоным мярэжыліся ў вачах ліхтары — скрозь па шырокай вуліцы.

— А як жа ў цябе, сын?

— Добра, мама,— адказаў Пятро.— У жончыных бацькоў па-ранейшаму жыву...

— Во-я-ёй!..— захітала галавой Вольга.— І працуеш жа?

— Працую. Харошая ў мяне работа.

— Ну то і добра! Добра... А Ірына, яна...— Вольга апусціла вочы, і Пятро здагадаўся, што яе турбуе,— на лбе матава блізнуў пот.

— У Ірыны, я ж пісаў табе,— дачка... У жыцці, мама, усякае здараецца. Але мне добра з ёй... І разумеем адно аднаго. Я нікольні не шкадую, што жаніўся з ёй.

— А з той... нашай, ужо ўсё?

— З Лідкай? Ну мы ж з ёй школьныя сябры... і цяпер яшчэ сябруем. Пісьмо напісаў ёй, сказаў, што жаніўся.

— Во! А Ірына, яна... есці ж варыць?

— Умее... Гэта яна ў мяне ўмее!

— Во-о-ой і доўга ж ехаць у еты Мінск! І наспалася, і надумалася...

— Гэта ад таго, што першы раз. Мне таксама, як паступаць ехаў, такой ужо доўгай здалася дарога. І невядомае ўсё,— растлумачыў Пятро. У душы ён радаваўся, што маці — было відаць — не асуджала, а, наадварот, прымала такую яго жаніцьбу. І далей — тым, што змяніла размову,— яна пацвердзіла гэтую думку.

Падышоў тралейбус.

## 3

...Яна ўвайшла ў кватэру і, разгубленая, спынілася ля дзвярэй. Незнаёмымі пахамі, гукамі, колерамі дыхнула на яе. Першае, што падумала,— як хадзіць па гэтай мяккай, варсістай дарожцы і не саступіць на васкова-жоўтую, роўнымі клетачкамі падлогу, якая блішчыць усё адно што лёд і, мусіць, такая ж коўзкая, як лёд. Яна стаяла нерухома, адно снавала рукамі, акурат сядзела за кроснамі і перабірала ніткі, вышукваючы разрыў. Петрык пераінаўся з нагі на нагу і ўсё паглядваў на дзверы, што ўперадзе,— бліскучыя і белыя, падобна, шкляныя і як не шкляныя, бо праз іх нічога не было відаць.

— Разувайся, мама,— сказаў Пятро і нахіліўся, каб памагчы маці расшпіліць сандалі.

— Я сама, што ты!..— яна адхінула сынаву руку, прысланілася спіной да сцяны — адчула, якая яна халодная: «Ведама, з каменю... У етых сценах і раматус можна нажыць...» — і зняла сандалі.

— Во надзявай...— Пятро паказаў на зялёныя, у клетачку, пантофлі.

Вольга лавіла нагамі пантофлі і таму не бачыла, як за бліскучымі дзвярыма спачатку замаячылі расплывістыя цені, а потым дзверы нячутна расчыніліся — і ў пярэдняй паявіліся Ядвіга Браніславаўна і Сідар Пятровіч. Ядвіга Браніславаўна была ў даўгім сінім халаце, падпяразаная поясам, Сідар Пятровіч — у шэрым касцюме і светла-жоўтай кашулі.

Вольга, калі падняла ад падлогі вочы, ажно злякнулася — і позірк яе доўга і няўцямна блукаў па тварах гаспадароў; яна баялася, каб сваты, чаго добрага, не падумалі, што яна не радая сустрэчы, а таму не хавала вачэй, глядзела, баючыся маргнуць. Забылася нават паздароўкацца.

Ядвіга Браніславаўна і Сідар Пятровіч, мусіць, лічачы, што першы павінен вітацца той, хто зайшоў, таксама маўчалі. Вусны ў Ядвігі Браніславаўны разпораз паторгваліся, акурат яна збіралася ўсміхнуцца ці нешта сказаць, ды стрымлівала сябе. Сідар Пятровіч сашчапіў на грудзях рукі і пацісквеў пальцамі, аж выступалі на іх белыя плямкі.

— Ну вось мая маці,— сказаў Пятро і лёгенька падштурхнуў маці пад локаць,— Вольга Мацвееўна... А гэта,— ступіў два крокі,— Ядвіга Браніславаўна і Сідар Пятровіч, Ірыніны бацькі...

Ядвіга Браніславаўна шматзначна глянула на мужа, і твар яе расплыўся ва ўсмешцы — вільготна і жоўта заблішчалі залатыя зубы.

— Чакаем, чакаем!.. Вельмі прыемна. Дык вось вы якая, маці нашага зяця!

Цяпер ужо Вольга не магла ўтрымаць свайго позірку на сваццi, апусціла вочы, як бы ловячы імі нешта на падлозе.

— Ну добры дзень, добры дзень!..— Ядвіга Браніславаўна працягнула Вользе руку з пярсцёнкам на безыменным пальцы. Потым глянула на Сідара Пятровіча і кіўнула галавой. Ён далікатна пацiснуў цёмную Вользіну руку, адступіў на крок і адбіў нізкі паклон, стросшы на лоб сівую пасму. Гмыкнуў, правяраючы, мусіць, голас, і спытаў:

— Ну, як жа даехалі? Добра ўсё?

Вольга, разгубленая, нейкі момант не магла падабраць слоў.

— Даехала... Ой, доўга толькі!.. Думала, на край свету з'ехала ўжо...

Ядвіга Браніславаўна і Сідар Пятровіч засмяяліся, проста і без іроніі, ды ўсё роўна — няшчыра, бо кожны з іх у гэты момант падумаў: трэба ўспрымаць словы свацці так, як успрымаў бы іх чалавек падобны ёй.

— Вы на аўтобусе? Цягнікі ж туды не ходзяць...— Сідар Пятровіч стаў бокам да дзвярэй у гасцінsocialsую.

— Можна і на цягніку, але ў Крычаў трэба ехаць, а там у Оршы перасадку рабіць,— замест маці адказаў Пятро.

— Праходзьце, калі ласка, Вольга Мацвееўна,— запрасіла Ядвіга Браніславаўна, тужэй падціскваючы на халаце пояс.

— Ды я... Мне...— Вольга глянула на Пятра, потым на сваю сумку, якая засталася стаяць у парозе; і Пятро зразумеў маці.

— Тут, Ядвіга Браніславаўна, маці падарунак вам... вясковы прывезла.— Пятро ўзяў сумку і панёс яе на кухню, паглядваючы на цешчу так, каб і яна ішла следам.

— А-а, дзякуй, дзякуй, Вольга Мацвееўна! — як быццам нават запунсавелася Ядвіга Браніславаўна.— Толькі ж груз вам...

— Ды яшчэ!.. Ваду ж, бульбу цягаю... Скаціну трымаю.

— Ну дык праходзьце... Бацька, правадзь Вольгу Мацвееўну!

— Калі ласка! — Сідар Пятровіч дзвюма рукамі паказаў на дзверы гасцінай. Вольга пераступіла ў гасціную, гадаючы, куды сесці: на крэсла ці на канапу. Сідар Пятровіч заўважыў яе нерашучасць.

— Вось, калі ласка!..— І падкаціў крэсла на колцах. Вольга села. «Багата жывуць...» — падумала, водзячы вачыма па мэблі, сценах, падлозе...

— Вы пасядзіце пакуль...— сказаў Сідар Пятровіч.— Агледзьцеся ў нас...— і выйшаў з гасцінай.

«Ета ж адзін пакой, а яшчэ чатыры такіх. Навошта ім столькі? Хапіла б і два. Ім адзін і Петрыку з Ірынай адзін... Во! Саўсім забылася... А дзе ж ета Ірына і... як яе? — Джульетка, унучка мая? Хаця б Петрык зайшоў, а то адна тута...» — Вольга адчула

сябе няёмка. Глянула ў акно, але зямлі не ўбачыла — паверх быў сёмы — а толькі цёмнае неба ды маліна-ва асветлены вяршок нейкага дома. І ёй падалося, што закружылася галава. Яна пацерла пальцамі во-чы, аж заскакалі чырвоныя бліскаўкі... Зайшлі сын, нявестка і Джульетка. Вольга кінула церці вочы і пакуль нічога не бачыла перад сабой, адно — тры плямы, падобна, людзі, ды хто — не разабраць. Але пачуўся голас Петрыка:

— Мама, гэта — Ірына і наша Джульетка...

— Добры дзень, Вольга Мацвееўна! — сказала Ірына.— З прыездам вас!

— Здрастуйця!..— адказала Вольга, разгублена і ўжо яснымі вачыма аглядаючы Ірыну, стройную, у квяціста-кідкай сукенцы, па якой быццам прабягаў палахлівы ружовы агеньчык; потым была таргануда-ся да Джульеткі, але думка: «А раптам ета будзе ня-гожа?» — стрымала яе.

— Ну як вам наш Мінск? — спытала Ірына — та-кія пытанні часцей за ўсё можна пачуць сярод лю-дзей, якіх звяла непазбежная воля выпадку і якім няма пра што гаварыць.

— Ой, што ж я тута! — засмяялася Вольга.— Праехала, як у скрыні, у тым тралейбусе.

— Горад вялікі,— згадзілася Ірына.— Ну што, Пеця, наш пакой паглядзім?

— Ну вядома! — сказаў Пятро.— Пайшлі, мама...

— Дык і ў вас жа тут харашо!..— здзівілася Вольга, як толькі Ірына і Пятро прапусцілі яе пер-шую ў свой пакой.

— У нас і рыбкі ёсць! — пахвалілася Джульетка, падбегшы да акварыума і паказваючы на яго пальцам.

— Ета жывая? — спытала Вольга.

— Ага, жывая! Мы іх кормім,— старалася апярэ-дзіць дарослых Джульетка.

— Ну расказвай тут, Джульетка, бабулі, а мы з татам пойдзем на кухню. Добра?

Вольга адразу зачапілася слыхам за гэтае Ірыні-на «татам» і яшчэ больш павесялела: «Дарма, што не яго кроў, а лічыцца за бацьку...» Сэрца прыемна і ра-дасна заныла, захацелася пазабаўляцца з Джульет-кай, не ўяўляючы, а ўжо думаючы, што гэта яе ўнучка.

— Хадзі, унучка, да мяне, хадзі, любая...— Вольга выставіла распасцёртыя рукі.

Джульетка паслухмяна падышла да Вольгі і ўціснулася між каленяў. Вольга ласкава правяла рукою па яе галаве.

— Валосікі ў цябе густыя... Унучка мая, Чаранок мой...

Джульетка павярнулася тварам да Вольгі, крыўдліва глянула скрозь шкельцы.

— Я не Чаранок, я — Рашчова!

На Вольгу быццам дыхнула холадам, як, бывае, паветра ўранні, калі выйдзеш на двор пасля сну,— яна аж глянула на фортачку, ці адчынена. Не, фортачка была зачынена. Ды пры чым тут фортачка? Здзяцінела зусім. Гэта ж падалося ёй — ад слоў Джульеткі,— што абмерла душа, распоўзся па грудзях холад. Нечакана. «Малое, а, бач, разумее: «Я не Чаранок, я — Рашчова!» Ведама, дзіця. Скажа ўсё, што падумаецца...» Хоць і разумела Вольга, што няма за што крыўдаваць на Джульетку, ды ўсё роўна ёй расхацелася з ёй гуляць. Стала сумна і адзінока. «Дзе той Петрык? Толькі і бегае... А я — сядзі...»

Джульетка здзіўлена глядзела на Вольгу, не разумеючы, што здарылася з бабуляй, такой вясёлай і цікавай упачатку. Мусіць, яна, Джульетка, ва ўсім вінавата: амаль нічога не расказала і не паказала. Толькі рыбак. Джульетка выбегла з пакоя і прынесла вялікую кардонную скрыню з цацкамі.

— Во гэта, бабуля, алімпійскі мішка,— Джульетка выняла са скрыні рудое падпяразанае медзведзяня.— Яму не балюча, што я за вуха... Не перажывайце, бабуля.— Джульетка хінулася да яе і церла пальцам вока за шкельцам акуляраў. «Чаго йта я?» — спалохана падумала Вольга.

## 4

Ад стала прыгожа вачам Вольгі: усё на ім блішчае і яркае, ажно мітусіцца, як бывае ў тэлевізары. І, здаецца, заблудзішся рукой, калі пачнеш ёю шукаць сабе закусь. Каб не так разбягаліся вочы, Вольга ўнурылася ў сподак, што стаяў перад ёй,— разглядала тонкія залацістыя абадкі па краях і вялікую ружу на дне.

— Ну дык што... Вып'ем за прыезд нашай дарагой Вольгі Мацвееўны і за знаёмства! — паднялася з-за стала і прапанавала тост Ядвіга Браніславаўна; яна, у цёмна-вішнёвай велюравай сукенцы і з тонка падведзенымі брывамі, пад якімі блішчалі, адлюстроўваючы ўсё шкляное на стале, вочы, выглядала памаладзелай; адчуваючы, што ёю нельга не захапляцца, выпіла бурштынова-глыбокую вільгаць віна стоячы.

Вольга паднесла высокенькі, на ножцы, кілішак да рота, паспрабавала віна, адчула, што яно саладкавае, і трохі адпіла. Ірына, сказаўшы: «Давайце я вам паслужу», узяла свякрушын сподак, паклала ў яго салаты і два ружаватыя звёнцы вэнджанага асятра. Вольга, трымаючы ў руках відэлец і нож, мысленна прымяралася, якой рукой ямчэй рэзаць хлеб,— у тую, здаецца і трэба браць нож. Ды — глянула — усе чамусьці елі салату толькі відэльцам, а звёнцы рыбы бралі голымі рукамі, якія потым выціралі папяровымі сурвэткамі.

— Сумна, таварышы! — усклікнула Ядвіга Браніславаўна і паклала відэлец, зачапіўшы кончыкамі зубцоў за край сподка.— А што гэта вы, Вольга Мацвееўна, пакінулі нам зло? Дапівайце, калі ласка, лікёр. Зараз паўторым!..

«Зло... Якое зло? Во яшчэ прыпіша немаведама што... Я і не думала ні пра якое зло. А ім, маіць, здаецца?..» — І Вольга, не прымушаючы сябе ўпрошваць, дапіла віно. Ядвіга Браніславаўна тут жа напоўніла кілішак, не праліўшы, хоць і перагіналася цераз стол, ніводнай кроплі. Вольга захвалявалася, і гэта было відаць па яе вачах, якія забегалі, не знаходзячы, на чым спыніцца, і руках, што неспакойна заторгаліся.

— Я хачу тута...— прамовіла Вольга разгублена, не ведаючы, ці то лезці правай рукой у кішэню, ці то браць ёю кілішак.

— Калі ласка, калі ласка!..— ледзь не ўскрыкнуў Сідар Пятровіч, акурат адно і чакаў, каб падтрымаць сваццю.

— ...хачу павіншаваць нашых дзяцей з вяселлем... Каб яны былі,— голас у Вольгі задрыжаў,— шчаслівыя, каб былі здаровыя!..

Пятро з Ірынай падняліся. Вольга хапатліва дастала з кішэні сукенкі грошы і аддала Ірыне.

— Вялікае дзякуй, мама! — шчыра сказала Ірына і пацалавала Вольгу ў шчаку. Твар Ядвігі Браніславаўны перасмыкнуўся, а Сідар Пятровіч, здаецца, падрос — так шчасліва заззялі ягоныя вочы: Ірына назвала Вольгу Мацвееўну мамай.

Куды падзеліся скаванасць, нясмеласць — Вольга раптам адчула сябе проста і вольна, як быццам сярод даўно знаёмых, вясковых людзей. Яна падзівілася на Петрыка: можа, па ім будзе відаць, што тут да чаго і як сябе паводзіць далей. Петрык акурат адчуў мацерын позірк. І Вольга прачытала з сынавых вачэй спагаду і яшчэ нешта такое, што выклікала ў яе душы незразумелы жаль. Ірына трымала ў руках грошы, мусіць, думаючы, куды іх пакласці. Ядвіга Браніславаўна не спускала вачэй з дачкі; не стрымалася, сказала:

— От, Вольга Мацвееўна! Не балуйце іх падачкамі — хай самі зарабляюць. Дарослыя людзі... А то папрывыкалі маладыя з бацькоў цягнуць.

— Ай, што яны тута заробяць! Усё з капейкі — і на адзёжу трэба, і на яду, і за кватэру...— і Вольга зноў глянула на сына.

— А што гэта за гаспадар, які не можа забяспечыць сям'ю грашыма,— усміхнулася Ядвіга Браніславаўна — для таго, каб сказанае ёю Пятро не ўспрыняў у свой адрас, ды ўсё ж задумаўся над ім.

— Не ўсё, маці, адразу! — сказаў Сідар Пятровіч.— Я лічу, што на першым этапе сямейнага жыцця бацькі абавязаны дапамагаць дзецям...

— Во-во! — падтакнула Вольга, радая, што сказала праўду і што сват увесь час патурае ёй. Шчокі яе злёгку паружавелі і, загарэлыя, адлівалі медзяным бляскам.— Ета не ў вёсцы. Тамака і маладыя зразу сабе хазяевы. І хату ставяць, і скаціну гадуюць... Дык у іх і грошы заводзяцца хутка, матацыклы ды машыны легкавыя купляюць. Я во і Петрыку свайму казала: «Во выўчышся, дык прыязджай дамоў ды станавіся прадсядацелем. Хоць пажывеш як чалавек. А ў горадзе ў тым — хто цябе ведаць будзе. А так бы ў начальніках хадзіў — і пачот, і павага ад людзей...» А ён: «У мяне, мама, такое прызванне, што трэба жыць у горадзе». А вунь...

— Прабачце, Вольга Мацвееўна, я вас пераб'ю,— сказаў Сідар Пятровіч як мага далікатней.— Але праца — гэта сэнс усяго жыцця. І той, хто не знаходзіць сябе ў працы,— не знаходзіць месца і ў жыцці.

Вольга разгубілася: мусіць, нешта дрэннае сказала, што нават сват яе паправіў. Во трохі выпіла, дык і разгаварылася, абы-чаго напляла. А як цяпер далей? Выручыў сват:

— Калі ласка, працягвайце... Цікава паслухаць вас — шмат цяпер гавораць пра ўзаемаадносіны горада і вёскі.

«Во! Ужо цікава...» — абрадавалася Вольга.

— Вунь, кажу, Хведзька Таньчын, Петрыкаў равеснік, пасля арміі недзе за Бабруйскам павучыўся год які ці два — і на́ табе: брыгадзірам у нас. Важна так ходзіць па вёсцы, а то на матацыкле калгасным... І Танька — паняю. І бульбу скапаюць, і сена прывязуць, і двор во нядаўна абгарадзілі... А толку во, што мой інстытут кончыў!..— засмяялася Вольга.

— Чаму ж! — не згадзіўся зноў Сідар Пятровіч.— У кожнага, Вольга Мацвееўна, свая дарога. Адзінае, што агульнае ва ўсіх,— гэта сеяць дабрату, дзе толькі можна... Пятро — настойлівы, лёгкіх шляхоў не шукае...

— Ён змалку ў мяне такі... Ніколі не забуду, як у чарніцы хадзілі... мы, бабы, і яго брала з сабой. Дык ён нас абгоніць, хутчэй за ўсіх набярэ сваю пасудзіну.

Пятру зрабілася няёмка ад такой просценькай мацерынай пахвальбы. Ён паварушыўся на крэсле, выдаючы сваё адчуванне.

— Я бачу, сват са сваццей знайшлі агульную мову,— сказала Ядвіга Браніславаўна.— Калі ласка, не будзем замінаць! Пайшлі, Ірачка, зварым каву.

Ірына пайшла следам за маці на кухню, трымаючы ў руках грошы.

— Колькі яна там адваліла? — іранічна спытала Ядвіга Браніславаўна, шчыльна прычыніўшы за сабой дзверы.

— Лічы,— Ірына паклала на стол грошы. Наліла вадою чайнік і паставіла на пліту. Дастала з вісячай шафы высокенькую рудую бляшанку з бразільскай растваральнай кавай. Ядвіга Браніславаўна

села на табурэтку і спрытна зрабіла з грошай веер.

— Во, дык тут адны сторублёўкі! — пачала засяроджана лічыць.— Ты ведаеш, дачка, трохі нечакана — дзве тысячы... Вось табе і ўдава!

Ірына паглядзела на маці, здзіўўшыся не суме, а мацерынаму неўразуменню.

— А наогул такі — нічога надзвычайнага! — сказала Ядвіга Браніславаўна — не столькі Ірыне, колькі самой сабе.— Куды ёй дзяваць тыя грошы? Адно месца — панчоха! — і самаздаволена засмяялася.

— Ты, мама, увесь час імкнешся прынізіць іншых.

— Якія тут заслугі! — пырснула смехам Ядвіга Браніславаўна.— Маці дала роднаму сыну грошай. А што ж? Прыйшоў на ўсё гатовае.

— Маці, пара ўжо гэтую тэму закрыць! Пятро — мой муж, і тое, што ўніжае яго, уніжае і мяне...

— Ды я нічога не маю супраць Пятра!

— А пры чым тады тваё пакепліванне?

— Проста ёсць над чым паразважаць... дарэчы, і табе — «вялікае дзякуй, мама!» — кальнула Ядвіга Браніславаўна позіркам, ад якога некуды было схавацца.

— Я паважаю Вольгу Мацвееўну, яна — добрая жанчына. Яна маці Пятра.

— Жанчын добрых шмат, а родную маці ніводная з іх не заменіць...— крыўдлівая дрыготка прабегла ў голасе Ядвігі Браніславаўны.— Добра, хай будзе так...— Ядвіга Браніславаўна пакінула за сабой права на крыўду — каб потым Ірына, шукаючы прымірэння, запабягала перад ёй, а не яна перад Ірынай.

Калі яны вярнуліся ў гасцінную, за сталом па-ранейшаму размаўлялі Сідар Пятровіч і Вольга.

— Ты, Пётр, каб не сумаваў, прыбяры са стала пасуду, калі ласка. Будзем піць каву.

Вольга як бы і не слухала Ядвігу Браніславаўну, а пачула, што тая сказала: «Як ета так — «прыбяры»? Вас жа тута дзве гаспадыні, і няўжо цяжка самім етую пасуду ўпарадчыць? Во, Петрык нібыта як з радасцю ўзяўся!.. Дык што ж ета робіцца?..»

— Давайце і я памагу,— паднялася Вольга.

— Што вы! — усклікнуў Сідар Пятровіч.— Мы самі тут...

— Ай, насядзелася за цэлы дзень! Хоць разамну свае косці, а то без работы...— Вольга пачала ставіць адна на адну талеркі.

— Ета яна заўсягды цябе прымушае? — спытала Вольга ў Пятра, калі яны апынуліся адны на кухні. Пятро ўсміхнуўся, і ўвесь яго выгляд паказваў, што нічога незвычайнага не здарылася.

— Ніхто, мама, нікога не прымушае. Я сам кожны раз памагаю прыбіраць і мыць пасуду.

— Праўду, яно так... Але ж неяк яна як пануквула табой.

— Гэта здаецца табе, як і кожнай свякрусе,— што здзекуюцца з яе сына, а кожнай цешчы — што з дачкі...

— Можа, і праўда,— сказала Вольга, як згаджаючыся.

— А ты там, мама, як, трохі спраўляешся? — спытаў Пятро, вінавата і павольна апускаючы ў падлогу позірк.

— Усяк бывае, сынок... Ведаеш, як адной...

— Цяпер у мяне два выхадныя дні, дык прасцей будзе вырвацца памагчы табе... хоць бульбу там скапаць ці дроў нарыхтаваць.

— Вох! — усміхнулася Вольга, і ў вачах яе загарэліся агеньчыкі.— З цябе помач ужо!.. Глядзіце хоць сябе...— І задумалася і такая, задуменная, пайшла з кухні; прымушала сябе павесялець ад Петрыкавых слоў, ды радасць не прыходзіла: здавалася — тое, што засмучала яе, такім жа смуткам кладзецца і на Петрыка. «Во дурная баба! — кпіла з сябе Вольга.— Узяла нешта ў галаву і тлуміцца. Трэба радавацца, што сын тут, у горадзе... Па крайняй меры, ёсць чым пахваліцца. І куме расказаць...»

Супакойвала сябе Вольга і тады, калі легла спаць. Ёй паслалі ў асобным пакоі — белым, як снежны харам. Усё ў ім белае: і сцены, і шторы на вялізным акне, і настольніца, і лямпачка ў белым, і сам ложак... «Як барыня якая — адной цэлая хата». Ды ёй не спалася, ужо другую ноч. Думалася пра Петрыка... Як рос бязбацькавічам, як калацілася над ім штодня, каб не ўлез у якую пролабку,— так настрашыў яе Тарас, калі падарваўся на міне. Разам з Толічкам, яе першынцам.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

...Дровы ў печы ўгарэліся, і полымя, весела, гарэзліва скачучы, блішчала ў Вользіных вачах. З чыгуна, налітага вадою, ішла пара; сіпелі, трапляючы ў ваду, дробныя вугалінкі, плавалі, чорныя бязважкія, паверсе. На загнеце цьмяна льснілася дном патэльня — як вялікае трывожнае вока; на табурэтцы стаяла дзежка, абвітая двума абручамі,— з яе выпнулася мяккім дзіравым брухам цеста.

Увайшоў у хату Тарас, камлюкаваты, з чорным чубам, пранізліва чорнымі вачыма. Паставіў на слонец вёдры з вадою — насупраць печы,— і яны зардзеліся вільготнай чырванню.

— Во і пагода сёння дабрачая,— сказаў Тарас.— Хай едзе са мной Толік. Там, у Пенькамоччы, можа, грыбоў пашукае.

— Трэба і ў хаце памагаць, глядзець Петрыка. Я ж не ўпраўлюся адна.

— Ну надта ж прасіўся, матка... «Адзін-адненькі разок вазьмі, татачка!.. На поле... як «націк» арэ, паглядзець».

— Пакуль во снедаць, калыску падвесь да столі,— Вольга падсунула бліжэй да загнета табурэтку з дзежкай. Прытрымліваючы патэльню за край, памазала яе здорам — завіўся сіні дымок, і пах яго разліўся па ўсёй хаце.— Ета ж добра, што без Петрыка ўпала, а каб з ім...— Вольга схавала пад павекамі ружовыя бялкі вачэй.

— Вязучы будзе наш Петрык,— сказаў Тарас з усмешкаю, ды ў голасе не пачулася радаснай дрыготкі.— А дзе ты крук падзела?

— Ён як вырваўся, дык у мяне ўсё ўсяродку і апала. Гляджу на Петрыка... ён на палку ў мяне ляжыць, а сцяміць не магу, гэта з ім адарвалася калыска ці не... Пра крук нават не помню... Здаецца, пад палок адляцеў.

Тарас ступіў за шырму, пацямнелую на вышыні пляча. На палку, накрыўшыся залапленай посцілкаю, спаў Толік, і на шчацэ яго ружовіліся намуліны — глыбокія, як шрамы,— мусіць, патрывожаны гаворкаю, Толік павярнуўся на другі бок. Калыска з Петрыкам стаяла на сундуку; канец скуранай пачопкі ад яе скруціўся на падлозе абаранкам.

Пад палком было цёмна. Тарас нахіліўся і зашкрабаў рукою па падлозе. Намацаў крук — і здры-

ганууся: крук быў халодны, як жаба-рапуха, якую ён днямі выграб з ямы, дзе захоўвалася зімою бульба. «Расхістаўся...» — падумаў Тарас, перабіраючы ў нягнуткіх пальцах крук.

— Я ж сваім грукатам дзяцей разбуджу,— сказаў Тарас, вынырнуўшы з-за шырмы.— Так салодка спяць.

— І праўда,— згадзілася Вольга, наліваючы драўляным чарпаком у патэльню цеста — яно цягнулася белай вязкай вяроўкаю.— Ну тады, як устануць, падвесіш.

Тарас трымаў у руцэ крук, не ведаючы, што з ім рабіць, і думаючы, што нейкая сёння бесталковая раніца. Усунуў крук у кішэню штаноў і адчуў сцегняком холад — як ад ледзяша. На акне варушылася фіранка — у ніжняй шыбіне быў адколаты ражок, і Тарас чамусьці зачапіўся за гэты ражок позіркам.

— Во трэба акно падшкліць — сказаў Тарас Вользе.— А то яшчэ скразняком прахопіць малога.

— Толік адбіў, выганяючы асу.

Тарас выйшаў на двор. Над балотцам вісела сонца. Расплывалася, радзела смуга, і востра, аж балюча вачам, зіхцела на крывяна-барвовым бацвінні раса. Светлая, як слёзы.

Тарас ныкаў паўз пуню, шукаючы асколачак шкла. На мокрыя кірзачы наліпла насенне драсёну — дробнае, як машкара. Столькі, здавалася, шмат было бітага шкла, а вось жа — як знарок — не трапляецца, і Тарас зноў падумаў пра бесталковую раніцу. Ён пералез у гародчык — пачаў шукаць там. У куце, дзе стаялі калкі для памідораў, убачыў асколачак шкла. Памеркаваў — акурат, прымераў — трэба абкрышыць мысік. Вынес з кладоўкі скрыню з інструментам — на двор, на святло. Пакорпаўся ў ёй, сырой, рудой ад іржы,— знайшоў у карабку з-пад запалак маленькія цвічкі, узяў тры ў вусны. Трымаючы крысом пінжака шкло, абкрышыў абцугамі востры мысік — шкло сыпалася, як пясок, і бліскала калючымі белымі іскрынкамі. Аднёс скрыню назад, потым успомніў пра крук і ўзяў з сабою сякеру. Пакінуў яе ў сенях, ля парога. Прыладжваючы асколачак да шыбіны, убачыў, што ўжо прачнуўся Толік. Скобліць над місаю бульбіну, чубчык спадае на лоб і захінае яму вочы.

«Вымальвае ў маці дазвол...» — усміхнуўся Тарас. Ён стаяў пад акном і чамусьці хацеў, каб яго ўбачыў Толік. Стаяў як вінаваты. Схамянуўся, бо здалося, што прайшло шмат часу.

— Нешта разаспаўся наш Петрык,— сустрэла яго Вольга.

— А жару ў яго няма? — з трывогаю спытаў Тарас.

— Выдумаў!..— глянула здзіўлена Вольга.

— Навошта табе сякера, тата? — Толік трымаў у левай руцэ недаскобленую бульбіну, у правай — нож.

— Трэба крук для калыскі ўбіць, сынок,— сказаў Тарас неяк мякка, чулліва, ажно не спадабалася самому, і скруціў позірк у падлогу, акурат засаромеўся.— Каб больш не падала, каб твой брацік спакойна люляўся ў ёй і не плакаў.

— Ух, як яна бухнулася ўчора!..— на поўны голас усклікнуў Толік.— Мы з мамай так спужаліся.

Заплакаў Петрык.

— Прачнуўся мой малодшы мужчына! — Вольга, выціраючы аб фартух рукі, пабегла за шырму, якая закалыхалася, бы ад ветру.

Тарас падставіў пад ногі табурэтку. Уткнуў вастрыё крука ў бэльку, у новае месца, і пачаў біць па круку абухам. Са шчылін у столі сыпаўся пясок — на галаву, твар, плечы...

— Во цяпер на вякі!..— сказаў сабе і пакратаў крук. Вольга, нахіліўшыся, корпалася ў калысцы.— Яшчэ не аднаго, маці, казака вылюляем. Ну што, падай калыску.

— Толічак! Патрымай Петрыка,— сказала Вольга, цмокаючы і языком забаўляючы малога, які крывіўся, чырванеў, уздрыгваючы густымі чорнымі шчоткамі веек.

— А ты пусціш мяне з татам? — хуценька падбегшы, Толік рабіў выгляд, што возьме Петрыка толькі тады, калі маці скажа «пушчу».

— Ну едзь, едзь, затлуміў ты мне ўсю галаву!.. Я бліноў у ручнік вам закручу — будуць цёплыя... На, трымай. Толькі не ўрані, глядзі.

— Што мне, першы раз ці апошні! — горда глянуў Толік і, узяўшы малога, пацмокаў языком — як маці.

...Вольга сядзела на лаве, карміла бульбяной кашай Петрыка, калі ўбачыла ў акно Мішку, які, калі быў маладзейшы, лічыўся ў Тараса за напарніка. Ён падляцеў на веласіпедзе да хаты, на хаду саскочыў і бег да дзвярэй, нейкі растрэпаны, белы. А перад гэтым, з паўгадзіны назад, нешта страсянула сцены, ажно ляснула і доўга брынчэла накрыўка каструлі, і Вольга падумала, што — самалёт.

— Волечка, бяда!.. Ой, бяда!.. Міна...— захліпаўся словамі, не мог прадыхнуць Мішка, белы што палатно.

— Што?.. Што такое?..— Вольга, акругліўшы вочы, падхапілася з Петрыкам на руках. Зачэпленая локцем, скінулася са стала каструля з кашай, да якой тут жа падскочыў чорны кот.

— Так ірванула!.. Так... што да маёй кабіны дастала... шапку маю ветрам!.. А на капот нешта ўпала... маленькі камячок, як птушка. Гляджу, а гэта Толікаў пальчык... сіні такі, у крыві. Яны ля плуга... корпаліся...

— Толічак?.. Тарас?..— Вольга чула, як млеюць ногі і спаўзае па жываце Петрык, лёгкі і невыразны, як цень.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ад успамінаў ажно стукаціць развярэджанае сэрца... Як бы нешта гарачае скацілася па шчацэ на падушку. «Прывярзлося?..» Пад горлам тугі камяк, каўтнула сліну, аж забалела ў грудзях.

Яна чакала раніцы, і дзіўна ёй было, што такая даўгая ўлетку ноч. На сподзе душы востра-нудлівай стрэмкай варушыўся яшчэ неўсвядомлены страх, што яна зноў нешта згубіць, дарагое і блізкае, неаддзельнае ад яе самой.

## 5

Пятро прачнуўся рана — пачуў праз сценку, што маці ўжо не спіць, дыбае, шаркае па падлозе, нечым ціха стукае. Ён асцярожна вылез з-пад коўдры, глянуў на твар Ірыны — ён быў па-дзіцячы спакойны, адно квола паторгваўся левы куточак вуснаў. Пятро ўсцягнуў на сябе трыко, пастукаўся да маці.

— Заходзь, Петрык,— яна, мусіць, па кроках пазнала сына.— Не магу во спаць — вярзецца рознае,—

сказала маці — яна стаяла перад акном і трымалася за ручку.

— Адчыніць хочаш?

— Не, дзяржуся, каб не ўпасці,— усміхнулася маці, мусіць, засаромеўшыся, што сын яе асудзіць. Вочы яе былі ў таўстых чырвоных жылках.

— На новым месцы заўсёды кепска спіцца.

— У мае гады яно ўсюды... Ды яшчэ стукатня-грукатня ета праз усю ноч.

— Блізка новы дом будуюць.

— А-а, дык ета зварка так бліскала... сінім. А я думаю: няўжо навальніца? Нешта ж не паказвала на яе звечара. А трэба ўжо дождж — жыта ў нас выгарае... На тым полі, дзе... бацька з Толічкам падарваліся, жыта-жыта было з вяспы. Таўстое такое, што плюшч... А яно, маіць, і ў вас тут дажджу няма?

— Даўно няма.— Пятро сеў у крэсла, блізкае ад акна, і ўбачыў, што ў маці блішчаць вочы і цямнее твар, і зразумеў: ад успаміну пра бацьку і Толіка. Ён таксама задумаўся і падпёр шчаку рукой. Спахапіўся: — Ты сядай, мама, калі ласка, на канапу.

Маці села — зажураная і паніклая.

— Я часта, надта апошнія гады... як ты паехаў ад мяне, хаджу на тое поле... На ім Толічак застаўся...— У маці былі сухія, зморшчаныя вусны.— Як прыйду, дык во нібыта жывога бачу... Ты не такі быў малы, а ён усё любіў грады палоць, памагаць мне. Ты ягады збіраць, а ён грады... Каб во жывы быў, можа б, ён ля мяне і застаўся... Рабіў бы з бацькам на трактары.

Пятро глядзеў на маці, яе схіленую галаву з пасмай сівых валасоў, што выбіліся з-пад хусткі, ссунутай за вуха,— гэтую прывычку маці адкрываць вуха ён помніць з дзяцінства,— і спазма сціскала яму горла.

— А так... адна я...— паківала галавой маці. Яна была нейкая дзіўная, быццам размаўляла ў паўсне,— Пятро не помніць яе такой, адлучанай і незразумелай. З вусцішнай цікавасцю ён вывучаў маці. Сачыў за вачыма і кожным яе рухам.

Пасля снедання Пятро павёў маці паказваць горад. Свяціла сонца, з зямлі пад асфальтам падымала-

ся цяплынь. Мляўкае паветра было густое і востра пахла дымам.

— Вой, смурод які! — маці паварушыла носам. У яе былі вясёлыя вочы — за сталом, нечакана, яны шчыра перамовіліся з Ядвігай Браніславаўнай.

— Аўтастанцыя побач,— паказаў Пятро ў левы бок.

— Дык нешта ж блізка, а мы з табой доўга ехалі.

— Мы ехалі з аўтавакзала, а гэта невялікая такая станцыя для прыгарадных аўтобусаў.

— А я то бачу, многа машыння рознага.

— Гэта не толькі тут, іх па ўсім горадзе хапае.

— І праўдачка. Нам каб столькі коней у вёску — гора б не знalі,— засмяялася.

— Тэхніка, усё тэхніка!..— няпэўна сказаў Пятро.

Яны ціха ішлі па тратуары,— упобачкі. Пятро паказваў маці будынкі і гаварыў, што ў іх,— магазін ці проста жывуць людзі. Маці дзівілася, ды — Пятро бачыў — проста так, прытворна — каб паказаць, што ёй цікава ў горадзе, у якім жыве яе сын. Яна думала пра нешта сваё. Вось спынілася ля лаўкі, што стаяла спінкаю да зараснікаў язміну.

— Вохці! — уздыхнула.— Натрудзіла я свае ўжо ногі. Не прывыклі яны доўга хадзіць па такому... Зямля ж, яна мяккая... на гародзе ці ў полі. А тут як на калах якіх ідзеш — ступня не гнецца. Ды яшчэ сандалі етыя новыя!.. Знала б, што так будзе, не абувала б.

— Ну давай перадыхнём,— сказаў Пятро.

Маці села на лаўку, выпрастала ногі, нізка напусціўшы на іх спадніцу.

— Можа, квасу, мама, хочаш?

— А дзе ты яго шукаць будзеш?

— Ды вунь, бачыш, чарга.

— Ета ля тае жоўтае бочкі?

Квас прадавалі метраў за трыццаць, і Пятро прыйшоў да маці з куфлем у руцэ. Маці адпіла, пахваліла:

— Харошы во, рэзкі і халодненькі, як вада з крынічкі.

Яна цікавей глянула на свет — на людзей, машыны, будынкі. Горад быў вялікі і таямнічы, ён стаяў перад ёй няпэўны, як сон. Спазнаць яго і зразумець блізка, як сваё дзіця або вёску, яна не магла; яна бая-

лася нават пранікнуць сваім розумам у якую-небудзь адну з яго таямніц. Адчувала: калі паспрабуе гэта зрабіць — у яе закружыцца галава, і яна ўпадзе. А ён, магутны і ўладны, будзе смяяцца з яе страшным, каменна-грамавым смехам. Горад быў наглуха зачынены для яе. Роўна так, як да пары да часу зачынена ад чалавека смерць.

— Бачу во, людзі памідоры ўжо чырвоныя вырасцілі — нясуць,— сказала маці.

— Гэта прывозныя, з Камароўскага рынку.— Пятро глядзеў на далёкі бліскучы купал, пад якім быў рынак.

— Маць, адтуль, дзе раней лета?

— Ажно вунь з Казахстана.

— Уга! Ета нашыя людзі пасля вайны ў той бок ехалі ўсё... І бацька наш хацеў... во як адчуваў...— Ціха папрасіла: — Давай, сынок, сходзім на той базар, паглядзім...

У прамежжах даўгіх нізкіх навесаў было шмат людзей — не ўбіцца. Пятро ішоў першы, маці за ім — трымаючыся за яго рукаў.

— Столькі людзей!..— чуў ззаду разгублены голас маці.— Бачу во, і нашыя, вясковыя, сядзяць. У хустках, і твары загарэлыя... А што, ета цётка ўжо суніцы прадае? Стой-ка, Петрык. Ну суніцы ж!.. Здароў табе,— павіталася маці з хударлявай жанчынай у мужчынскім пінжаку, якая сядзела перад горкай насыпаных на газету суніц. Жанчына насцярожана спыніла свае вочы на маці, мусіць, спрабуючы пазнаць у ёй знаёмую, потым суха сказала:

— Не прызнаю я цябе, кабета.

— Ды я здалёку, дзе ж ты мяне пазнаеш!..— засмяялася маці.— Суніцы, бачу, прадаеш... У нас яшчэ няма, ета за Мугулевам. Яны во і ў цябе яшчэ зялепушкі...

— А ты не прыглядайся, жэншчына. Калі хочаш — бяры, а не — не мяшай прадаваць.

— А пачым ты просіш за іх? — не адступалася маці.

— Суніка ў мяне па восемдзесят капеек за стакан.

— Ты, маць, смяешся з мяне, цётка?

— Ідзі-ідзі, «смяешся»... Нябось сама ўжо прадала,— сказала незадаволена і адвярнула нос гандлярка.

— Пайшлі, мама,— сказаў Пятро. Маці парухавела, у яе свяціліся далікатным, нейкім дзіцячым святлом вочы; яна глядзела на вясковых людзей, усміхалася ім,ківала галавой. Яна была, як рыбіна, якую вынялі з вады, патрымалі ў руках, а потым зноў упусцілі ў прывычную і родную свежасць вады.

— А вунь лісічкі мужчына з барадой прадае! Глядзі-тка, жоўценькія, чысценькія, акурат восеньскія...— уздыхнула: — У нас пасохлі і лісічкі.

Яны выйшлі з варот на другім баку рынку, дзе ў рад, шчыльна адна ля аднае, стаялі легкавушкі — чырвоныя, сінія, жоўтыя, зялёныя...

— Во як на парадзе выстраіліся. Ета тых, што прадаюць? У каго ж грошы...

— Чаму? І купляць прыязджаюць на машынах.

— Маіць, праўда — і купляць.

— Ну што, нагледзелася, мама, усяго? Пойдзем дамоў? — спытаў Пятро.

— А пайшлі ўжо!..— У маці раптам зноў патухлі вочы і прапаў настрой.— Не па мне етая тлуманіна, хоць ты што... Так стамілася!..— На лбе ў маці тонка блішчаў пот.

— А я ўжо прывык глядзець на гэтую, як ты кажаш, тлуманіну раўнадушна.

— Не, а я не. Во ажно ў вачах бліскае. Пайшлі...

— Пра такіх, як я ды ты, мама, нават у кніжках цяпер пішуць. Шмат пішуць. І правільна, што пішуць. І яшчэ будуць пісаць невядома колькі.

— А што пра нас пісаць, сынок? Мы людзі простыя.

— Простыя жылі ў вёсцы, а цяпер вось — у горадзе. Як нам тут?

— Вой, не дай божа!..— маці выдыхнула з сябе паветра. Яна сапраўды стамілася, і Пятро шукаў вачыма, дзе прысесці, каб адпачыць: хацелася хоць так, маленькай увагаю, скупіць сваю віну перад маці, да канца не зразумелую віну, якая ўжо даўно не дае спакою, надта востра адчулася цяпер, затузалася ў сэрцы і ў галаве. Няўжо дзеці павінны пакідаць бацькоўскае поле, на якім выраслі, і шукаць сваё? А іх дзеці потым — сваё. І так бясконца, бясконца... Як цягнецца час і род людскі,— трывала і неадчэпна лезлі да Пятра думкі, забіраючы ў сябе ўсе яго трывогі

і клопаты. Толькі чаму ж тады не забываецца вёска? Як боль старой раны: успамінаеш — дык баліць... Няўжо таму, што яно вечнае ў нашым сэрцы, бацькоўскае поле? Так. І маці нашы прывыклі чакаць і чакаюць нас зусім не па нашай віне, хоць і бяром мы яе на сябе,— гэта закон жыцця.

## 6

Пятро сядзеў, падпёршыся левай рукою, за сталом і рабіў разлікі. Ён толькі што вярнуўся з лабараторыі — ад прабірак,— дзе праводзіў дослед па размнажэнню кіслатворных мікраарганізмаў. Цяпер галоўнае для яго было засяродзіцца і, поўнасцю адключыўшыся ад знешняга свету, ухапіцца думкамі за яшчэ няпэўную і таямнічую, але ўжо неадступную ідэйку і — пайсці, пайсці за ёю, аж пакуль не выбухне светлым празарэннем здагадка. І тады ў гэтым празарэнні будуць лунаць розум і душа і, спалучаючыся, прыносіць яму, Пятру, творчыя адкрыцці.

Пятро глядзеў праз акно на галавакружна-глыбокае неба — так лепш думалася: здавалася, што і думкам такі ж прастор, як небу. На фортачцы, адчыненай на вуліцу, вісела даўгая серабрыстая павучына — і паток паветра, урываючыся ў пакой, матляў яе. Ветру не было, і па ім як бы сумавала пажоўклае лісце таполяў — сумавала, што не нагаварылася ўволю ў апошнія дні свайго яшчэ жывога бляску. «Бабіна лета...» — падумаў Пятро і зноў паглыбіўся ў роздум. Думанне — такое ж рухомае, як і чалавечая плоць, і здольнае выгінацца самым нечаканым і незвычайным чынам — вядома, калі яно не дрымотназастылае і не стэрэатыпнае. Так, асяроддзе, створанае ім, Пятром, відаць, спрыяе размнажэнню мікраарганізмаў. Толькі якіх? Ён думаў — што кіслатворных. Але ўчарашні пасеў расчараваў яго — за ноч у прабірцы ўтварылася густое блакітнаватае месіва, здалёк падобнае на медны купарвас. Іменна блакітнаватае, а не рудаватае, як ён чакаў. Значыць — нешта новае. Але што? Пятро з апантанасцю ўзяўся за разлікі. Падганяла думка: няўжо новы від бактэрый?.. Калі гэта напраўду так, ён абавязкова дасць сваім доследам навуковае абгрунтаванне. Абавязкова!

...Калі Пятро выйшаў з інстытута, у паветры вісела рэдзенькая, ласкавая вачам сінька. Браўся слабы ветрык. А можа, так здавалася, бо на дварэ было свяжэй, чымся ў памяшканні. Спарэла-мёртвая ляжала паўз дарожку трава, бялеўся аркуш паперы.

Пятро перш пазваніў, потым адамкнуў дзверы кватэры. Ля парога яго сустрэла Ірына, і яны пацалаваліся.

— Нейкі ты незвычайны сёння? — сказала Ірына, гледзячы здзіўлена і рассеяна.

— Ёсць прычына! — Пятро здымаў куртку. Зняўшы, сказаў — каб не распаляць цікаўнасць жонкі: — Твой муж на парозе адкрыцця! — І засмяяўся.

— Праўда?.. Ты ў мяне далёка пойдзеш! — не без жарту сказала Ірына, падаючы Пятру тапкі.— Так можна і на сям'ю забыцца.

— Тое, што чалавек з радасцю і толкам робіць, яшчэ ніколі не прыносіла няшчасця. Наадварот, чым больш у чалавека радасцей, тым ён — шчаслівейшы. Вось так, жонка!..— З Пятра проста выпірала прыўзнятасць.— У мяне пакуль дзве радасці: праца і ты. Можа, хто, слухаючы мяне, засмяяўся б, а я — такі! І ніхто-ніхто не загадае мне быць іншым і не забароніць гаварыць тое, што просіцца з душы.

— Шкада, што ты не артыст,— сказала, усміхнуўшыся, Ірына, запрашаючы — тым, што пайшла,— Пятра на кухню.— Для поўнага шчасця вось табе вячэра і... навіна, аб якой і блізка не здагадваешся.

Пятро баяўся прапусціць імгненне, у якое Ірына — па звычайнай чалавечай слабасці дзяліцца радасцю — хоць адной мышцай твару выдасць сябе. Ірына злёгку пачырванела, ды Пятро ўсё-такі не здагадаўся, з-за чаго.

— Усё пераконвалася, а сёння дакладна зразумела, што я... У нас будзе дзіця.

— Праўда?.. Ірачка!!! — Пятро абхапіў жонку і, цалуючы, закружыўся з ёй па кухні.

— Ой, асцярожней! Пасуду паб'еш!..

Пятро спыніўся, не выпускаючы з рук Ірыну.

— Цяпер жа нельга так... бурна праяўляць пачуцці. І... добра, што курыць кінула,— узрадавана сказала Ірына.

— А маці ведае? — чамусьці спытаў Пятро.

— Яшчэ не. Не паспела сказаць. Дарэчы, апош-

нім часам, як, відаць, і ты заўважыў, яна недзе затрымліваецца, і мне не часта ўдаецца з ёй пагаварыць. Ды я, прызнацца, не вельмі шкадую.

— Ты прабач, канечне, за шчырасць, бо якую дачку не закранаюць непрыемныя словы ў адрас маці, але паколькі ўжо зайшла гаворка, дык і я выкажуся. Дык вось, свет сытай утульнасці мне чужы. І жыццё ў гэтым свеце выклікае ў мяне... агіду, ці што? Адным словам, непрыемныя адчуванні.

— Усё адносна,— мякка не згадзілася Ірына.— У прынцыпе, гэта лічыцца нормай сучаснага сямейнага жыцця — мець шыкоўна абстаўленую кватэру — імпартныя гарнітуры, дываны, крышталь...

— Нормай, ды не для ўсіх. Відаць, толькі для тых, хто ў гэтых дыванах ды крышталях бачыць сілу свайго аўтарытэту і ўплыву на іншых.

— Тлумачэнне можа быць і больш простае: людзі хочуць прыгожа жыць у прыгожым жыцці.

— Дзіўная натура ў чалавека: як толькі дасягае таго, што ўяўлялася ледзь не вяршыняй шчасця, яму пачынае здавацца, што гэта ніякае не шчасце, а толькі мізэр у параўнанні з тым, што маюць іншыя.

— Магчыма...— сказала Ірына амаль шэптам, мала згаджаючыся ў душы з мужам,— яна раней ніколі не задумвалася ўсур'ёз над тым, як і чым жывуць людзі. Для яе галоўным у жыцці было — бачыць вакол сябе шык і камфорт. Цяпер, цяпер як быццам нешта крышылася і пратэставала ў яе душы. Вось толькі — што? Яна яшчэ не разумела, і ёй хацелася слухаць мужа. Пятро мог сказаць шмат чаго жонцы, тым больш што адчуваў яе непадатлівасць, але разумеў ён і тое, што проста гаворкай справу тут не паправіш — патрэбен час,— дый сама гаворка, якая немінуча перайшла б у спрэчку, цяпер была недарэчы. І ён толькі з пяшчотаю паглядзеў на жонку і ўбачыў яе шчаслівую ўсмешку і закаханыя, трохі сумнаватыя вочы.

...Яны ляжалі ў ложку без сораму адно перад адным. Незразумелае і новае пачуццё захаплення і чуллівасці валодала імі. Пятро адчуваў пад пальцамі аксамітна-халаднаватую Ірыніну скуру... Глядзеў Ірыне ў вочы, поўныя ласкі і пяшчотнасці, потым адхіляўся, каб бачыць яе ўсю, загадкавую, даверліва-простую. Бачыць бясконца доўга.

Сон... Ці гэта не сон? Пятро прачнуўся. За сцяной спрачаліся Ядвіга Браніславаўна і Сідар Пятровіч. Ноччу, у цішыні, галасы былі добра чуваць. Пятро накрыў галаву падушкай, як гэта часта рабіў у неспакойныя інтэрнацкія ночы, ды ўсё роўна непаслухмянае вуха лавіла: «Кожны дзень навуковыя саветы? Скажы Джульетцы!» — «Ты заўсёды мне пярэчыў!» — «Факты? Будуць і факты... Як не сорамна людзей — у такім узросце фліртаваць надумала. Але, запомні, будзе працягвацца — развядуся. Ганьба мне не трэба...»

Пятро заснуў, так і не зразумеўшы ў паўсне, пра што гамана.

## 7

Дзень пачынаецца з раніцы. Раніца была восеньская, сумная, пустымі, шэрымі квадратамі глядзела праз шыбы ў пакой. Высока над зямлёй стаяў туман, у якім і дрэвы, і будынкі, і нават людзі на цёмных ад вільгаці тратуарах здаваліся маўклівымі і соннымі. Яшчэ не прачнуліся ў акварыуме рыбкі, непрыкметна затаіліся ў лісці водарасцей.

Перад самым ужо адыходам Пятро сказаў Ірыне:

— Давай сходзім сёння на выстаўку.

— А што за выстаўка?

— Выяўленчага мастацтва.

— Добра, давай. Цікава.

— На рабоце чуў, усе захапляліся серыяй карцін Міхаіла Савіцкага «Лічбы на сэрцы».

— У колькі і дзе сустрэнемся?

— Гадзін у шэсць «пад гадзіннікам»... ля Палаца мастацтваў.

...Пятро адчуў на плячы руку і, яшчэ не паварочваючыся, зразумеў, што за спіной стаіць нехта знаёмы і ўсміхаецца, абавязкова ўсміхаецца, бо чалавек, які так жартуе, не можа быць сур'ёзным.

— Здароў, зямеля! — Голас Толіка Маруткіна. Пятро здзівіўся: адкуль тут Маруткін?.. Ды ява — гэта не сон, яна не прападае, як толькі зразумееш усю неверагоднасць убачанага.

— Толік?.. Сёння ціхая раніца, таму не буду пытацца, якім ветрам цябе сюды занесла.— Перад Пятром стаяў Толік Маруткін. Усмешка — да вушэй. І твар такі ж барвовы, як у студэнцтве, толькі ўкруг вачэй скура свяцілася матавай жаўцізной. Яны селі на шырокую лаву — таўстыя брускі, няшчыльна пакладзеныя на бетонныя тумбы. Ля сметніцы валяліся недакуркі, пачак з «Прымы» і блакітныя паперкі ліхтарэі «Спрынт».

— Ну як там, у Сібіры, хваліся? — спытаў Пятро, пільна ўглядаючыся ў Толікаў твар.

— Шчыра кажучы, глухое мястэчка, але... Экзатычная прырода! Паветра — цуд, жывыя лекі! — Толік па-дзіцячы цмокаў языком, і ў куточках вуснаў блішчала сліна.

— А тут што робіш — у камандзіроўцы?

— Ды не! — Толікавы вусны расплыліся ва ўсмешцы, а вока з'едліва прыжмурылася, як у таго, хто курыць і абдзімае дымам твар.— Назусім прыехаў.

— Як гэта? — здзівіўся Пятро.

— А так. Месца не хапіла, вось і далі мне адмацаванне.

— Ты глядзі!.. А я неяк зайздросціў табе — якніяк, рамантыка.

— Ат, рамантыка, яна на адзін дзень добра, ну на тыдзень, ну на месяц. А потым... чалавеку жыць трэба грунтоўна,— у Маруткіна невядома адкуль прабілася разважлівасць.— І месца адпаведнае сабе шукаць. Вот паглядзіш — праз гады два ўсе тут будуць.

— Думаеш?

— Не сумняваюся!

— Глупства ўсё гэта, Маруткін,— сказаў Пятро і падняўся.— Хто гэта будзе кідаць работу, якая палюбіцца. Добра там, дзе нас няма.

З лаўкай параўнялася кучка людзей — мужчыны і жанчыны. Відаць, што турысты, з-за мяжы. Англійская гаворка, дружны рогат і нейкая касмічная таямнічасць на бледных выпешчаных тварах і, мусіць, у вачах, схаваных за цёмнымі кружкамі акуляраў.

— Бачыш, не толькі мяне сюды цягне,— кіўнуў Маруткін на турыстаў.— Горад-герой! Горад-прыгажун!

— Ты даруй мне, Толік, я спяшаюся на працу.

— Нічога страшнага. Яшчэ сустрэнемся... Дзе ты?

— У «Белгіпрабіясінтэзе».

— Уга! Малайцом, Чаранок. Дай тэлефон.

Пятро назваў.

«Дзіўнае гэта жыццё,— развітаўшыся, падумаў Пятро.— Што б, здавалася, трэба яму, Маруткіну, а вот жа і ён шукае сабе «грунтоўнае месца»...»

...Перад абедам у лабараторыю зайшоў Валера. Твар кіслы, засмучаны. Падаў вялую руку.

— О! У цябе нешта важнае, раз дабраўся ажно сюды? — сказаў Пятро.

— Як у цябе шэф? — нечакана спытаў Валера, не адказаўшы на пытанне Пятра.

— Шэф як шэф. Нармальны чалавек, азадачвае не кожны дзень...

— А я не спрацаваўся са сваім! Прыдзірлівы надта і строгі. Падумаеш, на дзве гадзіны спазніўся, дык заляпіў ужо вымову. «Не толькі за сённяшняе спазненне,— кажа,— грашкі за табой прыкмячаліся і раней».

— Мой таксама патрабавальны. Так што і не ведаю, што табе тут параіць. Адно — сумленна працаваць.

— «Сумленна»... А я што — не сумленна? Гэта не парада. Давай пасля працы завалім куды ў кабак і абмазгуем маё становішча. Каб толькі да бацi не дайшло. Яму і так хапіла перажыванняў...

— А што такое?

— Ды...— Валера запнуўся.— Панізілі яго. Прышпілілі злоўжыванне службовым становішчам. Хацеў мне прабіць... хату.

— Нечаканая навіна,— сказаў Пятро.— Перастараўся, бачыш.

— Добра. Не будзем тут высвятляць... людзі.

Роза Катовіч, інжынер, паказваючы выгляд, што піша, прыслухоўвалася да іхняй гаворкі — яны, відаць, прыцягнулі да сябе ўвагу гучнымі, нястрыманымі галасамі.

— Дык у які кабак? — шэптам спытаў Валера.— Пагаворым.

— Даруй, Валера, але сёння не змагу. Ідзём з жонкай на выстаўку.

— Ну во!..— Валера ажно сеў на крэсла, безнадзейна апусціўшы галаву.

— Толькі не падумай, калі ласка, што я свядома

пазбягаю з табою сустрэч. На іх і далей будзе менш аддавацца часу, што натуральна нават ужо таму, што я — сямейны, а ты нежанаты.

— Сямейны...— крыўдліва кінуў Валера.— Давай сустрэнемся заўтра.

— Якраз будзе добра — папярэджу Ірыну, што затрымаюся.

— Ты што — у жонкі пад пятой?..— шчыра здзівіўся Валера, ад чаго вочы, здалося, яшчэ больш пабліжэлі адно да аднаго.

— Даверам трэба даражыць.

— А, з табою цяжка гаварыць! Не разумею цябе.

— А я цябе выдатна разумею... цяпер,— шматзначна, але без іроніі, хутчэй са спагадаю ў голасе сказаў Пятро.

— Кожнаму — сваё. Так сцвярджае лацінская прымаўка.

«Кожнаму — сваё»,— зачапіліся думкі Пятра.— І Сідар Пятровіч гаварыў гэта ж самае».

...Без пятнаццаці шэсць ён ужо стаяў «пад гадзіннікам», разглядаючы шыльды рэдакцый. Збоч дзвярэй у вітрыне пад шклом, у якім цьмяна льснілася жоўтае сонца, была вывешана газета, і Пятро, раз-пораз зіркаючы на гадзіннік, чапляўся вачыма за фотаздымкі і загалоўкі. Ірыны ўсё не было, і ён пачаў хвалявацца.

Урэшце! Яна ішла да яго ад прыпынку, ішла спакваля, а не подбегам, як трэба было чакаць ад чалавека, які спазняецца. Пятро ступіў некалькі крокаў насустрач. Што з Ірынай?.. Твар у яе быў белы, у вачах — пакута. Ён падбег да яе, узяў за локаць, заглядваючы ў вочы.

— Што, Іра?..

— Прабегла во да прыпынку... адпраўляўся аўтобус. І нешта забалеў жывот...— Ірына паціскала рукой у правай пахвіне.— Мо апендыкс?

У Пятра на лбе выступіў пот.

— Дужа баліць?

— Ледзь стаю...— Ірына зморшчылася і ўзялася дзвюма рукамі за правы бок. На белай даўгой шыі напружана білася сіняя жылка.

— Трэба дамоў ды выклікаць «хуткую дапамогу». З гэтым жартаваць нельга.

— А як выстаўка?

— Іншым разам. Пастой во тут ля кіёска. Я збегаю на плошчу Перамогі, падганю таксі. Датрываеш?

— Выцерплю...

Дома быў толькі Сідар Пятровіч. Ён з кнігай у руках адчыніў ім дзверы.

— Сідар Пятровіч, выклічце «хуткую» — у Ірыны забалеў жывот!..

Ірына апранула даўгую начную кашулю і легла ў ложак.

Хвілін праз дваццаць раздаўся патрабавальны званок.

— Тут хворая? — спытаў у Пятра мужчына год трыццаці пяці з мяккім позіркам і шырокімі брывамі пад белай шапачкай — мусіць, урач. Збоку яго стаяла высокая, зусім юная дзяўчына з мілым скуласценькім тварам і трымала ў руках чамаданчык. Пятро паказаў на расчынены пакой.

Урач адразу прысеў на ложак ля Ірыны. Дзяўчына корпалася ў чамаданчыку, дастаючы з яго трубкі і шпрыцы.

— Вы цяжарная? Тут баліць? Тут баліць? — мацаў урач жывот, слухаючы адказы Ірыны.— Змерайце тэмпературу... Так. Боль моцны? Можна ўвесці ношпу...

— Не вельмі,— спалохалася Ірына і сказала неўпапад: — У мяне з паўгода назад быў прыступ апендыцыту...

— Каб не рызыкаваць, забяром вас у бальніцу, пройдзеце абследаванне... Яўных сімптомаў пагрозы выкідыша няма, але... У вас якраз такі перыяд, што ўсё можа быць. Збірайцеся!

Пятро паехаў у бальніцу разам з Ірынай. Сядзеў, прыхінаючыся да яе, быццам гэтым сваім дотыкам хацеў аблегчыць яе пакуты,— перажываў. Думаў, што і як будзе. Чакаў у калідоры, пакуль Ірыну пераапраналі ў бальнічнае адзенне. Развіталіся, супакойваючы адно аднаго. Сумны, з трывогаю ў душы пайшоў, разумеючы, што гэты тыдзень, патрэбны на абследаванне, будзе турботлівы — адны перажыванні. Такое жыццё — гладзенькім, як паліроўка стала, яно не бывае. І ці так ужо гэта кепска?

## 8

Нядзеля.

Мінула пяць дзён, як Ірына ў бальніцы. Пакуль нічога не можа сказаць, што з ёй. Здае і здае аналізы, і такія — што праз кожныя дзве гадзіны, нават уначы. І гэтая няпэўнасць яшчэ больш хвалюе Пятра. Кожны дзень ён па два разы — раніцой і ўвечары — наведвае Ірыну.

Вось і сёння збіраецца — разам з Джульеткай, якая ажно плача — так засумавала па маці. Сідар Пятровіч паехаў у Маскву — на сімпозіум. Ядвіга Браніславаўна, прыбраўшыся, пайшла ў магазін. Пятро завіхаецца на кухні, яму памагае Джульетка. На пліце стаіць каструлька, у якой варацца буракі,— з-пад накрыўкі вырываецца чырванаватая пара. На стале бутэлька алею, аблупленая галоўка цыбулі, якую толькі што паклала Джульетка і пабегла ў ванную прамываць вочы, некалькі жоўтых крутабокіх яблыкаў; абернутыя дагары шкляныя слоікі мокра блішчаць; ляжыць поліэтыленавы мяшэчак.

— Тата, а мы хутка пойдзем да мамы? — пытаецца Джульетка, з чысценькім тварам і чырвонымі, заплаканымі вачыма.

— Вось наробім салаты, вінегрэту — і пойдзем. Мама ўзрадуецца, што мы ёй смачна згатавалі.

— І я памагала.

— Я скажу маме, што Джульетка ў нас добрая гаспадынька.

— А не скажаш, што я маміну туш брала? — Джульетка падзьмула вусны.

— Больш не будзеш так рабіць? Ну, значыць, на гэты раз не скажу... Маме зусім не трэба хваляваца.

— Я заўсёды буду пытацца...

— Вось якая ты малайчына!

Нешта дзугнула за акном. Пятро глянуў: на выступе падаконніка сядзеў чорны, як грак, голуб — толькі ля жоўтых з чорнымі кропачкамі зрэнак вачэй белыя прадаўгаватыя палоскі ды шыя пераліваецца зялёным колерам — як палакіраваная. «Нейкі рэдкі голуб — чорны...» — здзівіўся Пятро. Голуб, паварочваючы лабастую галоўку то ў адзін бок, то ў другі, цікаваў праз шкло шыбіны ў кухню; пераступаў з па-

гі на нагу — абедзве чарнільна-сінія,— і было чуваць, як шкрэбалі па блясе кіпцюрыкі.

— Глядзі вунь, Джульетка, птушачка нам вестку ад мамы прынесла! Бачыш, просіцца ў пакой.

Джульетка, усміхаючыся, недаверліва глядзела на Пятра.

— І няпраўда... Гэта ён есці хоча. Я яму зараз хлеба кіну ў фортачку.— Джульетка адшчыкнула ад булкі мякішу і ступіла да акна. Голуб тарганууўся і паляцеў, ляскаючы крыламі — спадыспаду белымі.

— Во бачыш! А ты — «есці».

Вярнулася з магазіна Ядвіга Баніславаўна. Зайшла на кухню. На нагах у яе былі белыя басаножкі — іх высокія шпількі цвёрда стукалі аб падлогу. Пятро здзівіўся, успомніўшы, што якраз такія басаножкі бачыў тады, калі прыходзіў да Валеры, але застаў дома аднаго Паўла Андрэевіча. Цікавае, канечне, супадзенне, а яшчэ цікавей тое, што памяць утрымала ў сабе гэту дробязную дэталь. Падумаеш, басаножкі! Колькі іх, аднолькавых, выпускаецца.

Ядвіга Баніславаўна ўзяла з ракавіны анучу, выціснула яе і пачала падціраць разлітую на падлозе ваду — Пятро мыў слоікі і распырскаў. Па тым, як Ядвіга Баніславаўна пыхкала і красамоўна маўчала, Пятро зразумеў, што ёй не па душы яго гаспадаранне. Хоць ты ідзі з кухні. Ён зняў з пліты каструльку, адцадзіў буракі.

— Бабуля, чаму ты злая? — спытала Джульетка.

Ядвіга Баніславаўна кашлянула, па чым было відаць, што пытанне закранула яе,— Джульетка трапіла акурат.

— Табе, малой, пакуль што ўвогуле няма чаго рабіць на кухні,— рэзкім голасам сказала Ядвіга Баніславаўна.— Ідзі вунь тэлевізар глядзі, зараз мульцік паказваюць.

«Не, такога трываць больш нельга!..— Пятро абіраў буракі.— Гэтае штодзённае бурчанне... Гэтыя пастаянныя выклікі на спрэчку... Усё, хопіць цярпець! Пакуль Ірына ў бальніцы, знайду кватэру, і перабяромся. Будзем самі сабе гаспадарамі. Ірына зразумее мяне, я ёй гаварыў...»

Пятру пасля гэтых думак ажно захацелася спяваць, але стрымаў сябе, не заспяваў, палічыўшы, што

Ядвіга Браніславаўна ўспрыме гэта як найвялікшую абразу,— нішто яе так не злавала з боку Пятра, як яго абыякавасць, асабліва тады, калі яна хацела ўпікнуць зяця.

— Можна вам сказаць? — спытаў Пятро, перастаўшы абіраць буракі.

— Я слухаю,— Ядвіга Браніславаўна насцярожылася, баючыся выдаць сваю трывогу,— яна інтуітыўна адчула па голасе Пятра, што ён скажа нешта з годнасцю для сябе і непрыемнае ёй.

— Мы з Ірынай пераходзім на прыватную кватэру.

— Што?..— Ядвіга Браніславаўна выпусціла з рук анучу, і яна шлёпнулася на падлогу, як вялізная жаба.— Гэта хто так рашыў?

— Я. Во толькі што,— цвёрда сказаў Пятро.

Ядвіга Браніславаўна засмяялася, і было відаць, як дробна тузаецца яе жывот.

— Хацела б я глянуць, як вы будзеце жыць на тваіх сто рублёў!.. Хі-хі-хі!..

— Як усе. Самі ведаеце, колькі маладых сем'яў жыве на прыватных кватэрах.

— Дык то ж выйсця няма. А ў вас — што?

— У мяне ўжо таксама інакшага выйсця няма.

— Ну гэта мы яшчэ паглядзім,— хмыкнула Ядвіга Браніславаўна.— Хай толькі вернецца Ірына.

«У любым выпадку,— падумаў Пятро,— я не перадумаю».

## 9

Ірыну выпісалі з бальніцы праз два тыдні — на шчасце, усё абышлося добра. І Пятро адразу ж расказаў ёй пра свой намер. Ірына не мела нічога супраць, нават абрадавалася спачатку. «Якія нечаканыя павароты могуць быць у жыцці»,— думаў, стоячы перад акном, Пятро. І аптымізм чалавека, мусіць, у тым, што сёння, добра сябе адчуваючы, ён не думае, што заўтра з ім можа здарыцца няшчасце. А калі б думаў? Баяўся б жыцця.

Ірына ляжала на ложку. Пад вачыма ў яе залеглі зеленаватыя цені. Пабялелі і патанчэлі на руках пальцы, і яна — каб не згубіць — не насіла заручальны пярсцёнак: на яго месцы застаўся бледны абадок скуры.

На вуліцы ішоў дождж. Па асфальце тонка разлілася вада, і Пятро бачыў, як падскоквалі на ім разбітыя на пырскі кроплі. Бегла пад парасонам жанчына, несучы на сагнутай руцэ напакаваную сумку, з якой тырчалі жоўтыя курыныя ногі. Прыпынілася ля белай «Волгі», тузанула за дзверцы і толькі потым схавалася ў пад'ездзе, з якога тут жа выскачыла, падцяўшы хвост, рыжая балонка. Пастаяла, скурчыўшыся, на дажджы і зноў шуснула ў пад'езд.

У пярэдняй зазваніў тэлефон. Пятро не пайшоў да яго: чуў, там толькі што тупаў Сідар Пятровіч. І вось — аказваецца, звоняць яму: Сідар Пятровіч, пастукаўшыся, адчыніў дзверы і слабым голасам, якім ён стаў гаварыць за апошнія дні, калі даведаўся, што Пятро з Ірынай пакідаюць іх, сказаў: «Пятро, просяць цябе...» Пятро ажно пашкадаваў, што прымусіў Сідара Пятровіча лішне турбавацца.

— Вітаю! — пачулася з трубкі.

— Эдзік?

— Што такі кіслы, як і сённяшняя пагода? Забыў ты мяне зусім. Хоць бы пазваніў. Мусіць, заганарыўся?

— На ўсё свае прычыны, Эдзік. Вядома, кепска, што мы ўспамінаем пра сяброў адно тады, калі яны нам патрэбны. Клопаты, клопаты...— Пятро здзівіўся, што сёння Эдзік надта гаваркі, і тут жа зразумеў, што паспяшаўся з вывадам.

— Ну будзь! Зайдзі, тут табе нейкая пісуля прыйшла.

— Дзякуй! Ага, добра... Зайду.

«Што там такое і адкуль?» — задумаўся Пятро і тым, што нават не ўявіў, каму ён спатрэбіўся, распаліў сваю цікавасць.

— Іра, давай сёння раней выйдзем на прагулку. Якраз вунь дождж перастае. Забяром у Эдзіка пісьмо — званіў,— сказаў Пятро.

— Я і сама не супраць праветрыць галаву,— згадзілася Ірына.

Яны пачакалі, пакуль ушчук дождж, выглянула сонца, яшчэ яркае, надта цяпер, пасля дажджу. Ірына апранула шэры, як соль, плашч-паліто, Пятро — чорную югаслаўскую куртку з поясам.

Чыстае паветра глыбока ўдыхалася ў грудзі. Мокры асфальт блішчаў і сляпіў вочы, быццам вялікае

люстра. Плавала ў лужынах барвянае лісце клёнаў, надобнае на лапы гіганцкай гусі. Шырокім прасторам адкрывалася вачам вуліца Максіма Горкага, з правага боку аслоненая гмахам высокага і даўгога дома. Пятро падтрымліваў Ірыну за локаць. Яны ішлі па бардзюрным узвышэнні, што цягнулася — як ганак — паўз увесь дом, тады-сяды перарываючыся прыступкамі. Спыніліся каля аптэкі: за шкляной сцяной на белых пенапластавых падстаўках размясцілася цэлае казачнае царства — работы самадзейнага мастака «Фантазія прыроды». Вушасты Чабурашка, барон Мюнхгаўзен, Лягушка-квакушка...

Пасля захаплення ці насалоды, калі схлынуць пачуцці, звычайна ўспамінаецца нешта сумнае або з сумам думаецца пра тое, што толькі хвіліну назад лічылася ледзь не мяжою шчасця. Мусіць, гэта аналогія таго ж кантрасту: дабро і зло, прыгожае і брыдкае...

— Усё-такі, на жаль, па-сапраўднаму пачынаеш разумець цану маці, калі збіраешся жыць асобна,— сказала маркотна Ірына.— Вось я і спрачаюся і канфліктую з маці... Іншы раз здаецца нават, што яна ледзь не першы мой вораг. А як падумаю...

— Згодзен, дзякуючы маці мы адчуваем сябе неадзінокімі і вынослівымі перад цяжкасцямі. Мне таксама нялёгка думаць, што мая маці там адна, слабая ўжо, без дапамогі. Ёй крыўдна, што я вось тут... не з ёю.

Яны звярнулі да прыпынку. І далей паехалі трамваем. Потым — зноў пехам, да самага дома. Почырк на канверце, які Пятро з хваляваннем узяў з рук Эдзіка, быў незнаёмы — і гэта яшчэ больш здзівіла яго. Ускрыў канверт: запрашэнне на вяселле — у серабрыстай аблямоўцы ружа пад белым вэлюмам. Пятро разгарнуў запрашэнне: «Пётр! Запрашаем Вас на ўрачыстасць, прысвечаную нашаму шлюбу, якая адбудзецца 21 кастрычніка 1979 года у 16.00 па адрасу: Партызанскі праспект, кафэ «Вавёрачка».

Валянціна, Джайлс».

— Вось гэта сюрпрыз дык сюрпрыз!..— усклікнуў радасна Пятро, здзівіўшы Ірыну і Эдзіка.— Джайлс жэніцца!

— З кім? — спакойна спытаў Эдзік.

— З Валянцінаю... Беларуская дзяўчына. Ну і дзіва!..

— Наш век прывучыў мяне ўжо нічаму не здзіўляцца,— зноў спакойна сказаў Эдзік і падпіхнуў пальцам тонкую дужку акуляраў.— Век бурных страсцей і разгулу розуму!

— ...І інтэрнацыяналізацыі пачуццяў,— дабавіла Ірына.

— Такое жыццё,— задуменна сказаў Эдзік,— адны жэняцца, другія разводзяцца... Дарэчы, ты, Пятро, відаць, не ведаеш яшчэ, што я таксама быў жанаты. Ды мой шлюб з тых трох, што заключаюцца, аказаўся нешчаслівым.

— Нават не падазраваў,— здзівіўся Пятро.

— Вось бачыш, як бывае,— жывуць людзі побач і не ведаюць адзін пра аднаго. Была ў мяне жонка...— Эдзік уздыхнуў.— Здаецца, і неблагая дзяўчына, ды не разумела мяне, ніколькі не хацела паступацца сваімі інтарэсамі. «Я не магу,— заявіла,— жыць тваёй навукай, якая адымае ў мяне мужа. Усюды адна — і дома, і ў гасцях, проста на вуліцы... Быццам у мяне і мужа няма. Надакучыла!» І — бац заяву на скасаванне шлюбу. Вось так...

«Мне гэта не пагражае?» — хацеў пажартаваць Пятро, ды стрымаў сябе — падумаў, што цяпер гэта будзе недарэчы. Толькі глянуў на Ірыну. Сказаў:

— Так, разумець адно аднаго трэба... Культура ва ўзаемаадносінах павінна быць, відаць, не толькі на працы, а і паміж мужам і жонкай.

— Правільна, іменна самаахвярнасць, уступкі, дараванне памылак, ад якіх ніхто не застрахаваны, робяць сям'ю трывалай! Гэта вынес я асабіста, са свайго шлюбу, і гэтага шчыра жадаю Джайлсу і Валянціне.

— На вялікі жаль, не давядзецца мне пабыць на гэтым незвычайным вяселлі,— з сумам сказаў Пятро.

— А што такое? Едзеш куды? — і Эдзіку ажно стала няёмка за нястрыманасць: праявіў нетактоўную цікаўнасць. Ды пытанні яго ніколькі не збянтэжылі Пятра, прынамсі, знешне гэта ні на чым не адбілася.

— Не, у нас асабістыя справы... Нявыкрутка,— адказаў Пятро, думаючы ў гэты момант над тым, ці прыстойна будзе, з яго боку, не ісці на вяселле Джайлса: «Шкада, канечне... Але нічога!.. Пашлю

тэлеграму, а там надарыцца выпадак і больш салідна павіншаваць...»

— Усё ясна! — сказаў Эдзік такім тонам, які выразна даваў зразумець, што больш пытанняў не будзе.

## 10

Шарыкавая ручка шпарка бегае па аркушы паперы, скрэмзанай мадэлямі, формуламі... Пятро засяроджаны, і твар ад таго строгі — з-пад броваў амаль не відаць вачэй. Празарэнне блізка, яго цяпло адчуваецца, а святла яшчэ не відаць. Можа, Пятро ўжо і адкрыў бы той загадкавы від мікраарганізмаў, калі б не лезлі назолаю думкі пра Валеру. Іх апошняя сустрэча шмат праясніла. Цяпер, калі знялі з пасады бацьку, Валера стаў нястрыманы і нервовы, з перападамі ў меланхолію; у размове — сячэ з пляча. Канешне ж, і раней Валера ведаў, што Ядвіга Бранiславаўна палюбоўніца яго бацькі, але, бач, маўчаў, толькі цяпер прызнаўся: і то пасля таго, як Пятро цвёрда, бескампрамісна заявіў, што яны, круці не круці, будуць аддаляцца ўсё больш і больш адзін ад аднаго (і не толькі таму, што, як думалася перш, розняцца сямейным становішчам), а потым, можа, у нейкі час разыдуцца назаўсёды, як разыходзяцца лёд і бераг, у кожнага з якіх свая непазбежнасць. I наогул, уся гэта Валерава мудрасць налётная, наносная, як глей на тым жа беразе веснавога Сожа — здрадлівы: стаў і пакаўзнуўся.

Добранькая цаца, выходзіць, і Ядвіга Бранiславаўна; у Пятра ў вачах стаялі белыя басаножкі на высокай шпільцы, а ў вушах — тая начная спрэчка, калі Сідар Пятровіч дакараў жонку,— тады Пятро нічога не зразумеў.

Але, як кажуць у народзе, добра тое, што дабром канчаецца. Пятро — якое шчасце! — жыве асобна, сваёй сям'ёю. Сціпла, канешне, жыве, затое на душы лёгка,— у яго ніколі не было зайздрасці ні да грошай, ні да гучнай славы. Тое, што наканавана, лічыў, нідзе не дзенецца, рана ці позна прыйдзе; сумленне — гэта, перш-наперш, сціпласць, ва ўсім.

Задумаўшыся, Пятро не пачуў, калі да яго пады-

шла Роза Катовіч і, паклаўшы белую руку з брыльянтавым пярсцёнкам на край стала, ціха прашаптала: «Чаранок, да тэлефона». Пятро ўзяў трубку: званіў Толік Маруткін, зямляк. Пятро абрадаваўся яму, як лепшаму сябру. А Толік, адчувалася, не ў гуморы — сухім, нейкім надтрэснутым голасам прапанаваў сустрэцца. Пятро сказаў, што яму цяпер не выпадае — праз паўгадзіны будзе выступаць на камсамольскім сходзе як адказны за вытворчы сектар. Дамовіліся: Толік дачакаецца канца сходу. Пятро, сустрэўшыся з позіркам вялікіх цёмных вачэй Розы Катовіч, падзякаваў ёй за паслугу і яшчэ нейкі момант стаяў ля тэлефона, асэнсоўваў нечаканы званок. «Навошта спатрэбіўся?» — стаяла ў думках пытанне, і сярод мноства невыразных адказаў адзін здаваўся больш пэўным — Маруткін звяртаецца да яго па нейкую параду. Вось толькі па якую?

...Толік Маруткін, у светлым плашчы, без шапкі, чакаў яго ля клумбы, счарнелай цяпер, па восені, і абгароджанай нізкім зялёным парканчыкам, шпілі якога напаміналі мініяцюрную сцяну лесу. Да нагі Толіка быў прыхінуты чорны «дыпламат». Пятру дзіўна было бачыць Толіка сур'ёзным — Толік не смяяўся, і нават вочы не таілі ў сабе праблёскі ўсмешкі; хіба адно тонкія маршчынкі ля вачэй ды на лбе маглі пасведчыць, што Толік часта і заўзята смяецца. Яны парукаліся, і Пятро чакаў, што скажа Толік, ды той марудзіў — было відаць: думае.

— Праўду казалі ці не, што Сідар Пятровіч Рашчоў — твой цесць? — Толік глядзеў на выпуклыя мысы сваіх туфляў.

— Так, бываюць на свеце дзівосы...— Пятро яшчэ хацеў нешта сказаць, ды толькі невыразна прамармытаў.

Яны спыніліся на прыпынку — пад навесчыкам, складзеным з сілікатнай цэглы і абліцаваным знутры чырвонай пліткай. Маўчалі, пераадольваючы ніякаватасць, што раптам завалодала імі.

— Я тут прыхапіў з сабой бутэлечку каньяку і тое-сёе з закусі,— нарэшце сказаў Толік.— Давай — за сустрэчу?

— Няйнакш, тут? — усміхнуўся Пятро.

— А што? — здзіўленне слізганула ў Толікавых вачах.— Людзей жа няма. Раз-два — і...

— Аднак жартаўнік з цябе!

— Тады паехалі ў горад. Куды-небудзь у парк забяромся.

— Ты, бачу, яўна прагнеш мець прывод у міліцыю.

— Які прывод! А дзе ж вып'еш?

— Распіваць спіртныя напіткі ў грамадскіх месцах не дазволена.

— Ды я разумею! — Толік зморшчыў лоб.— Што ж рабіць? Ехаць да мяне? Чужыя людзі...

— Калі ты ўжо так хочаш адзначыць нашу сустрэчу, то вунь лес. Далекавата, але нічога... затое — прырода, цішыня. Я ўжо забыў, як пахне зямля, чыстая, прэсная зямля...

Разагнутай падковай лес шырока наступаў на горад, сплываючы зеленавата-рудымі канцамі з пакатага схілу, і вабіў да сябе. Няпэўнае і стракатае ад белых пралысін, вісела над ім неба.

Лес сустрэў іх нейкім таямніча-журботным гулам. Шасцела апушанымі стужкападобнымі лістамі асакадуброўка. Асіны стаялі голыя, з нязграбна перапляценымі галінамі. На бярозах яшчэ жаўцела там-сям лісце; яно адрывалася і падала, лёгка кружачыся ў паветры. Пятро глянуў угару — на бярозу,— здалося, чуваць было, як крохае ножка лістка перад тым, як надламацца. «Восень...» — з сумам падумаў ён.

Яны аблюбавалі купіну, што спадала адным бокам у акоп, зараслы папараццю, якая яшчэ не страціла зялёны колер, і бурым, бы поўсць лася, верасам. Толік паставіў на сасновы пень «дыпламат», пстрыкнуў зашчапкамі; парэзаў сцізорыкам каўбасу, хлеб. На скрыль каўбасы села кузурка з чырвонымі крылцамі, закратала даўгенькімі, як ніткі, вусікамі.

— Лістаед,— Пятро ўзяў кузурку на далонь.— Аслабеў, бедалага. Пара на зімоўку...— Даў перапаўзці лістаеду на сцяблінку верасу.

— Ну, давай! — скамандаваў Толік.

Ад паху смалы і каньяку прыемна кружылася ў галаве.

— Дык справы мае, значыць, такія,— сказаў Толік, тыцкаючы сцізорыкам у тонкі скрыль каўбасы.

— А-а, ну-ну!..— падахвоціў Пятро.

— Хваліцца, Пятро, няма чым. Каб не цягнуць ката за хвост, скажу адразу: хачу, каб ты мне памог.

— У чым? — хуценька спытаў Пятро, як бы спа-

лохаўшыся, што не зможа адгукнуцца на просьбу Толіка.

— Неяк трэба ўладкавацца ў інстытут мікрабіялогіі.— Толік нарэшце начапіў на лязо скрыль каўбасы, паднёс да рота.

Пятро засмяяўся.

— Ты і замахнуўся, браце!.. Але пры чым тут я?

— А цесць? Праз яго...

Паветра ў лесе пагусцела ўжо, і задуменне лягло на твар Пятра змрочным адбіткам. Прахрыпеў недзе зусім блізка крумкач — толькі адзін раз, мусіць, праляцеў над галовамі. Пятро сцепануў плячыма, захінуўся шчыльней у куртку; чамусьці ўспомніўся грак, які кляваў на сметніку хлеб.

— Некалі і я быў у тваёй шкуры, але ад помачы адмовіўся...— Пятро задумаўся. Сапраўды, нялёгка было яму тады, пасля размеркавання, але... Але ён не пайшоў на кампраміс. Бо ведаў — будзе пакутаваць, насіць у душы віну, незразумела перад кім — перад сабой? людзьмі? Пастаянна адчуваць віну, хай нязнаную, зусім нязначную,— гэта страшна.

Ён зацята глядзеў на чорныя ствалы асін і такія ж чорныя, няздрабныя галіны, у якіх заблыталася цемра, і адчуваў, што злосць на Маруткіна распірае яму грудзі.

— А ўсё-такі, можа?..— памаўчаўшы, сказаў Толік.— Я ж не так проста — аддзячу...

— Што?! — Пятро рэзка падняўся, хапіў Толіка загрудкі, аж затрашчалі ў плашчы гузікі.— Ты што — купляць мяне задумаў?.. Можа, і гэты каньяк — не што іншае, як плата наперад? Дык памыліўся адрасам! — Пятро адштурхнуў ад сябе Толіка.

— Ды ну, ты што, Пятро! Я па-зямляцку, за сустрэчу...

— Таксама мне — «аддзячу»! — не сунімаўся Пятро, сціскаючы ў кішэнях курткі кулакі.

— Пятро, супакойся... От ляпнуў я, не падумаўшы. Захмялеў...

— То спярша думай, а тады гавары,— ад узбуджэння ў Пятра шугала ў вушах кроў. Ён зняў з галавы капялюшык.

— Прабач...— Толік грабянуў рукою па валасах — між пальцаў засталося некалькі сасновых шыпулін.— Я лічыў, ты больш спакойны... А ты — гарачы.

— Дзе тут не закіпіш, калі чуеш лухту,— з крыўдай у голасе прамовіў Пятро.

Яны доўга сядзелі і маўчалі, як чужыя пакрыўджаныя людзі. Пятро ўздыхаў. Бутэлька стаяла на пні, чорная ніжняй палавінай. З усіх бакоў атульвала халодная цемра, студзіла шчокі і шыю.

— Пайшлі? — безжыццёвым голасам сказаў Толік. Пятро падняў галаву, і ў яго вачах Толік убачыў незразумелую ўзрушанасць.

## 11

Пятро атрымаў ад маці пісьмо — адзіная нітачка, якая тады-сяды звязвала яго з домам. Тымі ж нязграбнымі, няроўнымі літарамі, што і заўсёды, маці пісала:

«Сынок, прашу цябе, каб ты прыехаў дахаты. Трэба мне з табой парадзіцца. Каб табе не было там думна, дык я скажу, што тута ў мяне такое. Ты ўжо ў мяне дарослы і разбіраешся ва ўсім. Гэта сватаецца да мяне ў хазяіны адзін мужчына, ён удавец, з Бакунавіч... жонка яго гады тры як памерла ад рака. Ты, можа, ведаеш з Поліпня Савося аднарукага, дык гэта яго браценнік. Мужчына такі яшчэ не стары, майстра вельмі. Ён усё тут робіць — і дзежкі, і бочкі, шкуры вырабляе, і гэтыя во прыклады на ружжы... Не п'яніца мужчына, як другія, што шукаюць сабе баб, прыстанішча. Я б нічога такога не талкавала, каб не жыць. А то ж во трэба неяк жыць, а сілы той... дзе яна ўжо, тая сіла ў мяне! А ўсё во ламаецца, крышыцца... І плот, і пуня, і сядзібу не магу ўжо адна ўпарадачыць... І вады без каромысла хаджу. Ты ўжо, я паглядзела, адрэзаны кавалачак, не мой, мне не паможаш... Дык прыедзь, сынок, мы і пагаворым тута... Твая мама».

Пятру, чытаючы, хацелася і плакаць, і смяяцца. Маці сабралася замуж! Хто б сказаў — не паверыў бы, а то ж сама напісала. «Трэба неяк жыць...» Так, хто ведае, калі тая смерць, а пакуль яе няма — трэба жыць. Трэба шукаць у жыцці радасць і суцяшэнне. Трывалы на зямлі чалавек, і нават тады, калі жыццё, здаецца, пражыта, ён чапляецца за яго і думае, як жыць.

«Маці, маці...— думаў Пятро.— Ты просіш у мяне

парады... Ты баішся, каб нейкі твой крок не адбіўся кепска на мне. І ты адразу ж, не задумваючыся, адмовішся ад усяго, што мне не спадабаецца або чаго мне не захочацца. Ну чаму мы, дзеці, заўсёды позна пачынаем думаць пра гэтую самаахвярнасць сваіх мацярок?..»

Пятро пераказаў пісьмо Ірыне.

— Канечне, ёй цяжка адной,— сказала Ірына. Апошнія ночы яна добра, не ўздрыгваючы і не прахопліваючыся, спала і цяпер някепска выглядала: выразныя вочы, чыстая, пяшчотная скура на шчоках, вільготныя вусны.— Яе можна зразумець.

— Я наогул іншы раз дзіўлюся, як гэтыя вясковыя кабеты вытрымліваюць такі фізічны цяжар, адкуль у іх такая вынослівасць! — сказаў Пятро, узбадзёраны тым, што Ірына шчыра паспачувала маці.

— О, гэта ідэя! — раптам усклікнула Ірына.— Стоп-стоп!

На твар Ірыны раптам выплеснулася такая радасць, што ажно заінтрыгавала Пятра, і ён не стрымаўся, прыспешыў жонку:

— Якая, гавары?

— А чаму б і не? — як быццам размаўляла з сабой Ірына.— Па-мойму, зусім верагодна!

— Ты, жонка, мяне раздражняеш! — прытворна пакрыўдзіўся Пятро і адвярнуўся: прымацаваная да дзвярэй, над парогам, і тут вісела падкова.

— А што? Давай забяром маці да сябе ў Мінск.

Пятро засмяяўся, крануўся пальцамі падковы.

— Прачытала ты мае думкі, але... Але, як я думаю, для яе верагодней у космас злятаць, чым пераехаць сюды жыць.

Дом, у якім яны цяпер жылі, зняўшы аднапакаёвую кватэру, стаяў глыбока ў двары, абкружаны ліпкамі і клёнамі, а далей — гмахамі новых высотных будынін. І ад гэтага дома было зусім недалёка да той вуліцы, дзе быў інтэрнат,— і гэта Пятра радавала; ён паспеў ужо схадзіць да каштанаў. Яго каштан падужэў, набраў у лісце зелені і мала розніўся ад астатніх — гэтак жа радасна трымцеў ад ветру. Пятро хадзіў разам з Джульеткай, і яна таксама палівала каштан з сіняга цацачнага вядзерца; потым бегала, кружылася ля ствалоў каштанаў.

— Так ужо! Што ёй там, адной...— сказала Ірына.

— Добра было б, калі б згадзілася,— хоць бы аднячыла пад старасць...

— І нам будзе дапамога... Хутка клопату прыбавіцца,— Ірына паглядзела на свой жывот.— Так што паедзеш і пагаворыш. І ніякі не трэба будзе ёй «хазяін».

А мо і праўда згодзіцца? — засумняваўся Пятро. Чаму ўжо ён так упэўнены? Якраз гэта той варыянт, пра які маці, перабраўшы ўсе астатнія, нават і блізка не падумала. І «хазяін» для яе — гэта апошняе, на што яна пайшла, каб «неяк жыць». А колькі вунь бабулек, відаць — вясковых, сядзіць на лаўках з унукамі. Кідаюць жа вёску во і на старасці.

— Добра, скажу ёй і пагляджу, як яна успрыме,— сказаў Пятро і чамусьці засаромеўся.

...Два дні сцябалі дажджы. Потым нечакана прыпяклі маразы, і зямля, дасюль глухая і мяккая, зазвінела пад нагамі як бубен. Пасляабеддзем на яе ціха і радасна лёг першы снег. Цнатліва-чысты, ён адбіраў вочы да самага вечара, потым, блакітны ў святле неонавых ліхтароў, іскрыўся мільёнамі зялёных і сініх бліскавак; выразныя, ляжалі цені — як маляўнічыя адбіткі горада.

Пятру ўжо верылася, што восень саступіла зіме. А ўранку, выйшаўшы з дома, ён здзівіўся: бязмежная пашча густой цемрай дыхнула на яго халоднымі кроплямі дажджу і тугім, пранізлівым ветрам; сырасць абкруціла яго ўсяго, як прыкрай, забруджанай воўнаю. Ён пахіснуўся, крануўшыся рукой асфальту,— ледзь не ўпаў: пад нагамі быў лёд. Падэшвы слізгалі, і ногі зрабіліся непаслухмянымі. Воддаль дома, дзе панура звесілі галовы ліхтары, блішчалі лужыны, пакляваныя кроплямі дажджу, як твар чалавека воспай. Ён ішоў, а зямля хіталася ў яго пад нагамі. Лёд выпучваўся чорнымі гарбякамі. Пятро хапаўся вольнай левай рукой — у правай быў саквояж — за галіны невыразных у цемнаце дрэў, ды яно, слізкае, зыбкае, мала памагала яму.

Ну і выбраўся!.. Начакаў, называецца, момант. Пятро сцінаўся ад холаду, хоць і быў у паліто,— дрыжыкі праймалі з ног да галавы, і толькі адна мясцінка, здавалася, грэла — ля грудзей, дзе ў спод-

5 Зак .4265

няй кішэні пінжака ляжаў білет дамоў — на аўтобус.

Пятро хваляваўся. І не толькі таму, што наперадзе была няпростая размова з маці. Ён ехаў туды, куды без хвалявання ніколі не ездзіў. І толькі цяпер быў упэўнены абсалютна, што туды, дзе маці — у вёску,— звароту няма і застаецца адно — забіраць да сябе маці.

Ён спалохаўся гэтай нечакана смелай і неверагоднай думкі. А раптам маці сапраўды адважыцца пакінуць вёску? І ўсё. Вёска — гэты ясны і цёплы свет у душы — прападзе беззваротна, застанецца ў мінулым, як за сцяною. Гэта ўжо — пэўна, як пэўна і тое, што ў Малінаўку, дзе не будзе маці, ён ніколі не паедзе. Як уявіць сабе зараз такое? Немагчыма. Нават страшна. Уяўляць нерэальнае — значыць вар'яцець...

Ледзяныя пругкія кроплі білі яму ў твар бязлітасна і дружна. Вада, трапляючы ў вочы, скажала навакольны свет — пачварна крывіліся дамы, ненатуральна мяккімі, бы марскія водарасці, здаваліся дрэвы, і блыталася ў іх залацістым роем палахлівае, ірванае святло ліхтароў. Ды арыенцір у Пятра ўжо быў — высока ў каламутнай цемры свяціліся вялікія зялёныя літары: АЎТАВАКЗАЛ.

# ПАХІ АДТАЛАЙ ЗЯМЛІ

Аўруцін пайшоў напрасткі — малаходжанай дарожкаю, што вяла паўз гаманлівы, надта цяпер, па вясне, дзетсад, абмінала будынак пральні, заўсёды пануры і сыры, а ў мароз — бухмата аб'інелы; далей пераход праз арку і — вуліца, з тралейбусамі, аўтобусамі, стаянкай таксі. У твар свяціла сонца. Брудны снег на дарожцы падтаў — над ім вісела крохкая празрыстая скарынка і прыемна хрупала пад нагамі.

Вуліца была абсаджана ліпамі з высокімі шарападобнымі кронамі, якія лупата і неяк пуста глядзелі ва ўсе бакі круглымі жоўтымі вачыма,— нядаўна зелянгасаўцы паабрэзвалі сукі і ніжнія галіны. Аўруцін спыніўся — здалося, угары нехта тоненька свіснуў — паманіў яго. На ліпе, пачарнелай з сонечнага боку, сядзела сінічка і, неспакойна патрэсваючы хвастом, ціўкала.

«Цяпло пачула»,— падумаў Аўруцін і ўсміхнуўся — ад наіўнасці, што сінічка падзяляе з ім радасць, непаўторную і незразумелую, якая нечакана прыліла ў душу. Прыліла і прынесла адчуванне, быццам ён стаў іншым — больш любіць жыццё, сваё, якім жыве, і тое, што яшчэ наперадзе, любіць сам горад — шумны, мітуслівы — з раніцы ў мяккай, пяшчотнай смузе, а к вечару нейкі выстылы і прыглушаны густым святлом ліхтароў ды рэклам з вітрынамі.

Падышоў аўтобус — перапоўнены, ледзь адчыніліся дзверы. Людзі, што стаялі на прыпынку, гуртам

падаліся да яго, адцясняючы Аўруціна. «Хай едуць, калі пільна трэба,— падумаў ён.— А мне не к спеху. Пачакаю наступны...»

Аўруцін адступіўся ад асфальту — да лавы, паставіў сакваяж. Хацеў сесці сам, ды пабаяўся запэцкаць новы светла-карычневы плашч.

З сённяшняга дня Аўруцін ідзе ў адпачынак. Трохі неспадзявана выйшла. Новы інжынер, якога ўзялі на працу чатыры месяцы назад, белавалосая і чарнавокая рагатушка Тоня, наўздзіў усім, прынесла паперу, што ёй належыць дэкрэтны водпуск. І загадчык лабараторыі — «каб не парушаць працоўны рытм нават летам» — прапанаваў Аўруціну, як халасцяку, перанесці свой адпачынак са жніўня на красавік. Аўруцін згадзіўся, бо яму, па сутнасці, было ўсё роўна, калі ісці ў адпачынак,— жнівень ён выбраў па студэнцкай звычцы.

Аўруцін дастаў з сакваяжа кніжку — аповесці і апавяданні Буніна — і стаў чытаць. Але сэнс таго, што чытаў, даходзіў слаба: Аўруцін раз-пораз касіўся на дарогу, ці набліжаецца аўтобус, ды яшчэ неспакой, што турбаваў сэрца радасцю і салодкім ныццём, прымушаў услухоўвацца ў сябе, думаць. А чалавек, які пастаянна думае, пераносіць шмат душэўных пакут, бо пражывае як бы не адно жыццё, а некалькі яго варыянтаў, хай сабе і створаных уяўленнем.

Сапраўды, адкуль гэтыя замілаванасць і лагода? Няўжо ў яго ўсё добра і больш нічога не трэба ад жыцця? Смех! Калі б яно так і было на самай справе, то гэта — толькі самазаспакаенне, ілюзія, не больш. Бо чалавек — як маленькая лодачка ў бурлівым акіяне жыцця: пераадолеўшы хвалю, якая здавалася апошняй перашкодай да мэты, немінуча натыкаецца на новыя і новыя хвалі...

Вялізным жоўтым бруском праплыў перад вачыма «Ікарус». Аўруцін схамянуўся, соваючы ў сакваяж кніжку...

...Кабінет быў зачынены — значыць, Паласкаў яшчэ не прыйшоў, ён заўсёды спазняецца: кажа, што нязручна дабірацца. Аўруцін дастаў з кішэні ключ з бірулькай «Алімпійскі мішка» і адамкнуў дзверы. Далей паўтарыў тыя рухі, што і кожны дзень,— вось ужо пяты год: распрануўся, павесіў у шафцы плашч, перад цёмна-вішнёвымі лакіраванымі дзверцамі пры-

часаўся і сеў за стол; з верхняй шуфлядкі выняў пухлую папку з незавязанымі матузкамі... І — адступіўся ад завядзёнкі: не схіліўся задуменны над паперамі, пакручваючы ў пальцах просты аловак, а падпёр левай далонню шчаку. Настрой і думкі, што ўзніклі дарогаю ды на прыпынку, не пакідалі яго, а знарок прыглушаць іх ён не збіраўся: адчуваў лёгкае ўнутранае трымценне — прыкмету радасці і добрых надзей. А хто калі, скажыце, пазбаўляў сябе радасці, якую прыносіць адчуванне сваёй паўнацэннасці і неабходнасці ў гэтым свеце? Настрой улавіць і выразна акрэсліць — няпроста, а вось думкі... Гэта — больш рэальнае, тое, што можна запісаць або выказаць.

Жыццё — тыя ж хвалі, якія паднімаюць чалавека на вышыню, каб было відаць, што ёсць на свеце шчасце, і апускаюць — каб чалавек не забываўся, што шчасце лёгка не даецца... Некалі, пасля школы, было адно жаданне: паступіць ва універсітэт — і больш нічога. Паступіў. І зноў толькі адна турбота — добра размеркавацца. Пашанцавала — пакінулі ў Мінску. Вось бы сваё жыллё, і ўсё. Далі пакой у інтэрнаце. Цяпер новы адзіны клопат — кандыдацкая. І вось так, паступова, чалавек набліжаецца да таго, на што ён здольны і што можа скарыць сілаю свайго розуму. А яшчэ — Валя...

Цёплымі, ласкавымі гукамі выплылі з падсвядомасці словы: «Колечка, зайка, не ўяўляю, як буду гэтыя паўмесяца без цябе...» І Аўруціну ўжо ні пра што не хочацца думаць, а толькі пра яе, сваю блакітнавокую Валю, з якой разлучыла камандзіроўка. Больш тыдня назад, на пероне вакзала... Падаў наўскасы мокры снег, ліп да твару і размываў у Валі на вейках туш, якую яна сцірала ў бакі кончыкамі пальцаў. А яму, Аўруціну, тады здавалася, што гэта не ад снегу мокра ў Валі пад вачыма, а ад слёз. Хай бы лепш так. Бо слёзы — ці то жаночыя, ці то мужчынскія — ён лічыў меркай глыбіні і шчырасці кахання. Таму, расчульваючыся, у душы ён ганарыўся, што з-за яго, трыццацігадовага Аўруціна, пакутуе зусім маладая дзяўчына, учарашняя студэнтка — малавопытная і наіўная перад жыццём.

Раптам па вачах Аўруціна кораценька секанула раз, другі сонечнае святло, потым зусім засляпіла вочы. Ён прыжмурыўся, засланяючыся рукой, і ўсміх-

нуўся, натуральна і шырока,— той усмешкай, якой можна смяяцца толькі ад шчырых пачуццяў. «Антошка!» — Аўруцін ступіў да акна.

Ля газетнага кіёска стаяў малы з ранцам за плячыма і, шукаючы люстэркам сонечнае святло, пускаў яму ў акно зайчыкі. «Прывітанне!» — Аўруцін падняў руку. Антошка засмяяўся, схаваў у кішэню шэрага расхлістанага плашчыка асколачак люстэрка і ўтаропіўся на Аўруціна: «Што ён спытае?» Аўруцін сашчапіў рукі крыж-накрыж і трасянуў перад сабой: «Ну як, добра?» — «Во!» — Антошка шырока распасцёр пальцы правай рукі. «Малайчына! — Аўруцін, адставіўшы вялікі палец, тыцнуў кулаком перад сабой.— Так трымаць!» Антошка зразумеў, што сёння Мікалай Пятровіч «добры» і з ім можна даўжэй пазабаўляцца. Але вось Мікалай Пятровіч адвярнуўся ад акна, потым памахаў яму рукой і знік.

Прыйшоў Паласкаў, у клятчастым дэмісезонным паліто і зімовай шапцы.

— Прывітанне, Мікалай Пятровіч! Бачу, ты сёння ў чамаданным настроі?

— З сябрам сваім размаўляю.

— А-а, з малым! Як гэта вы сышліся? — Паласкаў, ружоватвары, свежы, акуратна прылізваў расчоскаю, потым далонню густыя чорныя валасы.

— Ды ўзімку яшчэ. Чую дзіцячыя крыкі, глядзь у акно — а бальшуны ў малога снежкамі кідаюць. Ён засланяецца партфельчыкам, не плача, а яшчэ тады-сяды і адпор дае. Дык я выскачыў і выручыў малога — абрушыў на бальшуноў цяжкую артылерыю. Вось і пасябравалі...

— І хочацца ж табе з ім цацкацца? — Паласкаў разглядаў сябе ў паліроўцы стала, нацягваючы пальцамі скуру то на адной шчацэ, то на другой.

— А што? Добры хлопец расце, вучыцца выдатна, настойлівы... І, бачыш, не забывае маю ласку. Прыемна, скажу табе, мець нешта да чалавека, які потым становіцца... ну, вядомым, славутым. Не так хіба?

— Ну, аб гэтым калі-небудзь іншым разам! Ты мне скажы лепш, дзе адпачынак замочваць будзеш? — Паласкаў не любіў абачлівых думак — тое, што нараджалася ў галаве, тут жа злятала з языка.

— Як мувіць наш стажор паляк Казімеж, дзе пан хцэ. Ты, помню, атрымаўшы свае першыя грошы, за-

робленыя сумленнай працай,— у словах Аўруціна прагучала іронія,— прадаставіў мне права выбару — помніш? — «любога кабака».

— Было, не аднімеш. Ну дык вось — «Рамонак»!

— Што застаецца — тым больш калі супадаюць думкі? Адно — чакаць канца работы.

...Кафэ «Рамонак» было шумнае: у ім збіралася пераважна студэнцкая моладзь — выпіць кавы ці кактэйлю. А студэнты, як вядома, ніколі не вылучаліся спакоем ці нейкай там самавітасцю. Яны — вясёлыя, незалежна-расхлябаныя ў паводзінах, і ў гэтым іх спрадвечная адмета. У шуме ды гаме, калі кожны заняты сваёй кампаніяй, можна дазволіць сабе ажыўленую, вольную размову, не думаючы, што перашкодзіш ёю астатнім. Гэта акалічнасць тады-сяды збірала ў «Рамонку» і дзелавых, сур'ёзных людзей.

Па вінтавой лесвіцы Аўруцін і Паласкаў падняліся на другі паверх, сталі ў шматногую джынсавую чаргу да касы.

— А дзе ты, Мікалай Пятровіч, мяркуеш правесці свае вольныя дзянёчкі? — калі ўзялі па кактэйлю і селі за стол, спытаў Паласкаў.

— Ведаеш, не паспеў і падумаць,— адказаў Аўруцін, боўтаючы саломінкай у шклянцы.

— Не кажы ты, лоўка нас Тонечка!..

— А што ёй заставалася рабіць? Урэшце, не нашых галоў справа. Лепш парай, дзе можна набрацца сілы і бадзёрасці для штурму новых бастыёнаў навукі хіміі,— Аўруцін у лёгкім хмелю заўсёды гаварыў патэтычна — знарок, крыўляўся.

— Едзь да бацькоў у вёску — лепшага адпачынку не прыдумаеш. Мышцы разамнеш, свежае паветра...

— Па шчырасці сказаць, не цягне...— Аўруцін цмактануў з саломінкі — і было відаць, як асела ў шклянцы мутна-жоўтая вадкасць.

— Што? — вочы ў Паласкава, рудаватыя, з вострымі зрэнкамі, расшырыліся.— У вёску не цягне?.. А я, здаецца, паляцеў бы туды на крылах! Ты што?

— Нічога,— спакойна сказаў Аўруцін і ўхмыльнуўся, ківаючы галавою.— Пажыві столькі гадоў у Мінску, колькі я,— тады скажаш...

— Мне здаецца, наадварот — з часам нуда расце...

— Памыляешся. Вот скажы, хацелася табе размяркоўвацца на перыферыю?

— Наогул-такі не.

— О, гэта ўжо сімптом!

— Цяжка згадзіцца. І ўсё-такі, каб па-сапраўднаму адпачыць, трэба памяняць абставіны.

— Давядзецца... А то зусім забыў сваіх продкаў. Ды во кепска, што Валя ў камандзіроўцы... От, гэта ж я білеты ўзяў на джазаркестр Алега Лундстрэма!.. Мо ты сходзіш?

— А чаму б і не? Давай, калі бясплатна...— усміхнуўся.— Прыедзеш — раскажу.

— Значыць, да бацькоў? — Аўруцін шукаў у партманеце білеты.

— Канечне! Не сумнявайся нават!.. Хоць сумку сала прывязеш.

Аўруцін раздумваў, але цяпер ужо не пра тое, куды яму ехаць у адпачынак,— успомніўшы Валю, ён адчуў, як заварушылася на душы туга. Ён паедзе на месяц, не развітаўшыся, не пабачыўшы Валі... Хіба такое магчыма? Тут і падумаць можна пра што хочаш — пра здраду, раўнадушша, расчараванне... Іх, такіх думак, трэба баяцца як агню, бо, як сказаў Талстой, «думкі — пачатак учынкаў...».

— Я бачу,— крануў Аўруціна за локаць Паласкаў,— табе зараз не да мяне. Давай адчальваць.

— Ага... трэба ісці...— Аўруцін разгублена глядзеў на Паласкава.

Унізе, апрануўшыся, яны развіталіся, кожны пайшоў сваёй дарогаю, у розныя бакі.

«Заўтра еду,— рашыў Аўруцін.— Раніцой...»

Лёгкае сутонне спадала на горад. Яснымі, выразнымі лініямі вырысоўваліся ў небе высокія будынкі. Залаціста-жоўтым конусам уразалася ў сінь царква, хаваючы ў сабе таямнічасць і ціхую журбу. І раптам — музыка! — паплыла роўна, мякка, як бы разгойдваючы і расшыраючы душу; Аўруцін глянуў на дом, абліцаваны знізу мармурам, на расчыненае акно — і перад вачыма на імгненне калыхнулася доўгавалосая чацвёрка музыкантаў з ансамбля «АББА», якую ён бачыў на рэкламным плакаце ў пакойчыку Валі.

«Думкі — пачатак учынкаў...» — Аўруцін зайшоў у тэлефонную будку, пафарбаваную ў шэра-сталёвы колер. Набраў нумар.

— Алё! Гэта Марыя Віктараўна? Добры вечар! Турбуе вас Мікалай. Я тэрмінова іду ў адпачынак, дык перадайце, калі ласка, Валянціне, што я потым пазваню ёй. Добра? Ну, дзякуй вам!..

Ноччу Аўруціну прысніўся сон. Нібыта яны з бацькам на лузе. Пад нагамі халоднымі іскрынкамі блішчыць раса. Тонкі водар разлівае мята... Хвацка ўзмахнуў ён вострай пявучай касой, лёгка правёў па густым, як мох, мурагу — але мурог не сабраўся, збіты, леваруч, а прыгнуўся, бы пад нагою верас, калі шукаеш у ім грыбоў. Дрыжыкі прайшлі ў яго па целе, яшчэ раз скоранька адвёў ён убок касу — і зноў тое ж самае...

Усхапіўшыся, Аўруцін доўга сядзеў на ложку, кудлаціў валасы і ўздыхаў, бяздумна гледзячы на пано, што вісела перад ім на сцяне: рыцар, у даспехах і з мячом, развітваецца з пышнакосай нявестай — яна паклала на ягоныя грудзі галаву; побач, нецярпліва падагнуўшы тонкую нагу, стрыжэ вушамі прыгожы конь у залацістай збруі.

...Аўруцін выйшаў з аўтобуса. Ціха шапталіся сосны, акурат запрашалі да роздуму ці, можа, закалыхвалі душу лагодаю і спакоем, якіх так мала цяпер у свеце, сярод людзей. Аўруцін быў у тым няпэўным стане, калі цяжка разабрацца: ці то радасць змяніла сум, ці то сум — радасць. Ён перайшоў асфальт і кінуў кароткі пагляд на дарогу, што вяла ў вёску: дзве глыбокія вілюжыны-каляіны былі расквашаны трактарамі ды машынамі. Збоч, у спадзінах, бялеўся рванымі шматамі крупчасты снег.

Пакуль Аўруцін дапяў хаты, абляпаў штаны да самых каленяў, у туфлях чуў нагамі макрату.

— Авой-ечкі!..— маці, убачыўшы на двары сына, знерухомела на ганку і выпусціла з рукі міску, у якой давала курам, што цеснай бела-рудой купкаю таўкліся ля пуні.— І нам нічога не пераказаў...

— У адпачынак я... Добры дзень, маці!..— падаў руку, адчуў мацерыну, сухую і цёплую.

— На цэлы месяц?.. А бацька ў бальніцы,— ска-

зала маці, мусіць, усё яшчэ не верачы, што перад ёй сын.

— Што з ім?..

— Ну, спіна ж у яго... Заўсёды круціць вясной, кажа, ад ранення... У той дзень, як паранілі, так і пачынаецца боль...

— Я ўчора сніў яго.

— Во, божа!.. Ну, а як жа ты?

— Добра мне. Працую, вясялюся!..

— Мо і піць тама навучыўся? Не трэба...

Аўруцін усміхнуўся — ведаў, яшчэ адно — балючае — пытанне непакоіць маці: «А жаніцца не думаеш?..» — але апошнім часам, ужо гады два, яна моўчкі абыходзіць яго. «А вот цяпер магла б і спытаць»,— падумаў радасна Аўруцін.

— Няма за што піць. Грошы на вяселле збіраю,— сказаў ён, не зводзячы вачэй з маці.

— Праўда, сынку?..— маці паднесла да вуснаў дрыготкія патрэсканыя пальцы — і раптам замітусілася.— Ну, заходзь жа ў хату! Распранайся. Маіць, галодны? Я зараз. Ідзі, ідзі, а то нешта як у чужых...

Маці збірала на стол, а ён, Аўруцін, седзячы на высокай вясковай табурэтцы, назіраў за ёю. Маці ставіла талерку і прыгаворвала — тлумачыла, што ў ёй: «Во ета рыжыкі салёныя, такія цвёрдзенькія, як храсткі...» Калі стол быў застаўлены талеркамі ды міскамі — з халоднай і гарачай ядою,— маці, спыніўшы на сыне ўсмешліва-цікаўныя вочы, сказала:

— Ну госць жа!.. Як тута не пачаставаць...— Яна нагнулася — і Аўруцін убачыў, як павастрэла ў маці спіна,— адчыніла суднік і дастала з яго бутэльку гарэлкі. Трымаючы за рыльца, ледзь знайшла між талерак месца, куды яе паставіць.

— Дык за прыезд? — Аўруцін адкаркаваў бутэльку, наліў у дзве чаркі — сабе і маці, маці — няпоўную. Яны чокнуліся — і выпілі. І маці выпіла больш, чымся звычайна, амаль паўчаркі — раней, як помніцца, толькі прыгублівала. Шчокі яе неўзабаве злёгку пачырванелі, а вочы заблішчалі, ясныя і маладыя.

— А хто ж яна?..— асцярожна спытала маці.

— Мінская, з Мінска.

Маці доўга маўчала.

— Гарадская... Цяпер рэдка прыязджаеш, а жэнішся... Маіць, і есці варыць не ўмее?

— Навучым! — бадзёра адказаў Аўруцін.

Маці сядзела задуменная. Потым спахапілася:

— Дзе табе сцяліць?.. У хаце ці на верандзе?

— У хаце.

— Ты ж любіў на верандзе, свежа там...

— Любіў некалі...

— Ну хай сабе ў хаце. А то і праўда, яшчэ застудзішся.

Ложак стаяў ля акна, завешанага кароткай фіранкай і паверх — цюлем. Аўруцін, вольна раскінуўшыся, колькі часу бачыў неба, яго зорны прастор — спакойна-велічны і мудры, як чалавечая памяць. Потым — вочы мякка стуліліся цемрай, а свядомасць, чапляючыся за думкі пра Валю, прыемна і лёгка правaліла яго ў забыццё.

Прайшлі чатыры дні, аднолькава сонечныя і вільготна-ціхія, а для Аўруціна — сумныя і пустыя. Маці, падняўшыся ні свет ні зара, выпальвала ў печы, перад адыходам на працу будзіла яго, «Кольку», каб сказаць, дзе і ў чым шукаць сняданак.

Удзень Аўруцін брындаў нічым не заняты — браўся то чытаць кніжкі, якія выпараў на гары, то глядзець тэлевізар. Але ўсё гэта, даўно няновае і звыклае, не задавальвала яго, і ён абрадаваўся, калі маці, глянуўшы на яго вінавата і неяк прысаромлена, папрасіла:

— Можа б, ты, Колька, яму адкапаў, пакуль я з фермы вярнуся? А бульбу потым я ўжо сама перабяру. Хутка сеяць... Такое сонца во, хоць загарай.

— Ты, маці, больш загружай мяне, а то завыю тут ад суму.

— Надта не рвіся, адпачні... Усяе работы ўсё роўна не пераробіш.

Аўруцін узяў пад паветкаю рыдлёўку з белым штыком, пабітым іржою, паёмаў-пакруціў яе ў руках. Выйшаў на агарод — зямля, чорная і тлустая, пругка чулася пад нагамі. «Такая ж пругкасць у свежым хлебе»,— нечакана падумаў Аўруцін, шукаючы вачыма жоўты пагорак; заказытала ў носе ад гаркава-трывожных пахаў — пахлі грады, засланыя з восе-

ні гноем, падгнілы плот і ніжнія вянцы пуні, урэшце, саджанцы, на якіх ужо віднеюцца разбубелыя пупышкі.

Яма была ля самага плота, паўз які густа разросся сліўнік, цяпер — з пяшчотнай зеленаватай карой. Аўруцін дзеўбануў у жоўты пагорак рыдлёўкай — што ў камень: зямля адтала толькі на далонь. І ён лёгка зняў гэты мяккі, як цеста, слой. А потым схадзіў у кладоўку, прынёс тупіцу — старую сякеру, на якой сякуць жалеза. Пачаў кляваць ёю замёрзлую зямлю. Ляцелі вострыя дробныя аскепкі, секлі па халявах, барабанілі ў плот... Там, куды ўпівалася жала сякеры, заставалася бела-сіняя неглыбокая высечка. Тады-сяды з-пад сякеры пырскалі чырвоныя, як чмялі, іскрыны.

Аўруцін праламаў земляны панцыр, дабраўся да саломы, нечакана белай — ад інею. Памацаў рукою: халодная і крохкая, што макароніны. Выпрастаўся, прысланіўшы сякеру да нагі. Павярнуў далоні кверху — ружовыя і блішчаць, як тоненька палакіраваныя, ля кожнага пальца — белыя плямкі. «Ужо мазалі?..— здзівіўся Аўруцін.— Вось і размяў мышцы... Беларучка!»

Дакорам аддалося ў памяці мінулае — з юначай пары,— калі з бацькам вазілі на хату бёрны, пілавалі, часалі, габлявалі дошкі, мяшалі ў вялізнай цяжкой скрыні гліну, цэмент. К вечару смылелі далоні, нылі і торгалі рукі — толькі да сну, а раніцой у мышцах чулася такая пруткасць, што немінуча цягнула даць ім нагрузку.

Прыйшла маці, убачыла абматаныя бінтам сынавы рукі — і спалохалася:

— Што з рукамі?..

— Ды мазалёў во нагнаў!..— адказаў Аўруцін з незадаволенасцю, хаваючы ад маці вочы.

— Во-о, работнік!..— аблегчана выдыхнула маці і падпіхнула сына ў плячо.— Ідзі ўжо, ідзі, я тута сама...

Маленькае цяпельца радасці, што падагравалася клопатам, захліпала, слабеючы,— і Аўруцін раптоўна адчуў на душы спустапэнне; стала шкада самога сябе — за сваю бездапаможнасць і за тое, што яму, з такім адчуваннем, будзе невыносна, маркотна ўсе гэтыя дні, адпушчаныя на адпачыпак. І што ён зусім

не адпачне, а толькі развярэдзіць сябе, пасля чаго, несумненна, многае ў жыцці паблякне, убачыцца не такім, як ёсць, а ў хваравітым уяўленні.

Спахмурнелы, Аўруцін пацёгся з агарода, і маці ўжо была не радая, што насміхнулася з сына,— падумала, што пакрыўдзіла.

Гаварыў жа ён Паласкаву, што не адпачне тут!.. Вось праўда: каб спазнаць асалоду, трэба слухаць не розум, а сэрца. «Памяняць абставіны...» Дык ёсць жа поўдзень, экскурсійныя паездкі, дамы адпачынку, урэшце, той жа Мінск — ён са сваімі тэатрамі, філармоніяй, стадыёнамі кожны дзень новы. Там — Валя, з якой не развітаўся і якая турбуецца, чакаючы званка...

Страшэнны сум, якога, здаецца, яшчэ ніколі не адчуваў дагэтуль, абрынуўся на Аўруціна. Ён спыніўся пасярод двара. Здалося, пачуў спеў жаўрука. Глянуў у шэрае, мутнае неба, прыслухаўся. Дзівак! Не жаўрук то — з шыфернага даху веранды ў балею часта падаюць кроплі і, разбіваючыся, тонка пазвоньваюць. Успомніў сінічку, якую бачыў на гарадской ліпе і якая падзяліла з ім радасць — тады яшчэ незразумелую. А цяпер, адчуўшы тут, у вёсцы, сум, ён раптам зразумеў, чаму так радасна і добра было яму тады, у дзень перад адпачынкам.

Увечары Аўруцін сказаў маці:

— Еду ў райцэнтр заўтра, бацьку ж адведаць трэба... Ды і Валі сваёй абяцаў пазваніць...

Вочы маці свяціліся шчасцем і лагодаю. Аўруцін гэта заўважыў — і расчуленасць туга паднялася з грудзей да горла, ён апусціў вочы і не сказаў маці яшчэ аднаго — што возьме на суботу, да якой тры дні, білет на Мінск.

Такі, расчулены, ён выйшаў на двор. Квола мігцелі высока ў небе, зацягнутым блакітнаватай імглою, зоркі. Цвярозлівы халадок, набрынялы пахамі адталай зямлі, пачуўся яму востра і густа, аж захліснула грудзі. Гэтыя пахі былі яму блізкія і родныя, як позірк маці, і ён падумаў, што ніколі не зможа іх забыць нават там, у Мінску, куды яго неадольна пачало цягнуць...

Аўруцін завярнуў на агарод, адчуваючы, як усё больш і больш кружыць яму галаву тугое вясенняе цемрыва.

## БАБКА

Гэтая нямецкая бабка захоўвалася Максімам хутчэй як памяць, чымся рэч, што некалі знойдзе сабе прыстасунак, і мела сваю гісторыю, пра якую трэба расказаць, каб было зразумела, што тут да чаго ў гэтым апавяданні.

Ён прынёс яе з вайны — просты, лічы, непатрэбны кавалак глухога сіняватага жалеза; іншыя везлі нешта больш экзатычнае — медныя бліскучыя самавары, бакі якіх былі ўпрыгожаны арнаментам, а накрыўкі — рознымі статуэткамі, старыя гадзіннікі ў разбяных аправах, што блішчалі цьмяна, як воск.

...Тады яны, помніцца, толькі што выйшлі з цяжкога бою, іх было сямёра — артылерыйскі разлік, і ён, Максім Марцовік, камандаваў гэтым разлікам. Уначы прашумеў моцны лівень, а раніцой яны дзве гадзіны адстрэльваліся ад нямецкіх танкаў, што выпаўзалі зусім нечакана: то з-за аблыселага пагорка, які здаваўся пакатым і ніяк не мог прыкрываць аграмадных «тыграў», то з ляска, які прасвечваўся наскрозь, бы сіта, і не хаваў ад вачэй далёкія шпілі рудых цагляных кірхаў. (Як потым выявілася, немцы пракапалі шырокія траншэі-хады і па іх неўзаметку пускалі танкі.) І хлопцы, як ні налаўчыліся за вайну круціць саракапятку ў розныя бакі, выбіваліся з сілы; асколкам параніла наводчыка, ён заплываў крывёю, што густа лілася з рассечыны на шыі, і Максім загадаў леваму станкавому, каранастаму трыццацігадоваму кіргізу, вынесці наводчыка з-пад абстрэлу. Сам прынік да прыцэла, адначасова нашчупваў цэль, і сам сабе камандаваў, пакуль не падаспелі хлопцы з суседняга ўзвода.

Стомленыя, запэцканыя па самыя вушы граззю і мазутам, яны супуліся па калдобістай дарозе — ішлі далей, на Берлін. Машына, што цягнула гармату — старая, з пашчапанымі зялёнымі бартамі палутарка,— часта буксавала ў калдобінах, і яны падпіралі яе плячыма, абскаўзаліся і падалі...

Дарога вяла праз поле, засеянае жытам, паклычаным і здратаваным, потым спусцілася ў глыбокую, раздольную лугавіну. У небе свяціла сонца, і адзенне курэла парай. На лугавіне, дзе стройна разбегліся невысокія кусты лазняку, здалёк блакітныя, як воб-

лакі дыму, віднелася кучка людзей. Здаецца, там касілі, і гэта здзівіла артылерыстаў: грыміць вайна, а людзі спраўляюць такі будзённы клопат. Тыя, роўненька пасаджаныя кусты, аказалася, раслі на беразе нешырокай, акуратнай рачулкі, у якой спакойна стаяла, а не бегла вада і было відаць жоўтае дно. Убачыўшы, як у хлопцаў сутаргава заварушыліся кадыкі, Максім скамандаваў кароткачасовы прывал. Хлопцы адразу кінуліся да рачулкі, расшпільваючы на хаду шэрыя ад солі гімнасцёркі, а Максім падаўся берагам у той бок, дзе касілі людзі. Ён на той момант не задумваўся, а пасля не мог даўмецца, што пацягнула яго туды. Распрастаўшы гімнасцёрку, ён падпяўся тужэй папругай; зняў пілотку і прыгладзіў назад мокрыя валасы. Згледзеўшы яго, людзі насцярожыліся — гэта былі тры жанчыны, гадоў пад семдзесят стары і два падлеткі — хлопчык і вышэйшая за яго русакосая дзяўчынка. Максім яшчэ зводдалі ўсміхнуўся, каб паказаць, што ён не мае да іх благога намеру. Аднак людзі быццам скамянелі, трымалі ў руках хто косы, хто граблі. Максім павітаўся з імі нямецкім «гутэн таг», і яны ў адказ хітнулі галовамі, а стары, здалося, нешта прамармытаў яшчэ, і на яго з нейкай сур'ёзнай дапытлівасцю паглядзеў хлопчык-падлетак. Жэстамі Максім пачаў паказваць, што касяць, маўляў, для каровы — «млека». Стары згодліва страсянуў сівой галавой, вочы яго забегалі, і ён, каб пацвердзіць, што зразумеў салдата да канца, махнуў над травою касой. Максім падышоў да яго ўсё з тою ж лагоднай усмешкаю на твары, з якой вітаўся зводдалі, і ўзяў з рук касу — яна падалася лёгкай, як бы цацачнай. Ён пакруціў ёю, злізанай знізу да белага, махнуў раз-другі, але каса не слухала — то лезла дзюбкай у зямлю, то збівала зверху траву. Хлопчык-падлетак, глянуўшы на старога, усміхнуўся; здаецца, адталі вочы і ў жанчын. Максім ажно пачырванеў — добра, што закураны дымам твар і не відаць, але адчулася ў шчокі цяпло,— быццам ён і напраўду ніколі не браў у рукі касы і адно цяпер вучыўся. Максім уступіўся прутчэй на ногі, разгарнуў плечы і, удыхнуўшы паболей паветра, аж захрыпела ў грудзях, спрытна адвёў убок касу — здаецца, яна ўвайшла ў траву мякка, але раней часу выскачыла; і паўторна — так жа сама. Ён выпрастаўся; дзі-

вячы касцоў, прымераў пупок — акурат: стары быў ростам уроўні з ім, Максімам. Ну, што за чорт? Ён, пацiснуўшы плячыма, стаў махаць касой апантана і з сілаю — яна хадзіла няроўна, блытала траву, скакала, нягледзячы, што пожня была роўнаю, хоць бокам кацiся. Але, крок за крокам, ён адчуваў, што яна становiцца падатлівей, не такой наравістай, а потым і зусім — акурат яе падмянілі — пачала адносіць у пакос траву тугімі роўнымі пучкамі...

Ён не заўважыў, як падышлі хлопцы, таксама ўзялі косы і рушылі за ім услед, трохі скаваныя ў рухах ад здзіўленых позіркаў касцоў.

На развітанне стары, ківаючы на пакосы, з якіх падымалася тонкая смуга, і шырока разводзячы рукамі, доўга нешта тлумачыў, мусіць, хваліў іх работу, потым працягнуў Максіму цёплую, нагрэтую ў руцэ, бабку і сказаў словы, якія ў іх сустрэчы сталі апошнімі: «Гітлер капут!» Бабка была зусім новая — з прыклеенай да яе жоўтай паперкай і з круглай умяцінкай літар. Хлопцы, як і не было цяжкога бою, страшэннай стомы, жартавалі, што на гэтай бабцы трэба адкляпаць касу і перарэзаць ёю Гітлеру горла.

Максім Марцовік не пабачыў Берліна і Гітлера, хаця апошняга, як потым дачуўся, не бачыў ніхто,— недалёка ад таго месца, дзе яны касілі, кулямётнай чаргой яму адсекла нагу, калі ён бег да скрынь са снарадамі.

* * *

Калі з імшарыны разам з туманам выплывае ўранку цяжкі пах багуну, а паляны, памаладзелыя ад буйна-сакавітага разнатраўя, загарацца свежай чырванню суніц, тады вёска ажывіцца новымі, ладнымі гукамі. Ядронае і сакавітае «туп-туп-туп», мяккае, хоць настаўляй вушы, «цёп-цёп-цёп» і залівістае, як брэх ганчака, «йяк-йяк-йяк» ляцяць прама і наўскасы, нястройна пераклікаючыся, далёка ў бязмежжа.

У Малінаўцы спакон веку касавіца пачыналася з кляпання кос. Раней, помніцца, іх кляпалі, бадай, у кожным двары, дзе жыў мужчына; цяпер, калі шустрыя «беларусы» прычапілі да сябе вострыя зубастыя траварэзы і аббягаюць за дзень столькі лугу,

што косамі ўся талака яго касіла б цэлы дзень, неяк спакойна, немітусліва стала праходзіць касавіца, і быццам разам з той вясёлай людской узбуджанасцю, пярэгаласам кос, што не даваў доўга заспацца ў ложку, згубіла вёска нешта кроўнае і святое ў сабе, чаму, здаецца, ужо не будзе паўтору.

Так думаў Максім Марцовік, няспешна кульгікаючы па вуліцы. Правая калашына вольна хавала ў сабе драўляную нагу — паказваўся адно гумавы наканечнік, які пакідаў за сабой неглыбокую круглую, бы ад капыта жарабяці, ямачку. Максім цяжка апіраўся на качарэжку, далёка выкідваючы яе ўперад, ад чаго клятчастая кашуля, спалавелая на плячах, напіналася, як не лопала.

Была позняя ўжо раніца, і на вуліцы гулялі дзеці.

З двара Гапчынай хаты, у вокны якой Максім глянуў краем вока, раптам выкаціўся трохгадовы хлапечык, апрануты ў сіні касцюмчык, з кепачкай на галаве; у яго быў белы, незагарэлы тварык, на тонкіх (і таксама незагарэлых) нагах сядзелі чырвоныя, як мухаморы, сандалікі. Убачыўшы Максіма, ён закрычаў і крутануўся назад у двор. Максім сумеўся: «Во, ні з таго ні з сяго, можа, злякнуў дзіцёнка. А чаго ж ета ён? Маіць, што чужы яму знячэўку трапіўся... Ды яшчэ з такой нагой, дудкаю, і палкаю ў руцэ». Разгубіўшыся, Максім спачатку не падумаў пра тое, на што ніяк не магло не адгукнуцца ягонае сэрца,— чыё гэта дзіця. Адно калі з двара пачуўся голас Гапкі — яна дапытвалася ў малога, што яго напалохала,— Максіма апаліла: гэта ж Жэнькаў сын! А значыць, і яго, Максімаў, унук... Ён пашкадаваў, што не паспеў добра разгледзець твар хлапечыка, а то б пазнаў пэўдна, ці Жэнькаў,— Максім умеў так: па дзецях здагадвацца, хто ў іх бацькі. Бо, можа, зусім і не Жэнькаў, а Віцькаў ці Зінчын — таксама Гапчыных дзяцей, старэйшых,— але не яго, Максіма. Не, усё-такі, мусіць, Жэнькаў, бо нейкі далікатны ён увесь і апрануты чыста, на вясковага непадобны. Канешне, так і ёсць, прывёз Жэнька свайго сына на лета да маці, каб на малацэ ды свежым паветры акрэп, пакруглеў трохі.

Максім кіраваўся ў кузню, а фактычна — у майстэрню, размешчаную на трактарным стане, за вёскаю, дзе раней сапраўды была кузня, адзіным напа-

мінкам пра якую цяпер застаўся вычасаны з валуна, закураны і патрэсканы круг з-пад горна. Вяла яго туды патрэба — падвастрыць на тачыле хрыбціну бабкі,— і ён цяпер, адыходзячы ад Гапчынай хаты, пачынаў турбавацца іншым — ці будзе на месцы Васіль Шамяток, загадчык майстэрні. Без яго тую канурку, дзе тачыла, яму ніхто не адамкне. Раней, як быў маладзейшы і лепш служылі вочы ды рукі, Максім кляпаў косы на нашай, так званай у Малінаўцы — рускай, з плоскім верхам, бабцы. Забіваў яе ў калодку, клаў наверх жала касы і дзюбкаю малатка гнаў роўную, як шнурок, сцежачку. А год колькі назад усё перамянілася — вочы слаба сталі бачыць, рукі трэсціся,— і клёп выходзіў абы-які, курам на смех; нават, здаралася, лапатуху наганяў — жала крывое, патрэсканае, толькі мурашнікі зразаць. І тады Максім успомніў пра нямецкую бабку, якая ляжала ў кладоўцы на вугольніку — уробленай у кут паліцы: колькі разоў, шукаючы то слоік які, то шклянку, ён перакладваў яе, пакрытую белым налётам, але без іржы, з месца на месца, і проста можна было здзіўляцца, як ён не выкінуў яе куды-небудзь у крапіву. І вось жа добра — што не выкінуў: спатрэбілася.

На нямецкай бабцы кляпаць было прасцей — прыціскай жала касы да хрыбціны і стукай пятачкай (а не дзюбкаю) малатка; сцежачку на касе ўжо адбірае не малаток, а хрыбціна бабкі.

Ля майстэрні было ціха; пачуўшы крокі, аднекуль вынырнуў белы сабака, глянуў на Максіма раўнадушнымі рудымі, як у чалавека, вачыма. Чый жа гэта і чаго ён тут? Максім патузаў дзверы — зачынены на ўнутраны замок, шчыліна ад якога, абабітая па краі ключом, блішчыць белым венчыкам. Завярнуў за вугал будынка: можа, там хто ёсць? Ён адразу згледзеў трактар, які стаяў крыху воддалі і ля якога корпаўся чалавек у камбінезоне — трактарыст. Гэта быў Іван Волічак з суседняй вёскі Запрудзішча — Максім ведаў яго, бо некалі, яшчэ хлопцам, сябраваў з яго бацькам, Пілілам, і нават, заходзячы ў хату, браў на рукі маленькага Іванку. Максім незнарок зачапіў качарэжкаю за кола сеялкі — Іван павярнуўся — пазнаў Марцовіка. Сабака, убачыўшы, як палагоднеў твар гаспадара, прыветліва завіляў хвастом,

потым, прылёгшы, стаў драпаць лапаю па вуху — зганяць сляпнёў.

Мужчыны павіталіся як добра знаёмыя людзі, нечаканая сустрэча якіх прыдае яшчэ больш радасці, бо ні да чога не абавязвае, і адной размовы ўжо давол, каб разысціся з думкаю, што яны адно аднаго не староняцца,— Іван, з замасленымі ў салідол рукамі, падставіў локаць, і Максім паціснуў яго тою ж рукою, у якой трымаў качарэжку, зусім не думаючы пра маленькае адступленне ад фармальнасці — вітацца заўсёды вольнай рукой. Іван сказаў, што Васіль Шамяток быў тут, на сваім «пікапе», але ці не паехаў у раён па запчасткі. А можа (прамовіў пасля няўпэўнена), і дома ўжо. Шамяток жыў на тым канцы, як называлі ў Малінӑўцы завулак, што не супадаў па накірунку з галоўнай вуліцай, а браўся ўбок і цягнуўся праз сядзібы, пагон аж да самай імшарыны. Хата Шамятка была апошняй і стаяла воддалі ад астатніх — вясной, калі раставаў снег, вада, зрушаная ветрам, памалу падлізвала загаваліну, ці, інакш, прызбу, і прасочвалася ў падмосце, адкуль да гэтага часу ўжо выграбалі ўсю бульбу, і Шамяток, каб выбірацца на сухое, рабіў «дарожку» — клаў шырокія дошкі на ўкапаныя ў зямлю дубовыя плашкі. Нават улетку блізка ад хаты было шмат вады — на пагоне, не кажучы ўжо пра балота, не высыхалі сажалкі, і Шамяток разводзіў качак — збіўшыся белай цеснай чарадою, яны напаміналі пляму чыстага, акурат захаванага з зімы, снегу.

Ісці дамоў да Шамятка Максіму не выпадала. Па-першае, далёка — яму, кульгаваму, на адной назе. Яшчэ каб пэўна ведаў, што той пры двары, то, можа б, і наважыўся. Хаця... наўрад. Не, не пайшоў бы ён да Шамятка ў хату. І не таму, што, фактычна, дробязную справу да яго мае — нейкае там змыленае тачыла папрасіць,— а таму, што ў сэрцы Максім насіў да Шамятка даўнюю, лічы, зацвярдзелую ўжо непрыязнасць, калі не сказаць больш. Адкрыта ў вочы пра яе Максім Шамятку ніколі не выказваў, і не таму, што не было прычыны і месца, а, хутчэй, таму, што меў ён ад прыроды стрыманы, мяккі нораў; Максіма заўсёды палохала думка, што, распачаўшы сварку, ён не знойдзе слоў для адпору і застанецца па-

крыўджаным, чым дасць разбуяцца яшчэ больш нахабству ў тых, у каго яно ёсць.

Але пры стрэчах — бывала, і за чаркаю (на вяселлі ці на якіх радзінах) — Максім не хаваў сваёй адчужанасці да Шамятка. Аднойчы, яшчэ маладым, п'яны Шамяток прыпяў Максіма да сцяны магазіна і, дужа сцяўшы яго рукі, у адной з якіх была качарэжка з медным наканечнікам, спытаў, што ён, Максім, мае супраць — яго, Шамятка. «А гэта спытай у Гапкі!» — крута бліснуўшы вачыма, цвёрда сказаў Максім і вывернуў сваё сухое, жылістае цела з ухвацістых рук Шамятка.

Тады ўсё было яшчэ свежае ў памяці...

* * *

Гапка засталася ўдавою — не вярнуўся з вайны яе Сцяпан і не ўбачыў сваіх дзяцей — Віцьку і Зіну, якіх, думала з радасцю Гапка, наўрад ці пазнаў бы, бо яны, нягледзячы на хваробы і нішчымніцу, падраслі, змяніліся. Ёй, Гапцы, не было і трыццаці, і хаця вайна, трывога і страх за дзяцей ссушылі яе таксама, яна мела ў целе тую складнасць і рухавасць, якія прыдаюць жанчыне вабнасць, бо няцяжка ўявіць, якой жанчына стане, калі даць ёй дастатак і ахінуць яе ласкаю. І на Гапку заглядваліся мужчыны — не сказаць, каб хлопцы, нежанацікі, хоць і з іх, можа, не адзін павярнуўся ёй услед, стрымліваючы свой любоўны парыў толькі адным цвярозым (што амаль заўсёды губіць глыбокія пачуцці) — яе дзецьмі; затое сталыя мужчыны, што былі з нейкім, так сказаць, «дэфектам» — ці то ўжо заводзілі сям'ю, ды разладзілі яе, ці то па той ці іншай прычыне запазніліся з жаніцьбай, ці то знізілі сваю вартасць нейкай заганаю, як напрыклад, Максім Марцовік аднаногасцю,— лічылі б сябе шчаслівымі, калі б Гапка прытуліла іх.

Максім жыў з маткаю (бацька, георгіеўскі кавалер, перад самай вайной памёр ад грудной жабы, не дацягнуўшы да сёмага дзесятка), і хаце, каб яна не запусцела, патрэбны былі спрытныя жаночыя рукі. Дый сам Максім, як мужчына, быў нязломкі і чуў у сабе сілу, якая — хай яе прыпадак! — рабіла яго зусім бязвольным, калі вочы, на тую пару яшчэ га-

рачыя, набрынялыя застарэлай тамлівасцю, чаплялі-ся за жаночы стан, які, недаступны пад адзежаю, смела бунтаваў уяўленне. Вайна нікога не песціла, і яны былі скупыя на ласку, тыя пасляваенныя вяс-ковыя жанчыны, насцярожаныя нейкія, як бы напа-лоханыя, ці што. Мусіць, займала іх галаву перш за ўсё не каханне, хоць менавіта для яго яны і створа-ны прыродай, а — спрадвечнае, сялянскае, у чым бы-ла не толькі трывога за сям'ю, за род, за дзяцей, але і чысціня сумлення — перад памяццю тых, да каго лёс аказаўся бязлітасны.

Максім яшчэ да вайны навучыўся рыпаць на гар-моніку, а потым і ў перамежку між баямі браў гар-монік і вясёленькай мелодыяй (чамусьці іменна іх умеў наярваць) развейваў цяжкія, змрочныя думы байцоў, якія за гэта жартам называлі яго Цёр-кіным.

Малінаўскі клуб, як і сельсавет, немцы, адсту-паючы, спалілі, і моладзь збіралася на вечарынкі ў Запрудзішчах. Хоць і не вельмі далёка да іх, кіламет-ра паўтара, а сцежкаю праз імшарыну і таго менш, хадзіў Максім туды не часта: балеў абрубак нагі, да якога не так даўно прыладзіў дзеравяшку. А калі за-яўляўся — гоман стаяў наўкруг вялікі: бадай, ніхто ні з малінаўцаў, ні з запрудзішчанцаў не граў лепш за Максіма; а спрыт ды ўменне — яны ва ўсякай справе цэняцца.

Гармонік, які зазвычай прыносіў былы зух-гуляка Піліп Валовік, што страціў на вайне руку і, здаецца, навекі развітаўся з гармонікам, быў стары, з заклее-ным мехам, але ўсё яшчэ галасісты і пяўтомны. У тую ноч удосталь наківаўся над гармонікам, а по-тым яшчэ выпілі з Піліпам самагонкі, і Максім ад-мовіўся праводзіць дахаты дзяўчыну, якая даўно ўжо клала на яго вока, але яму не падабалася, і ён калі заставаўся з ёю пасядзець на лавачцы, дык толькі з нежадання крыўдзіць.

Баючыся, што хмель падставіць яму сваю здрад-лівую ножку, ён памалу тупаў сцежкаю праз імша-рыну. Халоднае, абрасяненае вецце алешын мазала яго па твары, ён пакурчваўся, і ад таго слых і вочы станавіліся больш чуйнымі і хваткімі. Не было меся-ца, ён патануў у гушчыні хмар, як бульбіна ў прыс-ку, і дрэвы, кусты, траву аблягла шчыльная цемра.

Максім выбавіўся з імшарыны ў нізкія лазовыя кусцікі, і адразу пасвятлела ў вачах. Уперадзе на полі, нядаўна зжатым і перааранным, невыразнымі прывідамі стаялі сплюшчаныя, як чарапахі, сціrты саломы. Ветру не было. Але — што гэта? Максім пачуў ціхае шамаценне. Усё роўна як вынюхвала ў саломе ліса мышэй. Максім прыступіўся — і ў вушах тоненька зазвінела. Вочы вылавілі ў цемры на краі поля абрысы сціpты. Здаецца, ля яе нехта варушыўся, але яўна — не ліса, бо вялікі. Можа, лось? Згаладаўся і ласуецца саломай. Асцярожна, прыгнуўшыся так, каб не вытыркацца над кусцікамі, Максім стаў падбліжацца. Вось да сціpты ўжо з дзесятак крокаў... І тут ён убачыў, што ніякі гэта не лось і тым больш — не ліса, а чалавек. Мужчына ці жанчына — не разабраць, але што чалавек, то пэўна: накладае ў ношку салому. Скубе ахапкі са сціpты і кідае іх на зямлю, дзе, мусіць, ляжыць разасланая вяроўка. Хто гэта: запрудзішчанец ці іх малінавец? Максім стаяў нагінкам і думаў, што рабіць: ці то абазвацца, іц неўзаметку павярнуць назад. Хто ведае, што за чалавек прыйшоў сярод ночы красці салому і што ў яго на душы. А раптам гэта які-небудзь фашысцкі недабітак з лесу прыплутаўся, каб набраць сабе ў логава подсцілу? Не, Максім не спалохаўся б і яго, кінуўся б нагрудкі, але ж той, напэўна, ўзброены. З куляй жартачкі кепскія — гэта Максім вынес з вайны.

Як знаць, на што наважыўся б Максім, калі б не дыханне — яно пачулася ад сціpты, захліпістае, мяккае, нават з прыстогнам, які выдаваў сабой тонкі галасок, што мог належаць толькі жанчыне. Так, ля сціpты ўвіхалася жанчына, бо ўжо і войкнула яна, мусіць, загнаўшы пад ногаць скабку ці ўхапіўшы рукою калючыну з медуніцы.

Максім выпрастаўся і ціха кашлянуў. Жанчына ля сціpты страпянулася, стаіла дыханне, але Максіму здавалася, быццам ён чуе, як б'ецца ў грудзях жанчыны сэрца. Ён толькі хацеў сказаць, што не зробіць ёй нічога благога, што ён — Максім Марцовік з Малінаўкі, як жанчына, смаргануўшы з-пад ношкі вяроўку, кінулася ўцякаць. Але праз колькі метраў (мусіць, наступіла на вяроўку) упала, і пакуль выблытвалася, Максім з невядома адкуль узятай увішнасцю падскочыў да яе.

Гэта — была Гапка. І яна яго пазнала. Ён стаяў перад ёй разгублены і няцямлівы, як дзіця, а яна, мусіць, саромячыся глянуць яму ў вочы, доўга атрэпвалася ад зямлі.

— Ета ты?..— сказала нарэшце, і ў голасе было не столькі віны, колькі радасці — што іменна ён, Максім, а не хто іншы, зашчучыў яе ў такой непрыгожай справе.— І напалохаў жа...— Яна паглядвала так, не рашаючыся ступіць першай, каб без слоў было зразумела, што трэба вярнуцца да сціргы. Які толк цяпер хавацца: крала яна салому, першы раз наважылася, бо не было ўжо як трываць... Якая там каравёнка, аднарогая, з вывіхнутай у клубе нагою, і тая топіцца ў пуні. А наперадзе — зіма, халады... Бульба не ўрадзіла. І паспрабуй штодзень памудраваць, чым дзяцей накарміць...

Максім слухаў Гапку моўчкі, адно ўздыхаў, і яна тады замаўкала, быццам давала яму магчымасць добра падумаць над тым, што яе гняло, і не рабіць ёй нічога дрэннага.

— Ты не заявіш, Максім? — спытала яна як бы са страхам, калі ўбачыла, што ён адкусіў і рэзка адкінуў убок саломіну, якая тырчала ў яго з рота.— У мяне ж двое...

Не спытала б так Гапка, калі б не ведала, што ёсць у Максіма накіпелае на душы супроць яе: знарок не прыкмячала яна ягоных позіркаў, пакеплівала на людзях, а неяк увогуле жорстка з ім абышлася... Ён тады збруйшчыкам у калгасе рабіў. І аднойчы, калі несла з каравулкі хамут (прыпрагала да каня акучнік), ён перагарадзіў ёй дарогу, але яна фанабэрыста хмыкнула, маўляў, куды там табе, «дэфектаваму», да мяне; уласна, яна нічога супроць Максіма ніколі (і тады таксама) не мела, але ці то гарэзлівасць, ці то гуллівы настрой, які заўсёды падбівае на грубыя жарты, ці то яшчэ нейкая трасца вымусілі яе ляпнуць абы-што. Максім зачырванеўся, як хлапчук, адхіснуўся, акурат яна абвінавáціла яго ў страшэнным граху, і ўжо, пакуль яна запрагала каня, не паказваўся на вочы, а потым доўга глядзеў на свежую канаўку, што прачарціў на дарозе лямех акучніка, і думаў пра сваё сэрца.

Цяпер Гапка баялася, што Максім успомніць усе яе здзекі з яго і ўжо — малі ці прасі — не саступіць,

не ўпусціць выпадку, каб расквітацца. Яна асцярожна сачыла за ім, спрабуючы ўгадаць вачыма, а найперш сваім жаночым чуццём, якое, бадай, самы лепшы падказчык там, дзе ўвага звернута да мужчыны, што ляжыць зараз у Максіма на душы. Можа, яму зусім і не ў галаве помсціць ёй, можа, наадварот, сябе дакарае, што патрапіўся не ў час на дарозе жанчыне... як і тады, у каравулцы. Не памылялася Гапка, акурат над гэтым, пра што падумалася ёй у апошнюю чаргу, і пеклаваўся Максім. Ну, навошта было ісці яму так позна дамоў, сцежкаю гэтай праз балота? Лепш застаўся б у Піліпа начаваць, той і ўпрошваў — дык не-а ж, варсануў яго рагамі чорт пад бакі; гэта, відаць, заўсёды так: калі ўжо цягне чалавека на нейкую няўдобіцу, то круціся не круціся — не павернеш, не перапрэш сябе. Хай бы яна, Гапка гэтая, ля спірты той куёўдзілася хоць цішэй, можа б, і прайшоў ён міма, а так... Што цяпер — браць Гапку за руку ды цягнуць да старшыні?

Максім падняў галаву — Гапка трымала вяроўку перад сабой на паўсагнутых руках, быццам гэта быў цяжкі груз ці нешта каштоўнае, што ад лёгкай страскі можа рассыпацца. Яе вачэй ён не ўбачыў — хавала цемра. Максім пераступіў з нагі на нагу, бо канец дзеравяшкі ўжо ладна ўціснуўся ў зямлю і рамяні прывязкі пачыналі муляць.

Не апраўдваецца Гапка, не вылузваецца са скуры, як гэта зазвычай робяць нячыстыя на руку людзі, каб даказаць сваю невінаватасць,— пэўна ж, не ад дабра прыйшла яна сюды, да калгаснай спірты. Ну, канешне ж,— адна з двума дзецьмі. Максім успомніў, што бачыў сёння, як ішоў на ферму, іх, Гапчыных дзяцей: большанькі, хлапечык, даставаў да пілы, а дзяўчынка, з абматаным белай анучай каленам, стаяла на абернутай дагары шайцы, вушкі якой ці былі ўжо абламаны, ці то ўрэзаліся ў зямлю, і, хістаючыся, як курыца на дроце, аберуч тузала на сябе пілу; пад сталюгаю ляжаў коса адрэзаны сасновы цурбак.

— Знаю, Гапка, што ў цябе двое дзяцей,— сказаў Максім так, каб было відаць, што ён ужо наперад пра гэта падумаў, і каб не здалося часам Гапцы, быццам ён, паказваючы, як нялёгка яму быць цвёрдым, змушае яе да нечага свайго, эгаістычнага, што можа про-

ста вырашыцца ўвогуле між мужчынам і жанчынай, не кажучы ўжо пра тых, спроба да збліжэння ў якіх была раней.

Максім, усё яшчэ хаваючы свой позірк у зямлю, раптам адчуў, што да яго рукі, якая апіралася на качарэжку, нешта дакранулася мяккае і цёплае, як губы каня, што шукаюць скарынку ці бульбіну. Ён не помніць, колькі так стаяў, разумеючы, што гэта — Гапчына рука,— схамянуўся (і Гапчына рука як бы тузанулася, прапусціўшы пад спацелую далоню халадок) ад таго, што з неба раптам пырснула халоднае святло, спярэсціла сцірту саломы тонкімі, як дроцікі, блакітнымі праменьчыкамі,— гэта месяц на нейкае імгненне знайшоў сабе рваную прасветліну між хмар, акурат хацеў, адзіны ва ўсім свеце, засведчыць пакуты, з якімі даўно выношвалася, а цяпер нараджалася каханне між Максімам і Гапкай...

Салому тую, што наклала ў ношку, Гапка з сабой не забрала, падбіла зноў пад сцірту, запіхала ў выскубленую нару. А Максім праз дзень які ці два, на вачах усёй вёскі, прывёз ёй цэлага паўвоза ячменкі са сваёй сянніцы. А як улягліся перагалоскі вакол гэтай падзеі, ужо не сароміўся прыходзіць да Гапкі і гаспадарыць на яе двары — мяняў слупкі і пераграсаў частакол, абразаў у садзе яблынькі, падбіваў адарваныя ў франтоне шалёвіны...

Мяняючы на страсе збуцвелы дор новым, абшаснуўся і балюча ўдарыўся — левую, здаровую, нагу адняло, і ён не мог на яе ступіць. Гапка не адпусціла яго дахаты, маўляў, старой маці будзе не да яго, пакінула ў сябе. Ляжаў ён на ложку, можа, упершыню за апошнія гады засланым чыстай прасцінай. Да балючага месца на баку і да пасінелага сцягняка Гапка прыкладала цёплую тоўчаную бульбу, загорнутую ў старую панчоху; паіла Максіма завараным на святаянніку чаем, нават разжылася недзе паўшклянкі мёду, які па кроплі дабаўляла ў той адвар святаянніку. Максім глядзеў на Гапку вільготнымі вачыма; прыплюшчваючы іх, гладзіў яе гарачай далоняй — жанчына не адступалася, хінулася да яго.

Пасля маўклівага паразумення і ласкі, сарамлівай, амаль дзіцячай стрыманасці, што збліжалі яе з Максімам і прымушалі (нават міжволі) клапаціцца аб ім з тым адзіна шчырым жаданнем, якое нашчэнт

адмятае ўсялякі разлік і, тым больш, нейкую там карысць, у іх наступалі хвіліны даверлівай гаворкі. І неяк, калі вечар ужо густа падсініў шыбы і было чуваць, як за перагародкаю пасапвалі ў сне дзеці, Гапка прызналася Максіму, што ў вайну да яе заляцаўся Шамяткоў Васіль... Прызналася, бо паверыла, закалыханая нечаканым і такім салодкім прылівам чуллівасці, у трываласць шчасця з Максімам і нават блізка не падумала, што Максім пасля гэтага можа адкінуцца ад яе.

Васіль быў Максімаў гадок, разам вучыліся. У 42-м Максіма, як і іншых малінаўскіх хлопцаў, прызвалі ў Чырвоную Армію, а Васіль Шамяток перад самым прызывам некуды знік. Максім усю даўгую дарогу, якою вёз іх цягнік, як потым выявілася — у далёкі сібірскі гарадок, дзе за паўгода ім прысвоілі малодшых лейтэнантаў і адправілі на фронт камандзірамі гарматных разлікаў, думаў, дзе мог падзецца Васіль. Захварэў? Прымкнуў да акружэнцаў? А можа, нарваўся на нямецкую кулю? І вось аказваецца, ён знарок збег у лес і там хаваўся. Але голад, а потым і зіма, што выдалася на той год бязлітасна снежнай і ветранай, гналі яго ў вёску. Дома начаваць баяўся — маці сказала, што яго шукалі.

Гапка жыла адна з дзецьмі, муж, ведаў Васіль, ваюе з самага пачатку вайны, і ён, начакаўшы цёмную ноч, заявіўся да яе; пастукаўся, сказаў, што — партызан, нясе вестку ад мужа. Яна пазнала яго па голасе і адчыніла дзверы, аб чым потым не раз шкадавала і дакарала сябе за неабачлівасць. Васіль нахлусіў ёй пра мужа і пра сябе — маўляў, засланы ў вёску на заданне — начаваць прыходзіў у хату, а ўдзень хаваўся на гарышчы ў закіданай рыззём сплеценай з лазы кашары, у якой вазілі з поля бульбу. Адагрэўшыся і падужэўшы, стаў ліпнуць, прыставаць да яе, Гапкі, але яна адбівалася як магла, і ён палохаў, што навядзе на яе немцаў — і тады нездабраваць і ёй і дзецям. І яна саступала... Так ваўчыца, ратуючы дзіця, кідаецца пад стрэл паляўнічага, не думаючы, што яна згубіць. Можа, і жыццё...

* * *

Максім вырашыў пачакаць Шамятка ля майстэрні, балазе Іван тут, ёсць з кім забавіць час. Ён сеў на ўгрэтую сонцам шыну, што ляжала плазам на зямлі, дастаў з кішэні пачак «Беламора». Іван курыць адмовіўся, паказаўшы на замасленыя рукі і сонца, якое, маўляў, падспешвае. «Рупатны, як бацька»,— падумаў пра яго Максім, зноў прыгадваючы сваё з Пілінам дружбакоўства. Малайчына хлопец, не пагнаўся за капейкаю ў свет, а тут, на сваёй зямлі, абжыўся, хату паставіў. А яго, Максімаў, Жэнька... Пасля арміі ў Магілёў з'ехаў, там і прыжаніўся, цяпер вунь ужо свайго сына мае... Добра, што хоць на матку не забываецца, наварочваецца тады-сяды, ля хаты рупіцца. Максім адчувае, як радасць шырыць яму грудзі,— мусіць, ад яго, бацькі, узяў Жэнька гэтую масцеравітасць, хаця... хаця, канешне, тут усё віламі па вадзе пісана. Не жыў жа ён, Жэнька, з ім, адно забягаў калі, а так пры матцы вырас. Праўда, Максім, як адвярнуўся тады ад Гапкі, не цураўся яе і сына, падсабляў чым мог — працай і грашыма, лічы, усю пенсію перадаваў, а вось каб жыць разам... Толькі як Жэнька ў армію пайшоў, трохі стаў забываць Гапку. Можа, і на дзіця ад яе, Гапкі, не згадзіўся б, калі б крыху раней яна расказала пра Шамятка.

Жэнька вырас падобным на бацьку, крошачкі паўбраў — такі ж камлюкаваты, з круглым тварам і поўнай ніжняй губой, якая ў хвіліны задумення прыадпадала і агаляла ніжні рад зубоў. Чымся больш знаходзіў Максім у сыне сваіх рысак, тым глыбейшая туга клалася яму на сэрца: не зладзіў ён сям'ю, адно, можна сказаць, прыскакам разжыўся на сына. А потым ужо неяк і нялоўка было новае кубло віць, вось і застаўся ён ля напаўразбуранага. Можа, каб Жэнька жыў з ім, то і застаўся б тут, у Малінаўцы. А так, мусіць, падшчыпвала яго за душу... што бацька жывы, без сям'і, а не з ім. Узяў ды з'ехаў далей ад вачэй бацькавых.

Максім кашлянуў, уціснуў качарэжкаю ў зямлю недакурак. Сказаў Івану, каб глянуў, ці стаіць ля двара Шамятка машына. Той спрытна ўзлез на сеялку і, ніжэй апусціўшы на вочы брыль картуза, стаў

углядацца. Саскочыў на зямлю, пакруціў галавой, потым сказаў весела, але без насмешкі:

— Ці не пара ўжо, дзядзька Максім, закідаць сваю бабку?

Канешне, пара не тая, падумаў Максім, прыхінуўшы локаць да кішэні, у якой ляжала бабка. Раней, як толькі касавіца, рупаты хоць адбаўляй: цэлы дзень сядзіць пры пяньку пад дубам і цюкае малатком, а потым яшчэ і дома — ашчаджаюць людзі час; а цяпер толькі ўдава якая ці бабылка і папросіць наснудзіць касу. Максім падумаў так, але Івану адказаў голасам, у якім не прагучала і ноткі асуджанасці,— што гэту бабку ён усё роўна будзе захоўваць. Іван некалі чуў, здаецца, ад бацькі, быццам у Максіма Марцовіка нейкая там незвычайная бабка, але прыпамінаць не стаў, бо, па-першае, спяшаўся, а па-другое, лічыў, што яму, механізатару шырокага профілю, нават як бы сорамна ўнікаць у такі тэхнічны прымітыў, як бабка. Іншая справа, новы сіласаўборачны агрэгат, што нядаўна завезлі ў «Сельгастэхніку», тут, канешне, можна было б падапытвацца.

Максім, зразумеўшы, што замінае Івану і той, відаць, ужо нервуецца, павярнуўся ісці: клопат з ёй, бабкай гэтай,— не гарыць. На развітанне махнуў Івану рукой, што трымала качарэжку, і сабака, які ляжаў у цяні ад кола трактара, спуджана падхапіўся на ногі, стросшы з сябе воблака пылу. Максім усміхнуўся.

Думаючы, як зноў будзе размінацца з Гапчыным дваром, успомніў хлапечыка... Во, жэўжык, збаяўся дзеда! А трэба ж неяк паглядзець на ўнука, гасцінца даць... Бо калі яшчэ прывязе яго Жэнька? Можа, во першы раз і апошні. А як у садзік аддадуць, пішы прапала. Максім прасунуў у нагрудную кішэньку кашулі два пальцы — там заўсёды ляжалі грошы, траячка ці рубель на курыва. «Зайду ў магазін, куплю ўнуку гасцінца».

Яшчэ зводдалі, як толькі рад густых ліп адкрыў зроку ўсю шырыню вуліцы, Максім згледзеў ля магазіна белы легкавік. Падобна — Шамяткоў. Максім запаволіў хаду, думаючы, што яму рабіць — дамаўляцца з Шамятком наконт тачыла ці ўжо займацца толькі ўнукам. А, як будзе, так і будзе. Там на месцы ўсё праясніцца.

Ён параўняўся ўжо з легкавіком, як з магазіна выкуліўся Васіль Шамяток — нёс на руках бярэма бутэлек, склаўшы адна на адну, як дровы. У яго былі цёмныя валасы на галаве і зусім рыжыя, акурат клок лісінай поўсці, вусы. Прысядаючы перад дзверцамі легкавіка, Васіль усміхаўся, вядома ж, яму, Максіму, але твар не паварочваў, бо ўся ўвага была аддадзена бутэлькам. Згрузіўшы сваю ношу на задняе сядзенне, ён праз пярэднія дзверцы сеў за руль і не зачыняўся — чакаў, што скажа яму Максім, бо па вачах відаць: нешта ён мае да яго, Шамятка.

Максім падышоў блізка да легкавіка, абапёрся рукой на прачыненыя дзверцы. На яго патыхнула качыным памётам і травою; спрэс па легкавіку варушыліся ад скразняку белыя пушынкі.

— Я хацеў тачыла...— сказаў Максім, убачыўшы, што Васіль ужо даўно насцярожыўся слухаць.

— Што — тапор? — Васіль павярнуў ключ, і легкавік сыта, як парсюк, захуркаў, дамешваючы да пахаў памёту і травы едкі смурод дыму, што прыносіў вецер з выхлапной трубы.

— Не, бабку.

— Во, надумаўся! — засмяяўся Васіль.— Такі гарачы ў мяне час, а ты з нейкай бабкай...— На момант задумаўшыся, сказаў: — Добра, з абеду буду ехаць...— Газануў раз-другі, падаўся рукой да дзверцаў. Максім адступіўся ад легкавіка, так і не сказаўшы, будзе ён чакаць Шамятка ля майстэрні ці не, адно падумаў: «Табе «нейкая», а мне — дарагая...»

У магазіне Максім купіў дзве бляшаныя пляскушкі халвы і кулёк шакаладных цукерак, якія выбрала яму, як самы дарагі, магазіншчыца — яна загарнула ўсё ў паперу, і Максім, заціснуўшы пакунак пад пахай, падаўся дахаты. Ідучы, шкадаваў, што ніхто не лічыць за сур'ёзнае гэты яго клопат з бабкаю — насміхаюцца... Іван Валовік — той хаця без яхідства, а гэты, Шамяткоў, з падкусам, маўляў, здзяцінеў Максім, ці што... Дык што ўжо, па-іхняму, і каса нідзе нікому не спатрэбіцца? Гэта на роўненькім ды сухенькім састрыжэш касілкаю, а ў кусты і туды, дзе топка, з трактарам не сунешся.

І няма чаго рукі апускаць, Максіме. У цябе вунь столькі радасці наперадзе — сустрэча з унукам. Ёй, гэтай радасцю, і жыві, пакуль па зямлі ходзіш. На

адной назе цяжка, праўда, хадзіць, затое спешкі няма, ветру вакол цябе менш...

Дома Максім пагаліўся, чыста вымыў рукі і перадзеўся ў новае — сабраўся як на свята ці гулянку. І было б яму зусім спакойна на душы, калі б не турбавала адно: а што, калі ўнук зноў спалохаецца яго, на драўлянай назе і з качарэжкаю ў руках? Тады не пасядзіць ён у дзеда на каленях, не пагушкаецца на руках... Разыдуцца яны, як чужыя. А можа, хлапечык зусім і не ад яго, Максіма, уцякаў, а так ад чагонебудзь?..

Максім папіў вады, бо ўсяродку ад перажывання стала суха і, адчувалася, паглушэў голас. Ён глянуў на сябе ў люстэрка, усміхнуўся так, як быццам перад ім ужо стаяў унук, і не знайшоў у сабе нічога страшнага — дзед як дзед, нават без вусоў і барады, а вочы дык і зусім маладыя — сінія, без старэчага налёту і блішчаць.

Максім узяў са стала пакунак, выйшаў з хаты. Разамлелая, у пяску пад загавалінай ляжала курыца з раскрытай дзюбай, у якой тырчаў востры, як шыльца, язычок. Ужо як заступіў за брамку і па звычцы павярнуў галаву да вуліцы, убачыў: па сцежцы ідзе ў белай хустцы Гапка; адной рукой яна прытрымлівае ўнука, а ў другой — заматаная ў анучу каса. Максім, ад нечаканасці, абапёрся на частакол і падумаў: мусіць, на выхадныя прыедзе Жэнька, будзе касіць цімафееўку, якою сёлета Гапка засеяла ажно паўсядзібы, астатняе, па-ранейшаму,— бульбай.

Максім стаяў і пільна сачыў за вачыма і тварыкам унука, які набліжаўся, не бачачы за частаколам яго, дзеда.

## СОН ПРА ПАЎЛІНА

...Вясна ўжо добра ўвабралася ў сілу, стаіць май — і лагоднае паветра мякка абвявае твар, а сонца — бязлітасна яркае, усюдыіснае — слепіць вочы. Паўлік глядзіць на маладыя ліпкі, к паўдню сшарэла-паніклыя і да галавакружэння пахучыя, і шкадуе, што ім няма як схавацца ад сонца. Яму лепей — ён

на веласіпедзе — і варта паднаціснуць на педалі, як адчуе вакол сябе тугі свісцячы халадок.

Паўлік едзе па вуліцы, да магазіна,— каб глянуць, ці адчынены. Калі адчынены, то вернецца назад, скажа бабцы Надзёжы — і яны пойдуць з ёй купляць яму кашулю — светла-сінюю, у жоўта-чырвоную клетачку. Такую Паўлік бачыў учора ў васьмікласніка Хведзькі, які прыходзіў у ёй у школу; на перапынку быў важны, фарсіста выпінаў грудзі, раз-пораз соваючы кончыкі пальцаў за папружку — спераду і, выварочваючы далонь, ззаду. Паўліку стала зайздросна і крыўдна — так, як, здаецца, яшчэ ніколі дагэтуль не было; ён не разумеў, што з ім творыцца, і нават спалохаўся, чаму пацямнела ўваччу і паzмрачнела ўсё навокал — само сонца, неба, ліпкі, кветкі на клумбах... Раптам з расчыненых дзвярэй калідора вырваўся смех — яе смех,— і Паўлік скоранька адышоў за вугал школы, баючыся ў гэты момант апынуцца побач з Хведзькам.

Магазін быў адчынены — вялікі чорны чэп вісеў на дзвярах, а замок — на прабоі, убітым у вушак. Паўлік крута развярнуўся, аж занесла задняе кола, і памчаўся дамоў; сэрцу было цесна ў грудзях, і яно чулася пад самым горлам — яшчэ вышэй, чым тады, калі бегаў васьмісотметровую дыстанцыю.

Бабка Надзёжа пагладзіла Паўліка ласкавымі, лёгкімі рукамі і сказала голасам, родным яму з калыскі:

— Будзеш добра вучыцца і далей, спраўлю табе яшчэ харошую сумку...

— На адны пяцёркі!..— не задумваючыся, выпаліў ён.

— Вучыся, дзетка, вучыся...— І валасы яго зноў адчулі ласкавы дотык бабуліных рук: бабка Надзёжа шкадуе Паўліка, можа, як ніхто іншы ў гэтым свеце, і не толькі таму, што купіла яму веласіпед і збіраецца купляць кашулю; ён бачыць гэта па яе вачах, якія блішчаць ад слёз і чырванеюць, а слёзы так і не скоцяцца — бабка Надзёжа стрымлівае сябе знарок, каб не расчульваць яго, Паўліка, бо ён «і так адплакаў сваё маленькі». І тут жа: «Каб яго пранцы з'елі!» — так кляне яна Паўлікавага бацьку, які кінуў іх з маці, калі яму, Паўліку, было два гады.

Яны прыйшлі з магазіна, і ён адразу ўзяўся прымяраць новую кашулю. Яна была яму акурат — у плячах, у поясе, па даўжыні рукавоў. Паўлік круціўся перад асколачкам люстэрка, прыставіўшы яго да кніжак на лаве, і шкадаваў, што не можа ўбачыць сябе ўсяго.

— Красіва!..— пахваліла бабка Надзёжа, і Паўлік падбег да яе і пацалаваў у мяккую маршчыністую шчаку. Калі б была тут маці — яна працуе ў лясніцтве і прыходзіць дамоў позна,— ён пацалаваў бы, мусіць, і яе, сваю маці, хоць цалаваць яе саромеўся, бо яшчэ раней, калі яна прыхінала ягоную галаву да сябе, ён чуў ад яе вастраваты і чужы пах мужчынскага адзення.

Паўліку было добра, і ён хацеў, каб было добра ўсім, бо думалася: калі будзе інакш — яго радасць прападзе... І Паўлік пачуў смех, Лідзін смех з калідора, і яму... Паўлік пачырванеў — у шчокі пачулася цяпло — яму захацелася пацалаваць яе, каб яна ўбачыла, як яму радасна, і няхай бы гэтая ягоная радасць перадалася ёй, як перадаецца яму сум ад мацерыных воч і ласка ад бабчынай рукі... Гэта было яго самае вялікае, патаемнае і, здаецца, самае даўняе жаданне — яно палохала і вабіла, аж праймалі дрыжыкі. І калі б яно, гэтае жаданне ўсё-такі па нейчай добрай волі збылося, Паўлік лічыў бы, што гэта — мяжа ягонаму шчасцю, за якой пустата і невядомасць.

Паўлік зняў з сябе кашулю, акуратна злажыў яе па складках, якія не разгладзіліся і былі добра відаць, і схаваў у шафу. Выйшаў на двор, а потым завярнуў у садок, дзе, акрамя маладых яблынь і дзвюх груш, расла старая высокая ліпіна: пад ёй не толькі быў густы цень, але — і мяккая трава. У ім, цяні, на траве Паўлік заўсёды знаходзіў сабе збавенне ад крыўд, якія цярпеў ад маці, а часцей — на вуліцы, і доўжыў асалоду тады, калі на душы было радасна і лёгка — як цяпер,— ажно хацелася спяваць. Яго не пакідала адчуванне нейкай незвычайнасці і незразумела-прыемнага ўнутранага трымцення. У вушах звінеў Лідзін смех, і Паўлік, сеўшы на траву, баяўся варухнуцца, каб не згубіць яго са слыху. Вочы засяроджана глядзелі на траву — па ёй поўзалі маленькія чорныя мурашы, кратались вусікамі, шукаючы пералазу з

адной травінкі на другую. У траве былі іхнія норкі, пазначаныя гурбачкамі дробнага жоўтага пяску, паверх якога цямнелі сырыя пясчынкі. Ад норкі да норкі вялі між травінак звілістыя шнуркі хадоў — па іх, умела размінаючыся, грэбаліся туды-сюды мурашы. Паўлік прыгледзеўся: кожны нёс перад сабой белае прадаўгаваценькае цельца з чорнай кропачкай усярэдзіне. «Пераносяць лічынак...» — здагадаўся ён і тут жа падзівіўся, што раней, столькі седзячы, не заўважаў гэтага. Мурашы падбягалі да норкі, прыпыняліся — і асцярожна лезлі ў яе — галавой уніз. Іх мілы незвычайны клопат так крануў Паўліка, што на нейкі міг ён забыў пра Ліду, і яе смех вылецеў з ягоных вушэй, ды яму ўсё роўна было прыемна — назіраць за мурашамі і думаць.

Ён знайшоў кавалак іржавага дроту і пракалоў ім у зямлі, блізка ад ходу, глыбокую норку. Мурашы натыкнуліся на яе і стаялі, палахліва кратаючы вусікамі, потым адзін з іх, абагнуўшы край норкі, палез у яе і вылез назад з сырой пясчынкай. Паўлік ледзь не падскочыў ад радасці — і нястрымны Лідзін смех з новай сілай зазвінеў у ягоных вушах, і ён больш нічога не бачыў, не чуў, а — толькі яе, дзівосна прыгожую, якой запомніў тады, у Слаўгарадзе, на лёгкаатлетычным кросе.

...Яна заняла першае месца і была шчаслівая — сінія вочы іскрыліся, не сціхаў яе голас — падыходзіла, лёгкая, у трыко, якое зграбна абліпала яе, да кожнага з каманды, падбадзёрвала; да Паўліка прыхінулася, сказаўшы: «Паўлічак, не падкачай!..» — і ён адчуў яе блізкае цяпло, гарачы і трапятлівы дотык цвёрдых грудзей...

А потым — Паўлік прабег зусім кепска, бо сэрца яго ўжо на старце гулка стукала — яму быў нямілы свет, а яна, такая ж шчаслівая, як і раней, супакойвала яго, дакранаючыся рукі, і ён чырванеў і яшчэ больш засмучаўся.

Як бы і наогул ці перажыў бы ён сваю няўдачу, калі б не Ліда, не яе падтрымка, якая, мусіць, вельмі патрэбна была яму тады, бо з таго часу Ліда аніяк не забываецца, стаіць перад вачыма, такая, да слёз, добрая: чалавек многае і часта губляе ці набывае не поў-

насцю толькі таму, што побач не аказваецца надзейны, добры сябар. І з таго часу Паўліку карціць сутыкацца з ёй — у калідоры, на ганку, спартыўнай пляцоўцы,— уздрыгваць ад узмаху яе пужлівых, як у птушкі, веек, бачыць прыветлівую і чамусьці кароценькую ўсмешку; Ліда заўсёды плаўна, трошкі наструнепая, праходзіла міма атарапелага Паўліка, і яму здавалася, што ў паветры яшчэ доўга вісіць кветкавы пах яе мякка-залацістых валасоў і што ён, Паўлік, мусіць, задыхнуўся б ад шчасця, калі б крануўся тварам гэтых валасоў.

Ён надта зайздросціў Хведзьку, Лідзінаму аднакласніку, які часта хадзіў з ёй разам, скаліў непрыгожыя, крывыя зубы і бесперастанку балбатаў, а неяк — Паўлік бачыў — дакрануўся да яе пляча, і яна не адхіліла яго руку, стаяла, міргаючы вейкамі. «Хведзька старэйшы за мяне, на два гады...» — падумаў ён, адчуваючы, як слабеюць ногі.

...Сонца скацілася к захаду, свеціць з-за спіны, і цёмны цень ад ліпіны перасякае агарод і кладзецца бухматым канцом на хату. Пяшчотна-ружовыя стаяць яблыні і дзве грушы — іх густую квецень аблівае мяккая чырвань сонечных промняў. Цёплае зеленавата-сіняе паветра напоена салодкай духмянасцю, якая бывае яшчэ тады, калі маці варыць на двары сунічнае варэнне, паставіўшы чыгун на дзве цагліны і расклаўшы пад ім агонь з сухіх, прынесеных з лесу, смалячкоў.

Паўлік, узрушана-радасны, падняўся, ідзе ў хату — рабіць урокі. Ён — ці вясёлы, ці засмучаны — заўсёды садзіцца за падручнікі, каб у школу пайсці падрыхтаваным: не любіў насмешак, якія перападаюць двоечнікам, і яшчэ — кніжкі прымушалі думаць і здзіўляцца самому сабе ды таму, што іншы раз вычыталася.

Заснуў Паўлік позна, хоць спаць улёгся як звычайна,— Паўліку не засыналася. І ён, здаецца, упершыню пачуў прыглушаны мацерын храп і няроўнае, з прарывамі стогну, бабчына дыханне. У вокны, паўзверх белых кароткіх фіранак, густа глядзелі яркія зоркі — і на шыбіне рассыпаліся веерkамі тонкія залацістыя праменьчыкі — надта, калі павернеш гала-

ву. Потым перад Паўлікам мігнулі трапяткімі крыльцамі Лідзіны вейкі, пырснула ўваччу залацістымі іскрамі — і ён праваліўся ў несвядомасць.

Яму сніўся сон — незвычайны, каляровы. Быццам на паўнеба свеціць сонца, а другая палова неба заслонена чорнай хмарай. Выразная і яркая вясёлка, кругла выгнуўшыся, злучае гэтыя дзве палавіны неба... З чорнай хмары проста па вясёлцы бягуць-бягуць у светлае прадонне незлічоныя калоніі мурашоў, дасягаюць зямлі — ужо кранаюцца вусікі зіхоткай ад расы травы — і трапляюць... у зялёную дзюбу вялізнай, казачна расквечанай птушкі. Ён кідаецца яе адганяць і — спыняецца, бо перад ім ужо не вясёлка і мурашы, а пералівіста-ізумрудны веер паўлінавага хваста. «Паўлін!..» — ускрыквае ён — і адчувае на сабе халадок ад узмаху магутных крылаў.

Паўлік прахопліваецца.

— Паўлік!..— бабка Надзёжа зняла з яго коўдру і, матляючы ёю, штурхае ў плячо.— Уставай, а то ў школу спознішся... Маіць, сніў нешта — мармытаў?

— Ага, такі сон!..— Паўлік праціраe вочы.— Каляровы... А паўлін — прыгажэ-э-энны!..

— А госпадзі!..— бабка Надзёжа перахрысцілася, потым чатыры разы тыцнула шчопцем і на Паўліка.— Сахрані і памілуй...

— Што, бабуля? — глядзіць на яе Паўлік.

— Благая прыкмета — прыгожая паўліна...

Паўлік саскочыў з ложка, падбег да шафы і выняў з яго новую кашулю.

— Сёння пайду ў новай?

— Насі, насі...— згаджаецца бабка Надзёжа, і Паўлік, насвістваючы, бяжыць на двор мыцца. Насустрач пругка сячэ па вачах маладое ранішняе сонца, і ён захінаецца рукой. Ля студні на мокрай лавачцы стаіць цынкавае вядро з паднятай восілкай, і ў ім белым срэбрам калышацца вада.

...Паўлік выскачыў на ганак і, прыціскаючы да боку сумку, пабег, азіраючыся: хацеў не прапусціць момант, калі пакажацца з дзвярэй Ліда — яна пойдзе ў школьную павець і выкаціць з яе свой веласіпед, сядзе і паедзе; ёй адной дырэктар дазволіў ставіць веласіпед у павеці, бо яна жыве за пяць кіламет-

раў, на хутары, і хадзіць адтуль пешшу далекавата. Паўлік, як ні карцела, у школу на веласіпедзе не ездзіў — малыя блазнюкі выкручвалі ніпелі. Баяліся толькі Хведзькі Лапунца, які, бадай, адзін з вёскі мог фарсануць на перапынку «велікам».

І вось цяпер Паўлік бяжыць дамоў па веласіпед — амаль усе ўрокі сядзеў разгублены, адказваў неўпапад — мучыўся думкаю: «Што рабіць?» — і рашыў: правесці Ліду, проста праехаць з ёй побач, адзін на адзін, пагаварыць пра ўсё-ўсё, і нават расказаць пра сон, незвычайны сон, што прысніўся яму.

Паўлік ухапіўся ў хату, шматануў на лаву сумку — і крутнуўся да дзвярэй, якія пакінуў незачыненымі.

— Куды ты? — адно і паспела крыкнуць яму ўслед бабка Надзёжа, якая перабірала ў вялізнай місцы сушаныя грыбы, выкідваючы на стол лісцінкі, шыгаллё.

— Хутка вярнуся! — адказаў Паўлік, ужо са двара.

Адразу за школай браўся малароснік — хвоя ўперамешку з бярозкамі. Праз яго з кіламетр цягнулася пясчаная дарога і трохі збоч — цвёрдая вузенькая сцежка, па якой людзі хадзілі на шашу. Па гэтай сцежцы, прыгінаючыся пад нізкія галіны, і нёсся на веласіпедзе Паўлік. «Во надам дзіва, калі даганю яе!..» — падумаў ён — не ўкіраваў, наскочыў на вузлаваты корань — і яго кінула разам п веласіпедам на мяккую, роўна раструшаную па імху, ігліцу. У нос патыхнула цёплым і густым пахам смалы. Ён падняўся, ускочыў на веласіпед і памчаўся далей.

Вынырнуў на шашу, і яго позірк адразу ўтаропіўся ўлева. Трымцела-мроілася над шашой празрыстае паветра, напамінаючы сабой чыстае шкло, аблітае вадой,— і ён добра ўбачыў удалечыні дзве маленькія чалавечыя фігуркі. «Чаму дзве?..» — адчуў, як праймае пот. Адна, крайняя справа, белая — гэта Ліда, яна сёння была ў белай блузцы — «як матылёк». А другая — сіняя, буйнейшая — чыя? «Няўжо Хведзька?..— з ілба і носа, казычучы скуру, скаціліся кроплі поту. Паўлік, адтапырыўшы ўбок ніжнюю губу, дзьмухнуў на твар і страсянуў галавой. Паднаціснуў на педалі.— Ну і што, калі Хведзька. Даганю ўсё роўна!.. Не толькі яму праводзіць Ліду... Ён і так

ужо, мусіць, направодзіўся... А я, цяльпук, не мог здагадацца, усё чакаў, рыхтаваўся. Хведзька і ездзіць у школу на «веліку», каб праводзіць Ліду... Даганю, хай бачыць, што і я хачу яе праводзіць. А яна не будзе супраць, яна — добрая...»

Разагрэты асфальт шыпеў пад коламі, траплялiся выбоіны, і Паўлік звярнуў на абочыну, цвёрдую ад гравію,— ехаць стала лягчэй, адно чуваць было, як пабрынквалі аб спіцы каменьчыкі. Наехаў на кучу пяску, потым убачыў знак — жоўты трохкутнік з чорным сілуэтам чалавека, які поркаецца рыдлёўкай у зямлі.

Вось хутка і мост, ля якога былі яны — Ліда і Хведзька,— калі Паўлік выскачыў на шашу. Але што гэта? Пад'язджаючы да маста, ён пачуў сабачы енкат — і тут жа краёк вока ўхапіў пад кюветам агніста-рыжую пляму. Паўлік рэзка затармазіў, спыніўся. У лагчынцы чорна блішчаў расплаўлены гудрон, і ў ім напаўляжаў агніста-рыжы, як ліса, сабака.

Сабака заціх і з надзеяй глядзеў на Паўліка. Паўлік закруціў галавой — туды-сюды: Ліда і Хведзька зноў аддаляліся — драбнелі і расплываліся іх постаці. Паўлік штурхнуў веласіпед на асфальт — і сабака адчайна затузаўся, заякатаў — плаксіва і голасна. Паўлік кінуў апошні быстры позірк удалячынь і кулём скаціўся ў кювет. Сабака завяз у гудроне ўсімі нагамі і правым бокам, глядзеў на Паўліка радасна-сумнымі вачыма і жаласна павіскваў. Паўлік прымераўся, ступіў на гудрон, зрабіў крок, другі — адчуў, як мякка асядаюць ногі, рвануўся назад, але ног не адарваў — гарачая хваля пракацілася па спіне, і ён шмаргануў правую нагу штосілы — у гудроне застаўся падносак з белымі вострымі цвічкамі, потым, дастаўшы рукамі да зямлі, выцягнуў левую. Глянуў на голыя пальцы правай нагі, на сабаку — убачыў, што ад сабачых вачэй мокра і вузенька — шнурком — цягнуцца ўніз бліскучыя на сонцы палоскі. Хуценька расшнураваў чаравікі, скінуў іх з ног і, босы, асцярожна пабраўся да сабакі — у падэшвы востра пеканула, акурат прысакам. Стрываў, прыкусіўшы верхнюю губу. Сабака пацягнуўся да яго пысай, і Паўлік адно цяпер прыкмеціў, што ў сабакі на гарлавіне белая поўсць — манішка — і на ёй кальцо ад ашыйніка з абрыўкам тонкай вяровачкі.

Паўлік памалу пасоўваў ногі, чым далей — тым глыбей яны патаналі, і ён зразумеў, што і так нічога ў яго не выйдзе, загрузне сам. Зноў выкараскаўся на траву — да дзіўнага халодную. Ад адчаю хацелася плакаць, не выходзіла з галавы Ліда: «Яна там з Хведзькам... Можа, паехаць даганяць?..» Сабака бездапаможна апусціў прыгожую маленькую галаву з куртатымі вострымі вушкамі і, выкаціўшы чырванаватыя бялкі, умольна глядзеў уверх — на Паўліка: саслабеў.

Паўлік раптам крутнуўся, пайшоў да алешын, што густой градою раслі воддаль. Сабака хрыпла гыркнуў і абазваўся прыглушаным раўніва-разгубленым скавытаннем. «Пачакай!..» — агляну́ўся Паўлік. Наламаў цэлае бярэма альховага вецця, прынёс, намасціў сабе пад ногі, потым наскуб травы і раструсіў паверх вецця, пасыпаў пяском. Сабака ўвесь час назіраў за Паўлікам аддана-ўдзячнымі вачыма.

«Зараз, зараз...» — Паўлік наблізіўся да сабакі, узяўся адной рукой за ашыйнік, другою — за азадак, пацягнуў на сябе. Сабака затузаўся, памагаючы, завішчэў, але не падаўся. Паўлік паспрабаваў падсунуць руку пад бруха, але правы бок намёртва прыкіпеў да гудрона. «Нічога не будзе!..» — Паўлік выпрастаўся, зморшчыў лоб і так стаяў, потым пагладзіў сабаку па спіне, адчуваючы далонню рабрысты ланцужок пазванкоў, пакудлаціў ля вуха, і сабака дацягнуўся — лізнуў цёплым пяшчотным языком Паўлікавы пальцы. Паўлік сумеўся, адняў руку і саступіў з насціла. «Мусіць, не паспею дагнаць Ліду?..— у цемя часта задугала кроў.— А калі добра прышпарыць?»

Іскрыстымі блёсткамі гарэў на сонцы веласіпед, надта скакалі яны па нікеляваным вобадзе. І Паўлік раптам схамянуўся, падбег да веласіпеда — ён ляжаў на схіле кювета,— адшпіліў сумку-кашэль і дастаў ключы, выбраў самы большы, кручкаваты з двух канцоў.

Зноў падабраўся да сабакі і пачаў калупаць ключом, раздзіраць цягучую і вязкую масу. Хапаў прыгаршчамі пясок і сыпаў у раскалупаную ямку, каб не зацягвала і не так чапляўся на рукі і ключ ліпкі гудрон. Сабака цярпліва чакаў, адно нервова варушыліся і ўздрыгвалі куртатыя вушкі ды на загрыўку

дыбарком уставала кароткая густая шэрстка.

Паўлік вызваліў сабаку бок, падсунуў пад яго кашлатую, з верхавіны, ветку. Сабака прыпадняўся, і правая задняя нага яго дробна затрэслася. Сонца, мінуўшы зеніт, няшчадна смаліла, і пах расплаўленага гудрону кружыў-дурманіў галаву. Фыркалі, назойліва кружыліся вакол вёрткія аранжавыя стракозы, падляталі блізка да сабакі — як не садзіліся яму на пысу,— і ён злосна, з адчаем ляскаў маладымі, белымі зубамі.

Паўлік адкалупаў правую нагу, дапамог сабаку падагнуць яе пад бруха, якое ляжала цяпер на вецці,— у ямку сыпнуў жменю, другую пяску. Сабака, адчуўшы палёгку, узбуджана заскавытаў, напружыўся — радасць блізкага вызвалення сабралася ў ім тугой спружынай, гатовай у любую хвіліну з сілай выпрастацца і кінуць сухое і лёгкае цела ў нястрымны, захоплены бег: няма на свеце нічога больш пагубнага і непрымальнага для ўсяго жывога, чым няволя і гвалт; і ўсё ж яны, няволя і гвалт, тады-сяды бяруць жывое ў палон — мусіць, для таго, каб яшчэ лепш адчувалася і без таго дарагая цана волі і ласкі.

Паўлік да самазабыцця, ярасна арудаваў ключом, рваў чорны, бліскучы гудрон — і другая задняя нага легла на падсціл... Паўлік выцер з ілба пот, каротка зіркнуў па шашы — і вочы, поўныя ўпартага агню, востра пранізалі празрыстую, прымглёную сінню, пустую далячынь. Ззаду чуўся далёкі басавіта-чмяліны гуд машыны. У спіну пякло сонца, і адчувалася, што пад кашуляй мокра.

Ён зноў сагнуўся і, узяўшы ў абедзве рукі ключ, пачаў дзяўбаць гудрон, адкідваючы ўбок чорныя цяслявыя ашмёткі. Сабака, ловячы іх вачыма, неспакойна круціў галавою, цягнуў вільготнымі ноздрамі паветра і сутаргава патузваў шчэлепамі — ружовы кончык языка выгінаўся карытцам між двух мармуроваbелых, няз'едзеных клыкоў.

Паўлік узяў рукой тонкую пярэднюю нагу, чорную ад наліплага гудрону, пацягнуў уверх, і сабака, пранзліва віскнуўшы, нямоцна — адно дакрануўся — хапіў Паўліка за калена, пакінуўшы на ім мокрыя плямкі. «Балюча? Пацярпі...» — Паўлік, падтрымліваючы сабаку за грудзіну, у якой ліхаманкава калацілася і аддавала ў далонь сэрца, вызваліў дру-

гую пярэднюю нагу і, не разгінаючыся, вынес сабаку на траву.

Сабака спружыніста падскочыў, рвануўся бегчы, нязграбна ставячы на зямлю нягнуткія чорныя, як абсмаленыя, ногі. Зрабіў невялікі круг, вярнуўся і забрахаў на Паўліка ўрачыста-радасным, пераможным брэхам; сабачыя вочы, утрапёна-разгубленыя, з бляскам шкляна застылай трывогі, неадрыўна сачылі за Паўлікавымі вачыма.

— Ну што?.. Што?..— сказаў Паўлік.— Паехала наша Ліда... З Хведзькам... А мы з табой во...— Ён паказаў свае рукі, выпацканыя ў гудрон, глянуў на кашулю — і ледзь не самлеў: спераду, на рукавах яна была ў чорных тлустых плямах. Сабака нізка, да самай зямлі, прылёг, вінавата і прысаромлена запішчаў, драпаючы пярэднімі нагамі зямлю. Потым, прыклаўшы вушы, асцярожна папоўз да Паўліка.

— Бачыш, што мы нарабілі з табой...— Паўлік узяў правы чаравік без падноска, пакруціў яго ў руках.— Можна падладзіць пакуль. А там — нам абы харашо вучыцца...

Сабака цвёрда застукаў злямчаным хвастом па зямлі, прыгінаючы галаву так, быццам збіраўся падскочыць. Паўлік пагразіў яму пальцам, і ён пакорліва абмяк, падтуліў хвост.

— Адчуваеш віну...— сказаў Паўлік, жмурачы вочы і ўзіраючыся ў асмужаную далячынь. Глыбока ўздыхнуў, і вочы набылі сумна-пакутлівы бляск.— Ты не пры чым... Ускочыў вось па дурасці ў гэтую пролабку...

Сабака прыўзняўся і, адчуваючы, што да яго звяртаюцца, завіляў хвастом, віскнуў і аблізнуў языком пысу; бліскучы вільготны нос чуйна варушыўся. Падляцела страказа, нахабна павісла над самай пысай, і сабака пагрозліва ашчэрыўся — тарганууся, клацнуўшы зубамі.

— Хведзька нахабнік, ён кожны дзень праводзіць Ліду... У яе вочы сінія-сінія, во як неба... Яна добрая... А мы з табой?..— Паўлік паківаў галавою, пайшоў да веласіпеда. Сеў на траву, задумаўся; потым з сілай крутнуў кола — яно закруцілася, замільгацелі спіцы, пад імі была сагнута галоўка крывасмоку і глуха барабаніла. Падбег сабака і ўткнуўся пысай Паўліку пад руку.— А мы з табой — цельпукі...—

Пагладзіў сабаку па галаве, шыі, і той ад задавальнення тонелька заскавытаў.

Стаяла задуха. Гаркава пахла ад маладых алешын. Бялелася куча пяску — у тым баку, куды паехалі Ліда і Хведзька.

Хведзька не паказваўся, адно ішлі легкавыя машыны — была субота.

Паўлік плакаў, а сабака, стоячы перад ім з апушчаным хвастом, лізаў яму брудныя рукі цёплым, пяшчотна-ружовым языком.

## ЛЁК

Сам ён маленькі, і ўсё ў яго маленькае, акрамя вачэй. Вочы вялікія, круглыя, і павекі на іх туга напятыя, як скура на футбольным мячы. Маленькі рост і гэтыя па-дзіцячы развінутыя, бы ад здзіўлення, вочы надта маладзілі Ляксея, і з незнаёмых мала хто верыў, што ў яго ўжо дарослыя дзеці, толькі адзін, шасцікласнік, жыве пры бацьку і маці.

Мусіць, усё за тую ж драбнату Ляксея празвалі ў вёсцы Лёк — такое кароткае, мякенька-ласкавае імя, лічылася, больш пbabstавала Ляксею. Лёк дык Лёк, хай будзе Лёк. Сам Лёк на сваё празванне не крыўдаваў, бо мянушку меў у Малінаўцы бадай кожны чалавек, ды і не ўмеў ён крыўдаваць, гэты рухавы, як ваверка, шчуплы мужчынка. Ён сам так і казаў: які я мужчына, я — мужчынка. Але ў гэтым «мужчынка» гучала гонару больш, чымся ў некага за словам «вярзіла». Проста Лёк ведаў сабе цану і, як кожны чалавек з годнасцю, мог пакепліваць з сябе.

Лёк рабіў на трактары з прычэпам, які штовечар прыганяў і ставіў ля двара. Мазут павыпаліў мураву, і цёмныя плешыны пяску так награваліся ад сонца, што на іх нельга было ступіць босай нагой. Ажно брала здзіўленне: чаму яны не ўсхопліваюцца полымем? Дзеці, гарэзуючы, станавіліся голымі падэшвамі на гэтыя плешыны: хто больш выцерпіць.

Пад хатаю Лёка заўсёды стаяла гамана: днём ад дзетвары, увечар — ад мужчын, што збіраліся на лаўку паслухаць жартаўлівага гаспадара, пагаварыць

пра навіны і палітыку. І нават тады, калі Лёк недзе пазніўся, мужчыны адразу не разыходзіліся, а яшчэ доўга паглядвалі ў канец вёскі, шукаючы на небе пражэктары фар...

У той вечар яны так і не дачакаліся Лёка. Быццам чулі тарахценне, ды нехта здагадаўся, што гэта за балотам аруць зжатае поле. І ў Лёкавай хаце за поўнач гарэла святло — не клалася спаць Маруся, жонка; праўда, яна трывожылася мала — ужо прывыкла да таго, што муж, наабяцаўшы і таму, і другому дроў там ці сена прывезці, іншы раз стоміцца і заначуе ў каго-небудзь. Вунь яшчэ на цёмнай зары прыходзіў з суседніх Бакунавічаў настаўнік — прасіў прывезці гліны на печ. Ну, як ты не паслухаеш: настаўнік жа некалі вучыў яго, Ляксея, а потым і дзяцей іх. Ведаючы мяккі мужаў нораў, Маруся лічыла, што гэта толькі яе права выбіраць — чыёй просьбе ўважыць, а чыёй не. І хоць Лёк амаль заўсёды рабіў па-свойму, ёй прыносіла задаволенне камандаваць мужам. Таму, уласна, Маруся і падумала, што Лёка пасля таго, як прывёз настаўніку гліну, яшчэ нехта пераняў. Яна, накарміўшы сына і пасцяліўшы яму спаць, паўздыхала, паўглядалася сумнымі вачыма ў цёмнае, таямніча-глыбокае акно і наструнена прылегла на край ложка — з тым, каб потым, калі затупаціць у сенцах муж, устаць.

А дзень для Лёка пачаўся так.

Адразу, памыўшыся і паснедаўшы, пакалоў на двары бярозавыя цурбакі; хацеў яшчэ падладзіць у свіной пуньцы дзверы, але падумаў, што спозніцца на нарад. Да Бакунавічаў, дзе праўленне, набіралася тры кіламетры, і патрэбен быў час, каб да іх дакалывацца па разбітай, калдобістай дарозе. Ды і лепей так, калі ў двары чакае нейкая недаробка,— тады яна руліць, цягне дахаты.

Старшыня калгаса Зурыкаў, аграном па спецыяльнасці, з вопытам арганізацыйнай работы, які набыў, працуючы ў райкоме партыі інструктарам, прымушаў паважаць дысцыпліну. Строгасці асаблівай пакуль не праяўляў, але пачынаў ужо касіцца на Лёка за тое, што той ставіць свой трактар не на стане, як усе, а ганяе дамоў, часам — дайшлі чуткі — на добрым падпітку. І яму, можа, не хапала зусім дробязі, каб прычапіцца да Лёка і забараніць вольна

распараджацца калгаснай тэхнікай. Лёк адчуваў гэта, але не здаваўся, апраўдваючы сябе тым, што працуе ў калгасе няшмога-нямала, а трыццаць гадочкаў, старшыня ж адно з'явіўся, дык што: ужо стапавіся перад ім на лапкі і глядзі ў рот, што ён скажа. Ёсць, у рэшце рэшт, і справядлівасць. Усё астатняе — як прыкладзецца, а справядлівасць павінна быць. Такі закон жыцця.

Лёк, выцершы на ганку ногі, зайшоў у праўленне ўжо нарыхтаваны пачуць ад старшыні папрокі. У кабінеце сядзелі шафёры, механізатары, бязладна перамаўляліся, але ніхто не курыў. Зурыкаў з ліслівараэмяклым тварам слухаў тэлефонную трубку, прыціснуўшы яе плячом да маленькага круглага вуха,— рукі ў гэты час перабіралі аркушы спісанай паперы. Тым не менш ён змеціў, як пераступіў парог Лёк, і паспеў падумаць, што нешта пільнае хацеў яму сказаць. Далей яго ўвагу поўнасцю забрала тэлефонная трубка, якую ён узяў ужо рукой, і ямчэй узваліўся грудзінай на стол.

Ля самых дзвярэй было вольнае крэсла, ды Лёк знарок прамінуў яго, сеў бліжэй да старшыні. Тырчаў стаўбунком, як суслік, рахмана і нявінна плюскаючы вачыма. Адразу скумекаў, што Зурыкаву званяць з раёна, і потайкі нават парадаваўся гэтаму, быццам тыя, што званілі, былі заадно з ім, Лёкам, і маглі абараніць яго ад старшынёвых нападак. Бо відаць жа па самім старшыні, што не на банкет запрашаюць, а адчытваюць ці, ва ўсякім выпадку, даюць з усёй начальніцкай нястрыманасцю ўказанні. К канцу размовы гладкія, любоўна выбрытыя старшынёвы шчокі паружавелі, напомніўшы Лёку падрумяненыя аладкі, што падала яму на снеданне Маруся. Старшыня, паклаўшы трубку, не стаў, як чакалася, абурацца (яму хацелася як найхутчэй застацца аднаму і абдумаць парады аграномa з райсельгасупраўлення), а спакойна, зрэдку адрываючы ад стала позірк, даў кожнаму заданне.

Лёку выпала вазіць з урочышча Бахань торф — на ферму, на так званую падушку, якую, пасля таго як патопчуцца па ёй каровы, вывозілі на поле.

Ля трактара, які стаяў пад вярбою, кранаючыся верхам кабіны вузенькага жаўтлявага лісця, што варушылася ад цяжкой задухі і, разапрэлае, бліска-

ла празрыстымі, як мёд, кропелькамі, яго чакаў Арэшчанка, настаўнік. Ён быў у цёмна-сініх адпрасаваных штанах, светлай кашулі, зашпіленай на ўсе гузікі, з голай галавою — сівыя валасы і светлая кашуля выразна адцянялі яго смуглы хударлявы твар, па якім шырока разлівалася лагода і мяккасць — ці ад таго, што чалавек усміхаўся, гледзячы Лёку ў вочы, ці проста гэта быў натуральны воблік, адшліфаваны шматгадовым настаўнічаннем.

— Ну дык як, Аляксей Іванавіч, нічога не змянілася? — спытаў Арэшчанка.

— Я слоў на вецер не кідаю,— сказаў Лёк, рыўком адчыняючы дзверцы кабіны і ставячы на падножку нагу. Ужо сеўшы за руль, спахапіўся, што, мусіць, не надта далікатна павёў сябе з сваім былым настаўнікам, высунуў галаву, крыкнуў: — Як дамовіліся, Еўдакімавіч!

Лёку не спадабалася, што Арэшчанка перастрахаваўся — прыйшоў да праўлення яшчэ раз спытаць,— выходзіла, яму не давяралі, сумняваліся ў тым, што ён паабяцаў. А навошта? Ён сказаў — як звязаў. Хіба адно смерць не дасць яму пастаяць за свае слова. Канечне, Лёк не такі дурны, каб не разумець Арэшчанку. Дзе тут чалавеку будзе спакойна, калі свет такі: раўнадушша і чэрствасць, як кажуць, вадой не разальеш. Паабяцаў — і забыўся, назаўтра ўспомніў — махнуў рукой. І, што дзіўна, ніякага дакору, і сумленне не грызе.

Лёк сам цярпеў не раз з-за гэтай бязладнасці ў людзях. Помніцца, яшчэ малады быў. Дамовіўся з рабочым смалакурні, што той мяшок вугалю падкіне — кабана смаліць. Адвечара, як дамаўляліся, не прывёз. Ну, клопату таго — раніцой падвязе, акурат к смаленню. Кабана заваліў... Гадзіну чакаў, другую — няма ні рабочага, ні вугалю. Маруся, цяжарная, ледзь не ўголас вые, кляне беднага Ляксейку. Добра, што хоць на гарышчы з дзесятак сточаных мышамі снапоў заляжалася, дык імі так-сяк абкарнаў кабана.

Лёк крута развярнуў трактар і пакаціў па дарозе ў Бахань. Прычэп развалiста гупаў на выбоінах, узвіхурваў за сабою пыл — ён падымаўся ўгару, доўга вісеў, паволі сплываючы на сады і хаты; яблыні стаялі шэрыя, мала не белыя, з непрыкметнымі ў лісці яб-

лыкамі, ужо даўно чакалі дажджу. І тады, як пойдзе дождж, яблыкі заблішчаць, радасна засвецяцца, вабдна налітыя сокам і сонечнай цеплынёю, ад якой, здаецца, пачалі ўжо знемагаць.

Хмара, грузная, лілова-шызая, што нагнала сабой халадку, усплыла на неба толькі пасляабеддзем. Лёк зрабіў ужо чатыры заходкі. Сядзеў, спацелы, у кабіне, ледзь не задыхаючыся, хоць і было адчынена акно, і думаў — ехаць ці не ехаць яшчэ раз па торф. А раптам там, на балоце ля катлавана, зашчучыць дождж. Тады ўсё — загрузне: размяклы чарназём колы рэжуць, што масла. Страху, вядома, вялікага не было б — бульдозер на сваіх шырозных гусеніцах выцягне з любой пролабкі,— калі б не абяцаў прывезці Арэшчанку гліну. Доўга разважаць Лёк не любіў, таму, ядавіта газануўшы, сарваў трактар з месца і пакіраваў яго па вуліцы, а не па дарозе на Бахань. Яшчэ больш уверыўся ў сабе, калі мільгнула думка, што і гліну, змочаную дажджом, не так проста будзе грузіць.

Гліну ўскінулі на прычэп хутка, бо кідалі ў дзве лапаты — Лёк ніколі, у адрозненне ад іншых, не лічыў, быццам трактарыст ужо тым услужвае, што прывозіць. Ён заўсёды сам браў у рукі лапату ці вілкі і памагаў гаспадару.

Арэшчанка, бачачы, што Лёк стараецца заграбаць папоўніцы, быццам пазайздросціў, чым паддаў (на што, уласна, і разлічваў) Лёку яшчэ большага азарту:

— У цябе, Аляксей Іванавіч, жывіца яшчэ ёсць.

Лёк як не вылузваўся са скуры, падкалупваў гліну, прысядаючы і падштурхоўваючы каленам чаранок лапаты. У паўзмроку, што ўраз згусціўся, як толькі хмара навісла над галавой, было відаць, як бліскалі ў Лёка зубы.

І тады ўжо, калі селі ў кабіну, зацубаніў дождж — вокны сталі мокрыя, зарабацелі зорачкамі расплясканых кропель. У трактары не было «дворнікаў», Лёк, тым не менш, падумаў, гэтак жа як і Арэшчанка,— добра, што, нарэшце, уліў дождж.

Ля ашаляванай хаты з разьбянымі ліштвамі, што засланялася знізу густымі кустамі каліны, гронкі якой ужо аднабока забурэлі, Арэшчанка выкуліўся з кабіны, паказаў, куды ссыпаць гліну. Лёк плаўна

падвёў трактар блізка да плота, адчыніў левы борт і ўключыў гідраўліку — прычэп стаў хіліцца набок. Гліна мякка шухнула па гладкім бляшаным днішчы, што бліснула бела, як люстра, акуратнай горкай вырасла на зямлі, пахаваўшы пад сабою пасынак гурочніку, які выткнуўся між частаколін.

— Ну, пайшлі, Іванавіч, у хату,— сказаў Арэшчанка Лёку, калі той заглушыў матор і скурчыўся ад дажджу, які, сцякаючы з акрайка картуза, трапляў за каўнер; на зашмальцаванай чорнай спяцоўцы, акурат і на руках, сабраліся фіялетавыя кроплі-скалкі.

Яны пайшлі ў хату. На двары іх сустрэла гаспадыня — круглатварая жанчына з гладка зачасанымі назад валасамі, што адкрывалі нізкі, круты лоб. Падала Лёку чысты белы ручнік, паказала на ўмывальнік, збоч якога на палічцы парафінава-мякка ружавеў брусок мыла.

— Ды мне не белы, мне якую анучу з-пад печы, і не духавое мыла, а мыцельнага парашку,— сказаў Лёк, закасваючы рукавы спяцоўкі і агаляючы незагарэлыя валасатыя рукі.

— Бяры-бяры,— падпіхнуў яго пад локаць Арэшчанка, — ты ў нас самы госць!..

— Куды ўжо там! — засмяяўся Лёк.

Стол быў накрыты ў верандзе, куды на лета перабсталявалі кухню,— там вакол судніка стаялі табурэткі, збоч — газавая пліта, што аж гарэла паліроўкаю, і балея з вадой. Лёка пасадзілі на крэсла, якое ўнеслі з чыстай паловы хаты. Гаспадыня як бы неўпрыкмет накінула яму на калені хустку.

— Во! Ды гэтая хустка ў сто разоў чысцейшая за мае штаны.— Лёк зграб з каленяў хустку, паклаў на табурэтку. Так уладна, што больш ніхто не стаў яму пярэчыць.

— Ну дзякуй табе, Аляксей Іванавіч, што паслухаў,— сказаў Арэшчанка, наліваючы Лёку гарэлкі.

— Сваё дзела, Еўдакімавіч, так ці не?

Лёк смачна выпіў. Гаспадыня падсунула яму талерку з ружовай, тонка нарэзанай вяндлінай. Ды Лёк не ўзяў яе, укалоў відэльцам кружок свежага гурка з залітай смятанай міскі, адшчыкнуў хлеба.

— Ты, Іванавіч, кусай што дзе бялейшае,— стаяла ў яго за спіной гаспадыня.

Лёк, бы назнарок, еў зусім мала.

— Чалавек, Еўдакімавіч, не мяч...— нечакана і загадкава сказаў Лёк, калі на вочы ўжо наплыў лёгкі вільготны туманок, і яны густа заблішчалі, высвечваючы з глыбіні наіўнасць і прастату. Дастаў з кішэні папяросу, закурыў. Зацягнуўшыся, дыхнуў дымам у занавеску, на якой сядзеў камар,— аж закалыхалася.

У гэты момант Арэшчанка неспакойна павярнуўся на табурэтцы, мусіць, каб адагнаць апошнія сумненні, што трымалі яго ў напятасці, і міргнуў жонцы. Яна сунула яму ў руку дзесятку. Ён узяў яе і падаў Лёку.

— За помач...

— І грузіў жа,— падтакнула хуценька гаспадыня на выпадак, калі заўпарціцца Лёк — што многа заплацілі.

— Не бяру,— Лёк сказаў з такой хваткасцю, што мала хто не паверыў бы ў яго шчырасць. І Арэшчанка адчуў: пачні напіраць — пакрыўдзіш чалавека; не марудзячы, ён склаў папалам дзесятку і торкнуў яе ў кішэньку на Лёкавай спяцоўцы. Лёк уздыхнуў, але грошы не стаў вымаць. Мусіць, падумаў у гэты час, што ў яго хоць і дарослыя дзеці, ды ўсё яшчэ вымагаюць ад бацькі грошы — то на джынсы ўсякія, то на туфлі, то на сукенку...

— А як жа інакш? — стаў апраўдвацца Арэшчанка.— Чалавек зрабіў дабро — аддзячыць трэба. А не ўгадзі — у наступны раз застанешся, як кажуць, з носам.

Лёк пакруціў галавой, акурат наўмысна імітаваў дзіцячы капрыз, адхінуўшы занавеску, глянуў у акно. Ужо, здаецца, была пара і ехаць, але на вуліцы рупатна шумеў дождж, і з цёплага не хацелася на яго вылазіць. Ад udараў кропель падрыгвала на бульбоўніку цвёрдае лісце.

— А калі б глядзеў на гэту аддзяку, Еўдакімавіч,— сказаў Лёк, усё яшчэ не адводзячы ад акна позірку,— то наўрад ці паехаў бы вам па гліну...

— А што такое?..— Арэшчанка пераглянуўся з жонкай, быццам загадзя хацеў сказаць ёй, што нідзе і ні ў чым не правініўся.

— Помню, усё помню!..— Лёк, усміхаючыся, хітра прыжмурыў вочы, ад чаго твар адразу пачужэў,

але інтанацыя ў голасе была такая, што больш гаварыла пра жарт, чымся пра нейкую затоенасць ці крыўду. І гэта, у рэшце рэшт, расслабіла Арэшчанку, які таксама любіў шчырасць і ніколі не баяўся пачуць нешта непрыемнае для сябе, бо ўпэўнены быў, што жыццё сваё пражыў чэсна.— А даведку вы мне за сем класаў не далі... Помніце? Колькі там тыдняў не дахадзіў у школу... і не далі. Як ні прасіў. Думалі, што я — сіроцкі сын, дык ужо ніколі і не спатрэблюся? А вот, бачыце...— уздыхнуў: — Чалавек — не мяч.

Арэшчанка здзіўлена пацiснуў плячыма, вузкімі і вострымі, як краі дошкі.

— Не помню.— Ён сапраўды не помніў тую раннюю пасляваенную восень, калі перад ім у канцылярыі стаяў Антанёнкаў Ляксейка і, хаваючы за ступню мыс правага чаравіка, з якога вылазілі збітыя пальцы, прасіў даведку за сем класаў. Што зробіш: іх жа, вучняў, тысячы праплылі перад вачыма, кожны са сваім характарам, радасцю, бядою.— Не помню, Аляксей Іванавіч, хоць забі.

— А я помню. Такое не забываецца... Бязбацькавіч я быў. Ведалі ж, загінуў наш тата на вайне... І дзед Нупрэй загінуў. Маці з чацверыком галапузых было хоць разарвіся... А я — старэйшы, каранніком ішоў у запрэжцы... Якая там вучоба!

— Не помню, Іванавіч. Даўно было,— зноў сказаў Арэшчанка, тупячы вочы ў стол. Гаспадыня нерухома стаяла побач.— Прабач.

— Я крыўды на вас не трымаю, адно балюча ўспамінаць тую сваю пару... сэрца разрываецца. Вайна ва ўсім вінавата!..— Вочы ў Лёка звільжэлі яшчэ больш — цяпер ужо не столькі ад гарэлкі, колькі ад жалю. Можа, і яшчэ ад чаго, што ў хвіліны чуллівасці заяўляе пра сябе цвёрдым камяком у горле, які глытаеш і не можаш пракаўтнуць.— Налі мне, Еўдакімавіч...— Лёк прыдушыў на вечку ад слоіка недакурак.

— Можа, не варта ўжо?

— Мне?.. Мне шкадуеце г... гэтага?

— Ды не шкадую я...

— Вот дапякаюць мяне — выпіваю. А дзе тут, Еўдакімавіч, піць не будзеш, га? Ты — вучоны чалавек... Скажы мне праўду. Я праўду люблю.

— Так, так, дзяцінства...— шматзначна працягнуў Арэшчанка, пакідаючы ў ланцугу сваіх думак прарэху між тым, што ўжо сказаў, і тым, чаго недагаварыў, але што было зразумела нават п'янаму Лёку.

Кульнуўшы чарку, Лёк разбалбатаўся, хоць язык ужо не надта служыў, і Арэшчанка, які амаль не піў і ўважліва слухаў, адзначыў сам сабе, што Лёк, аднак, не губляе галавы. Лічы, закалыхаў гэтым сваім «чалавек — не мяч», куды ўкладваў, вядома, не толькі разуменне, што такое чалавек, а ўсю сваю жыццёвую пазіцыю, якая зводзілася да таго, што мяч, адбіўшыся ад сцяны, зноў бесперашкодна вернецца ў ногі, и чалавек, натыкнуўшыся на непаразуменне, губляе золата душы — дабрату...

Гаварыў Лёк, вядома, інакш і блытана, гэта Арэшчанка, вучоны інтэлігент, слухаючы Лёка, так фармуляваў для сябе яго думкі.

Яшчэ праз паўгадзіны Лёк так назюзюкаўся, што ківаўся на крэсле, але калі Арэшчанка прапанаваў яму прылегчы адпачыць, ускінуўся і, бязглузда пасміхаючыся, доўга ціснуў дзвюма рукамі гаспадару кончыкі пальцаў, прыгаворваючы невыразна, але з настойлівым жаданнем мець цвёрды голас: «Чалавек — не мяч... Чалавек — не мяч...» І ўстрывожаная гаспадыня была ўзялася ўлашчваць Лёка, каб застаўся, бо на дварэ ўжо цемень, гразь, ды ён няўмольна бараніўся:

— Д-думаеце, я — мужчынка, дык і сп'янеў? Н-не!..— Ён згроб растапыранай рукой свой картуз, які прадбачліва паклаў на падаконнік, доўга прыладжваў на галаву, ды ён, змяты, з'язджаў на вуха.

— Як ён такі на трактары? — пахітала галавой гаспадыня, счакаўшы, пакуль за Лёкам зачыняцца дзверы.

— А што ты зробіш? — сказаў Арэшчанка з тою безнадзейнасцю, якая паяўляецца ў голасе, калі чалавек зрабіў усё, што мог, але так нічога і не дабіўся. Колькі імгненняў падумаўшы, ён хуценька выбег з хаты. Ля трактара паспрабаваў яшчэ раз угаварыць Лёка застацца нанач, ды той не хацеў нават слухаць, упёрся: «Мне толькі за руль сесці...»

Лёк сапраўды хутка завёў трактар, уключыў фа-

ры, у святле якіх адразу замільгалі белыя нітачкі дажджу, развярнуўся і задрынчаў. Арэшчанка нейкі час праводзіў яго вачыма, не зважаючы, што да твару густа, дробна ліпне імжа.

— От Лёк, дык Лёк! — прамовіў, не то асуджаючы Лёка, не то захапляючыся ім, і пайшоў у кладоўку шукаць поліэтылен, каб накрыць гліну.

Лёк тым часам выруліў за вёску, удала прамінуў мосцік праз грэбельку, зусім не цямячы, ад чаго затузаўся трактар, і, ямчэй ашчаперваючы руль, прапусціў той момант, калі пярэднія колы саслізнулі з гразкай дарогі, пагрэбліся па купніку. Лёк паддаў газу — трактар, як падшпораны конь, рвануў наперад, падмінаючы пад сябе кустоўе і крохкія маладыя алешыны.

За выганам пачалася пустка, цвёрдая, убітая капытамі кароў і коней, і Лёк, парадаваўшыся, што зноў узбіўся на дарогу, міжволі ўтапіў педаль акселератара да адказу... У нейкае імгненне яму здалося, што зямля ўздыбілася перад ім, і трактар пакарабкаўся ўверх, рыючы перадком парослую драбналессем зямлю. Па кабіне і вокнах спружыніста хвасталі бухматыя чорныя галіны... У вушах стаяў трэск, як ад перуну ці разрыву бомб, а ўваччу час ад часу жоўта, ігольчата-востра бліскала...

Лёк, канечне, быў нямоглы, каб зразумець, што ўрэзаўся ў сасоннік, і трактар, набраўшы разгон, трысціць перад сабой сасонкі, выварочваючы з карэннем, прапускае пад сябе. У шызым тумане, ускаламучаны страхам, што апанаваў яго, калі ўбачыў перад сабой чорную прорву, у якой усё трашчала і бліскала, Лёк падумаў, што трапіў у самое пекла... Вунь і чэрці пнуцца ў кабіну, стукаюцца рагамі, бы тыя раз'ятраныя ласі, якіх ён бачыў аднойчы ў маладым бярэзніку, ходзячы па грыбах. Эх, «беларусок», родны, выручай!.. На цябе адна надзея!.. Лёк упіўся ў руль сутаргава скурчанымі пальцамі.

Мокрыя ствалы сасонак востра бліскалі ў святле фар і — раптам у Лёка палезлі на лоб вочы: на яго насоўвалася зграя фашысцкіх салдат — з бакоў, спераду і, мусіць, ззаду... Толькі каскі кругла, як мячы, бліскаюць. Так, так, ён добра помніць гэтыя каскі — рудыя, са свастыкай.

...Нямецкія танкі тады паявіліся ад шашы. Вайна толькі пачалася, і гэта былі першыя немцы, што ехалі браць іх Малінаўку. Яны выскачылі з хаты, маці — з клункам за плячыма і маленькаю Волечкай на руках. Следам — Ігнатка. Трохгадовы Коля адставаў, і ён, Ляксейка, цягнуў яго за сабою, не зважаючы, што пад пальцамі раз'язджаецца выпетраная брацікава кашулька. Гародамі, падаючы і ўстаючы, беглі людзі. Шмат людзей. Уся вёска. Танкі набліжаліся, і пад нагамі дрыжала зямля. Выбухі калатнулі іх ля самага балота. Стралялі танкі, якія ўжо віднеліся між хат. На месцы выбухаў заставаліся чорныя ямкі і курэлі сінім-сінім дымам. Асколкі свісталі, а гразь мяккімі жабамі шлёпалася ў ваду. Ляксейка ўбачыў, як недалёка ззаду, дзе кульгаў дзед Нупрэй, мамін бацька, стала пуста. Ні дзеда, ні яго кавялы, што пастуквала раніцой па падлозе і будзіла Ляксейку. Толькі сіні дым.

Яны зашыліся ў лазовы куст, прыкрыты высокім карчом, на месцы якога раней раслі дзве таўстыя вольхі; сядзелі, напалоханыя, белыя; маці плакала — што няма ўжо дзеда і ад таго, што баялася немцаў. Счуўшы чужую гаворку, яны анямелі, маці, абхапіўшы дзяцей рукамі, уціснулася разам з імі ў зямлю, акурат квактуха, што маскіруе сябе і сваё гняздо. Немцы пратупацелі зусім блізка — Ляксейка з-пад пахі маці бачыў, як праплылі чатыры каскі, бліскучыя, мокрыя ад расы, што сыпалася з лісця.

А потым вушы разрывала ад стрэлаў і плачу людзей... І Ляксейка, седзячы ў кусце, адчуваў сябе бездапаможна кволым, бы тое птушанятка; калаціўся, не могучы саўладаць з сабою...

...Лёк па-вар'яцку бліснуў па вокнах вачыма: «Акружаюць, гады!..» Крута павярнуў трактар і павёў яго прама на нямецкія каскі. Ён чуў, як яны лёгка, бы гарбузы, лопаліся пад коламі, але не хаваліся, усё валілі і валілі на яго... Зацяты, у прыцьмелым розуме, ён не саступаў — трушчыў перад сабою і каскі, і аўтаматы, і нават танкі, што напаўзалі чамусьці зверху, а, сутыкнуўшыся з трактарам, лёгка адмахвалі назад ствалы, з якіх ужо на зямлі вырываліся клубкі чорнага, густога дыму. Лёк высвечваў

ворага фарамі і бязлітасна душыў яго, помсцячы і за сябе, і за бацьку, і за дзеда Нупрэя, за ўсю зямлю, што нагаравалася... Раптам адна фара патухла — усё-такі пацэліў пракляты фашыст! Ды Лёка ўжо не спыніць. Часам танк трапляўся моцны, і тады трактар бадаўся з ім, акурат тыя ласі, на месцы, але ўсё роўна перамагаў і пнуўся наперад. Толькі наперад!

Нарэшце трактар пайшоў лёгка, зніклі каскі, ды Лёк, разгарачаны, раз'юшаны, усё яшчэ знаходзіўся ў вар'яцкім, несвядомым тлуме, з якога выплывалі знаёмыя і незнаёмыя твары, і Лёк, абмінаючы іх, ашалела круціў руль. І тут... ён убачыў перад сабой старшыню — у чорным пінжаку і белых штанах — з самазадаволенай усмешкай на вуснах. Зусім блізка ад сябе ўбачыў, хацеў збочыць, ды не паспеў, кола трактара зачапіла яго за белую нагу — і ён заваліўся на спіну, нечакана даўгі і худы, як слуп. Гэта напраўду і быў тэлефонны слуп — на бетонным пасынку, з прыбітай бляшанай меткаю. Лёк агледзеўся, бо яму стала страшна, як гэта бывае ў сне, калі некага забіваеш ці, наадварот, забіваюць цябе, і толькі даў трактару поўны ход, як пачуў плач. Свой? Не, не свой. Здаецца, плакаў Арэшчанка... Лёк не паспеў падумаць, чаму гэта плача Арэшчанка, як тут жа белы твар Арэшчанкі вырас перад вачыма, быццам мішэнь, што вытыкаецца з зямлі, і — Лёк з усёй сілы націснуў на тормаз-з-з...

Лёк ачнуўся на світанку ля фермы. Трактар стаяў, упёршыся ў сцяну пуні, нізкая шыферная страха якой ледзь не даставала акна кабіны і падалася ўначы тварам Арэшчанкі. Лёк нейкі момант сядзеў нерухома, баючыся глянуць назад. Па крупіцы стаў узнаўляць учарашняе. Цьмяна, але помніцца, што выехаў ад Арэшчанкі, а далей — як у даўно забытым сне... Хаця — не: немцы ж сняцца яму ледзь не кожную ноч і ён ваюе з імі — страляе з аўтамата, але кулі сыплюцца, як фасоль, пад ногі... Ды, здаецца, учора ён не сніў, а бачыў немцаў у сапраўднасці. Яму настолькі ўявілася гэта верагодным, што ён падумаў, ці не ў сне разважае і зараз, і каб пераканацца, што не спіць, вылез з кабіны, узяў у прыгаршчы зямлі. Спавольна павярнуў галаву ўлева — са-

соннік непрывычна для вока свіціўся прагалам, праз якія добра відаць былі бакунавічаўскія хаты,— і зразумеў, што прыехаў з Бакунавічаў напрасткі, праз малады, пасляваенны сасоннік, які ўжо даўно старшыня збіраецца зруйнаваць, ды ўсё не даходзяць рукі.

— Во гэта сіла!.. А кажуць, што я мужчынка! — сказаў ён уголас і пачаў аглядаць трактар, думаючы, што і сёння яго чакаюць выпрабаванні, і першае — сустрэча з жонкаю, бурклівай, але і памяркоўнай, як усе беларускія кабеты.

А раніца тым часам бралася чыстая і пяшчотная, усход, прымглёны тонкім полагам, ужо ружавеў, кідаючы водсветы на дрэвы і зямлю, і ўсё здавалася ў гэты час на свеце спакойным і ціхамірным, як здаровы чалавечы сон.

## ВОСЕНЬСКАЯ ЦІШЫНЯ

### I

З высокай старой бярозы, што расла ў садку, пры хаце, зляцела шпакоўня — быў вецер. Даніла гэта ўбачыў уранні, калі праганяў у поле карову, а ўначы ён чуў, як нешта цяжкое грукнула аб шыферны дах, потым ссунулася, чмякнуўшыся на зямлю,— акурат пад акном, ля якога стаяў Данілаў ложак. Спрасоння Даніла не здагадаўся, што там нарабіла грукату, хоць і ўглядаўся, прыставіўшы да шыбы далонь, у цёмны садок.

Шпакоўня — на задняй сценцы тырчалі два станчэлыя ржавыя цвікі — адарвалася ад жэрдкі, да якой мацавалася і якая была прыкручана да ствала алюмініевым дротам. Даніла падняў шпакоўню з зямлі, пачукаў яе ў руках, быццам правяраў, ці ёмкая, і аднёс у павець — паставіў на складзеныя роўнаю клеткай сухія дровы-аблет.

У хату адразу не пайшоў — цяпер, апошнім часам, такое сэрца: чуць што — і заныла. Прысеў на ганку, дыміў люлькаю, наглядаючы, як вывальваюцца з дзіркі, што над дзвярыма пуні, белыя цельпукаватыя куры.

«Добра, гляджу я, шпакам, пра іх заўсёды ёсць каму клапаціцца... бо жыве чалавек. І самі пра сябе клапоцяцца, і людзі яшчэ ў падмогу. Спакон вякоў так... Прадзіравілася хатка, чалавек узяў ды падладзіў, струхлела зусім — новую зрабіў... Во скінулася, вазьму і... ы-ы... Кхі! Ахі-ахі!..— Даніла заперхаўзакашляўся, тым часам думаючы, што з яго цяперашнім спрытам не дзіва і касцямі загрымець — ляснуцца вобзем, як тая шпакоўня: некалі, год пяць назад, шпакоўню — новую — вешаў сын, Валодзька.— А што, і паспрабаваў бы ўсцягнуць на верхавіну, каб Параска дома была...— Шчокі ў Данілы ўзяліся лёгкім, нясмелым, румянцам.— На ўсякі выпадак, калі што якое... каб памагла, каб не ляжаў з раматусам на голай зямлі...»

І думкі Данілы паволі сплываюць да жонкі, якая ўжо трэці тыдзень у бальніцы — хворая: выскачыла з лазні, не завязаўшы хустку, а толькі накінуўшы паверх галавы, і — на́ табе — запаленне вуха.

«Як яна там, мая старая?.. Маіць, ужо вычапалася, раз пазаўчора казала, што палепшала ёй: «Не торгае мне ўжо ў мазгі, а то-о-ож — ажно слёзы сыплюцца па гарахвіне!..» Сянні паеду забяру, а то хоць воўкам вый тут аднаму... А ёй у бальніцы без хазяйства!..» — Даніла махнуў рукой, падняўся — хоць і пастарэчы няспешна, з асцярогаю, ды ў каленях усё роўна хрумснула.

Рохкаў, задышліва чухаў у свіной пуньцы кабанперазімак, падчэпліваў лычам дзверы — віскалі завесы. Недзе над лесам, у які Даніла ездзіць па дровы і які цяпер хавала пуня, ачышчалася ад санлівасці сонца, памалу — стаяў верасень — набірала цёплай зыркасці. На двары яшчэ было свежа, плаваў шараваты морак, а над пуняй неба палавела мяккай і ледзь прыкметнай ружовасцю — такой, што бывае, калі нахопяцца знячэўку першыя замаразкі і ахінуць шызым далікатным покрывам пажухлую зямлю, а раніцою тлусты гусак, ведучы ў катлаван сваю рахманую сям'ю, баразніць на паплавах цёмную няроўную сцежачку і нават здалёк чуваць, як квола хрупае пад асцярожнымі ярка-чырвонымі лапамі настылая і пруткая трава.

Даніла патупаў у хату — падпальваць у печы. Хутка з коміна завіўся рэдзенькі, як з люлькі, дымок,

потым — паваліў густа, чорнымі клубамі: пакладзеныя звечара бярозавыя дровы адразу ахвотна ўзяліся полымем. Водбліскі блукалі, мітусіліся па акне, што глядзела ў двор; адтуль, з двара, здавалася, быццам ужо вечар і сонца, заходзячы, лье свае густыя, набрынялыя сакавітай чырванню промні ў чыста выпаласканыя дажджом шыбы.

Сухія дровы пыхнулі, як порах, і чыгун-вядзернік, у якім варылася кабану бульба, не закіпеў. Даніла пайшоў у павець набраць яшчэ дроў, убачыў там шпакоўню — і спакой, які так-сяк забраўся ў душу, зноў змяніла турбота: ведаў, што перад выраем шпакі — з лугоў, іржышча, дзе вучаць маладняк сваім птушыным прамудрасцям,— злятаюцца да жытла, каб развітацца з ім да наступнай вясны.

«Прыляцяць, глядзь — а хаткі няма. Што рабіць? Птушка, яна таксама, маіць, перажывае... Ляцець у такую далеч і ведаць, што няма куды вяртацца... Ох-ха-хо!.. Так нельга. Дарога, як і старасць наша, любіць спакой... а спакой сілу беражэ... Колькі яе там у старых, як у той бурбалцы на вадзе. Мая вунь Параска была маладая — ніякіх хвароб не прызнавала, а цяпер не тое, дык другое чапляецца. Ці сам я... Некалі вайною, пад Курскам, у снезе паўсутак праляжаў — і хоць бы што...— Даніла ўздыхнуў, стараючыся не думаць пра мінулае, якое, неспадзявана зачэпленае, ужо гатова было выплеснуцца з памяці жудасным выбухам і — востра прытоеным болем адазвацца пад грудзямі, дзе чорнай неданесенай смерцю засеў снарадны асколак.— ...Яно і чалавеку вось так, як птушкам, хочацца, каб той курэнь, дзе жыў, гадаваў дзяцей, стаяў усягды...»

Даніла таптаўся ўсё яшчэ ля печы, калі ўбачыў у акно, што нехта прайшоў па двары — мільгнула постаць. Бразнула клямка і моцна грукнулі дзверы ў сенцах, потым адчыніліся хатнія — і зайшла Алёна Пярэстачка. Павіталася. Невысокая, з чырвонымі шчокамі і вострым точаным носікам, яна, амаль равесніца Данілы, выглядала маладзей сваіх сямідзесяці гадоў.

— Гаспадарыш? — спытала.

— Дыбаю памалу,— адказаў Даніла, дзівячыся Алёне — яна, хоць і жыла па-суседску, праз дзве ха-

ты, рэдка заходзіла да іх нават тады, калі была дома Параска, колішняя сяброўка па дзявоччыне.

— Як тама Парасся? Трохі мадзее?.. Дзякуй богу!.. А ў мяне госці, прыехалі дачка з мужыком... меншая мая. Дык ета я, Даніла, прыйшла да цябе, каб ты мне калыску ўдружыў на іх прыезд... у іх жа сын першы, Дзяніска,— па дзеду назвалі, ета па Дзянісу маймy...— уздыхнула.— Так ужо я радзенька, што прыехалі!..— Вочы ў Алёны Пярэстачкі маленькія, зеленаватыя, але цяпер, падсвечаныя радасцю, бліщчаць і здаюцца выпукла-круглымі, нават відаць сіняватыя, з тонкімі жылкамі бялкі.— А то ўсё-ё-ё адна...

— Калыску?.. Во надумалася!.. Дзе ета яна ў мяне? — Даніла паставіў у качарэжнік вілкі, якія трымаў у руках без патрэбы — чыгун стаяў на падлозе і зыходзіў густою сіваватаю парай.— Ці не на гары?

— Ета ж во няма дзе малога пакласці,— жалілася Алёна, цярэбячы кароткімі пальцамі крысо мужчынскага пінжака.— Самі яны канапу аблюбавалі... А яго каб у калыску... не хочуць з сабой. У вас жа была, помню... такая спадручненькая!

Выйшлі на двор. Даніла ўзяў драбіны, прыпятыя да пуні,— Алёна кінулася памагаць,— панёс на гарод, каб адтуль, з гароду, залезці на гару.

Крэкчучы, Даніла пакарабкаўся па драбінах.

На гары было цёмна, і Даніла трохі пастаяў ля адчыненых дзверцаў — пакуль асвоіліся вочы. У далёкім куце грудам ляжалі скрыні, абрэзкі дошак, старыя венікі, зношаны, пакарабачаны абутак і акуратна складзеныя кнігі. Калыска стаяла асобна на цыбатых нагах, злучаных папарна выгнутым палазком.

Даніла крануў яе — яна суха рыпнула, і ад гэтага даўно забытага рыпу Даніла раптам сцяўся, на яго накацілася цёплая хваля, і ён адчуў, што млее сэрца. Даніла заплюшчыў вочы, што заўсёды рабіў, калі брала млосць,— як з несвядомасці, выплыў дзіцячы плач — і адплюшчыў. Падняў калыску, беражна, акурат у ёй ляжала дзіця, панёс да белага квадрата — дзверцаў: у вачах успыхвалі іскрынкі, зялёна мярэжылася.

Алёна стаяла ўнізе — цёмнай плямаю.

— На, трымай...— Даніла адпусціў правую руку

ад калыскі, хапаючыся ёю за рог драбін, левую паслабіў, спадзеючыся на Алёну,— і калыска крутнулася набок, загрымела па драбінах.

— Ну во, баба!.. Разява...— Даніла заморгаў вачыма, мацаючы далоняй халодны лоб.

— Адламаліся дзве суножкі... Ета ж нада, га!..— ківала галавой Алёна, з-пад хусткі выбілася сівая пасма.— Каб мне рукі паадсыхалі!..— ударыла правай рукой па левай.

Даніла злез на зямлю. Узяў у рукі суножкі.

— Яна сваё адслужыла... Во, бачыш, шашаль пабіў...— Суножкі былі ў дробненькіх, з прасіну, кругленькіх дзірачках.— Што ж рабіць цяпер?..— Даніла сціраў дрыжачай рукою з суножак пыл.

— Давай панясу,— Алёна загладзіла пад хустку сівую пасму,— зяць скрэпіць... ён жа майсцер па рознаму там, на пуцях...

— Бяры...— сказаў Даніла, з сумам гледзячы на пакалечаную калыску. Вострa, жоўтымі ранамі кідаліся ў вочы пераломы — і Даніла адвёў памутнелы позірк.— Мне больш не спатрэбіцца, можаш не прыносіць...— Ён глянуў Пярэстачцы ўслед, і на яго бледным твары нібыта бліснула сляза, а ў грудзях як быццам нешта адарвалася, холадам патыхнула на скроні.

## II

Віцька нёсся на матацыкле стралою, ажно разбягаліся з кэрханнем куры, хаваліся ў падваротні, а лужыны, што не паспелі высахнуць ад пазаўчарашняга дажджу, на момант знікалі — вада веерам пырскала з-пад колаў, потым, брудная, з белай пенай, зноў збіралася ў спадзінцы.

Даніла выбег з двара напярэймы матацыклісту, махнуў рукой — і матацыкл, прачарціўшы на сцежцы след, спыніўся. Востра запахла бензінам — вецер пацягнуў у міжплоцце смярдзючую сіньку. Даніла падаў Віцьку руку — ведаў, што маладым падабаецца, калі вітаешся з імі, як з раўнёю,— за руку. Віцька, растрэпаны, з пасінелым тварам, на верхняй губе якога добра выдзяляўся ліловы і крывы, як серпік, шрам, утаропіў на Данілу здзіўленыя светлыя вочы.

— Ну і носішся ты!..— Даніла ўшчувальна пахітаў галавою.

— Звер, а не матацыкл! — паляпаў Віцька па бензабаку і ўсміхнуўся — стрымана, каб падкрэсліць сваю саліднасць, якой яму, семнаццацігадоваму, не хапала і якую тады-сяды, надта ў размовах з дарослымі ды яшчэ — з дзяўчатамі, хацелася мець.

— Трэба асцярожней, а то тырканецца з двара дзіця — і...— Даніла развёў рукамі.

— Добра, добра, Еўдакімавіч... Скіну адну скарасцёнку...— і Віцька прыпадняўся, каб скрануць матацыкл з месца.

— Чакай, чакай,— Даніла ўзяў хлопца за плячук.— Ета просьба ў мяне ёсць да цябе. Вунь бачыш?..— Даніла павярнуў галаву па накірунку правай рукі, якая паказвала на бярозу.— Шпакоўня там вісела... Ноччу вецер сарваў.

— Дык я мэнтам усхаплюся наверх! — здагадаўся Віцька, што ад яго хоча стары.— На такое дзела мяне доўга ўпрошваць не трэба. Гэта — не кароў замест бацькі пасвіць...— Віцька саскочыў з матацыкла, адкаціў яго да плота і паставіў на ножкі-рагачыкі. Шархнуў замком-маланкай, расхінаючы за спіну крыссе чорнай нейлонавай курткі.

— Ты — што агонь той!.. Не спяшайся, аднак. Я зараз...— Даніла, пацешна кідаючы ў бакі сагнутыя ногі, патрухаў у двор.

Віцька, задраўшы галаву і пасвістваючы, выглядаў на бярозе таўстыя галіны, па якіх будзе зручней узбірацца.

Даніла паявіўся ў садку нечакана — з-за хаты,— трымаў у руках шпакоўню і скрутак адзежы.

— Бяры во форму, усцягвай... маіць, узлезе,— Даніла разгарнуў перад сабой амаль новае афіцэрскае галіфэ з чырвонымі шнуркамі па баках штанін і гімнасцёрку з зялёнымі гузікамі.— Сын аддаў даношваць.

— О! — усклікнуў нечакана Віцька, і яго светлыя вочы загарэліся спакуслівым бляскам.— Хоць трохі, ды пабуду моднікам!

— Як, пабудзеш?..— не зразумеў Даніла, нерухома паставіўшы вочы, ад чаго яны пабольшалі і як быццам паяснелі — вастрэй гляпулі па Віцьку.

— А так, што цяпер гэта самы модны колер, ко-

лер хакі,— патлумачыў Віцька з гонарам і самазадаволенасцю ў голасе.— Каб ведалі, як за ім моладзь ганяецца!..

— Во, а я і паняцця не меў!.. І яе, етую форму, для чарнавых работ прымяняю...— разгубіўся Даніла, потым — ураз пасмялеў: — Адзявай, адзявай, залюбаваўся!.. А то выпацкаешся аб кару. — Даніла выняў з кішэні малаток і цвікі.

— Дык шкода ж, такі дэфіцыт...— уздыхнуў Віцька, мусіць, не прытворна — сапраўды шкадаваў.

— Ну, калі ўжо так, дык я табе дам зусім новы камплект, у мяне ёсць... Як прыедзе Толік у госці, дык ён мне зноў прывязе... не паспявае зношваць.

Віцька недаверліва глянуў на Данілу, мусіць, успрыняў яго словы як жарт.

— А ён ваенны, ваш Толік?

— Афіцэрам, маёр ужо... На Далёкім Усходзе служыць.

— Во і мне, дзяўблю бацьку, каб толькі да арміі дацягнуць,— сказаў Віцька, шморгнуўшы носам,— а там я пайшоў сваім ходам, як Сашка Цвятчыхін. Міліцыянерам участковым у Гомелі, пасля арміі павучыўся колькі там і — лейтэнант. А дзесяць жа класаў кончыў горш, чым я.

— Ото гляджу я, усе вы, маладыя, на адзін капыл. Калі да арміі не ўдасца куды прычаліцца... як маім хлопцам, у інсцітуты, дык пасля ўсё роўна дзенебудзь зачэпіцеся. Што хлопцы? Нават дзеўкі... во мая...

— А што ж?.. Што я буду ўслед за бацькам каровам хвасты накручваць? — Віцька грэбліва скрывіўся, ад чаго верхняя губа, са шрамам, ненатуральна падцягнулася да носа, агаліўшы куточкам белізну шчыльных зубоў.— Сорам жа дзевак будзе, ніводная не гляне ў мой бок...

— Вінаваць каго хочаш, але самі ба́цькі з маткамі вінаваты, што не прывучаюць вас да сваёй работы... Вось і застаюцца пад старасць на баба̀х, адны.— Даніла, гледзячы, як апранаецца Віцька, разважаў далей: — Яно, канешне, нам радасць, што дзеці пайшлі далей нас, у людзі, але ж і ета не дзела — расціў-расціў, гадаваў-гадаваў і як быццам не для сябе... А раней, помню, мы з братамі бойку ўсчалі, калі дзялілі бацькава дабро.

— Вы праўду кажаце,— Віцька зашпільваў на гімнасцёрцы гузікі; цяпер, у панюшанай зялёнай форме, ён быў падобны на электраманцёра.— Во і мне маці адурыла галаву сваім: «Вучыся лепей! А то застанешся тута ў вёсцы ў гнаі калупацца...»

— А я цяпер быў бы во так давольны,— Даніла правёў рабром далоні па жылістай, што карэнішча, шыі,— калі б каторы са мной жыў...— Ён павярнуўся, трохі адступіў назад і акінуў сумным паглядам хату. Хата — ашаляваная, з разнымі ліштвамі, пад шыферам — стаяла акуратная і вабная воку — як вяночак. Яшчэ зусім нядаўна, два гады назад, яна была звычайная — з шэрых, пацягнутых сівым машком бёрнаў і крытая старой, пазелянелай дранкай. Ды тут — як заўсёды гэта бывае з вясковымі дзяўчатамі — худзенькая, з вузлаватымі каленямі Алька выкруглілася раптам у зграбную і поўненькую, што яблычак, нявесту. І Даніла, яшчэ ў сіле, ахарошыў хату вузенькай, скругленай па кантах, шалёўкаю; знутры атынкаваў: не пакідала старых надзея, што хоць Алька прывядзе сабе добрага хлопца і будзе ім на старасць жаданая забава — даччыны ўнукі. Але адным днём, прыехаўшы са Слаўгарада, «шалахвостка» Алька выдала, ад чаго старыя ледзь не памлелі: «У мяне такая падзея!..— Закружылася па хаце.— Еду па камсамольскай пуцёўцы на БАМ!»

— Во мая Альбіна...

— Здаецца, па БАМе яна? Во! Гэта рамантыка!.. У мяне таксама рукі свярбяць...

— Далё-ё-ёка! Толькі пісьмы і шле. «Такіх,— піша,— энтузіястаў, як я, тут шмат...» — Даніла ўзяў шпакоўню, выдраў з задняй сценкі ржавыя цвікі.— Прывязвай шпакоўню да сябе рамянём, а малаток і цвікі ў кішэню... Яшчэ, піша, што Толік рукой падаць ад яе служыць, збіраецца пад'ехаць да яго.

— Што ж, хай адскочыць да брата,— разважліва, як дарослы, сказаў Віцька і, высока падымаючы ногі, павалюхаў да бярозы.

— Ну дзякуй табе, Віцёк, выручыў,— сказаў Даніла, калі хлопец злез з бярозы.— А то шпакі не сёння-заўтра заляцяць...— Даніла падняўся з прызбы, ступіў насустрач Віцьку, выпацканаму ў белае, як у вапну.— Распранайся, а я пайду прыпясу табе навейшую форму.

Віцька патрэпаў рукой па каленях, жываце, спытаў — можа, яшчэ што трэба памагчы, дык ён разаб'ецца ў дошку, але зробіць.

— А што тут ужо такога...— сказаў Даніла.— Спраўляюся пакуль сам. Яно, скажу табе, калі б не гэты клопат ля хаты ды за хатай, у калгасе, дык наогул хоць ты кладзіся і памірай...

— А мой бацька эксплуаціруе мяне — не тое, дык тое... туды адскоч, туды адвязі.

— Во!..— пляснуў Даніла па калену.— Добра, што ўспомніў... А то б шкрэбаўся цэлую гадзіну. Пасля абеду, кабану даўшы, хачу ў Слаўгарад з'ездзіць, за Параскай... Дык ты мяне, калі маеш час, падкінь да шашы.

— Пра што размова! Магу ў самы Слаўгарад.

— Не дурэй! Па холадзе...— Даніла сцепануў плячыма, глянуў на неба — высокае і выразна-сіняе, як марская вада ў сонечны дзень: па ім з усходу плылі цукрова-белыя, акуратна спакаваныя аблачынкі. Вочы бачылі далёка — і ў іх ясна акрэслівалася тое, што бачылася,— рагачы антэн над хатамі, высакавольтная лінія з прагнутымі і ад таго ўяўна цяжкімі дратамі, роўны, як падстрыжаны, грабянец цёмназялёнага ельніку.

...Вецер свістаў у вушах, прарываўся за каўнер — калі Даніла паварочваў галаву. Дарога бегла полем, на якім летам расла бульба. Цяпер тут стаялі нізкімі пляскатымі пірамідамі бульбяныя капцы, абгароджаныя з чатырох бакоў — квадратам — неакораным жардзём.

— Стой-ка, хлапец!..— крыкнуў у самае Віцькава вуха Даніла, глянуўшы направа.

Віцька затармазіў — Даніла ледзь не ссунуў яго на бензабак.

— Што такое?

— Вунь, бачыш?..— Даніла паказаў рукой на крайні капец: ад кутавога слупа жардзё было адарвана і тапырылася ўгару распасцёртай пяцярнёй.— Нахопяцца дзікі — стравяць усю бульбу.

— Ды кіньце вы, Еўдакімавіч!..— хмыкнуў Віцька, падкручваючы ручку-газ.— Зробяць і без вас, каму трэба...

— Мне таксама трэба,— голас у Данілы нечакана пастражэў.— Чакай! — Ён пайшоў дробнай хадою і як быццам накульгваючы: зямля была рыхлая — нядаўна пераворвалі бульбянішча.

«Ці табе павырывала?..— лаяўся ён на трактарыста, які не разлічыў і, абмінаючы капец, зачапіў плугам за агароджу.— Ці заснуў за тым рулём, зачарніліўшы добра?.. А забурыў, дык узяў бы ды паправіў, рукі не адсохлі б. Во і палучаецца, што адно зрабіў, а другое сапсаваў...»

Даніла параўняў слупок, пагупаў ля яго ботам — утрамбаваў. Агледзеўся: вочы натыкнуліся на ладны, з бохан хлеба, камень, што ляжаў у самым клінку неўзаранай зямлі, у тым клінку, што застаўся, калі аб'язджалі капец.

Даніла прыпяў жардзё да слупка, уцэліўшы цвікамі ў ранейшыя прабоіны. А потым узяў аберуч камень і прыстукаў ім жардзё, пахітаў, ці надзейна.

— А што, гэта вы абгароджвалі? — сустрэў яго нахмуранага, Віцька і прыкусіў верхнюю губу — з таго краю, дзе быў шрам; у руцэ дымілася люлька.

— Хай сабе і не я!..— буркнуў Даніла, выціраючы аб чубкі сіўцу хромавыя, з высокімі халявамі, боты: згінаў у шчыкалатцы нагу, дастаючы траву бокам то аднаго, то другога бота.— Я, не я!.. Якая тут розніца? А то папрывыкалі... стук-грук — абы з рук. А каму вочы замазваеце? Сабе ж і замазваеце!.. Паехалі!

«Ну дык што ты, бацька, прывяжаш яго ля сябе, калі ён глядзіць на нашу работу, як вол з-пад дугі?.. Дудкі! Яму, бачыце, і ў галаве не стаіць гэтая бульба. Яна яму, як яны, жаўтаротыя, кажуць, да лямпачкі. А сама ж яна не вырасла, колькі папетавацца давялося, зямлі пераваяваць... Эх, зямелька-зямелька!..» — Даніла ўздыхнуў.

— Не разумею вас,— павярнуў галаву Віцька, і Даніла ўбачыў яго пасінелы нос і фіялетавы, як лушпайка з бурака, шрам,— за што вы так перажываеце?

— За цябе, хлапец, за цябе і яшчэ — вунь за што...— Даніла кіўнуўся ўбок, ды Віцька так і не ўцяміў сэнсу пачутых слоў: надта далёкімі ад усяго гэтага, над чым пеклаваўся цяпер Даніла, былі яго думкі; яны, Віцькавы думкі, абуджаліся ў гэты момант хуткасцю, з якой ляцеў па ўкатанай дарозе ма-

тацыкл і ад якой на душы заўсёды станавілася лёгка і бестурботна, а сэрца напаўнялася тым пачуццём уласнай годнасці, што так раўніва і абвострана праяўляецца ў чалавеку ў маладыя гады.

Да самай шашы Даніла маўчаў — мазгаваў, ці час і ці трэба наогул гаварыць Віцьку пра тое, пра што думаецца яму, яго старой галаве.

## III

Брынклівы, а некалі грацыёзны і сіні «зілок» падкаціў Данілу да самай бальніцы — якраз ішоў па ходу, у Магілёў. А да гэтага Даніла з гадзіну таптаўся на шашы, дарэмна махаючы спадарожным машынам — яны, з занятымі кабінкамі, праносіліся міма, дрогаючы на выбітых у асфальце ямінах. Праскочыў міма і шустры аўтобусік — тут, дзе стаяў Даніла, не было прыпыначнага слупа: вёска — Малінаўка — набірала двароў васемнаццаць, і дарожнікі, мусіць, палічылі, што людзі, якія жывуць у ёй, абыдуцца без аўтобуса.

Ля бальніцы было людна, стаялі радком легкавікі; у шырокія і частыя вокны Даніла бачыў, як хадзілі па ўсіх паверхах дактары, хворыя і наведнікі. Ён падняўся на другі паверх і папрасіў медсястру, якая, пакуль ён гаварыў, уважліва глядзела на яго стомленымі іскрыстымі вачыма, каб пазвала Параску.

Параска выйшла з палаты ў даўгім новым халаце, які рабіў яе высокай і зграбнай, непрывычнай для воч.

— Ну як ты?..— спытаў Даніла, нібы саромячыся глянуць адкрыта на жонку.

— А ўжо нічога... Вылежалася, двору хачу. І дактары кажуць, што харашо мне...

— Ну, тады выпісвайся, збірайся тута,— сказаў, убачыўшы, што ў жонкі заблішчалі вочы,— а я пайду калгасны малакавоз пільнаваць. Тады заеду за табой...

— А ты гаварыў з Клімянком? Згадзіўся?

— Яшчэ ўчора. «А чаму ж...» — кажа. Ну ідзі, ідзі, спраўляйся там, а то, бывае, праскочыць Клімянок. А мне яшчэ хлеба трэба купіць і цукру — кончыліся...

...Клімянок, пажылы маўклівы мужчына, з пярсцёнкам-пячаткай на пальцы, падвёз Данілу і Параску пад самы двор. У хату, як ні ўпрошвалі, зайсці адмовіўся: ведаў — будуць частаваць, а згаджацца на аплату за такую дробязную паслугу ён, з-за сваёй сарамлівасці, так і не навучыўся. «Нічога, нічога... Як-небудзь другім разам...» — усміхнуўся, чырванеючы, і пацягнуў на сябе дзверцы.

— Ну як тута двор?..— Параска, памаладзелая і нейкая не па-вясковаму чыстая з твару, спынілася ля брамкі, узяўшыся за ручку. Глянула ў шчыліны паштовай скрыні, што была прыбіта на варотах.

— Ды як во бачыш, стаіць наш церам!..— ляпнуў Даніла па дубовай шуле, але ў вачах не было таго бляску, які прыдаецца захапленнем,— яны былі цьмяныя і вузенькія.

— Напраўду, выдзелаў, як церам, на заглядзенне!.. Во даўно не бачыла, дык...

— Стараліся, клапаціліся, матка, а жыць во некаму... Веку таго ў нас з табой... з камарыны нос.

— Якому-небудзь Віцьку Цягнёнкаву застанецца... дзякуй скажа...

— А не-е, цяпер і Віцька Цягнёнкаў не надта разгоніцца. Гаварыў я сянні з ім, ён мне...— Даніла глянуў уверх, на бярозу, і папярхнуўся — ля шпакоўні сядзеў шпак.

Параска таксама ўзняла вочы.

— Ета шпакоўню вецер сарваў, дык я прасіў яго, каб павесіў... а потым на шашу падкінуў.

— Во малайчына хлопец!..— узрадавалася Параска.

Даніла моўчкі глядзеў на бярозу, нязвычна і ціха застылую ў ядранай вячэрняй просіні. І яму спачатку падумалася, што гэта сон,— так прыемна закружылася ў галаве,— але пачуў блізка голас Парaскі, глухі, як праз вату, і свядомасць праяснілася.

Шпак, увесь натапыраны, высвістваў тоненькую і нястройную руладу — нераскрытай дзюбай, акурат баяўся застудзіць далікатнае горла восеньскім холадам. Здавалася, рулада вось-вось абарвецца, як ценкая павуцінка, а разам з ёй — і кволенькая радасць, што зачаплілася ў Данілавай душы.

— Пайшлі ў хату,— пазваў ён жонку.

# БАРЫС З БАРЫСАВА

Вадзім чакаў тэлефоннага званка, а таму быў непаседлівы, як заўсёды, калі нешта яго турбавала; браў з паліцы то адну, то другую кнігу і адкладваў; уключаў «ВЭФ», слухаў музыку, але нядоўга. Бо — хоць і была ў кватэры гаспадыня, якая заўсёды першая падымала трубку і клікала яго, Вадзіма,— здавалася, што праслухае званок. Але вось заспявала Сафія Ратару, і ён крутнуў рабрыстае колца гуку ўправа... Чуллівая мелодыя лілася ў душу, хвалявала, і Вадзім дзівіўся яе магічнай сіле, якой не знаходзіў тлумачэння. І тады ён думаў пра спявачку, яе талент як пра нешта надзвычайнае, што выклікае прыемныя пачуцці, ад якіх становіцца светла і радасна, бы ад сустрэчы з блізкім і жаданым чалавекам ці любімай кнігай.

Засяродзіўшыся, Вадзім не адразу пачуў стук у дзверы; ён падхапіўся з ложка — ведаў, гаспадыня кліча да тэлефона. Усунуў ногі ў тапкі, ступіў два крокі — пакойчык быў маленькі. Гаспадыня трымала на руках белага, як снег, калматага сабачку, і ў чорных, як жучкі, вачах жанчыны было здзіўленне і цікаўнасць.

Дзверы ў гасцінную былі адчынены; тэлефонная трубка ляжала на стале побач з апаратам. Ён узяў яе і адразу пачуў мужчынскі голас — адчуваецца, усхваляваны. Па ім, голасе, пазнаў, што яму звоніць не Марноў, як думаў, а Барыс Сінякевіч. Во дзіва! Адкуль ён? З Барысава ці прыехаў сюды, у Мінск? Вадзім сеў у крэсла, мяккае і нізкае, што стаяла спінкай да сцяны, і адно тады ўбачыў, што правы тапак на левай назе, а левы — на правай.

Барыс захоплена расказваў, што ходзіць на рыбу, у ягады, касіць сена, і Вадзім яму шчыра зайздросціў, бо сам насіўся па Мінску, як Фігаро — то тут, то там: рытм горада, ён заўсёды шалёны, і той, хто хаця б раз слухаў вясковую цішыню, будзе сумаваць па ёй усё жыццё. Напаследак Барыс паабяцаў калі-небудзь пад'ехаць у госці, хаця Вадзім (аб чым потым пашкадаваў) забыўся яго запрасіць, бо думаў якраз пра тое, што ў гэты момант, можа, звоніць Марноў.

Вадзім паклаў трубку; было дзіўна, што Барыс надумаўся яму пазваніць, лічы, без усякай нadaбы — проста так, кажа, засумаваў. А Марноў вось не звоніць, хаця і абяцаў. Можа, яшчэ пазвоніць — трэба папярэдзіць гаспадыню, а то зноў пачне дакараць: святло позна гарыць, шмат звоняць.

Гаспадыня сядзела на канапе, засланай бліскучым замежным пакрываалам, і вязала — тонкія спіцы-дроцікі вяла варушыліся ў яе пальцах. Глянула на кватаранта запытальна — як толькі можна было запытаць вачыма. Вадзім сказаў, што яму будуць яшчэ званіць, і папрасіў прабачыць за турботы. Гаспадыня адказала «калі ласка», што разумелася хутчэй так: «Я не супраць, хай звоняць», чымся: «Добра, паклічу».

Вадзім пайшоў у свой пакойчык, выключыў радыёпрыёмнік, які абзываўся незразумелымі хрыплымі гукамі. Чаму не звоніць Марноў? Калі б гэта спазняўся са званком не Марноў, а хто-небудзь іншы, Вадзім даўно б раззлаваўся. «Як можна так, што за дзіўныя людзі — ім нічога не значыць паабяцаць і не стрымаць слова. Няўжо яны лічаць, што лепш абнадзеіць чалавека і не даць спраўдзіцца гэтай надзеі, чымся наогул не абнадзейваць?.. Памыляюцца! Гэтае абяцанне нешта зрабіць, у нечым памагчы, калі яно не стрымліваецца, збівае чалавека з толку, блытае яго планы, прытупляе розум, абязвольвае душу... Чалавек у такім стане недаацэньвае сябе, свае магчымасці. Адсюль нараджаецца пасіўнасць і ўрэшце — лянота, якая яшчэ нікога і ніколі не прыводзіла да жаданага».

Але Марноў... Яму не станеш даказваць, стукаючы кулаком па стале або размахваючы рукамі, што нядобра гэта — абяцаць і пускаць свае словы на вецер. Ён, Марноў, не захоча цябе слухаць, бо такіх сяброў, як ты, у яго шмат і што для яго незадаволенне аднаго з іх; калі ж і паслухае, дык не для таго, каб перамяніцца, а таму, што лічыць сябе выхаваным, «інтэлігентам у другім пакаленні». Яго справа — хай слухае або не слухае. Але чаму ён, Вадзім, павінен баяцца сказаць Марнову праўду, зрабіць заўвагу? Боязь згубіць сябра? Толькі ж якое гэта сяброўства, калі яно трымаецца па фальшы, стрыманасці, на падхвальванні? І ці трэба шкадаваць яго,

такое сяброўства? Сяброўства — гэта калі ўспамінаеш пра сябра не тады, калі ён табе патрэбен для помачы ці парады, а тады — калі ты, радасны і шчаслівы, перажываеш, што гэтыя радасць і шчасце не падзяляе з табой сябар.

Вадзім глянуў на будзільнік: было а палове адзінаццатай. Правілы прыстойнасці не дазвалялі званіць пасля дзесяці. Значыць, не пазвоніць. А што з падарункам? Заўтра ў Вольгі дзень нараджэння... Адных кветак, якіх цяпер мора — прадаюць на кожным рагу,— мала. Марноў абяцаў прынесці пару томікаў класікі, а папярэдне — пазваніць. Вадзім падняўся з ложка, падышоў да акна. Гарэлі ліхтары — ля самага дома і далей — Вадзім прасачыў позіркам — паўз алею, што перапаясвала стары парк і спадала да набярэжнай Свіслачы, якраз на заломе. Тугой чарнатою, спярэшчанай агняна-залатымі бліскаўкамі, аддала ў вочы рачная вада — вірліва перакатваючыся, мякка ціснулася да светлых бетонных пліт.

Нечым знаёмым і далёкім павеяла на Вадзіма — і ад гэтых маўкліва схіленых долу ліхтароў, што сеюць, калі возьмецца вецер, хісткія, жывыя цені, і ад гэтай рачной вады, што тлуста паблісквае і спяшаецца немаведама куды. Ён зморшчыў лоб і дакрануўся рукой да скроні, намагаючыся не страціць увагі, што так патрэбна была цяпер,— каб праясніць успамін пра той час, калі пазнаёміўся з Барысам Сіняковічам.

...Ён, Вадзім, стаяў перад акном і глядзеў у ноч — поўны суму і незадаволенасці сабой. Турыстычная база, дзе яны, падарожнікі-экскурсанты, спыніліся на пару тыдняў, размяшчалася ў маляўнічым месцы — на высокім і разложыстым пагорку, які густа і бязладна абступалі гіганцкія дубы. Ліхтары з круглымі абажурамі роўна залівалі зямлю неонавым блакітам, высвечваючы воддаль — унізе — край Волгі; далей і Волга, і бяззорнае неба раствараліся ў адну, аднолькава цёмную завесу.

Пайсці або не, думаў ён: на другім паверсе засталася дзяўчына, з якой ён, Вадзім, хацеў правесці сённяшні вечар. Звалі яе — учора пазнаёміліся — Наташа, родам з-пад Растова-на-Доне. Наташа жыла з дзяўчынаю — стройнай, чарнявай і нейкай зася-

роджана-спакойнай. З паўгадзіны назад Вадзім быў у Наташы, і толькі яны сабраліся адысці, як у пакой пастукаўся высокі белабрысы хлопец; шыя са спіны ў яго выдавала таўсцей галавы, а збоку — тонкая, як у падлетка; лінія пляча бралася высока, амаль каля вушэй, і паката вяла ўніз, скругляючыся да рукі. Такая форма плеч, заўважыў Вадзім, звычайна бывае ў штангістаў. Хлопец, гледзячы ва ўпор на чарнявую дзяўчыну і зрэдку кідаючы пагляд на Наташу, сказаў, што ўсё гатова, можна за стол. Наташа збянтэжылася, стоячы перад Вадзімам, на твары ў якога застыла нямое пытанне: адкуль і што? Надзіва спакойным тонам ён сказаў, што Наташы, мусіць, не варта ісці, але хлопец стаяў на сваім: маўляў, яшчэ раней дамовіліся. Ну, раз была дамова, то... Вадзім павярнуўся і выйшаў. І вось цяпер, стоячы перад акном, Вадзім думаў: дзе Наташа — у сваім пакоі ці, можа, у таго белабрысага? Гарачку спароў, не трэба было спяшацца, а паўгаворваць Наташу, папрасіць: пойдзем прагуляемся. Няўжо не зразумела, што мужчынскі гонар — гэта перашкода ў заляцанні, а настойлівасць — памочнік? От, заўсёды пасля думаеш больш і лепш, чымся ў той час, калі гаворыш. Пайсці або не? Ён пацёр кончыкамі пальцаў гарачы лоб...

Нечакана дзверы расчыніліся — на парозе стаяў белабрысы хлопец.

— Давай пазнаёмімся,— сказаў ён і падаў руку.— Барыс.

Вадзім адчуў цвёрдую, што з дрэва, шырокую далонь. Барыс, як і не было ранейшай гаворкі, запрасіў да сябе Вадзіма, маўляў, весялей будзе. Вадзім згадзіўся, мала думаючы ў гэту хвіліну пра сваё самалюбства, бо, закранутае, яно магло стрымаць яго.

Бывае ж так, што людзі, якіх напачатку і без сумнення ўсё — размовы, паводзіны — вяло да адчужанасці, становяцца потым добрымі сябрамі. Бывае і наадварот: той, хто надта рана перакanaў сябе ў нечай трывалай прыхільнасці, горка расплачваецца потым расчараваннем і крыўднай бездапаможнасцю што-небудзь направіць з таго, што ўкладваў на сяброўства. «Час пакажа»,— сказаў нехта некалі першы і, мусіць, не думаў, што стане геніяльным празорліўцам.

Барыс аказаўся простым і бяскрыўдным хлопцам, да таго ж — Вадзімавым земляком, з Барысаўскага раёна. «Барыс з Барысава, так лепш!..» — паправіў Вадзім — і гэта ўсім спадабалася, і ўсе засмяяліся, а Барыс, смеючыся, пачырванеў.

Ім было весела, і радасць іх была агульная і іскрыстая, як шампанскае, якое яны памалу, смакуючы, пацягвалі, прыкусваючы хрупкім духмяным «Грыльяжом». Ім было весела, так, як бывае ў маладой, бестурботнай і малазнаёмай кампаніі, дзе кожны яшчэ загадкавы, імкнецца нечым выдзеліцца, праявіць сябе, свае якасці, якія недзе ўжо зрабілі яму гонар.

Вадзім, ні з таго ні з сяго, прапанаваў Барысу падужацца на рукі, бо меў ад прыроды някепскае здароўе і кароткія таўстыя рукі, у вынослівасці якіх ужо не раз пераконваўся. Барыс ссунуў рукаў світэра за локаць, паставіў руку на стол. Іх рукі сашчапіліся намёртва. Барыс, не надта каб тужачыся, паклаў Вадзімаву руку і прыціснуў да стала. Узяліся зноў. І Барыс яшчэ раз спакойна і плаўна пахіліў Вадзімаву руку. Вадзім, чырвоны ад натугі, пахваліў Барыса, яго сілу. Аказалася, Барыс — рабочы, працуе экскаватаршчыкам у «Міжкалгасбудзе».

Наташа, пачуўшы ад Барыса, што ён — экскаватаршчык, хіхікнула і глянула на сяброўку — чарнявую: тая не падняла вачэй, разгортвала цукерку. Настольная лямпа, пастаўленая ў далёкім куце, ля самых дзвярэй, кідала на іх цьмянае чырванаватае святло...

Назаўтра, з раніцы, яны пайшлі прагульвацца — таксама разам, учатырох. Мястэчка называлася Плёс, цэнтральная вуліца праходзіла паўз самай Волгі і была аднабокая — дамы стаялі толькі ад берага. Вадзім прапанаваў схадзіць на дачу Шаляпіна, якая, чуў, зусім недалёка. Наташа ў здзіўленні тарганула акуратна вышчыпанымі бровамі. Барыс, як і не пачуў Вадзімавай прапановы, паказаў рукой на Волгу — там па калені ў вадзе стаялі хлопцы год чатырнаццаці і махалі даўгімі бамбукавымі вудзільнамі — чуваць было, як са свістам разразалася тугое паветра.

Падышоўшы, Барыс спытаў, ці клюе рыба. Рыбакі павярнуліся — у кожнага ля пояса віселі бітон-

чыкі,— і адзін хлапчук, вяснушкаваты, з аблупленым носам, адказаў, што яны ловяць яльцоў. Барыс прыклаў да вуснаў палец і так стаяў, паказваючы астатнім, што не трэба шумець; на твары ў яго застыла такая далікатна-дзіцячая чароўнасць, што здавалася — крані зараз Барыса, і ён згубіць на ўсё жыццё адчуванне радасці і асалоды.

— Дык ты ўсё-такі згодзен пайсці з намі? — прашаптаў Вадзім.

Барыс заківаў галавой, мусіць, зусім не для таго, каб пацвердзіць сваю згоду, але каб не чапляліся з пытаннямі.

— На дачу Шаляпіна, кажаце? — перапытаў ён, калі адышліся.— Гэта, здаецца, артыст які быў?

Наташа і чарнявая дзяўчына павярнуліся да Барыса.

— Так, славуты рускі спявак,— сказаў Вадзім.

— Якая там розніца!..— махнуў рукою Барыс.— Куды кампанія, туды і я.— Было відаць, што ён не загарэўся жаданнем пабыць на дачы Шаляпіна, ва ўсялякім выпадку, так, як астатнія. Барыс глядзеў на Волгу, яе шырыню, цёмна-сінюю, хвалістую, на вузенькую палоску процілеглага берага, у якую трэба было ўглядацца да болю ў вачах.

— З Бярэзінай ці Сожам не параўнаеш!..— ціха, з нейкай малітоўнай таемнасцю прамовіў Барыс, чым здзівіў Вадзіма, здаецца, ужо не першы раз. Як раней, так і цяпер, Вадзім знарок не стараўся разгадваць Барысаву таемнасць, бо чамусьці яму хацелася бачыць у Барысе іменна тайну, розніцу між ім і сабой, і зусім не хацелася лавіць сябе на тым, ад чаго — лічыў — пазбавіўся ўжо, нават далёка адышоў.

...Ад чаго адышоў? Ад непасрэднасці, наіўна-мілай вясковай прастаты, так блізкіх і яму, Вадзіму? Што, пражыў сем гадоў у горадзе і змяніўся? Не, гэта адно такія, як Марноў, спяшаюцца забыць, што яны — з вёскі і што там іх карэнні. Яны баяцца ў гэтым прызнацца знаёмаму, маўляў, будзе іранізаваць, насміхацца, назаве «дзяроўняй». Вадзіма ажно калаціла ад нанова і па-новаму пережытых уражанняў. Ён лёг на ложак і колькі часу ляжаў бяздумны, твар паволі прымаў лагодна-мяккія абрысы — ад уціхамірвання і супакаення. Потым думкі палезлі зноў, і ад іх не было адчэпу, як не бывае

адчэпу ад таго, што некалі ўпершыню ўразіла, глыбока запала ў душу, а потым злое наканаванне назаўсёды адняло ў цябе яго,— гэта могуць быць проста вочы каханай.

Гэта — што: маладушнасць або інтэлігенцкая далікатнасць? Ці наогул бравада, якая амаль у кожным выпадку служыць для маскіроўкі недахопаў і для напускной шматзначнасці? Дык навошта ўсё гэта, што яно дае? Трэба проста мець розум, каб ацаніць розум другога чалавека. На гэта трэба спадзявацца, з гэтай думкай жыць — і тады цябе не будзе хваляваць пытанне: як я здаўся тым, хто назіраў за мной, слухаў мяне збоку? Чаму мы ўцякаем ад натуральнасці, лічым, што яна спрашчае нас? Чаму баімся прызнацца ў тым, чым раней жылі і што не здавалася нам тады абразлівым? А падраслі, набраліся вопыту, убачылі свет — і стараемся хуценька пахаваць яго ў пацёмках сваёй душы.

Вадзім адчуваў раней, надта выразна адчуў сёння, што ён раздвойваўся — у паводзінах, у думках, у словах,— стаяў як бы на мяжы святла і ценю, якія пастаянна мяняліся месцамі: хацеў ступіць у цень — як тут жа ў вочы біла святло, і наадварот. Прычыны такой дзіўнай метамарфозы сваіх адчуванняў ён раней не шукаў, цяпер жа зразумеў: калі слухае сябе, сваю душу — ён адзін, калі пачынае цвяроза разважаць — становіцца другім. А Барыс — малайчына, пастаянна адзін і той жа, як ёсць, без усякай лакіроўкі, да якой імкнецца Марноў і да якой, здаецца, ці не пацягнула яго, Вадзіма... Але не, ён своечасова спахапіўся, што самае трывалае і высокае — гэта тое, што закладзена прыродай.

Вадзім выключыў святло, хоць ведаў, што, узбуджаны, доўга не засне, а калі і засне — сон будзе неспакойны.

Раніцой ён пазваніў Марнову на працу.

— Дзіма? — Марноў зваў Вадзіма чамусьці Дзіма.— Прывітанне, дарагі! — Мяккі, прыемны мужчынскі барытон з нязменнымі ноткамі задаволенасці.— Кінь, Дзіма, з-за дробязі перажываць! Купі якую забаўку — і норма. Нечага жанчын балаваць. Ад гэтага яны толькі становяцца больш нахабнымі.

Вадзім запярэчыў яму — сказаў, што нядобра гэта — абяцаць і не рабіць; у яго зусім не было жадан-

ня размаўляць з Марновым, і Марноў гэта зразумеў.

— Давай, давай!..— так Марноў заўсёды гаварыў, калі адчуваў, што чалавек на яго пакрыўджаны, і не хацеў, каб ён, гэты чалавек, падумаў, што Марноў запабягае перад ім.

Ну вось, як і нічога не было — радасны, бесклапотны... Інтэлігент у другім пакаленні. Бач ты яго: «Кінь, Дзіма, з-за дробязі перажываць!» Відаць, і пальцам не паварушыў. Дык усё роўна ж трэба мець мужнасць сказаць, чаму не паварушыў. А можа, і сапраўды была важкая прычына. Галоўнае — разумець, навучыцца разумець адно аднаго, і тады адпадзе хлусня, ад якой жыццё не становіцца прасцей, а хутчэй — наадварот.

Вадзіму, можна сказаць, пашанцавала. Перад работай ён заскочыў у ЦУМ і, доўга выстаяўшы ў чарзе, купіў дэфіцыт — французскія духі.

Вадзім не прывык і не любіў спазняцца, куды б гэта ні было: на сустрэчу, на працу, на спатканне... Наадварот, прыходзіў заўсёды раней, і Вольга, якая выведала яго гэтую «слабасць», радавалася, што Вадзім прагне з ёй сустрэчы. Ён стаяў на прыпынку «Вуліца Акадэмічная» і чакаў яе, Вольгу,— ужо з паўгадзіны. У правай руцэ трымаў ярка-чырвоныя гваздзікі, а левая пастаянна намацвала ў кішэні невялічкі прадаўгаваты карабок. Нехта, падкраўшыся ззаду, закрыў яму вочы.

— Хто яшчэ можа вытвараць банальныя штучкі, як не чалавек з тэхнічнай адукацыяй, мая чароўная з чароўнейшых Вольга!

Вольга засмяялася і цмокнула Вадзіма ў шчаку.

— Ты сёння — неймаверна абаяльная!..— Вадзім працягнуў Вользе букет і духі.— Віншую цябе з днём анёла!..

— Дзякуй, дзякуй, Вадзім...— І яшчэ раз пацалавала Вадзіма ў шчаку і, смеючыся, сказала: — Калі чую кампліменты ад блізкіх людзей, мне заўсёды здаецца, што яны, і людзі і кампліменты, няшчырыя.

— Ты — што?.. Я гаварыў ад душы.

Вольга сапраўды была прыгожая. У даўгой, акурат прыталенай, ружовай сукенцы з ахарошаным белымі карункамі выразам, які ледзь-ледзь адкрываў пяшчотную лагчынку між грудзей; рукавы кароткія і таксама з карункамі, як на выразе, толькі шырэй-

шымі, і таму рукі выглядалі арыстакратычна-кволымі. Зграбная сукенка і срабрыста-бліскучыя басаножкі на абцасе-шпільцы рабілі Вольгу непрывычна высокай.

— Мужчынам не ідзе залішняя сентыментальнасць.

— Ты, як заўсёды, у сваім амплуа — пачынаеш размову з сур'ёзных рэчаў.

— Я наогул хачу быць сур'ёзнай, хопіць блазнаваць.— Вольга хацела насупіцца — і толькі паварушыла тонкімі, умела падфарбаванымі броўкамі; круглыя міндалепадобныя вочы ў лёгкіх зялёна-сініх ценях выпрамяньвалі весялосць. І яна, Вольга, адчувала фальш зробленай міны. Скрывіла вусны, тонка абведзеныя рудой касметычнай рыскай.

— Думаю, што ўсе сур'ёзныя сучасныя людзі адзначаюць свае ўрачыстасці ў кафэ ці ў рэстаранах, куды я і хачу цябе запрасіць.

Кафэ яны выбралі сціплае, непрыкметнае — на скрыжаванні вуліц Горкага і Сурганава,— затое самае блізкае і ўтульнае. Невялічкая квадратная зала, засланая травяніста-зялёным паласам, умяшчала два рады круглых столікаў — па чатыры столікі ў кожным радзе. Шкляныя сцены — гэта відаць звонку, што шкляныя,— а знутры завешаны цёмна-вішнёвым аксамітам.

Вадзім і Вольга занялі левы кутні столік, каб можна было глядзець тэлевізар, што стаяў у процілеглым куце, справа ад выхада. Два каляровыя бра высвечвалі з густам афармленыя стравы. Маладая афіцыянтка, з пышнай прычоскай і тварам, шчодра загрыміраваным, прынесла ім салаты і бутэльку сухога шампанскага, другім заходам — вазачку цукерак «Мішка касалапы». Вадзім наліў шампанскага ў фужэры, яно зашыпела, дробна пырскаючы; павіншаваў Вольгу, ёй спадабаўся яго тост: каб збыліся на дваццаць чацвёртым годзе жыцця ўсе яе мары, якія сняцца і яшчэ будуць сніцца. Яны выпілі, маленькімі глыткамі.

Вольга тут жа стала задуменнай, Вадзім разумеў — чаму: яна чакае ад яго прапановы на жаніцьбу. Сапраўды, хопіць цягнуць. Інстытуты паканчалі, самастойна зарабляюць грошы... Адно, што кватэры не маюць, але пажэняцца — хутчэй атрымаюць.

А пакуль пажывуць на прыватнай — кажуць жа, што з мілай і ў будане рай. Ён сказаў Вользе пра ўсё, што думаў. У яе на левай шчацэ з'явілася ружовая плямка — Вадзім убачыў яе пасля таго, як Вольга адхінула за вуха пасму валасоў. Нейкі час ён глядзеў ёй у вочы, разгубленыя і насцярожаныя, і зусім нечакана спытаў:

— Цябе не палохае, што я вясковы?

— Не. А што?

Вадзім адказаў загадкава для яе — як бы гаварыў у паўсне:

— А мы прымушаем сябе забыць, што мы з вёскі. Спяшаемся запісацца ў гарадскія, інтэлігенты... Легкадумнасць — усё гэта. У кожным чалавеку самае важнае — душа.

Тады яна падумала, што Вадзім, мусіць, захмялеў,— і гэтым растлумачыла яго незразумела-загадкавую гаворку. Адставіла фужэр з кропляй шампанскага, сказала:

— Давай разлічвацца, а то гваздзікі завянуць. Я хачу іх паставіць у сваім пакоі.

Яны выйшлі на вуліцу. Вечар быў ціхі і цёплы. Па цьмяна-жаўтлявым небе густа рассеяліся зоркі і слаба мігцелі, напамінаючы Вадзіму лямпачкі, апушчаныя ў нешта масляністае. Міма пранёсся пусты тралейбус, і на канцы штангаў раз-пораз сіне і з сухім трэскам бліскала. Каштаны, акуратна, кругла падстрыжаныя, стаялі ў нямой здранцвеласці, бездапаможна апусціўшы вялае лапчатае лісце.

— Давай пракоцімся на таксі! — раптам усклікнула Вольга і, саступіўшы з тратуара, замахала рукой. Таксі з зялёным вочкам у правым ражку лабавога шкла спынілася.

* * *

...Марноў узяў са стала бутэльку, пабоўтаў перад тварам — гарэлкі было зусім мала — і прапанаваў Вадзіму схадзіць у магазін; дастаў з кішэні пяцёрку і дэманстратыўна паклаў на край стала. Вадзім не зварухнуўся — навошта напівацца. Але Марноў настойваў, маўляў, раз ужо сабраліся пасля доўгага перапынку, то трэба нагаварыцца ўволю. Вадзім ухмыльнуўся, пераплёў пальцы рук, выгнуўшы іх ад

сябе. Невядома, што б яны рабілі далей, калі б не пачуўся лёгкі стук у дзверы. Марноў падняў галаву: у яго былі прыгожыя вочы — вялікія, з густой сінню вакол зрэнак — і даўгія, як у дзяўчыны, вейкі. Гаспадыня паклікала Вадзіма да тэлефона. Вярнуўся ён хутка — вясёлы, радасна-ўзбуджаны, і Марноў зразумеў, што Вадзім прынёс навіну.

— Шанцуе нам, Дзіма!..— усклікнуў Марноў, пачуўшы ад Вадзіма, што званіў знаёмы — Барыс, экскаватаршчык з Барысава, і што зараз ён будзе тут. Марноў згроб са стала пяцёрку.— Гэтыя рабацягі чарнільшчыкі яшчэ тыя! А што гэта ён надумаўся?

— Не ведаю, пабачыцца хоча...

— Зразумела, цягне ў горад!.. Я вось не разумею тых, хто, вырваўшыся з вёскі, потым плача па ёй,— і чытаеш пра гэта, і чуеш... Смешна іншы раз чытаць, як прыязджае ў вёску чалавек — і быццам трапляе ў рай, здаравее душой і целам. Не веру я гэтаму! Я паеду да бацькоў, помню — цяпер яны таксама перабраліся ў горад, бацьку паставілі загадчыкам райана,— два дні пабуду і хоць гвалт крычы: сумішча, сядзіш у хаце, што ў заперці якой, няма да чаго прычаліцца... Не разумею!.. Мне, напрыклад, у горадзе добра — усё я тут знаходжу, што трэба: і для душы той жа, і для цела. А ты што — не?

— Увогуле, я згодзен з табой, толькі нам не трэба забываць, што мы з вёскі, і не цурацца таго лепшага, што вынеслі з яе, з яе маралі, псіхалогіі... Наадварот, трэба развіваць яго, гэтае лепшае ў нас, прымяняючы да гарадскога жыцця. А мы? Мы рады аддаць сябе ва ўладу новай стыхіі...

— Так, відаць, лягчэй жыць — плысці па адной плыні.

— Але мы не ствараем свайго асяроддзя, блізкага нам, нашай душы... Можа, таму і цягне нас тадысяды «ў куток, дзе абрэзалі пупок».

— Думаю, што час зробіць сваё — і горад будзе для нас, як вада для рыбы. І забудзем мы тады «куток, дзе абрэзалі пупок».

Коратка дзынкнуў дзвярны званок. Вадзім пайшоў адчыняць.

Барыс зайшоў у пакойчык, высокі, каротка падстрыжаны, у новых штанах і кашулі. Павітаўся. Ва-

дзім падсунуў яму крэсла, падаў чарку, але Барыс адсунуў яе, сказаў, што даў сабе слова — не піць. Марноў махнуў рукой — маўляў, колькі мы заракаемся. Але ўпрасіць Барыса, як ні стараліся, не ўдалося — ён абярнуў чарку і накрыў яе далоняй. На прыгожыя вочы Марнова накаціўся сум.

Вадзім здзівіўся, пачуўшы ад Барыса, што ён збіраецца жаніцца з той чарнявай дзяўчынай, з якой пазнаёміўся ў Плёсе,— перапісваліся-перапісваліся і вось дамовіліся... Аказваецца, нялёгкі лёс выпаў на яе долю. Да вяселля рыхтаваліся, жаніх быў у яе, ваенны лётчык, але загінуў... І ў Мінск Барыс выбраўся, уласна, таму, каб запрасіць яго, Вадзіма, на вяселле, а заадно і рыбку палавіць на так званага «чорціка» — гэта бляшня драўляная, пафарбаваная ў зялёны колер; шчупакі хапаюць яе, аж душацца,— сто метраў працягнуў дарожку на маторцы і — ёсць.

Пакуль гаварылі пра дзяўчыну, вяселле, Марноў праз слова яшчэ слухаў, а калі пачалі пра рыбу — падняўся, ляпнуў сябе па сцёгнах, абцягнутых джынсамі. Вадзім пайшоў яго праводзіць.

— Ну і сябручка адхапіў ты, стары!..— не хаваючы ехідства, сказаў Марноў на лесвічнай пляцоўцы.— Крэтын нейкі! Мала што бутэлькі не прынёс, дык яшчэ і паставіўся — ні грама! А ты — вёска, вёска...

Вадзім кашлянуў. Яны выйшлі з пад'езда. Вялікі і цынкава-белы вісеў на небе месяц.

— Болей бы такіх сяброў — якія б шчаслівыя былі людзі!

— Канчай жартаваць!.. Ведаеш, колькі ад казла малака? Столькі ад такіх тваіх сяброў карысці.— Месяц свяціў на Марнова, у вочы, і яны гарэлі ненатуральна-густым бляскам.

— Гэта і кепска, што тыя, каторыя лічаць сябе свежаспечанымі інтэлігентамі, сяброўства ацэньваюць карысцю, а не самаахвярнасцю.

— Давай, давай, ахвяруй!..— Марноў пайшоў — на джынсах ззаду цьмяна льсніліся дзве металічныя заклёпкі, падобныя на жоўтыя кацінья вочы.

Інтэлігент у другім пакаленні... Думаў, трымаць будзе яго Вадзім, за руку цягнуць. Не, лепш без такіх сяброў і без іх фальшы.

Барыс стаяў перад кніжнай паліцай, высокай, пад самую столь, і, схіліўшы галаву набок, разглядаў кнігі.

— Дык, значыць, надумаўся ачалавечыцца?

— Харошая яна, Вадзім, дзяўчына. Такая добрая, спакойная, пяшчотная...— гаварыў Барыс сур'ёзна і з нейкім чуллівым сумам, акурат апошняе слова ў дазволе на жаніцьбу было за Вадзімам.— Мы як толькі разлучыліся ў Плёсе, я адразу адчуў, што без яе мне будзе цяжка...

— Малайчына Барыс!..— сказаў Вадзім. Павярнуўся да ложка, сашмаргнуў пакрывала, роўна склаў яго і кінуў на крэсла. Барыс паказаў, што збіраецца адыходзіць. Вадзім упрасіў яго застацца — маўляў, позна ўжо, электрычкі не ходзяць.

Заснуў Вадзім хутка, але прачнуўся рана — яго разбудзіў, павярнуўшыся, Барыс. Вялікім квадратна сінім вокам глядзела праз акно раніца. Руплівa стукалі па рэйках трамваі — ажываў горад, спрадвеку ранні і мітуслівы, як пчаліны вулей.

Заварушыўся, падняў галаву Барыс.

— Добрай раніцы, Вадзім! — сказаў ён, адкідваючы з сябе коўдру.

— Добрай...— крэкнуў Вадзім.— Давай падымацца.

Барыс узяўся засцілаць ложак.

— Не трэба, я сам!..— Вадзім паправіў прасціну, збітую — дзе сам спаў — на край.— Ідзі пакуль мыйся — мой ручнік, зялёны, на кручку.

Шыпела электрабрытва — Вадзім галіўся. На тумбачцы, засланай вышыванай сурвэткаю, стаяла вялікае авальнае люстэрка. Вадзім бачыў сябе ў ім — мяккія русыя валасы ўзяліся ля вушэй і на патыліцы завіткамі, скура на твары здавалася залішне бледнай і на ёй — выразна-чорныя кропачкі зрэзанай шчаціны; светла-шэрыя з жоўтым абадком вакол зрэнак вочы глядзяць цікаўна і так, як бы нешта хаваюць у сабе — таемнае, што ніхто не ведае, але ведаць якое ўсім хочацца.

— Ты адразу на вакзал, Барыс?

— Ага, паеду...

— Мо перш перакусім? Тут сталоўка недалёка.

— Не пашкодзіла б. Але ў мяне грошай толькі на білет...

— Нічога, пайшлі.

У сталоўцы «Дыетычная» было шмат люду, і яны доўга прастаялі ў чарзе — спачатку да касы, потым — да стравы. Елі моўчкі, бо кожны думаў пра нешта сваё, баючыся, што размова, калі яе распачаць, не дасць адчуць яго глыбока і да канца.

— Дык ты, Вадзім, прыедзеш да мяне на вяселле? — спытаў Барыс, калі выйшлі са сталоўкі, і з твару яго знікла задуменнасць.

Вадзім раптам адчуў, як стала прыемна ад Барысавых слоў, і радасць, атрымаўшы штуршок, пачала шырыцца і расці, падобна хмары, што нясе з сабой цёплы, ачышчальны лівень. І ён, Вадзім, зразумеў, што гэтая радасць будзе з ім заўсёды, пакуль будзе побач Барыс, пакуль будзе адчуванне, што ён патрэбен Барысу, а Барыс — яму.

— Прыеду, Барыс! Абавязкова прыеду на тваё вяселле.— Вочы ў Вадзіма ззялі скрозь смугу задуменнасці.— Давай пяройдзем праспект, туды вунь, на прыпынак,— паказаў Вадзім рукой направа. Але ў светафоры загарэлася аранжавае, потым чырвонае святло, і яны спыніліся. Іх абступалі з двух бакоў людзі.

Барыс стаяў маўкліва, і было відаць, што стрымлівае ўсмешку — паторгваліся куточкі вуснаў, збоч якіх вастрэй абазначыліся тонкія маршчынкі.

Светафор глянуў на людзей зялёным акулярам — і яны пайшлі яму насустрач; Вадзім і Барыс — таксама.

— Ну вось твой прыпынак. Дачакаемся першага тралейбуса — і да вакзала.

— Дзякуй табе, Вадзім, за ўсё!..— [illegible] расчуленасцю ў голасе сказаў Барыс.— Буду чакаць.

— Я таксама — пішы, звані, заходзь! — Вадзім аддана глядзеў Барысу ў вочы.

Падышоў тралейбус, Барыс сеў у яго і паехаў. Вадзіму здалося, што Барыс памахаў яму праз задняе акно — запыленае, таму добра і не відаць. Ён таксама махнуў рукой, прыпыніўшыся. Сум і спусташэнне, якія бываюць, калі ад цябе ад'язджае нехта з родных, блізкіх людзей, нечакана абрынуліся на Вадзіма, і ён падумаў: «Час мяняе не толькі настрой, але і людзей...»

Вымытыя з начы расою ліпы свежа і востра кідаліся ў вочы сваёй лістотаю — сонца, што ўставала над горадам, асвятляла іх мяккім аранжавым святлом.

## ХАЛОДНЫЯ ЗОРКІ

Сцяпан Рудзянок жыў адзін. Ужо тры гады — адзін. Мусіць, калі б хто раней сказаў, што ён перажыве сваю Вольгу, не паверыў бы. Вольга і на старасці выглядала маладжавай, асабліва з твару — тугія, без маршчын, шчокі ружавата адсвечвалі ад густых тоненькіх жылак. Ну, чыста маладуха!.. Пастаў поруч з хударлявым, сутулым Сцяпанам — не скажаш, што мужык і жонка.

Хвароба скруціла Вольгу вобміг. Ляжала на ложку — і раптам ёй кальнула ў жывот. Яна стала лэпаць сябе рукамі і намацала нешта цвёрдае. Паехала назаўтра ў бальніцу жаліцца і дамоў ужо не вярнулася. Яе накіравалі ў Магілёў, а праз два тыдні Сцяпан прывёз ужо не Вольгу, а нябожчыцу — з застылым, воскова-цьмяным тварам.

Цягнуць аднаму гаспадарку Сцяпану было ўжо цяжка, і ён памалу збыў жывёлу. Спачатку карову адвёў на пункт, потым аднаго парсюка прыбіў, а другога купіў у яго сваяк Коля Трусэвіч. Сабе пакінуў некалькі курэй (з імі клопат малы) і ката — каб весялей было, усё-такі, як ні кажы, жывая душа і ўвечары сказаць да каго слова будзе.

Так і жыў. Тупаў па двары, поркаўся на гародзе, а то выходзіў на лавачку і падоўгу бавіўся. Не ўсе людзі разміналіся з ім, толькі павітаўшыся, некаторыя, што мелі час, падсаджваліся, найболып, вядома, мужчыны, пыхкалі цыгаркамі, гаманілі. І Сцяпан тады міжволі выпростваў спіну, у яго яснелі вочы, шырока развіналіся, і з іх, здаецца, зусім прападала туга. Такім, акрэплым, ён вяртаўся ў хату. Насустрач яму, бліскаючы на сонцы гладкай шэрсткаю, саскокваў з падаконніка кот, цёрся бакамі аб ногі.

Сцяпан садзіўся да стала, адкідваў ручнік, якім былі накрыты міскі, браў параную бульбу, гуркі, засмяглую ранішнюю яечню і моўчкі, як бы нехаця,

жаваў. Нагінаўся, клаў у бляшанку і кату — ці бульбіну, ці жаўток ад яйка, які сам змалку не любіў. Кот аблізваўся, глядзеў на гаспадара ўважлівымі, адданымі вачыма.

Апошнім часам, прачнуўшыся сярод ночы, Сцяпан стаў баяцца цішыні ў сваёй хаце. Ён так прыслухоўваўся да яе, што нават ціктаканне ходзікаў злівалася са звонам у вушах, і здавалася — ён падае, падае ў гнятлівую, цягучую глыбіню, з якой ужо не выбрацца. Ён адчуў, як пахаладзелі ў яго рукі, калі падумаў, што хутка памрэ. Ну, канечне ж, так чалавек памірае: раптам здасца, што некуды правальваецца, лэпае каля сябе, каб за што-небудзь учапіцца, але не служаць рукі, вочы не бачаць, звініць у вушах — і ўсё... Раніцой чалавека знаходзяць халодным.

Аднойчы, так прахапіўшыся, Сцяпан ужо не заснуў, пракачаўся ў тлуме да самай віднаты. Шмат пра што перадумаў, пра жыццё, пра сябе і пра сына. Круці не круці, няўдалы нейкі ён... З аднаго боку, як быццам усё добра — пасля школы скончыў інстытут, застаўся працаваць у Мінску на трактарным, ажаніўся, займеў дачку... Ну чым горш, як у людзей? А з другога боку паглядзіш: жыццё наперакасяк у сына заламала. Папраўдзе, дык Сцяпан і не ведае, што там у сына перавярнулася за апошнія два-тры гады. Яшчэ пакуль Вольга, маці, была жывая, дык тады-сяды пісаў ці паштоўку прысылаў да свята, раз у год сам наязджаў, а як памерла — ні гуку. Ужо з дзесятых вуснаў дачуўся Сцяпан, што сын нібыта бязбожна запіў і жонка кінула яго. Чуткі чуткамі — людзі заўсёды ахвочыя пачасаць языкамі,— а Сцяпан узяў дый надрапаў сыну пісьмо, маўляў, так і так, Грышка, распішы, што там у цябе ды як... Адказу чакаў доўга, а прыляцела кароценькая, некалькі радкоў, пісулька: «Бацька, тлумачыць табе нічога не буду — гэта не аднаго дня споведзь. Сам ведаеш, як яно ў жыцці бывае... Недзе ў нечым маленькім сарвешся — і, як той камяк з гары, пакаціўся...»

Ён, Сцяпан, тады разважыў так: сорамна Грышку за свае пелады, прамашкі, вось, баючыся дакору, і стараніцца бацькі. Але глыбока ў душы зарадзілася нейкае няпэўнае пачуццё — не то крыўды, не то рэўнасці: як гэта так, каб сын ды нешта ўтой-

ваў ад роднага бацькі, не падзяліўся сваёй бядою. Канечне, можа, ён, Сцяпан, для цяперашніх маладых і кепскі радца, але ж нешта меў бы і ён сказаць. Як-ніяк, у Сталінградскім пекле выстаяў, смерць дачкі (праклятая вайна забрала) і жонкі перажыў. Дый гады ўжо самі па сабе — мудрасць. Шкада, канечне, што маладыя не разумеюць гэтага раней, чымся састарацца.

І цяпер, у бессані, гэтае няпэўнае пачуццё крыўды і рэўнасці зварухнула душу так, што Сцяпану стала балюча. Пранізлівая, звінючая цішыня яшчэ больш распякала боль, і ён калюча расплываўся па ўсім целе. Сцяпан баяўся нават крануць рукой — здавалася, боль тут жа бязлітасна расшкуматае яго на кавалачкі,— таму ляжаў ціха, ужо не могучы саўладаць з думкамі, што назойліва кружылі галаву.

Вось так, Сцяпане... Памрэш, а хаваць некаму. Так і будзеш ляжаць, акалелы, на печы. Разам з катом. Услед і кот апруцянее ад голаду... ну, перш, канечне, што-небудзь на стале вынюхтрыць, а потым... З хаты ж ён не вылезе — дзверы на кручку. Шыбку, нябось не дадумаецца высадзіць сабою... разагнацца — і бэмц! А раптам?.. Так, так, бывалі ж у вайну выпадкі, калі каты грызлі мерцвяка... Сцяпану стала зябка, ён пацягнуў на сябе посцілку, схаваў пад ёю падбародак. А сорам які, людзі што скажуць...

І *гэта* было страшней за ўсё.

Вядома, людзі — не дурні, усё зразумеюць. Толькі гэтым не супакоіш сябе: колькі такога было за жыццё, нават і ў яго самога, разумееш — трэба так, а даказваеш, што трэба інакш. Тут ужо, мусіць, дзейнічае, ліха яго, незалежны ад чалавека закон, ці што, калі кіруе табой не душа, а нейкая злая сіла.

Скажуць, во Рудзянок дажыўся, што нават адзіны сын адвярнуўся ад яго. Смерць — яна заўсёды паказвае, як жыў чалавек, што пакінуў пасля сябе, якую ласку заслужыў ад людзей. Не, што і казаць, смерць таксама ўсякая бывае... Іншы толькі і робіць — што рыхтуе ўсё жыццё сябе да смерці, дабіваецца розных там званняў, пасад, каб ушанавалі як след. Ну, а ён, Сцяпан, з тых, што мазалі на ру-

ках адно і служаць пропускам у рай. Сціплы, канечне, пропуск — затое чэсны.

«Эх, сыне, сын!.. Быў бы ты пуцёвы ці хаця б жыў пры мне, не лезла б зараз бацьку ў галаву вярзяя ўсякая... А так... Не спадзяюся я на цябе, сын. Забыў ты на бацьку. Кепска, скажу табе!.. Той, хто на бацькоў забывае, сам цяпла на старасці шукае. Усё-такі, Грышка, зразумей — кроў у нас з табою адна. І горка мне, што перад апошняй дарогай ніхто з родных не пасядзіць ля мяне... А хочацца, каб па-людску ўсё было...»

Сцяпан ледзь дачакаўся раніцы. Толькі-толькі ў філянговых дзвярах, што вялі ў гасцінную, заблішчала шкло, адбіўшы пасвятлелае кухоннае акно, ён злез з печы. Торкнуў пальцам у выключальнік. Адзеўся. На ногі ўссунуў боты, дбайна сцёршы з іх наліплую гразь,— учора быў дождж. Першае, што зрабіў,—паліў на падаконніках вазоны. Мог бы, канечне, паліць і пазней, але пабаяўся, што забудзе. Ён здзівіўся, адчуўшы ў сабе бадзёрасць, нязвыклае жаданне быць ва ўсім акуратным і рупліва-ашчадным.

Падпаліў у печы дровы. Нейкі час панаглядаў, як тлуста льсніліся бакі двух вялікіх закураных чыгуноў, налітых яшчэ звечара вадою. Учора, прызнацца, ён сам не ведаў, навошта яму столькі цёплай вады,— каб спаласнуць талерку ці міску, звычайна хапала і двух літраў. А цяпер во абрадаваўся вадзе, як знаходцы, падумаўшы, што памые ў хаце падлогу.

Сцяпан не чакаў, пакуль вада закіпіць, трохі злецілася і — ладна. Падчапіў вілкамі адзін чыгун і выцягнуў яго разам з вугалькамі ля днішча на загнет. Вугалькі трымцелі, чарнелі на вачах і браліся шэрым попелам.

Кінуў у таз закаржанелую чыстую анучу, наліў туды вады, ануча размякла, асунулася. Пакуль коўзаўся па халаднаватай падлозе — дзе сагнуўшыся, дзе на карачках, дзе седзячы,— ужо зусім развіднела. Бывае такая праява: задумаўшыся ці заняўшыся якой рупатой, нечакана глянеш на акно — і аж разане па вачах белым-белым святлом. Тады падумаецца: ці не сон гэта? А яшчэ ўспомніцца маленства і вось такі, асляпляльна-востры, выпад першага снегу ўначы.

Сцяпан, выпрастаўшыся, спачатку ўбачыў, што

фарбаваная падлога трымціць зіхатлівымі, гарэзлівымі блёсткамі, а потым адчуў, як запылі ногі ад густых тонепькіх колікаў. Ён стаяў нерухома, пакуль нехта як бы падпіхнуў яго ў ногі. Кот!.. Выпруціўшы хвост, ён свяціў на Сцяпана сваімі жоўтымі прыжмуранымі вачыма.

— Зараз, зараз...— ціха сказаў Сцяпан, успомніўшы, што трэба гатаваць снеданне. Дарэчы, не першы раз ён забывае, што, акрамя ўсяго іншага, чым жыве чалавек, трэба яшчэ і есці. Мусіць, для ўсіх на старасці яда — як нешта неабавязковае, лішняе, прымусовае.

Снедалі звычайным — яечняй, паранай бульбай з гуркамі.

Пасля Сцяпан парадчыў у двары. Збіраў і складваў пад павець абапалкі, частаколіны, старыя трэскі, якія валяліся абы-дзе па кутках; паправіў паляніцу дроў, што зрушылася з аднаго боку. У кожным руху, у вачах, што напружана і нерухома стаялі, была засяроджанасць, а ў маршчынах на лбе, адмежаваным зверху саламяным капелюшом, тоненькімі срабрыстымі ніткамі блішчаў пот, і збоку кожны падумаў бы, што гэты стары чалавек робіць нейкую важную, неадкладную справу.

Сцяпан прыставіў да сцяны рыдлёўку, якой засыпаў ямку, што выграблі ля падмурка куры, шукаючы дажджавых чарвякоў, глянуў на далоні, шырокія, белыя, як габляваныя дошкі, паляпаў імі. Саўгануўся ў адзін кут двара, у другі, тармаснуў весніцы, што адчыняліся на гарод, рэзка крутнуўся і выйшаў на вуліцу. Ля лавачкі нехта забыў арэхавы кіёк, ён узяў гэты кіёк, стаў поркаць вострым кончыкам у зямлю.

Ён хацеў быў падняцца ўжо ды ісці на гарод, каб сабраць у кош яблыкі-паданікі, але ўбачыў Колю Трусэвіча, які вёў у руках веласіпед. Незразумела чаму, але ў душу прыліла млявасць, ён кіўнуўся і махнуў рукой, запрашаючы Колю да сябе. Коля, папраўдзе, і без запрашэння не прамінуў бы Рудзянка — акурат быў навесяле, як, дарэчы, і кожны дзень апошнім часам,— ягоная машына стаяла на рамонце. А які там рамонт? Гайку крутнуў ды ў магазін... Глядзіш, і ўжо не з такой журботаю праводзіш вачыма трактары ды машыны, што возяць траву на сянаж.

Коля ўхвацiста трымаўся за руль веласiпеда бруднымi, мала не чорнымi, рукамi. Прыступiўся ля Сцяпана, падпёр сябе веласiпедам, сеўшы на раму. Дастаў з кiшэнi цыгарэту, задымiў. Сцяпан глядзеў на яго з радаснай, нейкай сполашнай спадзёўкаю, быццам гэта быў не абiбок Коля, а сам бог.

— Ну што, дзядзька, сумуем, га? — Коля, шмат маладзейшы за Сцяпана, лiчы, равеснiк Грышкi, змалку прывык трымацца з усiмi за паравёнпчыка.— Ты вот мне скажы: для чаго амерыканцам... як яе, ракету гэту цi спутнiк там, хай яны ляснуць? — Падпiты, Коля любiў паталкаваць на мiжнародныя тэмы.— Ну, башка дурная, успамiнай! — Стукнуў кулаком па галаве.

Сцяпан, вядома, чуў пра гэту амерыканскую ракету, якую можна запускаць некалькi разоў, але цяпер не хацелася пра яе гаварыць. Непакоiла iншае, пакуль што няпэўнае i да канца не зразумелае самому, ды выразнае ў адным — ён, Сцяпан, павiнен сказаць Колю нешта вельмi важнае. I калi не скажа вось зараз, то ўжо нiколi не зможа сказаць.

Сцяпан паклiкаў Колю ў хату. Коля ад нечаканасцi здзiвiўся — недаверлiва глянуўшы на Сцяпана, падумаў: мусiць, у старога завялася якая кропля, ды няма з кiм выпiць. Сцяпан сапраўды дастаў з суднiка бутэльку гарэлкi. Паставiў яе на стол, але не адкаркоўваў i не шукаў закусь. Коля, разгублены, сядзеў на лаве, а Сцяпан унурыўся ў кут, дзе вiселi зжаўцелыя карункавыя занавескi, потым перавёў пагляд на Колю, i Коля спалохаўся яго вачэй — здалося, вочы ў Сцяпана нежывыя, нейкiя застылыя.

— У мяне да цябе, Коля, дзела ёсць,— сказаў Сцяпан сваiм звычайным голасам.

— Ды я ўжо бачу — бутэльку проста так не ставяць,— усмiхнуўся Коля i пацёр няголеную шчаку.

— Я табе, Коля, во што хачу сказаць... як раднi. Лiчы, у мяне тут радней за цябе i няма нiкога...— Сцяпан тузануў плячом, каб разварушыць Колю i забраць усю яго ўвагу, якую ён цi не аддаваў яшчэ той амерыканскай ракеце.— Мне ж Гапка, матка твая, пасёстра. Я ета ўжо стары, i ўсякае можа быць...

Коля — было вiдаць — нiяк не здагадваўся наперад, што мае да яго Сцяпан,— уласна, яму было ўсё

роўна, ці дроў памагчы нарэзаць, ці мяшок камбікорму падвезці... Таму сядзеў і чакаў, дзівуючыся на счыстыя масніцы, а Сцяпан, як знарок, марудзіў. Схадзіў да вядра папіць вады, змёў са стала пакрышні і высыпаў іх не ў міску, з якой даваў курам, а ў каціную бляшанку.

— Я цябе, Коля, у запавет свой хачу пасвяціць,— нарэшце Сцяпан спыніўся насупраць Колі.

— У які запавет?..

— Перадсмяротны.

Коля закруціў галавой, засмяяўся, хаваючы ў пухлінах павек вочы.

— Ты, дзядзька, і жартаўнік!.. Цікава пра запавет паслухаць. Цікавей, чымся пра «Калумбію»... Во! «Калумбія» ракета называецца! А праграма, па якой яна працуе,— «Шатл». Агрэсары чортавы!..— Коля мацюкнуўся.

— Ды хвароба з ёй, етай «Шатлай»! Выдумляюць на сваю галаву!..— Сцяпану не спадабалася, што Колю больш займалі не яго словы, а нейкія там амерыканскія выбрыкі.— Ты слухай сюды.— Зрабіў паўзу, каб пераканацца яшчэ раз, ці ўважлівы да яго Коля.— Хачу, каб пахавалі мяне, калі памру, не на могільніку, а на беразе Сожа, ля крынічкі... ведаеш? На тым пагорку, дзе ўсё дачнікі свае палаткі ставяць.

— Ты што — здурэў, дзядзька?

— Ета не жартачкі, Коля... Старому не да жартаў.

— А пры чым тут я? — Коля, здаецца, пачаў усур'ёз браць да галавы Сцяпанаву гаворку.— Маё дзела маленькае. Я ж не сын твой, а толькі пляменш...

Слова «сын» Коля вымавіў проста, без усякага намёка, ды Сцяпану яно балюча кальнула ў вушы — выходзіла, што Коля нібыта як папракнуў сынам. Рана — яна заўсёды вярэдзіць, адно зачапі яе. Здаровым месцам не пачуеш, а ранай... Сцяпан нахмурыў бровы, здаецца, яшчэ больш ссутуліўся, і Колю стала шкада старога.

— Ты, дзядзька Рудзянок, не крыўдуй, я не адмаўляюся, я — чалавек паслухмяны.

Сцяпан кэрхнуў разы два — нямоцна, як хворы кот,— акурат правяраў голас ці, можа, так хацеў скараціць невясёлае маўчанне.

— Ну дык вот, раз паслухмяны, то і скажы людзям, што перад смерцю я прасіў... Добра? Так? Паслухаеш? — Сцяпан пытаўся, настойваў, каб перш самому ўверыцца ў праўдзівасці таго, што намысліў уначы, апанаваны горкімі думкамі. Бачыў, Коля ківаў галавою, лыпаючы рассеянымі вачыма.— Вечарам, прашу, абязацельна заглянь да мяне. Абязацельна... Пасля работы. Тады і вып'ем. Чуеш, зямля будзе рушыцца, а ты прыйдзі.

Выходзячы з хаты, Коля з тугою паглядзеў на бутэльку, што востра, як кінжал, бліпчала на стале.

Сцяпан нейкі час слухаў ходзікі, гледзячы на падмалёваных ім жа самім мядзведзяў, потым рухава падняўся. І калі павярнуўся да акна, расчулена зморшчыўся — так ласкава, прызыўна свяціла ў небе сонца, быццам апошні раз.

Ён зняў з рога сталюгі лазовы кош, трымаючы на сагнутай руцэ, завярнуў на гарод. Патупаў мяжою між град, на якіх кусцілася блакітнымі ядранымі пёркамі цыбуля. Падумаў: добра сёлета ўрадзіла, толькі во кроп заглушыў.

Да яблыні-летніка дабіраўся па бульбоўніку — ішоў асцярожна, высока падымаючы ногі, каб лучаць у міжраддзе. Яблыкаў нападала вельмі густа — іх святло, здавалася, рассейвала змрок шчыльнага бульбоўніку. Сцяпан не ведаў, з якога краю падступіцца, і таму абышоў укруга яблыню.

Прысеў, апіраючыся на дужку каша, стаў далікатна класці тугія халаднаватыя яблыкі — яны, густа пакропленыя пясчынкамі, што наліплі разам з кроплямі дажджу, былі святлейшыя ў тых мясцінках, якімі краналіся зямлі.

Першы кош Сцяпан напоўніў выбаркамі — буйнейшымі і нечарвівымі яблыкамі, аднёс яго ў хату. Памыў кожнае яблыка ў цёплай вадзе, склаў у эмаліраваную місу, паставіў яе на стол.

Астатнія яблыкі, падабраўшы, аднёс у кладоўку і ссыпаў у скрыню.

Да вечара ён яшчэ паспеў прапалоць грады — кучка звялага кропу ляжала на мяжы і востра духмяніла. І ўсё. Зразумеў, што стаміўся. Стала млява ў грудзях, павяло галаву. Ледзь дацёгся да ложка, акуратна разаслаў яго і лёг.

Нейкі час вочы бачылі добра, потым, засынаючы, адчуў, як свядомасць пачала ўрыўкамі то праясняцца, то затухаць... І апошняе, што замкнула памяць,— карканне варон, з якога вырвалася і ўпілося, як страла, у сэрца трывожнае і балючае: «Гр-р-рышка!..»

* * *

Грышка прачнуўся ад званка ў дзверы.

Званілі, мусіць, доўга, бо, калі ён прахапіўся, у вушах стаяў бесперапынны трэск: нехта, страціўшы цярпенне, трымаў палец на кнопцы. Пакуль расчухваўся, паспеў успомніць, што ўчора яго падвезлі да дома на машыне. Хто і на якой машыне — не помніў. І як вылазіў, не помніў. Здаецца, з нечай дапамогаю... Во і карак баліць, нельга павярнуць галаву.

Грышка падыбаў адчыняць дзверы, абураючыся на таго, хто не даў яму выспацца,— пэўна, нехта з хаўруснікаў. Здзівіўся, убачыўшы на парозе жанчыну, у сіняй сукенцы, праставалосую, з разгубленымі вачыма.

— Вам тэлеграма... Вы...— жанчына трымала ў руцэ сіні бланк.

Грышка глядзеў усё яшчэ на жанчыну, спрабуючы зразумець, знаёмая ці незнаёмая і што ёй ад яго трэба. Анічога! Вось зараз возьме і зачыніць перад самым яе носам дзверы.

— Вы, калі ласка... Ведаеце, тэлеграма...— Жанчына не аддавала тэлеграму, а толькі глядзела на Грышку.— Ваша прозвішча — Рудзянок?

— Я вас не ведаю,— груба сказаў Грышка.

— У вас бацька... памёр,— жанчына чамусьці ўзяла Грышку за локаць.

Грышка выхапіў тэлеграму, ірвануўся на кухню, але чытаць не стаў, чамусьці падбег да вялікага авальнага люстра, што вісела на сцяне ў праходзе, і ўтупіўся ў яго. Твар быў белы што вапна. Наблізіў яго да люстра і ўбачыў свае вочы — дзікія, страшныя, з глыбокімі, адкрытымі зрэнкамі.

— Памёр бацька...— прашаптаў ціха, з хрыпам і, апусціўшыся на калені, заплакаў гучна і надрыўна. Не бачыў слёз, што капалі яму на рукі і калені.

Плакаў доўга, не па-мужчынску ўсхліпваючы і смаркаючыся.

Трымаючыся за сцяну, устаў, зноў глянуў у люстра — вочы былі чырвоныя, як вішні. Проста з-пад крана пасёрбаў вады і пасунуўся ў спальню, пакінуўшы адкручаным кран. Бахнуўся, як нежывы, на канапу, засланую скамечаным, брудным пакрывалам. Уткнуўшыся тварам у падушку, выпрастаў над галавою рукі...

Яму ўспомніўся сон. Калі ён прысніўся — сёння, учора ці яшчэ раней,— сказаць было цяжка, але цяпер вось выразна паўстаў перад вачыма. Нібыта пайшлі яны з бацькам на рыбу, і ён, Грышка, неяк адстаў, але не турбуецца — ведае, дзе бацька будзе,— на заўсёдным месцы, ля крынічкі. Прыходзіць — на беразе ўправуду сядзіць з вудачкай у руках бацька — у сваім шэрым пінжаку, саламяным капелюшы. «Ну як, клюе?» — пытаецца Грышка. Бацька павярнуў галаву — і Грышка ажно злякнуўся: перад ім не бацька, а незнаёмы мужчына з чорнымі вусамі і блакітнымі вачыма. Грышка ад нечаканасці абшаснуўся з берага, а бераг круты, глеісты, так і сцягвае ў вір, вада ў якім шалёна круціць... Ён трымаецца за выступы берага, нейкім цудам не спаўзае ў ваду, але бачыць, што тут яму не выбрацца, і таму пасоўваецца ў той бок, дзе адхонней. Незнаёмага мужчыну, хоць ён побач, зваць баіцца, бо чамусьці думаецца, што ён не паможа, а, наадварот, падштурхне ў ваду. Неймаверна напружваючыся, Грышка паволі карабкаецца далей ад кручы і недаўмявае: чаму ж усё-такі не раскрышваюцца пад рукамі зусім няцвёрдыя груды глею?..

Грышка з паўгадзіны ляжаў нерухома, пад уражаннем сну. Падняўся, і яму ў нейкі міг здалося, што і тэлеграма — гэта сон, пусты, уяўны сон, за якім нічога сапраўднага няма, а толькі прыкрае, цяжкое адчуванне ды моцныя, хваравітыя штуршкі сэрца.

Грышка зноў схадзіў на кухню, папіў вады, якая падалася дзіўна халоднай. Хацеў нават падсунуць пад струмень галаву, асвяжыцца, але нешта стрымала яго. Можа, тое, што ён не ведаў, куды зараз падацца, куды кінуцца... І ўвогуле, што рабіць? Тэлеграма, што ляжала на стале, вярнула яго да явы, і ўжо не было сумнення, што смерць бацькі — жорсткая, неабвержная праўда. Ехаць ці не ехаць на па-

хаванне — думы не стаяла, але стрымлівала пакуль адно, і ад гэтага было горка да няўцерпу,— ён ужо даўно не меў капейкі грошай. Дзе іх узяць? Пайсці да былой жонкі, стаць на калені і папрасіць... Не, не дасць яна, ды і ў кватэру не пусціць, заказала яшчэ тады, калі мужа новага не было, каб нагі не паказваў на парог і не траўміраваў дачку. Дзеля такога выпадку ён унізіцца, канечне, мог хоць перад самім чортам, але, быў упэўнены, толькі змарнуе час. Ды, разабрацца, жонкі і дома цяпер не будзе.

Што рабіць? Ён стаяў і, раздумваючы, стукаўся лбом у вушак. У каго пазычыць грошай? Суседзяў ён зусім не ведае. Ды, здаецца, адна кватэра пастаянна замкнута, а тыя таўсцякі, што выводзяць кожны вечар прагульваць баксёра, вельмі ўжо непрыступныя з выгляду. А можа, усё-такі пазваніць да іх? Не паб'юць жа. Дый часам людзі, знешне замкнутыя, вельмі добрыя ў душы.

Грышка адшукаў у ваннай абломак расчоскі, прычасаўся, загладзіў ля вушэй сівізну. Пазваніў у дзверы з двума назіральнымі вочкамі. Дзверы ледзь прачыніліся, і ніжэй ланцужка, што не даваў расхінуцца дзвярам шырэй, Грышка ўбачыў напалоханы тварык дзяўчынкі, які тоненька піснуў:

— Бацькоў няма...

Грышка прыкра скрывіўся. Вінаваць каго хочаш, калі сам вінаваты!.. Упароў гарачку з работай. Дарэмна паслухаўся інжынера, які прапанаваў яму тады, пасля скандальнага разводу, звольніцца па ўласнаму жаданню, маўляў, лепей для абодвух бакоў. І нічога для яго, Грышкі, не лепей. Застаўся во без работы, разлайдачыўся... А так меў бы аклад, грошы... Без яго згоды нябось не звольнілі б, закону такога няма. Ну і што, калі ён запратэставаў супраць прэміі брыгадзе Малініна? Несправядлівасць то была, а прэмія ліпавая — ведаў Грышка, што падтасаваў паказчыкі яго сусед, Малінін, падтасаваў з маўклівай згоды інжынера, каб атрымаць пуцёўку на экскурсію за мяжу. Можа, ён, Грышка, і пагарачыўся лішне, сарваўся тады, падагрэты несправядлівасцю. Можа, яму проста трэба было ўспрыняць усё як належнае і спакойна ды зацята працаваць далей, каб зноў даказаць сваё права быць першым. Штучнае, яно заўсёды нетрывалае, немінуча рушыцца ад пер-

шага ж дотыку з праўдзівым. А ён так узяў блізка да сэрца, што ў чарку кінуўся, сям'ю занядбаў.

Эх, Грышка, Грышка, няма на цябе добрага дубца!.. Песціў цябе ў маленстве бацька, ты нават хваліўся неяк сябрам — што пальцам не крануў. Вось і лезеш на ражон, ніякай асцярожнасці ў цябе няма.

Грышка ўступіўся ў чаравікі, абы-як зашнураваў — пальцы яго нягнутка варушыліся. Яшчэ без пэўнай думкі, разгублены, ён выпнуўся на вуліцу і, як зазвычай, прыкідваючы, куды падацца, ледзь не крыкнуў уголас: «Прыстанішча!..» Здаецца, гэта — было выйсце. Ну, канечне ж, хаўруснікі выручаць.

Толькі радасць яго была кароткай, як камарыны нос,— чымся бліжэй падыходзіў да прыстанішча, тым больш хмурнеў яго твар і нашчэнт слабела душа, не пакідаючы і кроплі ўпэўненасці. Адкуль яны, грошы, у яго хаўруснікаў, такіх жа, як і ён, няўдачнікаў? Штодня сыходзіліся, выкасвалі кішэні — у каго рубель, у каго медзякі,— сабугорвалі на бутэльку. Бывала, канечне, што нехта недзе закалымліваў трохі, тады балявалі шчодра ды шырока, і ўся гэтая папойка заставалася ў прыцьмелай памяці толькі адным імгненнем.

Грышка ішоў і ўсё-такі спадзяваўся, што, можа, і сёння нехта будзе з грашыма. І тады наўрад ці стане хто пярэчыць — пахаванне ёсць пахаванне — да яго нават апошнія жулікі з разуменнем ставяцца.

Адчыніў яму сам гаспадар прыстанішча — Фан. Гэта быў няпэўнага ўзросту мужчына, ужо лысаваты, з сіплым голасам, які час ад часу ўвогуле зрываўся, і тады адно варушыліся вусны. Ён не адказаў па прывітанне Грышкі, запытальна ўзняў чорныя бровы, ад чаго выразна засвяціліся на твары блакітныя вочы. Грышка развёў рукамі, а не сказаў звычайнае: «Пуста». Было падобна, што Фану хутка надакучыць цырымоніцца і ён адшые Грышку ад прыстанішча.

Фан крута павярнуўся і пайшоў. Са спіны ён быў шырокі і па-львінаму разваліста-дужы. Калі Фан заходзіў у свой пакой, Грышка незнарок краем вока ўбачыў на канапе жанчыну з млява раскінутымі рукамі.

Прыстанішчам служыла двухпакаёвая кватэра з голымі сценамі, няўтульная, запыленая, без прывыч-

нага для жылля абсталявання; з яе ніколі не вывет-рываліся вострыя, тхлінныя пахі, якія новаму чалавеку шыбалі ў нос густа і даўка.

На жалезным ложку, якому замест матраца служылі звычайныя негабляваныя дошкі, сядзеў, схіліўшы сівую галаву, Пытлячонак. Ля ног на падлозе ляжала брудная разгорнутая газета, зацярушаная попелам.

У куце нехта хроп, чулліва абхапіўшы рукамі кучу рыззя.

З кухні мякка плыў цыгарэтны дым і чуліся скупыя галасы. Грышка здзівіўся, што сёння рана сабраліся. Заглянуў на кухню. Трое мужчын вяла шмякалі растрэпаныя карты на табурэт, на якім стаяў трохлітровы слоік з вадою. Нават не паднялі вачэй на Грышку.

— Цяжка? — як бы між іншым, спытаў Малашоў картавым голасам.

— Няма чаму радавацца,— няпэўна адказаў Грышка, разглядаючы незнаёмца, што разам з Малашовым і Ведзікам гуляў у карты,— ён быў у светлай кашулі, з прыемным, чыстым тварам і вялікім бліскучым ілбом. «Новенькі...» — падумаў Грышка, у глыбіні душы радуючыся — першы раз сюды мала хто прыходзіў без грошай. Але колькі іх у яго? Можа, толькі на бутэльку ці дзве і ёсць. Тады ніхто не дасць нават рубля. Гэты цяжкі тлум, што цяпер прыгнятаў кожнага, можна было пераадолець, змякчыць адно гарэлкаю. І не паспрабаваць яе, зрабіць перадышку хоць на дзень — было неверагодным. Грышка ведаў па сабе.

Грышка апусціўся на скрыню. Узлокціўшыся на калені, падпёр далонямі шчокі. Памёр бацька... Нядоўга, бедны, працягнуў пасля маці... Яна памерла, здаецца, тры гады назад, пасля майскіх свят. А бацька, во, у сярэдзіне лета. Дзе ён памёр — дома ці ў бальніцы? Там, выходзіць, і паклапатацца вельмі няма каму. Ён, Грышка, самы родны, а, бач, які з яго толк. Нават на дарогу капейкі не завёў. Там — што? Там пахаваюць ужо людзі — у вёсцы не тое што ў горадзе — усе, як свае. Свае-то свае, але каму надта баліць душа? Во ён, Грышка, дужа каму патрэбны? Патрэбны, калі звініць у кішэні.

Грышка зноў прыгадаў сон і падумаў, што прысніўся акурат у руку. Прарочы сон. Але калі ён усё-такі прысніўся? Ні тады, у сябе дома, ні цяпер Грышка, як ні напінаўся, не мог успомніць. Ды, уласна, якая розніца!.. Канечне ж, бацька, падта перад смерцю, часта думаў пра яго, непуцёвага сына, і, можа, нават дакараў. Вядома — ёсць за што. Хіба мала ён прынёс бацьку болю, перажыванняў? Гэта адно, можа, каму здаецца, што бацькі раўнадушныя да сваіх дарослых дзяцей. А напраўду, дык яны пякуцца аб іх не менш, чымся аб немаўлятах. Вялікія дзеці — вялікія клопаты. Так яно, так... Вялікая трагедыя з малым не здарыцца, бо ён жыве пад цёпленькім крылом, якое ўміг накрые, калі небяспека падсунецца...

Сонца, ідучы па сваім крузе, вытнулася з-за сцяны і засвяціла проста ў твар Грышку. Ён пасунуўся далей, неяк нязграбна — і скрыня раз'ехалася пад ім, аж крэхнулі дошчачкі, што дзялілі дно на ячэйкі.

— Ты што, Рудзянок, заснуў? — здзівіўся Ведзік, варушачы шырокімі няголенымі пашчэнкамі — жаваў скарынку хлеба.

— Ды сонца во!..— паскардзіўся Грышка, паказваючы на акно.

— А праўда! — падхапіў незнаёмец.— Ці не загуляліся мы?

— Не хвалюйся,— скрывіў вусны ва ўсмешцы Малашоў.— Наконт крамы ў нас арганізм адрэгуляваны да секунды. Падыдзе час — і ў душы званочак: дзілінь-дзілінь...

Грышка зноў задумаўся і схамянуўся адно тады, калі на кухню зайшоў Фан, і ўсе нехаця ўсталі, хаваючы вочы,— нікому не хацелася ісці ў магазін. Каго зараз вылучыць Фан? Ну, канечне ж, яго, Грышку. Як і ў мінулыя разы. А што зробіш — справядліва: ён ужо даўно прыходзіць з пустой кішэняй.

Назбіралася трынаццаць рублёў — дзесяць даў новенькі. Грышка сціснуў у кулаку грошы і, стараючыся цвёрда ступаць — у яго раптам затрэсліся калені,— пакіраваў на выхад. Адчуваў, з радасцю і надзеяй яму ў спіну глядзяць некалькі пар вачэй.

У яго ў руках былі грошы!.. Цэлых трынаццаць рублёў — на дарогу туды і назад. Ды назад — не важна, галоўнае — туды, у вёску, дзе ляжаў нябожчык бацька. Няўжо бог зміласціўіўся з яго, даўшы наль-

цам адчуць іменна цяпер прывычны хруст грашовых паперак?

І ўсё-такі Грышка ішоў да магазіна — непадуладная яму сіла вяла знаёмым тратуарам, паўз які раслі дуплаватыя, крывыя вербы, чэзлыя, запырсканыя гразёю кусты акацый. Кожная трэшчына ў асфальце па-свойску мільгала ў вачах...

Трэба спыніцца! Зараз жа. Інакш усё. Праз дзесятак крокаў магазін — шырокія дзверы ў нізкай зялёнай будыніне, нечым падобнай на вясковую клець. Спыніцца? А хаўруснікі? Ён не сказаў ім нічога, бо і сам, калі браў грошы, нічога не думаў — усё рабілася міжволі, як заўсёды. Яны чакаюць. У іх цяпер прыўзняты настрой, жарты... І раптам пройдзе дваццаць хвілін, а яго няма. Пачакаюць яшчэ, думаючы, што вялікая чарга... Потым затрывожацца: можа, зноў у міліцыю трапіў? Скептык Пытлячонак выкажа здагадку, што ў магазіне рэвізія. Малашоў успомніць — толькі нядаўна была, акурат на яго чарзе. І тут пачнецца... Жахліва ўявіць, што пачнецца! Але нікому і блізка не прыйдзе ў галаву, куды знік Рудзянок. Каб толькі не падумалі, што збег. Здрада — гэта найгоршае, на што здольны чалавек. Дурань, дурань ён, канечне! Ну чаму было не сказаць адразу, як заявіўся, пра смерць бацькі. Яны зразумелі б, паспачувалі... Без сумнення, зразумелі б. Людзі ж, а не ідыёты яны. Але нічога!.. Зразумеюць і тады, як вернецца і пра ўсё раскажа. А пакуль — даруйце, хлопцы!

Грышка крута завярнуў ад магазіна.

* * *

Ад шашы вялі дзве каляіны-выкрунтасіны — вясной машыны выбіралі цвярдзейшае месца. Грышка тупаў між імі і ўспамінаў, як дарогай гэтай бегаў штодзень у школу — у дзевяты і дзесяты клас. Спачатку яна ішла па сасонніку-самасейцы, што вырас тут пасля вайны, лічы, у яго на вачах, потым — полем, а перад самай вёскай прыціралася да могільніку. Яшчэ дасюль жыве ў душы тое вусцішша, што міжволі сцінала душу, калі прыцемкамі бег міма гэтых змрочных і таямніча маўклівых сосен, пад якімі зданьліва і невыразна-цьмяна стаялі крыжы.

І цяпер Грышка, яшчэ не выпнуўшыся з сасонніку, адчуў, што яго, бы магнітам, прыцягвае да мо-

гільніку, і калі наблізіцца, вочы і вушы самі скіруюцца да гэтай купы сосен. Астатняе адступіць, закрыецца па-за свядомасцю і не будзе мець сэнсу.

Ён, збочыўшы, пабраўся як мага бліжэй да могільніку — па цвёрдым дзёрне, зацярушаным ігліцай, ногі неслі самі — і спачатку пачуў мужчынскае бубненне, прыглушанае, далёкае, акурат з-пад зямлі, потым згледзеў жоўтыя копчыкі, паміж якіх разпораз вынырвала лапата, і з яе злятаў пясок. Сумнення не было: бацьку капалі магілу. На нейкі міг Грышка прыпыніўся, крануўшыся рукою калючага падбародка, і пайшоў да тых копчыкаў свежай зямлі. Магілу капалі ўдвух — адна галава ў картузе, другая — цёмнавалосая, голая.

Яго ўбачылі, калі ён спыніўся на краі ямы. Мужчыны ў яме ад нечаканасці сумеліся. Ды і не дзіўна было — на іх глядзеў худы, бледнатвары, нябрыты чалавек з пустымі, адлучанымі вачыма.

— Стой-ка, стой-ка!..— раптам ажывіўся цёмнавалосы.— Няйнакш, Грышка?..

І Грышка пазнаў цёмнавалосага — гэта быў Коля Трусэвіч, ягоны гадок, з якім разам паролі вясною сарачыныя гнёзды.

— Ці не з таго свету ты? — Коля падаў Грышку руку і выбавіўся наверх.

— На пахаванне прыехаў...— сказаў Грышка, якому ніяк не выпадала жартаваць, дый не здольны ён быў на такое нават у добрым настроі.

— Мы з тваім бацькам успаміналі пра цябе, вот...

— Ён дома памёр ці ў бальніцы? — спытаў Грышка, акурат для яго цяпер было край важным даведацца, дзе напаткала бацьку смерць.

— У хаце. Як адчуваў чалавек, што апошні дзянёк жыве... Прыбраў усё ўсюды... чысценька-чысценька. Мы з ім на лавачцы ў той дзень сядзелі, потым у хаце. Ён бутэльку яшчэ ўзяў, прасіў, каб увечар я заглянуў да яго. Прыходжу — хата адчынена, ён ляжыць на ложку мёртвы, і кот побач на падушцы муркае...

Тое, што Коля сказаў, нібыта бацька прадчуваў сваю смерць і падрыхтаваўся да яе, ні на кога не спадзеючыся, балюча зачапіла Грышку за душу, і цяжкая віна перад бацькам няўмольным абручом сціснў-

ла яму горла, і Грышка ледзь стрымліваў сябе, каб не пляснуцца на зямлю і не завыць уголас.

— Ну, нічога, брат, не гаруй!..— Коля паклаў на плячо Грышку руку.— Усе людзі паміраюць. І мы таксама з табой памром.

Грышка, разбіты, пануралы, павярнуўся, каб ісці, але ўбачыў, што стаіць ля магілкі маці. Во, мог бы і не звярнуць увагі. На пацямнелым крыжы плямкамі жаўцелі зорачкі лішайніку, вісела выпетраная белая хусцінка, павязаная як на шыю. І хоць гэта быў звычайны крыж на вясковым могільніку, якіх стаяла тут больш за сотню, Грышку ўбачылася ў ім закінутасць, нейкая цярпімасць да ўсяго на свеце. Ён пакланіўся магілцы і мяккімі крокамі пайшоў на дарогу.

Яшчэ ад грэблі вочы ўхапілі хату, і яна таксама падалася сумнай, занядбанай, быццам даўно не грэлася чалавечым цяплом. Неяк маркотна і звяла асунуўся ля варот клён, той самы, які садзіў Грышка разам з бацькам і які заўсёды весела дрыжаў ад самага слабога ветру і нават у сонца памахваў шырокімі лістамі, быццам астуджваў сябе і хату.

Пасярод двара стаяў варштат, і ля яго густа валяліся скручаныя ў колцы стружкі, востра пахла смалою, як, падумалася, на могільніку.

Грышка не бачыў, хто ў хаце і як усе дружна павярнуліся да яго,— здаецца, ён пазнаў адну цётку Гапку, бацькаву стрыечную сястру, астатнія твары прамільгнулі перад вачыма жоўтай невыразнай палосаю. Ён, стаўшы перад трупой на калені, пацалаваў бацьку ў лоб і нейкі час не мог устаць, быццам прыкавала яго да падлогі,— гнятлівае і дакорнае пачуццё хіліла галаву ўніз. І ён тады ўбачыў яшчэ, што ў бацькі ліловыя павекі і сівыя лёгкія валасы, якія нідзе не хавалі на галаве скуру.

Ведаў, што за ім маўкліва і стоена сочаць людзі. Спачуваюць? Дакараюць? Здзіўляюцца? Бачаць жа, які ён, змарнаваны і недагледжаны. Цяжка сказаць, канечне, што думаюць яны. Аблягчала адно — ніхто не стане яму зараз што-небудзь гаварыць. Бо ўсе ведаюць — не час.

Грышка, канечне, ніколі не даруе сабе, што мала думаў, як і чым жыве яго стары, ці здаровы, ці трэба яму помач. Трапіў у крутаверць — і закружыла.

А замест таго каб выбавіцца з яе, суняць сябе, ён аддаўся на волю лёсу, акурат не зразумела было, да чаго гэта прыводзіць. Не маленькі ж... Але хопіць!.. Вось перад памяццю бацькі слова дае, што возьме сябе ў рукі, яшчэ зусім не позна і сям'ю заводзіць, і дзяцей расціць, і працаваць у ахвотку... Адным словам, светла, прыстойна жыць — на радасць сабе і на зайздрасць людзям. Так, так, Грышка ўсім пакажа, на што ён здольны. Занадта рана пахавалі яго душу, насмяяліся з яго. І жонка дарэмна ўсцешыла сябе, размяняўшы кватэру і прыгрэўшы чужога чалавека. Грышка яшчэ пастаіць за сябе, і жанчына ў яго будзе не раўня жонцы — ласкавая, пяшчотная, разумная...

Грышка падняў галаву, павярнуўшы яе ўправа,— на куце між рассунутых жоўтых занавесак гарэла свечка — скрывілася набок, і з яе капаў у талерку светлы, як слёзы, расплаўлены воск.

Грышка выпрастаўся і, міргаючы вачыма, сказаў да ўсіх «добры дзень». І старыя, заківаўшы ў адказ сівымі галовамі, акрытымі чорнымі хусткамі, падумалі: «Перажывацельны Рудзянкоў Грышка...» І гэтага было даволі, каб далей усе глядзелі на Грышку адкрыта і з ухвалаю,— і тады, калі сядзеў згорблены на машыне, якая везла нябожчыка, і калі абняў труну, што ўжо гайдалася над ямай на белых ручніках, і калі за жалобным сталом зусім мала піў, адно прыгубліваў. Грышка доўга адмахваўся ад Колі Трусэвіча, які, прадбачліва загнаўшы машыну да свайго двара, добра ўзяў за губу і назойліва лез з чаркай.

— Ды я, ды мы — старыя сябры і не вып'ем! — крычаў ён, цёпла дыхаючы ў твар.— Калі хочаш, мне твой бацька перад смерцю запавет даверыў... Толькі памяць у мяне, як рэшата, вось і... Хай ужо прасціць дзядзька.

«Запавет?..» — Грышка насцярожыўся, навастрыў думкі, якія ад Колевай балбатні ўсё глыбей апускаліся на дно душы.

— А-а, разварушыўся!..— Коля страсянуў чорным чубам, наліў сабе і Грышку гарэлкі. Выбраў з талеркі два вялікія крутабокія яблыкі, даў адзін Грышку. Грышка бачыў — на стале скрозь стаяць талеркі са свежымі яблыкамі, якія салодка і духмяна пахнуць.— Вось давай даўлянём, тады і раскажу...

Грышка адным глытком каўтнуў чарку.

— Зазывае мяне гэта, значыць, дзядзька Сцяпан,— Коля нахінуўся бліжэй да Грышкі і забубніў яму ў самае вуха,— і кажа, хачу, каб пахавалі мяне не на могільніку, а на беразе Сожа, ля крынічкі...

Грышку як абпаліла: адразу ж уявіўся высокі бераг Сожа, зарослы ляшчыннікам і рэдкімі бярозкамі, дзе так галавакружна духмяняць улетку пунсовыя смолкі і куды штогод з'язджаюцца з далёкіх гарадоў дачнікі, нацягваюць палаткі, шумяць, весяляцца... Рыба іх звычайна мала цікавіць, адно — як забава, вось і пудзяць яе, сноўдаючы з бамбукавымі вудзільнамі па звонкім, чыстым беразе. Але, тым не менш, бацька любіў гэтае месца — можа, яшчэ і таму, што з берага біла крынічка, вада ў якой была празрыстая, як шкло, і халодная,— пасля ранення бацьку часта мучыла смага.

І гэта ж ведаў ён, бацька, што некаму будзе прыйсці на яго магілку, пакланіцца ёй, вось і прасіў пахаваць яго там, у прыгожым месцы, якое заўсёды вабіць да сябе людзей. А людзі ж, канечне, не прамінуць магілку, спыняцца, паспачуваюць... Чалавеку, мусіць, хочацца, каб і мёртвага яго не забывалі.

«Але галава ў мяне, кажу, з дзіркамі...— прыглушана-ватна чуўся голас Колі.— Замітусіўся і забыў на просьбу...»

Грышка не мог больш трываць — яму распірала грудзі, быццам нехта бязлітасны і жорсткі бесперапынна пампаваў у іх гарачае паветра. Апошняя, перадсмяротная просьба бацькі засталася няспраўджанай!.. Грышка ўсхапіўся з-за стала, кінуўся да дзвярэй і выскачыў на вуліцу. Ужо ў вокны ўсе бачылі, як ён пабег па той дарозе, што вяла міма могільніка на шашу.

...Позна ўвечары Грышка ішоў у прыстанішча. Ён ішоў туды, каб павініцца і сказаць, дзе быў, што надумаў за гэты час. Неба было шчодра абсыпана зоркамі — тонкімі, халоднымі, як ільдзінкі, што, выціснутыя коламі з лужын, зіхацяць пад сонцам на ўзбочыне. Гэта ж дзіўна, каб тое, што гарыць, было халоднае. Ну, зямля, вада халодныя — зразумела, а каб зоркі... Грышка ажно сцепануў плячыма. Яму было

холадна ўсяму, аж праймалі дрыжыкі, яму не хапала цяпла. Ужо даўно. А цяпер яшчэ і бацькі не стала. Адзіная родная крывінка — гэта дачка. Але — былая жонка... Яна не дазваляе ім сустракацца. Толькі дарма стараецца! Ён, бацька, мае на дачку такое ж права, як і яна, маці,— так запісана і ў законе. І ніхто не забароніць яму бачыцца з дачкой, забіраць яе з садзіка, вадзіць у цырк... І потым запрашаць яе да сябе, потым — калі будзе ў яго новая сям'я.

Грышка паверыў ва ўсё гэта, як верыць чалавек — апантана і вечна — у дабрату і спагаду людскую, і яму стала да слёз прыемна адчуваць сябе ў гэтым свеце, які быў для яго пахіснуўся. Дзіўна, проста дзіўна, чаму раней ён не зрабіў такога павароту? Няўжо патрэбен быў штуршок — смерць бацькі? Мусіць, так, бо ён, Грышка, зразумеў, што іменна яму цягнуць далей нітку Рудзянковага роду. Іменна яму! І ён цяпер выразна разумее гэта. І ніякае прыстанішча яму больш не трэба, ён апошні раз ідзе туды — на споведзь.

У прыстанішча, як і ўчора раніцой, яго ўпусціў сам Фан, змераў Грышку з галавы да ног, быццам загадзя жадаў нешта выведаць.

## ЧАРАВІКІ

Мне хочацца верыць, і я дасюль думаю, што ў чалавека былі добрыя намеры, і ўсё-такі...

Было гэта даўно, я тады скончыў, здаецца, сем класаў, можа — ад сілы — восем. Хутчэй за ўсё, восем, бо, помніцца, старыя чаравікі заміналі мне яшчэ і тым, што ў іх я саромеўся паказвацца перад дзяўчатамі. За лета грыбамі і ягадамі я назарабляў грошай і паехаў купляць сабе новыя чаравікі ў далёкі, як тады здавалася, Крычаў.

Быў канец жніўня, і дрэвы ўжо як бы выцвіталі, браліся той малапрыкметнай светласцю, што сочыцца ў душу не столькі праз вочы, колькі праз адчуванне ціхай, нейкай незразумелай у маладыя гады журботы, што яшчэ адзін прамежак твайго

жыцця мінуў, ты пасталеў і нешта ў табе змянілася, адплыло ў нябыт; шэрхла трава, пылілася, каб ужо да наступнай зімы не быць зялёнай.

Мы якраз будавалі хату, і бацька з маці адпусцілі мяне ў пяцідзесяцікіламетровую дарогу аднаго з дзіўнай мне лёгкасцю: брыгадзір даў ім на два дні каня і «крывалы» — так называліся ў нас калёсы без драбін і з даўгім дышлем, на канец якога ссоўваліся заднія колы, калі трэба было пакласці даўжэзныя хлысты; а дрэва нам выпісалі ля падлужжа, і вывезці яго адтуль, здалёку, было не так проста.

Спадарожная «будка» падабрала мяне на шашы хутка і без прыгод давезла да Чэрыкава, адкуль — ведаў я — праз кожныя паўгадзіны адпраўляецца на Крычаў аўтобус. Таму я і не думаў надта, як мне ехаць далей; знайшоў аўтастанцыю — высокі драўляны будынак, шпіляватасцю даху свайго падобны на цэркаўку,— і купіў білет.

Адмета ўсіх прыгарадных маршрутаў, у чым я ўверыўся шмат пазней,— у тым, што аўтобус, ледзь набраўшы хуткасць, спыняецца — як кажуць, ля кожнага слупа. На гарачым заднім сядзенні я мала не сашкварыўся, да таго ж — у кашулі мне вырвалі «жыўцом» гузік. Нарэшце чырвоная і круглая, як бурак-рэпа, кандуктарка аб'явіла: «Горад»,— і я зразумеў, што мне пара выходзіць.

На шчасце ці на бяду, праз дарогу ўбачыў на двухпавярховым будынку літары: У-Н-І-В-Е-Р-М-А-Г і пайшоў туды. У мяне была з сабой звычайная капронавая сетка, і я трымаў яе, скамечаную, у звільжэлай руцэ. Абутковы аддзел — вычытаў на сцяне пры ўваходзе — быў на другім паверсе; ля прылаўка тоўпіліся людзі, і я між галоў выглядзеў на паліцы, здаецца, тое, дзеля чаго заехаў у свет,— чорненькія, тупаносыя чаравікі з беленькай байкавай абшыўкаю ўнутры. Я, мала спадзеючыся, што ў гáме мае словы пачуе прадаўшчыца, спытаўся памер — і ў гэты момант мяне тузанулі за рукаво. Я перш падумаў, што нехта, як і я, прадзіраецца да прылаўка, а павярнуўшыся, убачыў: на мяне пільна глядзіць хлопец. Пакуль я разгублена моргаў перад ім вачыма, ён сказаў мне:

— Табе трэба чаравікі... Тут няма твайго памеру. Пойдзем, я пакажу табе магазін, там ёсць.

Хлопец здаўся мне ў міг вока ледзь не самым блізкім па зямлі чалавекам, я ўжо не кажу — сябрам. Тупаючы за ім, высокім, гадоў на пяць старэйшым, я, да прыкрасці лісліва, шчабятаў перад ім — адкуль і як прыехаў; хлопец не паварочваў да мяне галавы, адно — цяперашнім зрокам бачу — пагардліва пасміхваўся; а тады гэта ўсмешка для мяне была самай шчырай і сардэчнай.

Хлопец і праўда прывёў мяне ў магазін, дзе на драцяных стэлажах грувасціўся, як авечкі ў загоне, абутак — і такі ж разнаколерны, запылена-памяты, злямчаны, як авечкі; чамусьці іменна гэта асацыяцыя зашылася мне тады ў памяць. Хлопец даволі смела пакружыўся ля стэлажоў, з жалем паківаў галавою:

— Тваіх няма. Разабралі...

Цяпер я, без ценю іншага пачуцця, глядзеў на хлопца толькі з надзеяй: не пакідай, выручы, не ехаць жа назад з пустымі рукамі... Ён быў у сініх штанах, зялёнай клятчастай кашулі, шчыльна забранай пад жоўты скураны рэмень з шырокай, на далонь, металічнай спражкай; пад носам цямнеліся рэдзенькія вусікі, вочы сядзяць глыбока, вострыя, сіненькія, як друзалкі шкла, таго і глядзі — чыкнуць па твары.

— Ёсць выйсце,— хлопец нечакана ўзяў мяне за плячо, і ў друзалках шкла бліснула самаахвярная рашучасць. Сказаў, крыху счакаўшы і не выпускаючы майго пляча: — У мяне цётка на базе працуе. Дастане! Не паедзеш жа дахаты без чаравікаў.

Мы ішлі паркам, і я прыкрываў далонёй тое месца на кашулі, дзе быў гузік: скрозь снаўдаліся людзі, на лаўцы сядзелі дзве жанчыны і зыбалі перад сабой дзіцячыя каляскі — блакітную і барвовую, як твар у кандуктаркі. Хлопец вёў мяне ўпэўнена — прамым ходам.

— Пачакай мяне тут,— сказаў ён, калі апынуліся на цёмным, запусцелым дворыку — у куце між пазелянелымі старасвецкімі мураванымі дамамі; сам схаваўся ў дашчаных нефарбаваных дзвярах, якія за ім з хвіліну жаласна рыпалі,— і мне стала чамусьці тужліва і цяжка на душы.

Вярнуўся хлопец хутка, наморшчыў лоб.

— На ўсякі выпадак зглянуў да цёткі, ці дома. Няма. На базе.

Мы зноў выбавіліся на вуліцу, якая падалася мне ўжо знаёмай, але ішлі ёю нядоўга; звярнулі ў сціснуты з двух бакоў частаколам завулак — як відаць было, машыны па ім не ездзілі, спрэс расла крапіва, на восень пабурэлая, стаяла сухое бадылле піжмы; я спатыкнуўся, зачапіўшыся за дрот, які, бы вялізны чарвяк-выпаўзень, тырчаў з зямлі. Калі чэсна, я ўжо без вялікай радасці тэпаў за хлопцам; а ён вёў і вёў мяне, не азіраючыся; нам услед з цікавасцю паглядзела дзяўчынка, што стаяла з лялькаю каля трухлявых пахіленых весніц. Нарэшце ў вачах паяснела: я ўбачыў наперадзе чатырохпавярховы — ледзь не ўвесь шкляны, адно бетонныя палосы — будынак: цюцелька ў цюцельку наша раённая бальніца.

— От! — сказаў хлопец шматзначна і тыцнуў пальцам, як указкай, на будынак.

Мне зноў давялося чакаць яго, гэты раз мала не паўгадзіны; я стаяў і рады быў, што ў маіх руках сетка,— камячыў яе, перабіраў, як шаўкавістую кацінную поўсць, ад якой мне становіцца заўсёды цёпла і прыемна. І вось тут — калі ўбачыў хлопца з шырокай усмешкай на твары — нешта ва мне ўнутры ценькнула, акурат парвалася танюсенькая нітачка; мне стала вусцішна: «Пры чым тут яго ўсмешка?» Ну, а што за дзіва — дамовіўся з цёткай і зараз прынясе мне чаравікі. І праўда: чаму б не парадавацца, зрабіўшы чалавеку добрае?

Хлопец усміхаўся і тады, калі мне гаварыў:

— Усё дамоўлена. Давай сетку і грошы — зараз прынясу.

Я не ведаў, што адказаць яму, і здранцвела маўчаў; мне хацелася, аж калола пад валасы на цемі, над нечым падумаць, а засяродзіцца я не мог, бо не разумеў, чаму хлопец трымае (не апускае) распрастаную перада мной далоню — напроці той мецінкі на маёй кашулі, дзе быў гузік. Я не помню, што сказаў хлопцу, але сетку і грошы я не аддаў яму, а ён, помніцца, і не надта мяне ўгаворваў, хоць бачыў я, самазадаволенасць на яго твары расплылася і змылася разам з усмешкай, а ў вачах застыла нейкае роспачлівае здзіўленне, ці што.

Я і цяпер не-не дый гадаю: дабро то было ці зло, шчырасць ці адна з праяў подласці, якіх перападае на жыцці кожнаму чалавеку, на жаль, не мала. І дакараю сябе: чаму ўсё-такі не даверыўся хлопцу да канца — ужо забыўся б даўно і ён сам, і той факт (пры любым яго зыходзе) з далёкай юначай пары.

## ГАРАЖ

Янка Сідорчык з Малінаўкі купіў «Запарожца». Машына без гаража — не машына. І Сідорчык тут жа ўзяўся планаваць гараж. Дзіва што, такая падзея, як легкавік (гараж да яго), не міне людскога языка. Ля Сідорчыкавай хаты, што стаяла акурат на рагу вуліц, і дагэтуль збіралася гурма, а цяпер мужчыны «віслі» да позняй ночы. Пакеплівалі з гаспадара. Ён не крыўдаваў, хоць і быў самалюбівы,— як усе людзі, што тады-сяды маюць ад бога ласку,— думкі яго вісіся вакол машыны. Не толькі днём, а і ўначы.

Што Сідорчыка надаўміла, сказаць цяжка — можа, тое, што сілікатную цэглу не так лёгка дастаць, а можа, тое, што яна даражэйшая,— але гараж ён намысліў класці са звычайнай, чырвонай, цэглы, што было не ў завядзёнцы тутэйшых так званых «уладальнікаў машын». І першы гэта асудзіў Васіль Хролік, Сідорчыкаў сваяк, з якім суседзіліся агародамі і які рабіў у калгасе цесляром.

— Ты што? Ды твой жа гараж праз паўгода рассыплецца, аплыве глінаю. Столькі сырцу трапляецца!

— Сцэмянтую — закасцянее што камень. На мой век хопіць...

Хролік, мужчына з нейкай дзіўнай несялянскай фанабэрыяй, заўсёды лез да сваяка з парадамі, прапановамі, ад якіх той адмахваўся, як ад уедлівых мух; і цяпер Хролік пакрыўдзіўся, бо, не папрасіўшы закурыць, звярнуў у двор.

Маладога хлопца Мішку, які нядаўна скончыў у Клімавічах тэхнікум і цяпер брыгадзірстваваў, Сідорчык, адзін у вёсцы, зваў Гаспадаром — па дзвюх прычынах: па-першае, брыгадзір, ён і ёсць гаспадар усёй вёскі, а па-другое, і гэта галоўнае — у Мішкі

настолькі руплівая, дбайная жонка, што спраўляецца даіць плойму калгасных кароў і яшчэ глядзець тры двары (свой, свякрушын і ба́цькаў), прычым аднолькава хваткая як на жаночую, так і на мужчынскую работу. А па дзіўнай Сідорчыкавай логіцы, толькі той сапраўдны гаспадар, у каго ў двары ўсё робіцца без яго.

Гаспадар ехаў на матацыкле, спыніўся, выцер далоняй запылены твар.

— Ды навошта табе, Усцінавіч, гараж? Вунь у старой хаце прарэж у сцяне дзірку — і заганяй машыну.

Сідорчык, пасварыўшыся з цешчай, пабудаваў сабе гадоў з дзесяць назад новую даміну, а як цешча памерла — старая хата адышла пад склад; Сідорчык накрыў яе шыферам, бэлькі падпёр слупамі. Стаяць ёй вякі вечныя!

— Старая мае свой прыстасунак — там у мяне торф ляжыць, бульбу па восені ссыпаю, цялёнку катушок адгароджаны... Балоны з-пад газа запасныя...— Сідорчык, нахіліўшы да лоба саламяны капялюш — як-ніяк, школьны гаспадарнік, інтэлігент! — шкроб падстрыжаную патыліцу. Мішка таргануў нагой — паехаў. Відаць, і яго, як і Хроліка, баданула, што Сідорчык не прыняў падказку. А Сідорчык тым часам ужо сумняваўся: «Ліха іх ведае, можа, і праўду кажуць? Не дурныя ж людзі...» Ён сеў на калодкі, складзеныя ля частаколу, закурыў. Жмурыўся — сонца прыпякала. Між калоддзя тырчалі звялыя крывава-чырвоныя, як ад натугі, чубкі драсёну. Пад карою недзе скрыгаў і скрыгаў вусач.

Пасля абеду, адпачыўшы, стаў капаць у гародчыку яму; намеціў, дзе паставіць шулакі,— ладную плаху зашчэміць пад сябе гараж.

— Здароў табе, Янка! — пачуў Сідорчык і разагнуўся. Узяўшыся за частаколіны, на яго глядзела Лёкса Чарачка — маленькая, чорная, як галка, з вялікімі бліскучымі вачыма.— Ета ты на легкавічку ўжо?

— На яе, на яе,— сказаў Сідорчык так, акурат яму даўно абрыдлі, у пячонках сядзяць гэтыя размовы пра машыну.

— Цяпер, можа, і мяне калі ў Прапойск падвя-

зеш? — Вялікія сінія, як бурбалкі, вочы смяяліся між рук, што трымаліся за частаколіны.— Маіць, малы ты гараж начарціў... І легкавічка твая ня ўлезе.

«Цьфу ты! — ледзь не вылаяўся ўголас Сідорчык.— І без бабы не абышлося. Гары яна гарам, машына!.. Навошта я здароўе ўкладаў у яе?..»

— А ты сама хутчэй за любую машыну дамчыся,— стрымліваючыся, усміхнуўся Сідорчык. Што праўда, то праўда: Чарачка, хоць і малепькая, такая хуткаложка, што пехам ніколі не ходзіць — усё бяжком і бяжком, нават з ношкай сена як падняць.

Чарачка, не сказаўшы болей ні слова, патрухала сваёй дарогаю, і было незразумела, крыўду яна панесла з сабой ці проста так нечакана сарвалася, як гэта бывае зазвычай у вясковых людзей, якія не любяць надта раскланьвацца, вядома, калі не п'яныя на гулянцы.

Прывезлі цэглу — «зілаўскае» кузава,— і Сідорчык, да гэтага часу заліўшы падмурак, стаў адразу выкладаць сцены; жонка ў фартуху, у якім топчацца і на кухні, памагала замешваць раствор.

— Тонка ў дзве цагліны,— падыходзілі, гаварылі адны.

— Вузкі,— заміналі працаваць другія.

Сідорчык, бліскучы ад поту, адбіваўся ад нападак, засмучаўся, адчайваўся, тады-сяды нават рагатаў, але не ўнікаў свайго намыслу.

Доўга мудраваў ён, які дах рабіць — двухскатны, як у хатах, ці плоскі, з нахілам да адной сцяны; жонка выказалася за плоскі, моў, прасцей, і дзіўна было, што яе думка акурат супала з мужавай,— гэта ўжо як свята ў сям'і.

На той час ужо вечар мякка затуліў вёску, камарэча насела. З рыбы, ад Сажа на веласіпедзе ехаў Немчык, замармытаў — павітаўся. У Немчыка ёсць імя — Грышка, але пра гэта мала хто ведае — некалі, здаровае сямігадовае дзіцё, ён абшаснуўся з печы, стукнуўся галавой аб прыпек, і яму наўсягды адняло мову і слых; з той пары ён стаў для ўсіх Немчыкам. Убачыўшы, што Сідорчык захіляе дах на плоскі, запляваў, замахаў рукамі, заляпаў сабе па азадку — маўляў, цьфу, ерунда.

«Во даўся людзям у знакі!..— ужо злаваў Сідорчык, але, як ні дзіўна, не расчароўваўся, а яшчэ з большай сілаю мацаваў веру ў сваё.— Не дадуць спакойна гараж дарабіць: тое не так, тое не гэтак. Дзялкі знайшліся!.. Рабіце сабе як хочаце, як знаеце, а да мяне не лезце...» Валасы на скронях у Сідорчыка змакрэлі, на шчаку выплыла кропелька поту; заблішчэла. Немчык не адступаўся.

— Ну дык што, мне цяпер загадаеш сцены разбураць? — на павышаным тоне, што рэдка з ім бывала, сказаў Сідорчык, але Немчык, вядома, нічога не зразумеў, адно ўбачыў, што гаспадар нервуецца. Махнуў безнадзейна рукой ля вуха і пакаціў далей свой хвастаты — тырчалі прывязаныя да рамы вудзільны — веласіпед. А Сідорчык апантана, з зацятасцю затупаў ля гаража; тады-сяды пагукваў і на жонку.

— А што, я сваёй галавы не маю? — сказаў Сідорчык жонцы, калі апошняя лісціна шыферу лягла на дах; абышоўшы ўкруга новенькі гараж, пацмокаў языком — ну хіба не ў радасць, што гараж атрымаўся такі, якім і хацелася яго бачыць?

А як лёг спаць, Янка Сідорчык доўга не мог заснуць — яму ўсё думалася, што цяпер на цэлым свеце не знойдзецца чалавека, які б мог абганіць, задзябаць ягоны гараж ці пабудаваць лепшы. Адкуль толькі і ўзялася гэтая пыхлівасць у Сідорчыка?

Ён лавіў вачыма праз незавешанае акно хмаркі, што наплывалі на месік адна за адной, але той вылузваўся з-за іх і залаціў вокны сваім нейкім незвычайным ядрана-матавым, незямным святлом, ад якога было светла і на душы Сідорчыка.

## НА СВЯТЛО

Гэты выпадак мне помніцца з дзяцінства.

За шашой рос сасоннік, які называлі самасейка, бо да вайны на яго месцы было поле, пасля невядома з чаго падняліся блакітна-зялёныя, як заінелыя,

сасоначкі. Яны раслі ў беспарадку, не вельмі замінаючы адна адной, а таму галіны ў іх былі густыя, кучмастыя, як мётлы.

У сасонніку вялося багата птушак, надта лясных канькоў і дрыгахвостых плісак, па-нашаму — плісіц. Часта пасля школы, а то і ў нядзелю я хадзіў туды слухаць іх песні, любавацца густа-барвяным засіллем найпрыгажэйшых у свеце кветак — смолак. Пліска, яна не вельмі стараецца, сціплая — «дзі-ці», «дзі-ці», а лясны канёк, хоць велічынёй такі ж самы,— адмысловы спявак — толькі на сцэну. Вот спудзіў яго знячэўку, ён тут жа: «ціір-ціір-цір» — і далоўкі з вачэй. Ідзеш далей, і раптам вуха ловіць: «віў-віа, сіа-сіа». Так і знай — канёк набліжаецца, хавайся хутчэй за густую сасонку. «Твіў-твіў-твіў» — гэта ўжо канёк на галінку сеў. Крылцы буравaтыя, са светлымі плямкамі, а спаднізу пёркі вохрыста-жоўтыя, як кветка дзьмухаўца.

Аднаго дня прашумеў спорны дождж; запахла грыбным водарам зямля, а ў паветры разлілося цёплае блакітнае марыва, нейкае густое, бы кісель з чарніц. Я той час быў якраз у сасонніку і прамок да ніткі; стаяў на сонцы, на сугрэўку, і глядзеў, як зіхаціць на траве раса: і бела, і фіялетава, і ружова — не зразумець. Раптам трава заварушылася, і я падумаў, што сюды, на палянку, прашыўся нізам вецер. Але, пільна настрыўшы зрок, убачыў, што ў траве нешта трапечацца. Хапянуўся з месца, прысеў. Гэта было птушанятка. Намокла, пёркі зліпліся, аж відаць далікатную, ружаватую скуру,— і ўсё адно я пазнаў: канёк. Дыхнуў на яго раз і другі — каб сагрэць, а заадно струсіць з лапак і крыльцаў пясок. Пакруціўся, пашнарыў вачыма па сасонках — гнязда не было. Дзе тут яго скмеціш, калі канёк затуляе свой домік у развілку між сукамі ды яшчэ маскіруе шызым лішайнікам, здзіраючы яго з кары.

Я чуў, як дрыжыць у жмені птушанятка, хліпае — быццам у пальцах гумавая грушка. Я засунуў мокры камячок за пазуху, адчуў, як драпнулі мне скуру халодныя вострыя кіпцюрыкі. Прыціскаючы канька разам з кашуляй да жывата, пабег дахаты. «Адагрэю...» — падумаў.

Маці акурат паліла ў печы — наранкі яны хадзілі з бацькам у грыбы і прынеслі два кошыкі рудых

каласавікоў; на ўсю хату, аж разрывала сцены, пахла смажанымі грыбамі і цыбуляй.

Я залез на печ; зрабіў на чарэні з ануч мяккае гняздзечка і пасадзіў туды канька — ён папіскваў, і вока ў яго зацягвалася блакітнай плевачкай.

Не ведаю, колькі часу мінула — гадзіна, а можа, болей,— і птушанятка, як у нас на Магілёўшчыне кажуць, «адлігнула», гэта значыць, ачуняла — стала патрэсваць галавой, трэпаць крылцамі, яршыць пёркі; ужо сухенькае, яно пакруглела, натапырылася, і нават у запечным паўзмроку відаць быў на макаўцы аранжавы чубок. Сапраўдны канёк!

Каньку было цёпла, утульна, але, мусіць, не хапала святла, і ён настойліва выцярэбліваўся з гняздзечка, якое я прыкрываў рогам пуховай хусткі. Раз канёк так трапятнуўся, што ледзь паспеў спаймаць яго на краі печы.

Я папрасіў маці, і яна падала мне на печ у шклянцы малака; узяў у жменю канька і памачыў дзюбкай у малако — ён квола, неяк па-чалавечы чмыхнуў, і на дзюбцы ўскочылі два белыя пузыркі.

Мусіць, некалькі кропель малака ўсё-ткі трапілі каньку ў горлечка, бо абадкі крыльцаў, бы дроцікі, прутка ўпёрліся мне ў пальцы.

Можа, канька адразу, не выпускаючы з рук, трэ было несці ў сасоннік, але мне здалося, што ён яшчэ не зусім адужаў, і я пасадзіў яго зноў у гнядзечка і ўжо не хусткаю прыкрываў, а даланёю. Але ў нейкае імгненне (мне закарцела кашлянуць) паслабіў руку — і канёк выслізнуў з-пад яе шэрым гладкім аскепачкам крэменю.

Цяпер я трымаў канька толькі вачыма — ён абдаў круга па хаце — блізенька ля сцяны, быццам хацеў зачапіцца за партрэтныя рамкі, модныя на той час,— потым рэзка крутнуў да печы, і я падумаў, што ён вылеціць з-за коміна да мяне, але — завойкала маці і застукала па чалесніку качарга.

Я шустра, як кот, саскочыў з печы, яшчэ не бачачы, ды з жахам разумеючы, што здарылася...

У маці быў белы, як малако, перапалоханы твар, і яна сутаргава арудавала качаргой у печы.

Я стаяў і нема глядзеў на густое, аранжавае полымя, што бушавала ў печы,— быццам маленькага

чубка на макаўцы ў канька хапіла, каб афарбаваць яго.

— Ета ж нада во... на святло... на святло паляцеў,— разгублена шапталі вусны маці — яна ўсё варочала качаргою ў аранжавым, як чубок канька, полымі, якое раптам у маіх вачах стала расплывацца і жаўцець, акурат я з галавой акунуўся ў Сож і гляджу на неба з вады...

Я ўжо не бачыў, як маці паставіла ў кут качаргу і безнадзейна апусціла перад сабой сашчэпленыя ў пальцах рукі: слёзы казыталі мне вочы і сонца з акна падалося горкай аранжавай цыбулінай.

# ЗМЕСТ

## Аповесць

КАШТАНЫ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 3

## Апавяданні

ПАХІ АДТАЛАЙ ЗЯМЛІ . . . . . . . . . . . . . . . . 132
БАБКА . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 143
СОН ПРА ПАЎЛІНА . . . . . . . . . . . . . . . . . 159
ВОСЕНЬСКАЯ ЦІШЫНЯ . . . . . . . . . . . . . . . . 182
БАРЫС З БАРЫСАВА . . . . . . . . . . . . . . . . . 194
ХАЛОДНЫЯ ЗОРКІ . . . . . . . . . . . . . . . . . 208
ЧАРАВІКІ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 227
ГАРАЖ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 231
НА СВЯТЛО . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 234

**Рубанаў У.**

Р 82 Пахі адталай зямлі: Аповесць і апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1984.— 238 с., іл.

У пер.: 1 р. 10 к.

Новы зборнік Уладзіслава Рубанава складаюць аповесць і апавяданні, напісаныя ў апошні час.

У аповесці «Каштаны» расказваецца пра маладога спецыяліста, які прыступае да самастойнай працы: як жыць, што чакае наперадзе, дзе тое месца, знайшоўшы якое, прынясеш як мага болей карысці грамадству. Такія пытанні хвалююць галоўнага героя аповесці інжынера-мікрабіёлага Пятра Чаранка.

Апавяданні прысвечаны нашым сучаснікам, іх клопатам і надзеям.

Р $\frac{4702120200-110}{М\ 302(05)-84}$ 36—84

ББК84 Бел7
Бел2

**Владислав Яковлевич Рубанов**

**ЗАПАХИ ОТТАЯВШЕЙ ЗЕМЛИ**

Повесть и рассказы

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Е. А. Пяршай
Мастак В. М. Бароўка
Мастацкі рэдактар М. Я. Янчук
Тэхнічныя рэдактары А. Б. Барадзіна, Г. П. Тарасевіч
Карэктар К. А. Капцэвіч

ІБ № 1872

Здадзена ў набор 09.12.83. Падп. да друку 11.06.84. АТ 05684. Фармат 84×100¹/₃₂. Папера друк. № 2. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 11,70. Ум. фарб.-адб. 11,70. Ул.-выд. арк. 12,55. Тыраж 12 000 экз. Зак. 4265. Цана 1 р. 10 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.